АДРАС РЭДАКЦЫІ
Юрыдычны адрас: Рэспубліка Беларусь, 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а. info@zvyazda.minsk.by

Паштовы адрас: Рэспубліка Беларусь, 220005, Мінск, пр. Незалежнасці, 39.
Тэл.: 284-85-24, 284-41-88, 288-20-72. maladost@zviazda.by

*ПАДПІСНЫЯ ІНДЭКСЫ:*

*00592 — індывідуальны льготны для настаўнікаў*

*74957 — індывідуальны*

*749572 — ведамасны*

*00731 — ведамасны льготны*
*для ўстаноў Міністэрства культуры*
*і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь*

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі
№ 16 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар — галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка: *Н.І. САВЕЛЬЕВА*
Дызайн вокладкі: *А.У. ГАЛОТА*
Стыльрэдактар: *А.І. САЛАМЕВІЧ*

Падпісана да друку ??.09.2016. Фармат 84×108 $^{1}/_{16}$. Папера лёгкамелаваная. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 16,80.
Ул.-выд. арк.??,??. Тыраж ???? экз. Заказ

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП №02330/71 ад 23.01.2014, вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск, Рэспубліка Беларусь

*Рэдакцыя не ўступае ў перапіску з чытачамі, не рэцэнзуе і не вяртае дасланыя рукапісы.*
*Пры перадруку спасылка на «Маладосць» абавязковая.*





Змест

**Святлана Курганава**

# Фантастычны даведнік




Сучасная літаратура мудрагелістым чынам трансфармуецца, убіраючы ў сябе нашу рэальнасць. Фантастыка таксама не застаецца ўбаку.

Цяпер маем вялікі выбар усяго. Сучасныя расійскія выдавецтвы (а давайце пагодзімся, кніжны фантастычны рынак належыць менавіта ім) імкнуцца дагадзіць усім, і ў выніку атрымліваецца, што тыраж меншы, а выбар больш. І чытач атрымлівае ўсё, што заўгодна, на любы густ. І цяпер не праблема нешта знайсці — праблема выбраць. У кнігарнях, на сайтах СамВыдата — велізарная колькасць кніг. Такая разнастайнасць! Калі пералічваць усе навінкі года, то можна загразнуць пад бясконцым шэрагам назваў. Таму мы разбяром асноўныя з'явы, плыні і напрамкі, даведаемся, як прадаюць і што прадаюць.

## Як прадаць?

У канцы 90-х — пачатку 00-х вялікую папулярнасць мелі бясконцыя серыі, якія цяпер займаюць у бібліятэках доўгія паліцы. Або нават некалькі доўгіх паліц, калі ўспомніць серыю «Рычард Доўгія Рукі» Гая Юлія Арлоўскага, якая складаецца з 50 кніг. Калі ведаеш, што гэта псеўданім Юрыя Нікіціна, які падчас выхаду гэтых тамоў пісаў нешта яшчэ, узнікае пытанне: а якія ж гэта негры на яго працавалі? Або аўтар-мазахіст: пісаў, не перарываючыся на сон і ежу, даводзячы сябе да знемажэння працай.

Цяпер у трэндзе іншы падыход. Аўтары робяць сваю касу не так тапорна — зараз пішуцца бясконцыя прыгоды не аднаго героя, якога нельга нічым забіць, а розных. Мы вітаем на сцэне сучаснай літаратуры міжаўтарскія серыі, прыквелы і ўбоквелы.

Міжаўтарскія серыі — гэта выпуск пад адной маркай кніг розных аўтараў, творы якіх аб'яднаны месцам дзеяння або героямі. Такі прыём добры тым, што ты заўсёды ведаеш, якую кнігу купляеш. У міжаўтарскім праекце важная ідэя, якая зачапіла б чытача. Тут ужо не іграе ключавую ролю ўзровень выканання. Калі вы жадаеце «такі ж халацік, толькі з перламутравымі гузікамі», то міжаўтарскія праекты даюць гэтую магчымасць. Але праблема ў тым, што праект пачынаюць моцныя аўтары, але чым далей, тым менш масцітым пісьменнікам хочацца вывучаць свет, які значна разросся, і ўціскацца ў рамкі сюжэтных умоўнасцей, выбудаваных кімсьці іншым. Але сутнасць у другім: калі вы купілі адну кнігу з серыі, яна вам падабаецца, то вы купіце і іншую.

Сёння, калі паглядзець на тыражы, то самымі запатрабаванымі серыямі з'яўляюцца «С.Т.А.Л.К.Е.Р», «Сусвет "Метро-2033"»,«Крэмль 2222» — постапакаліптычныя светы, прычынай разбурэння якіх стаў чалавек. Каб знайсці сувязь гэтых праектаў, трэба аналізаваць творы, гледзячы не толькі на антураж, але і на ідэю. Скразным становіцца адыход ад законаў, устаноўленых грамадствам, магчымасць самому дыктаваць правілы жыцця. У многіх выпадках можна прасачыць матыў захавання чалавечнасці, калі ў творы герой адыходзіць ад агульнапрынятых маральных нормаў. Выдавец і аўтар стварае чалавека, які жыве ў разбураным свеце, і глядзіць, ці зможа той выжыць не толькі фізічна, але і духоўна.

Таксама папулярнай з'яўляецца эксплуатацыя аўтарам свайго ж свету. Сіквелы — звароты да будучыні, прыквелы — гісторыі пра тое, як усё пачалося, сайдсторы — творы, якія ў адаптацыі гучыць як убоквелы. Галоўны фантастычны сіквел гэтага года — п'еса «Гары Потэр і праклятае дзіця». Гэты твор выклікае мноства пытанняў у фанатаў: «Што? Навошта? Гісторыя скончана, што тут яшчэ рабіць?» Ну, будзем чакаць пераклад, каб ацаніць тое, што атрымалася ў Роўлінг «праз 19 гадоў».

Яшчэ адзін сучасны замежны ўзор сіквельна-ўбоквельнай літаратуры — Тэры Пратчэт. Аўтара ўжо, на вялікі жаль, няма з намі, але пераклады ягоных кніг выходзяць дагэтуль. У 2016 годзе на кніжных паліцах з'яўляецца «Плоскі свет: ведзьма Тыфані» — у цыкл уваходзіць пяць кніг, чатыры з якіх «Эксмо» абяцае выпусціць сёлета.

Калі казаць пра рускамоўных аўтараў, якія эксплуатуюць такія прыёмы, то нельга не згадаць Макса Фрая. Ён выпусціў цыклы «Лабірынты Ехо», «Хронікі Ехо», «Сны Ехо». Усе гэтыя тамы распавядаюць, што адбывалася да, пасля, падчас асноўных прыгод Фрая. І складае ўсё гэта каля 40 кніг.

Імя аўтара і галоўнага героя супадаюць, таму зборнікі ад складальніка сэра Макса выклікаюць цікавасць у прыхільнікаў, нават калі тэкстаў самога Фрая там няма.

Шалёную папулярнасць набіраюць экранізацыі фантастычных твораў. Пасля прэм'еры на кніжных развалах можна ўбачыць кнігі з вокладкамі, на якіх пазнаюцца кадры з фільма. Цікавую схему пракруціла ў 2012 годзе выдавецтва «АСТ», калі выпусціла кнігу «Эльфы і іх хобі» з выявай знакамітага хобіта на вокладцы. Фанаты Толкіена хапалі збор твораў нават пры тым, што сувязі з любімым мэтрам няма ніякай.

Сёлета з кніжных нетраў на прылаўкі выпаўзлі: «Марсіянін», багаты на тэхнічныя дэталі, «Гонар і прадузятасць і зомбі» — mashup з элементамі зомбі-хорару, напісаны ў 2009 годзе, «5-я хваля» Рыка Янсі — постапакаліптычны раман, які быў выдадзены ў 2013-м, але адразу пасля прэм'еры зноў з'явіўся на кніжных паліцах. Вядома, «Амерыканскія багі» Ніла Геймана, экранізацыя якіх чакаецца, таксама не знікаюць.

## Што прадаць?

Літаратура XXI стагоддзя і надалей працуе ў галіне фэнтэзі і навуковай фантастыкі, але не зусім у чыстым выглядзе, а ў новым фармаце. І яны моцна разгаліноўваюцца.

Фэнтэзійная літаратура на сучасным этапе плённа супрацоўнічае з камп'ютарнай гульнявой індустрыяй. Па матывах самых вядомых камп'ютарных гульняў пішуцца кнігі, і наадварот. Напрыклад, кнігі па нашумелым фільме «Варкрафт». Але кнігі па іншых творах або гульнях па сутнасці сваёй з'яўляюцца фанфікамі, пакуль іх не друкуюць выдавецтвы.

Набірае папулярнасць адносна новы жанр фантастычнай літаратуры, заснаваны на субкультуры папулярных ролевых камп'ютарных гульняў — ЛітРПГ. Галоўны герой пры дапамозе абсталявання віртуальнай рэальнасці ўваходзіць у гульню і далей сюжэт развіваецца ў гульнявой прасторы. Элементы гэтага жанру сустракаліся і раней, напрыклад, у кнігах пра пападанцаў. Але тут «пападанства» з'яўляецца добраахвотным актам. Адрозненне ад любога іншага жанру фантастыкі у тым, што тут маюцца спецыфічныя геймерскія паказчыкі: логі, лічбы ў характарыстыках; сюды перайшла тэрміналогія і светаўспрыманне масавых шматкарыстальніцкіх ролевых анлайн-гульняў.

Усім хочацца быць самымі прасунутымі, самымі выдатнымі і яшчэ якімі-небудзь самымі. Перанос у зусім іншы свет стварае ілюзію, што стаць лепшым можна там (калі ў рэальнасці не атрымліваецца, то там сапраўды атрымаецца, шчыра-шчыра). На рынку з'яўляюцца версіі ўмоўна «для жанчын», са старанна прапісанымі любоўнымі лініямі, і «для мужчын» — з багаццем экшна і боек. Я кажу «ўмоўна», таму што палавая прыналежнасць персанажа не важная, калі кніга прапісана таленавіта, а словы «фантастыка» ды «фэнтэзі» ставіцца ў графе «жанр» не толькі дзеля дэкарацый.

Калі казаць пра касмаоперу, то цяпер гэты паджанр прыгодніцкай навуковай фантастыкі далёка не самы папулярны. Адзін з лепшых цыклаў, які быў напісаны не так даўно — Бараярскі цыкл Лоіс Буджолд. Летась з'явіўся пераклад апошняй кнігі аўтара — «Джэнтльмен Джоўл і Чырвоная Каралева». Даю тут гэтую назву, толькі вы наўрад ці да гэтай кнігі дачытаеце: многія крытыкі кажуць, што аўтару даўно пара было спыніцца. Ваша ўяўленне заўсёды можа адрозніваецца ад таго, што там хтосьці штосьці заключыў — проста чытайце, калі спадабаецца.

У асноўным кнігі, якія можна аднесці да касмаоперы ўяўляюць сабой мудрагелісты сплаў розных кірункаў. Напрыклад, серыя Вольгі Грамыка (нарэшце, скажам пару слоў пра беларускіх фантастаў, пра якіх, як ні сумна, амаль ніхто нічога не ведае). Цыкл складаецца з трох кніг («Касмабіёлухі», «Касмаэколухі», «Касматэхнолухі») і зборніка «Касмаолухі: да, паміж, пасля», які выйшаў у ліпені сёлета.

Ідзе маштабная хваля перавыданняў твораў гэтага жанру, якія атрымалі поспех — «Аўтастопам па галактыцы» Адамса, «Зорныя каралі» Гамільтана, «Зорныя войны» Сальватора, заснаваныя на сцэнарыі фільма.

У супрацьвагу касмаоперы гарадское фэнтэзі і яму падобныя проста апанавалі кніжны рынак. Гэты літаратурны жанр часта блытаюць з фэнтэзі, якое адбываецца ў антуражы сучаснага горада.

Рэальная гісторыя падабаецца далёка не ўсім, таму ў гэтым жанры працягваюць пісаць. Або аўтараў у жанр прыводзяць фантазіі а-ля «вось каб ды калі б... Напалеон збег з Святой Алены, СССР не разваліўся, краіны трэцяга свету каланізавалі Амерыку»

Каб не разгубіцца, што з чым стасуецца, калі для кагосьці важныя класіфікацыі, то адзначым: у цэнтры апавядання гарадскога фэнтэзі знаходзіцца містычны элемент гарадской міфалогіі, месцам дзеяння з'яўляецца горад, апісанню якога аддаецца шмат увагі.

Гарадское фэнтэзі расказвае пра таямнічых вампіраў, дамавікоў, іншых звышнатуральных існасцей, якія жывуць у горадзе не адну сотню гадоў і час ад часу змяняюць дакументы, каб узрост у пашпарце не выклікаў пытанняў пры супастаўленні яго з фатаграфіяй. Папулярныя легенды пра метро, падземныя гарады, схаваныя хады…

Асаблівасць жанру ў тым, што адзін з яго герояў — горад. Гэта не проста антураж, а як бы самастойная адзінка, вобраз, характар, які можа ўплываць на сюжэтную лінію апавядання.

Варта сказаць пра Ніла Геймана з яго атмасфернымі работамі, дзе вы можаце намаляваць дзверы на сцяне і ўвайсці ў іншы горад («Задзвер'е»). Вартыя згадкі Марына і Сяргей Дзячэнкі з творамі «Vita Nostra» і «Лічбавы, або Brevis Est».

Яшчэ адзін папулярны цяпер жанр — кіберпанк. Ён стаў запатрабаваным дзякуючы сваім нелюдзімым, часта маргінальным персанажам. Тут той, хто ў рэальным свеце сімпатычны не выклікае, з'яўляецца станоўчым персанажам. І як жа не сімпатызаваць хакерам бліжэйшай будучыні, якія змагаюцца супраць магутных карпарацый? Часцей за ўсё сюжэты будуюцца на спробах (удалых і не вельмі) пераўтварэння грамадства. Гэты жанр навуковай фантастыкі паказвае культурны заняпад пры высокім тэхналагічным развіцці. Усе падзеі разгортваюцца ў нуарным антыўтапічным свеце, сярод крымінальных сіндыкатаў з біяробатамі і кібаргамі, наркотыкаў і дэфіцыту лекаў. Ідэальна ахарактарызаваў жанр рэдактар Уільяма Гібсана — Гарднер Дазуа: «Высокія тэхналогіі, нізкі ўзровень жыцця».

Лепшымі прадстаўнікамі жанру лічацца: Уільям Гібсан — заснавальнік жанру, у кнігах якога чалавек і тэхналогіі так зрасліся, што аўтаномнае існаванне перастала быць магчымым; Брус Стэрлінг — пісьменнік-бунтар, героі якога (маргіналы, рэвалюцыянеры і авантурысты) жорстка выбівалі пыл з дывана-грамадства; Рычард Морган — аўтар жанру кіберпанк нашага часу, які звяртаецца да філасофскіх пытанняў што ёсць жыццё і што ёсць чалавек.

Не шмат кніг выходзіць пад маркай альтэрнатыўнай гісторыі, але ў крамах мноства тамоў, якія адносяць да роднасных жанраў або паджанраў, пра якія мы пагаворым далей.

Альтэрнатыўная гісторыя — гэта жанр, які з'яўляецца сплавам гісторыі і фантастыкі. Сутнасць у тым, што гісторыя на адным са скрыжаванняў пайшла не па тым шляху, які мы ведаем цяпер. Напрыклад, хтосьці выраніў ключы, ад якіх пасля гэтага адкалоўся кавалачак металу, чалавек зачыніў дзверы і потым не змог выйсці з хаты ў той дзень, у які ён павінен быў гэта зрабіць, каб яго збіла машына. На яго пахаванні павінны былі пазнаёміцца два чалавекі, але яны не сустрэнуцца ўжо ніколі. Інтрыгуе? Тады АГ для вас.

Рэальная гісторыя падабаецца далёка не ўсім, таму ў гэтым жанры працягваюць пісаць. Або аўтараў у жанр прыводзяць фантазіі а-ля «вось каб ды калі б... Напалеон збег з Святой Алены, СССР не развaліўся, краіны трэцяга свету каланізавалі Амерыку». Ніякіх пападанцаў! За імі не сюды. Калі вы хочаце пачытаць нешта вартае, то звярніце ўвагу на кнігу Юрыя Арабава «Сутыкненне з матыльком».

Роднасная АГ постапакаліптыка зараз, верагодна, адзін з самых запатрабаваных жанраў. Менавіта да яго адносяцца папулярныя выдавецкія праекты, пра якія мы ўжо казалі вышэй.

Постапакаліптыка — жанр навуковай фантастыкі, у якім дзеянне адбываецца ў свеце, дзе здарылася глабальная (часцей за ўсё тэхнагенная) катастрофа. У асноўным сюжэт кніг такога тыпу грунтуецца на выжыванні ў цяжкіх умовах. Менавіта тут вы можаце сачыць за падарожжамі герояў па разваленым мегаполісе. У мінулым гэтага свету цывілізацыя дасягнула высокага ўзроўню сацыяльнага і тэхнічнага развіцця, але затым усё было разбурана, і цяпер людзі ствараюць невялікія астраўкі жыцця, перамяшчацца паміж якімі цяжка, а часцяком немагчыма. Адна з функцый жанру — перасцярога. Папярэдзіць, што чалавек можа зрабіць са сваім светам, і сказаць: трымайце запалкі (ядзерную зброю) далей ад дзяцей (людзей).

Калі вы хочаце якаснай постапакаліптыкі, то вазьміце Роберта Жалязны «Даліна праклёнаў» — раман, у якім галоўны герой выбірае паміж турмой і самагубным падарожжам па Амерыцы, разбуранай ядзернай вайной. Калі вы хочаце чытаць не старых мэтраў, а кагосьці маладзейшага, то звярніце ўвагу на творчасць Паола Бачыгалупі. Якраз нядаўна выйшла яго кніга «Вадзяны нож», якая распавядае пра сярэдзіну XXI стагоддзя, што ўжо зусім блізка. Не зацікавіла? Тады яшчэ варта згадаць, што аўтар узнагароджаны прэміямі «Х'юга», «Небьюла» і «Локус», калі вам гэта нешта кажа.

Гісторыя, расказаная ў жанры стымпанка, — гэта гісторыя пра свет, які існуе ва ўмовах тэхналогій XIX — пачатку XX стагоддзя. Тут ідэальна засвоена механіка, сістэма паравых машын. Тут можна ўбачыць дырыжаблі ў небе і рэтра-аўтамабілі. Моцнае расслаенне грамадства збірае на адной вуліцы шпіёнаў, пралетарыяў, прагных капіталістаў, прастытутак, добрапрыстойных абывацеляў-буржуа. У кнігах дзіўным чынам спалучаюцца брудны свет і атмасфера каланіяльных заваяванняў віктарыянскай Англіі, якая лічыла тады сябе вянком цывілізацыі. Чаму жанр такі папулярны цяпер? Яго героі фанатычныя, вар'яцкія навукоўцы — людзі, паглынутыя сваёй справай; бясстрашныя вандроўнікі і першапраходцы, бескампрамісныя барацьбіты за свабоду. Гэты вобраз падобны да галоўнага героя постапакаліптыкі, але крыху трансфармаваны. Скажы шчыра, табе ж не хапае гэтага ў тваім жыцці, чытач?

Сёлета выйшла стымпанкавая кніга Ніка Перумава «Прыгоды Молі Блэкуотэр. За краем свету», арыентаваная на падлеткаў. Тым, хто цікавіцца творчасцю пісьменніка, можна раіць чытаць, нават калі вы не трапляеце пад мэтавую аўдыторыю. Калі вы не прыхільнікі — таксама можна пазнаёміцца: Ніку Перумаву не адмовіш у прапрацоўцы і маляўнічасці свету, таму вы дакладна атрымаеце інтэлектуальнае задавальненне.

Што ўяўляе з сябе тэхнафэнтэзі, цалкам зразумела з назвы. Калі вам падабаецца існаваць у свеце, дзе навука і магія перацякаюць адна ў адну, то прачытайце Андрэ Нортан «Вядзьмарскі свет». На жаль, рускі пераклад многае апускае, таму, калі вы ў сілах ацаніць яго на мове арыгінала, ідзіце і рабіце гэта зараз жа. З новага, свежага і маладога можна парэкамендаваць «Святло ў далонях» Юліі Астапенка.

Папулярнасцю карыстаецца дзіцячае і падлеткавае фэнтэзі. Усе хочуць трохі казкі, трохі прыгод, і жанр дазваляе зрабіць кнігі чароўнымі і адначасова набліжанымі да рэальнасці. Гэта не толькі кнігі пра Гары Потэра, на якія ўжо даўно напісалі пародыю (серыя «Поры Гатар» Андрэя Жвалеўскага і Ігара Мыцько) і рускі варыянт (серыя «Таня Гротар» Дзмітрыя Ямца). Калі праца Жвалеўскага і Мыцько не вырасла далей чатырох кніг, то Ямец размахнуўся: 14 кніг пра Таню Гротар, 19 — пра Мефодзія Буслаева, фінальная кніга пра якога выйшла сёлета. Нават прыхільнікі яго творчасці з цікавасцю сочаць і робяць стаўкі: спыніцца аўтар ці вырашыць скончыць серыю круглай прыгожай лічбай, выпусціўшы яшчэ адну кнігу.

Калі казаць наогул пра падлеткавую літаратуру ў фантастычным жанры, то можна параіць пападанскія кнігі Сяргея Садава «Князь Вальдэмар Старынаў», «Вандроўнік у часе». Не магу ўтрымацца і не парэкамендаваць «Справа аб непрыкаянай душы», дзе галоўнымі героямі з'яўляюцца стадвaццацігадовы чорт і анёл.

На гэтым, мабыць, спынімся. Вы пазнаёміліся з самымі папулярнымі зараз фантастычнымі і каляфантастычнымі жанрамі і трохі зазірнулі ў дэталі выдавецкага працэсу. Цяпер фантастыка — адзін з самых папулярных кірункаў, гэта агромністая частка літаратуры, і калі вы хочаце арыентавацца ў сучасным свеце, пачніце арыентавацца ў фантастыцы.

Якасных светаў вам!

Кацярына Святластражава

# Чаканне vs Рэальнасць

*Агляд фантастычных кінапрэм'ер*

«У пагоні за гледачом» — так можна было б назваць дакументальны фільм пра работу любой кінакампаніі. Мабыць, назва і не самая ўдалая, але выразна паказвае асноўную мэту ўсіх стваральнікаў кіно. А яна ў тым, каб глядач зацікавіўся канкрэтным прадуктам, лянотна выбіраючы фільм для спаткання, сустрэчы з сябрамі, баўлення часу. Лягчэй за ўсё прадаецца фантастыка — відовішчныя, прыгожыя фільмы, якія падыходзяць для ўсіх узростаў, сацыяльных груп і нацыянальнасцяў. Гісторыі, якія можа зразумець кожны. Фантастыкі цяпер здымаюць нашмат больш, чым дэтэктываў ці меладрам, бо яна лепш за ўсё падыходзіць для лёгкага адпачынку.

Як мы выбіраем фільм? Глядзім на сінопсіс, на каст, на каманду, якая стварыла карціну. Аднак тым гледачам, якія дрэнна разбіраюцца ў кіно, падобная інфармацыя мала што скажа. Калі чалавек не адрознівае Раяна Гослінга ад Раяна Рэйнальдса, то разлічваць, што ён адразу ж успомніць, як здымае Джэймс Кэмеран, прынамсі, дзіўна. Таму адмыслова навучаныя людзі складаюць спісы чакання, каб чалавек мог выбраць нешта тэарэтычна якаснае. Часам падобныя спісы стварае сам спажывец. На КінаПошуку, напрыклад, дзе рэйтынг чакання карціны павялічваецца дзякуючы карыстальнікам, якія не паленаваліся націснуць на спецыяльную кнопку. І гэты рэйтынг часта супадае з топам чаканых карцін, які робяць прафесіяналы. Аднак на практыцы высокі статус у рэйтынгу не гарантуе, што карціна будзе сапраўды добрай. Наколькі часта нас ашукваюць? Мы вырашылі разабрацца, ці апраўдалі нашы чаканні самыя гучныя фантастычныя фільмы першай паловы 2016 года.

Каб увайсці ў «спіс чакання», фільму трэба быць вядомым, мець нешта, што зачэпіць гледача і прымусіць яго заплаціць грошы. Прасцей за ўсё — апеляваць да фанатаў. Яны проста не змогуць прапусціць экранізацыю любімага твора. Гэта пры тым, што ўсе ведаюць: экранізацыі ды фільмы па матывах губляюць добрую частку арыгінальнай гісторыі (ці могуць увогуле не звяртаць на яе ўвагу, як гэта часта адбываецца з коміксамі). Сапраўдны фанат абавязкова скажа, што кніга лепш, але гэта адбудзецца ўжо пасля прагляду фільма. Значыць, мэта дасягнута ў любым выпадку.

Яшчэ адзін спосаб: прыцягнуць тых, хто быў прыцягнуты раней. Калі чалавек аднойчы схадзіў на фільм, то вялікая верагоднасць, што на працяг ён таксама прыйдзе. І зноў жа: усе ведаюць, што разнастайныя сіквелы і прыквелы значна саступаюць арыгіналу па якасці, большасць гледачоў усё роўна не можа ўтрымацца ад сустрэчы з любімымі персанажамі. Падагульняючы, можна зразумець, якія карціны маюць поспех у гледача. Поспех (а значыць — і цёплае мястэчка ў рэйтынгу чаканых) забяспечаны фільмам з пэўнай папулярнай франшызы, экранізацыям, працягам, фільмам у папулярным жанры і са знакамітасцю на постары.

## Супергероіка

Наколькі зручна ўладкаваліся людзі. Маючы ў наяўнасці адзін прапісаны свет, некалькі дзясяткаў супергерояў і тону фанатаў франшызы, можна кляпаць фільмы адзін па адным, часам збіраючы іх разам для стварэння больш эпічных батлаў. Па сутнасці, гэтым Marvel, DC, 20th Century Fox і займаюцца, пры гэтым яны канкуруюць за частку гледачоў.

Не сакрэт, дата выхаду фільма мае сапраўды вялікае значэнне. Удала абраны час — і нават не самы якасны фільм можа сабраць касу. Гэтым разам DC вырашылі не саперніčаць за гледачоў, таму выпусцілі свой фільм нашмат раней за канкурэнтаў. «Бэтман супраць Супермена: На світанку справядлівасці» (94% — рэйтынг чакання на КінаПошуку) выйшаў у сакавіку і тут жа бязлітасна праваліўся. Доўгачаканае ўз'яднанне двух такіх моцных герояў не падалося гледачу паспяховым. Фільму не хапіла логікі ў апавяданні, матывацыі персанажаў (асабліва Лексу Лютару), тут і там віселі шматкі сюжэтных ліній. Але самая вялікая праблема карціны — мантаж. У кінатэатральным мантажы фільм скакаў паміж сцэнамі, рэзка тузаўся і быў адкрыта крыва зляплены. Асабліва кантрасна гэта адчуваецца ў параўнанні з нядаўна выпушчанай пашыранай версіяй фільма, якая хоць і даўжэйшая на паўгадзіны, але дазваляе атрымаць асалоду ад візуальнага складніка і тлумачыць (хоць і вельмі нудна) мноства дробных дэталяў. І нельга забываць: гэта толькі падрыхтоўка да кінадылогіі «Ліга справядлівасці». Аднак відавочна: не на гэты фільм DC ставіла. Яго галоўная надзея на поспех сёлета — «Атрад самагубцаў» (97%), які выйшаў на пачатку жніўня.

Marvel стартавалі фільмам «Першы Мсціўца: Супрацьстаянне» (94%), які быў на слыху ў асноўным дзякуючы двум момантам. Першы: куча супергерояў біліся сценка на сценку. Другі: у фільме з'явіўся Чалавек-Павук, якога нарэшце іграе падлетак. Правы на героя ўсё яшчэ належаць кампаніі Sony, аднак яны ласкава пазычылі іх Marvel на адзін фільм, такім чынам прарэкламаваўшы будучы, ужо трэці па ліку, перазапуск. «Першы Мсціўца: Супрацьстаянне» не расчараваў, але і са стандартнай лінейкі Marvel нічым не выбіўся. Карціна, як і раней, ігнаруе сцэнарныя дэталі, і хоць і прапісвае матывацыю і логіку паводзін, але робіць гэта вельмі нязграбна. Увесь вольны час аддадзены экшну, праз што пакутуе сюжэт (хоць многія аматары экшну, можа, тут са мной не пагодзяцца). Гэта выглядае так: «нам трэба было прыдумаць падставу, каб сутыкнуць супергерояў, і нейкая там падстава ёсць, а большае нам не патрэбна». Але, увогуле, падобнае сярод фільмаў пра каманду Мсціўцаў не рэдкасць. Візуальны складнік, як, дарэчы, і гумар, на высокім узроўні. Эксперыменты ж студыя запланавала на лістапад гэтага года: выходзіць «Доктар Стрэндж» (96%). Некалі комікс пра гэтага персанажа змяніў успрыманне работ Marvel, і студыя спадзяецца, што фільм таксама зможа стаць паваротным.

А кампанія 20th Century Fox, галоўным козырам якіх з'яўляецца франшыза «Людзі Х» (з якой яны твораць, што хочуць), ужо адстралялася сёлета, выпусціўшы два фільмы. Першым на экранах у лютым з'явіўся доўгачаканы «Дэдпул» (95%). Што ж, у іроніі і самаіроніі гэтаму хлопцу не адмовіш. Гледачы чакалі чорнага грубага гумару — яны яго атрымалі. І гэта адзінае, дзякуючы чаму фільм не праваліўся і нават змог атрымаць сіквел. Сцэнарый а-ля выратаванне прынцэсы: супергерой становіцца супергероем, у яго крадуць даму сэрца, ён яе ратуе. Злыдзень, шчыра, ні аб чым, ужо нават і імя яго не ўспомніш, а парушэнне 4-й сцяны, якое выклікала такі ажыятаж, на справе не ўразіла, месцамі нават недарэчнае.

> Сапраўдны фанат абавязкова скажа, што кніга лепш, але гэта адбудзецца ўжо пасля прагляду фільма. Значыць, мэта дасягнута ў любым выпадку

Яшчэ адзін фільм студыі «Людзі Х: Апакаліпсіс» (95%). Самая вялікая праблема ў частцы пра мутантаў — мноства новых персанажаў і знікненне асноўных на даволі вялікі прамежак часу. Так фільм губляе складнасць і разбіваецца на часткі. Аднак яго выцягвае добры экшн і жарты. «Людзі Х: Апакаліпсіс» змог канкурыраваць з «Першым Мсціўцам: Супрацьстаянне», з якім выйшаў у адзін час, але відавочна, не дацягнуў да яго. А вось прыхільнікі коміксаў, дарэчы, упершыню загаварылі аб кананічнасці франшызы мутантаў.

## Сіквелы

Калі зусім лянота прыдумаць нешта новае, а грошы тэрмінова патрэбныя на нейкі больш якасны праект, у ход ідзе штампоўка сіквелаў. Прычым, здаецца, сёлета падобная штампоўка дасягнула апагея сваёй нахабнасці, калі быў зняты сіквел фільма 20-гадовай даўніны.

Гаворка пра карціну «Дзень Незалежнасці: Адраджэнне» (89%), якая знята Роландам Эмерыхам. Гэта працяг фільма, які ў канцы 1990-х літаральна перавярнуў усю індустрыю кінафантастыкі. Тады настолькі маштабныя разбурэнні ў кіно былі ў навіну, аднак у 2016 годзе падобным ужо нікога не здзівіш. Усе ведаюць, на што здольны Adobe After Effects, і хочуць ад навуковай фантастыкі перш за ўсё лагічнасці і абгрунтаванасці. З гэтым Эмерых і яго каманда, на жаль, не справіліся. Логікі ў фільме няма, забываюць нават пра існаванне звычайных законаў фізікі. Прышэльцы прабурылі ў акіяне вялізную дзірку практычна да ядра планеты (а гэта, на хвілінку, амаль тры тысячы кіламетраў), а Зямлі — нічога. І толькі акіян самкнуўся над свідравінай з драматычным «бульк». Сцэнарый фільма цалкам злізалі з першай часткі, у яго толькі дадалі новых герояў, нават не паспрабаваўшы раскрыць іх характары. Фільм страціў атмасферу і драму. Няма напалу страсцей, няма безвыходнасці. О, у нас герой паміраe, самы час для жартаў! Сіквел выйшаў відавочна ніжэй сярэдняга, аднак выхад трэцяй часткі пакуль ніхто не аспрэчыў.

Прышэльцы прабурылі ў акіяне вялізную дзірку практычна да ядра планеты (а гэта, на хвілінку, амаль тры тысячы кіламетраў), а Зямлі — нічога. І толькі акіян самкнуўся над свідравінай з драматычным «бульк»

Першая палова 2016 года прадставіла на суд яшчэ 2 сіквелы, толькі ўжо ў жанры фэнтэзі. Выйшаў працяг фільма «Беласнежка і Паляўнічы» з лічбай 2 у назве (85%). Першая частка была змрочнай і крывавай казкай з Крыстэн Сцюард, другая ж — фэнтэзійная меладрама ў яркіх колерах, дзе Беласнежка нават не фігуравала. Галоўная вартасць сіквела — выдатныя акцёрскія работы жаночай часткі асноўнага касту (Шарліз Тэран, Джэсіка Чэстэйн, Эмілі Блант) і, зноў жа, выдатны візуальны шэраг. Як заведзена, сцэнарый, логіка і матывацыя падвялі. І калі «Беласнежка і Паляўнічы 2» можна парэкамендаваць да прагляду пэўнай групе рамантычных дзяўчатак, то фільм «Аліса ў Залюстроўі» (91%) можна парэкамендаваць толькі спаліць. Гэта працяг бёртанаўскай «Алісы ў краіне цудаў», быццам бы зняты па кнізе. Аднак ад яе ў сіквеле не засталося нічога. Галоўная праблема ў сюжэце, які адкрыта… дурны. Ён шалёна развіваецца з самага пачатку фільма, прычым у ім столькі нестыковак, умоўнасцяў і дапушчэнняў, што ён не можа захапіць і ўцягнуць. Больш за тое, замест чаканай вар'яцкай кіслотнай казкі нам выдалі сямейную драму з павучальным канцом пра любоў да сваякоў. Тое, што рабіла фільм Бёртана такім вар'яцкім: цяжкі характар Чырвонай каралевы або дзіўнавата-мілыя паводзіны Шляпніка, — проста ўзялі і патлумачылі. Зразумела, увесь калар быў страчаны: не варта абгрунтоўваць магію казкі. Акцёрскія работы пры гэтым зусім не на вышыні, асабліва горка бачыць Джоні Дэпа, які дрэнна адыгрывае сваю ролю.

## Экранізацыі

Ніхто не імкнецца рабіць нешта кардынальна новае ў фантастыцы. Гэта вельмі аб'ёмная і доўгая праца: мала таго, што трэба прапісаць персанажаў і асноўны сюжэт, дык трэба яшчэ, вы ўявіце, прыдумаць і старанна прапрацаваць свет, у якім адбываюцца падзеі! Таму свет часцей за ўсё альбо бяруць гатовы (кніга, іншы фільм, франшыза), альбо нейкі «стандартны», штосьці з таго, што мы ўжо бачылі.

У першым паўгоддзі галоўнай экранізацыяй стаў фільм «Варкрафт» (93%), зняты па аднайменнай камп'ютарнай гульні. Успомніць добрыя фільмы па гульнях — задача не з лёгкіх нават для тых, хто цікавіцца. Аднак некаторыя крытыкі ўжо выказалі думку, што «Варкрафт» мог бы ўзначаліць гэты топ. Фільм зроблены фанатам для фанатаў, пры гэтым стаў цяжкім для пераварвання звычайным смяротным. Ёсць адчуванне, што кампанія-праваўладальнік Blizzard проста падмяла пад сябе стваральнікаў кіно: «Варкрафт» выдатна прымыкае да гульняў і, верагодна, зняты, каб падштурхнуць новую хвалю цікавасці. Тыя ж, хто не ведае кантэксту, намагаюцца запомніць імёны дзясятка персанажаў і задаюцца пытаннямі, адказы на якія фільм не дасць. З'яўляецца адчуванне, што з сусвету выхапілі кавалак, а на спробу даведацца як героі дайшлі да жыцця такога, адказваюць: «Пагуляй, то даведаешся».

### Падлеткавая антыўтопія

На сёння гэта другі па папулярнасці пасля супергероікі жанр фантастычнага кіно. Відавочна, вялікі ўклад у яго раскрутку ўнесла культавая экранізацыя «Галодных гульняў». На іх хвалі выехалі і іншыя франшызы: «Той, хто бяжыць ў лабірынце» або ўсім знаёмы «Дзівергент».

Трэцяя, перадапошняя частка франшызы «Дзівергент, глава 3: За сцяной» (77%) выйшла ў сакавіку. Сама франшыза ставіць галачку насупраць многіх прычын стаць папулярнай і практычна збірае кіношнае бінга. Гэта частка франшызы ў папулярным жанры, якая, акрамя таго, з'яўляецца экранізацыяй. Але, як ні дзіўна, трэцяя частка не расчароўвае. Мяркуйце самі. Усе, хто вырашыў паглядзець гэты фільм, выдатна ведаюць узровень першых дзвюх частак. Ведаюць, што логіка зусім не канёк фільмаў пра Трыс Праер, што героі пляваць хацелі на матывацыю, што нешта адбываецца, таму што так трэба, а не таму што гэта заканамерна. Тым не менш трэці фільм нядрэнны — вядома, у параўнанні з астатнімі часткамі франшызы. Нарэшце нам больш-менш зразумела абгрунтоўваюць мясцовую будову грамадства. Да таго ж, з'яўляючыся экранізацыяй першай паловы кнігі «Алігент», «Глава 3: За сцяной» застаецца самастойнай завершанай гісторыяй з разлікам на будучыню (што не шмат у каго атрымліваецца). Відавочна лепшым стаў візуальны складнік. Аматараў футурыстыкі пацешаць прывабныя гарады будучыні, ды і вайсковая тэхніка стала значна цікавейшай. Гэта, вядома, не адмяняе таго факта, што яна цалкам непраўдападобная, але ж... гэта ўжо трэцяя частка, вы самі ведалі, на што ішлі.

Для фанатаў антыўтопіі прэзентавалі яшчэ адзін фільм у першым паўгоддзі — «Пятая хваля» (91%). Гэта экранізацыя (ну, хто б сумняваўся) з Хлояй Грэйс Морац у галоўнай ролі. І што б вы думалі? Чакана дрэнны фільм з поўнай адсутнасцю логікі і абгрунтавання нейкіх дзеянняў персанажаў. Галоўныя героі стужкі — дзеці, адвезеныя на ваенную базу пад выглядам абароны, якім даручылі ваяваць з іншапланецянамі. Чаму гэтага не могуць зрабіць дарослыя? Невядома. Чаму дзеці не задаюць пытанняў, напрыклад, дзе іх бацькі? Невядома. Чаму іншапланецяне распрацоўваюць складаныя планы з удзелам дзяцей, хоць іх сілы практычна бязмежныя? Невядома. Увогуле, усё лёгка падладжваецца пад патрэбы герояў. Даволі маркотнае відовішча.

### Знакаміты рэжысёр

Стывен Спілберг. Рэжысёр класікі кінематографа, стваральнік такіх фільмаў, як «Спіс Шындлера», «Назад у будучыню», «Шпіёнскі мост». І тут у канцы паўгоддзя ён выпускае свой другі дзіцячы фільм пасля «Іншапланецяніна» — экранізацыю казкі Раальда Даля «Вялікі і добры велікан» (92%). Для даведкі, па кнізе гэтага ж пісьменніка Цім Бёртан зняў «Чарлі і шакаладная фабрыка». І хоць самому Далю фільм не спадабаўся, ён быў значна бліжэйшы да арыгінала па атмасферы, чым казка Спілберга.

Даль і Бёртан — вялікія аматары макабру ў сваіх работах, фанаты ўсяго змрочнага, жахлівага, наіўна жорсткага. Фільм жа Спілберга не ўспрымаецца гратэскавым, гэта самае звычайнае дзіцячае фэнтэзі: калі на экране пачынае адбывацца нешта неадэкватнае, гэта не здаецца заканамерным, а ўспрымаецца як вар'яцкасць сцэнарыя. Калі Сафі прадставіла Вялікага і добрага велікана англійскай каралеве і папрасіла яе пайсці вайной на краіну веліканаў — гэта бязглуздзіца, а не макабр. Дадайце да гэтага даволі прымітыўныя жарты з каверканнем слоў, напэўна, адну з самых маштабных газапускальных сцэн у гісторыі кінематографа і сумнеўны пасыл пра тое, што трэба рабіць добрыя справы, каб хоць якімсьці чынам зґладзіць дрэнныя ўчынкі атачэння. Магчыма, ва ўсім гэтым ёсць другое дно, але ўгледзець яго, верагодна, могуць толькі самыя адданыя прыхільнікі рэжысёра.



«Першы Мсціўца: Супрацьстаянне» не расчараваў, але і са стандартнай лінейкі Marvel нічым не выбіўся. Карціна, як і раней, ігнаруе сцэнарныя дэталі, і хоць і прапісвае матывацыю і логіку паводзін, але робіць гэта вельмі нязграбна

Відавочна, першая палова 2016 года стала не самай паспяховай для фантастыкі. Верагодна, другая яго частка будзе крыху больш удалай хоць бы дзякуючы выхаду такіх нашумелых фільмаў як «Інферна» па кнізе Дэна Браўна, «Фантастычныя жывёліны і дзе яны жывуць» (экранізацыя Роўлінг), «Крэда забойцы» па знакамітай камп'ютарнай гульні «Assassin's Creed» і спін-оф «Выгнаннік адзін. Зорныя Войны: гісторыі». Вядома, ніхто не гарантуе, што гэтыя фільмы па факце апынуцца вартымі выдаткаваных на іх часу і грошай. Больш за тое, гатова паставіць на тое, што «Выгнаннік адзін» расчаруе ўсіх, акрамя адданых фанатаў, якія дагэтуль у экстазе ад самога факта працягу гэтай франшызы. Аднак расчараванне ўсё ж не падстава пазбягаць кінатэатраў з іх непаўторнай атмасферай, велізарным экранам і тэхналогіямі, якімі могуць пахваліцца пакуль не ўсе тэлевізары.

Варта толькі пакідаць галаву халоднай і не чакаць ад фільма занадта многа, бо праз завышаныя чаканні карціна можа здацца вам значна горшай, чым яна ёсць на самай справе.

Давайце глядзець на кінафантастыку вачыма рэалістаў.



# Валянцін Маслюкоў: «Калі закваскі няма, нічога не створыш»

**Дата нараджэння: 22 верасня 1949 года.**
**Творы: «Нараджэнне чараўніцы», «Час паўночы», «Бег наперадзе сябе» («Зялёная жанчына»).**
**«Фантастычныя» месцы працы: часопіс «Парус».**
**Спецыяльна для тэматычнага нумара «М» Святлана Курганава пагутарыла з фантастам, журналістам, пісьменнікам Валянцінам Маслюковым.**

**— Што вы лічыце пачаткам сваёй творчасці?**

— Першую казку я надрапаў у сем гадоў. Спроба першай публікацыі — гэта аповесць пра праблемных падлеткаў «Дзіцячы сад», мой першы дэтэктыў. Я аддаў яго ў «Нёман» у канцы 1970-х гадоў, але яго не апублікавалі, хоць два разы з'яўляліся анонсы. Аказалася, што патрэбен быў водгук міліцыі. Міліцыі чамусьці не спадабалася — у рэдакцыі сказалі: «Ай, пішы іншую». Іншую напісаць! Я гэтую напісаў, высунуўшы язык. Мне тады здавалася, што нічога больш не напішу. А яны — іншую напісаць!

**— А што чыталі ў той час? Што вас так зачапіла, што паўплывала на творчасць?**

— Я пачаў чытаць не асабліва рана: толькі ў школе. У школьныя гады, я памятаю, мяне жудасна палохалі зборы твораў. Мне тады здавалася, што нармальны чалавек, нармальнае дзіця гэта не можа чытаць. Чытаў казкі, прыгодніцкія кнігі. «Нашчадка з Калькуты» — у свой час нашумелая кніга — перачытаў разоў пяць. Бацька ўжо казаў: «Выкіну, калі ты возьмеш яе зноў чытаць». І мне заўсёды быў цікавы казачны свет — свет выдумкі, мары. Я перачытаў Жуля Верна, Аляксандра Бяляева. У свой час Толкіен зрабіў на мяне вельмі моцнае ўражанне сваёй інтанацыяй, сваім светаадчуваннем — зачараваным, рамантызаваным. Вось гэта нешта глыбокае аўтарскае, чаго не хапае велізарнай колькасці паслядоўнікаў. Толкіен пісаў — і гэтым ён выказваў сябе. Менавіта гэта тады мяне вельмі ўзрушыла.

Я вучыўся на факультэце журналістыкі МДУ. І ў студэнцкія гады ў нас была такая праграма па рускай і замежнай літаратуры, што прачытаць і тое, і іншае — павесіцца. Я захапляюся дачкой, якая перачытала такія кнігі, якія я не змог адолець.

**— Раскажыце, як вы «звязаліся» з фантастыкай?**

— Справа ў тым, што я спачатку працаваў у «Знамени юности» пасля размеркавання, а потым мяне пераманіў бюлетэнь «Рабочая смена» — маленькае выданне, пасля газеты з тыражом у 750 тысяч асобнікаў. Я змяніў месца працы, таму што ўжо разлічваў: мне патрэбен час, каб пісаць кнігі, а там было больш вольна. Я туды прыйшоў у 1979 годзе, а праз 5 гадоў гэты бюлетэнь быў зроблены Усесаюзным маладзёжным часопісам «Рабочая смена», пазней перайменаваны ў часопіс «Парус», які стаў выходзіць мільённым тыражом.

**— У «Парусе» былі створаны фантастычныя тэматычныя нумары. Як з'явілася гэтая традыцыя?**

— Спачатку з'явіліся апавяданні пра ПТВэшнікаў, потым з'явіліся фантастычныя апавяданні. Тады ў Мінску быў клуб фантастаў. Чалавек 15—20 збіраліся ў БДУ раз на тыдзень у фізічнай лабараторыі. Навуковыя работнікі тады любілі фантастыку: чыталі і самі яе пісалі. І калі мы былі яшчэ бюлетэнем, было прынята рашэнне, што мы будзем выпускаць раз на год нумар, прысвечаны фантастыцы. Тэматычныя нумары — гэта мая ідэя. І мы апублікавалі практычна ўсіх беларускіх фантастаў, якія на той час былі. Нашы аўтары: Сяргей Булыга, Сяргей Трусаў, Дрозд і Зяленскі, якія пісалі сумесна.



Менавіта ў нас пачалі друкавацца вядомыя Брайдэр і Чадовіч. Спачатку іх запрасілі пісаць фантастычную серыю апавяданняў пра ПТВэшнікаў. А потым яны апублікавалі сваё першае нашумелае апавяданне «Тэлепатычная стрэльба».

**— А як вы можаце ахарактарызаваць стан фантастычнай літаратуры сёння?**

— Справа ў тым, што ў сучаснай рускай і беларускай літаратуры не існуе агульнага інтарэсу і ўзаемных зносін. Агульная культурная прастора ўяўляе сабой не адзінае цэлае, а нешта мазаічнае. Калі ты свой у адной маленькай групе, то ты там геній, калі чужы, то... І гэта ўсё вельмі кепска. Але гэта сучасны стан грамадства.

**— А што можна сказаць датычна сучаснай беларускай фантастыкі?**

— Я баюся, што апошнія раманы не назаву. Я цяпер нічога не чытаю, акрамя таго, што трэба па рабоце, проста таму што няма часу. Напэўна, вы ведаеце, што ў нас самы вядомы аўтар — Вольга Грамыка. Калісьці я нейкія кнігі яе чытаў. І я адзначу, што ў адмысловым захапленні ад рамана Сяргея Булыгі «Чужая карона». Лічу, што гэта майстэрская рэч, годны твор — маляўнічы, вобразны, яркі. Шкада, што яго ў нас не ведаюць.

**— Калі ён настолькі добры, чаму яго ў нас не ведаюць?**

— З адной прычыны: ён апублікаваны ў Маскве на рускай мове. Калі б твор з'явіўся на беларускай, адразу б стаў класікай. Адназначна, таму што іншых такіх рэчаў проста няма. У Расіі кніга даўно разышлася і мела там рэзананс, наколькі я ведаю. Але я гляджу аптымістычна: раз гэтая рэч існуе — то яна ўжо нікуды не дзенецца.

**— Хацелася пагаварыць і пра вашу творчасць. Самы вядомы твор — «Нараджэнне чараўніцы». Раскажыце, як пачалі работу над ім?**

— Быццам наогул выпадкова. Я скончыў гістарычны раман, які мне вельмі цяжка даўся, напісаў раман «Таямніцы перапіскі». А потым я вырашыў, што добра было б адпачыць, напісаць што-небудзь лёгкае.

Вырашыў, што напішу невялікую казку: у кнізе не павінна быць больш чым дзвесце старонак. Але калі я стаў складаць сюжэт, то зразумеў, што нічога не атрымліваецца: усё здавалася занадта банальным. Увогуле, пачаў пісаць з прыблізным планам. І аказалася, я вельмі моцна пракалоўся, таму што калі ты пішаш, і ў цябе няма дакладнага сюжэта, то цябе развозіць.

Напісаў першыя восем старонак, а потым — раз і ўсё: далей тэкст не ідзе. Такі балючы стан. Я адчуў, што ўсё гэта банальна, дрэнна. І я вярнуўся да пачатку — усё перарабіў. У мяне зусім памяняўся Юлій, характар быццам перавярнуўся на 180 градусаў.

Як першыя два гады я пісаў — успомніць страшна, паўтарыць немагчыма. Увесь гэты час я пісаў у суцэльным адчаі, з поўным прадчуваннем правалу, з думкай, што гэта нікуды не падыходзіць, нічога не атрымаецца, нікому не трэба. Пісаў толькі на пачуцці адказнасці: узяўся — трэба давесці да канца. А калі я ўжо пераваліў праз сярэдзіну і ўбачыў, што атрымліваецца, то ўсё пайшло хутчэй, весялей. Ужо не было таго адчування духаты, калі не ведаеш, да чаго ты прыйдзеш.

**— Першая частка дастаткова моцна вылучаецца. Як вы можаце гэта пракаментаваць?**

— Першая кніга — гэта наогул толькі экспазіцыя. Яна адрозніваецца па інтанацыі ад наступных, больш размераная, больш плаўная, больш настраёвая. У гэтым і задача літаратуры — яна павінна ствараць нейкае светаадчуванне, каб ты існаваў у ім, каб ты ў гэта верыў, каб ты гэтым жыў. Пісьменнік без чытача на самай справе не існуе. Любы пісьменнік можа адбыцца толькі ў чытача, кожны чытач адначасова яшчэ і суаўтар. А пісьменнік яшчэ і чытач, таму што калі працуе над тэкстам, то глядзіць на яго і чытацкімі вачамі. У выніку ўсё так мудрагеліста змешваецца…

**— На форзацы кнігі «Нараджэнню чараўніцы» ёсць карта. Як і навошта вы яе распрацоўвалі?**

— Мне патрэбна была карта, каб зразумець, хто куды пайшоў, дзе хто знаходзіцца і іншае. Карта, якую я аддаў мастаку, адрозніваецца ад той, што выйшла ў выніку на форзацы кнігі, таму што ў мяне была больш падрабязная, рабочая версія. Ілюстратар зрабіў абагульненую і мастацкую. І так, я ёю карыстаўся ў працэсе. А як інакш? Трэ-

ба ведаць, дзе поўнач, дзе поўдзень. Як толькі ты пачынаеш дапускаць нейкія адвольнасці, усе гэта адразу заўважаюць.

**— Яшчэ якія-небудзь дадатковыя матэрыялы распрацоўвалі?**

— Больш за тое, у мяне напісана генеалогія князёў. Яе пісаў больш для сябе. Усё гэта ў асноўным не спатрэбілася, але адсылкі да яе ёсць. Чытач можа і не заўважыць іх, але так, мне здаецца, ствараецца адчуванне нейкай аб'ёмнасці свету. Генеалогію я прадумаў яшчэ на ранняй стадыі, калі быў у роспачы, калі гатовы быў займацца чым заўгодна, абы не пісаць. Хоць гэта таксама досыць моташны занятак — складаць нешта дадатковае.

**— А кажуць, што лёгка займацца тым, што табе сапраўды даспадобы**

— Усё роўна пісаць вельмі цяжка. Цяжка ствараць новае. Творчасць — гэта стварэнне з нічога. А камбінаваць з напісанага іншымі або напісанага табой раней — лёгка. Чаму так лёгка пісаць працяг любой добрай кнігі? Таму што свет створаны. Я б мог пісаць працяг «Нараджэння чараўніцы» хоць да канца жыцця, бо далей толькі складай: пабеглі туды, пабеглі сюды, адбылося тое, адбылося сёе.

**— Гэта нашмат лягчэй, чым ствараць з нуля. Але такі падыход адбіваецца на якасці тэксту.**

— Так, і вы ж самі бачыце, што адбываецца цяпер з усімі гэтымі серыяламі. Патрабуюць выдаўцы, аўтар гоніцца за поспехам — ён пад ціскам. І атрымліваецца, што атрымліваецца. Таленавітая пісьменніца Роўлінг напісала выдатную кнігу. Першую, другую, трэцюю. Я лічу, што гэта залаты фонд сусветнай дзіцячай літаратуры. Але ціск поспеху, ціск выдавецтва — і канчаецца ўсё вельмі слабай кнігай у параўнанні з першай. Калі б гэта была не Роўлінг, гэта б ніхто не чытаў. Там велізарнае нагрувашчванне недарэчнасцяў: і на бытавым узроўні, і на ўзроўні сюжэтным. Вось куды гэта: узімку героі жывуць у палатцы. Чаму атрымліваюцца такія рэчы? Таму што чалавек не верыць у тое, што піша. Чаму першая кніга атрымалася такая магутная? Першую кнігу яна напісала крывёю. Пісьменніцтва было для яе быццам аддушынай.

Джорж Марцін — магутны пісьменнік, але ў яго тое самае: першая кніга цыкла «Песня лёду і полымя» — ну проста выдатная. У першай кнізе, пры ўсіх умоўнасцях ёсць адчуванне сапраўднасці. Але потым засталіся ўсе ранейшыя ўмоўнасці, ды вось адчування сапраўднасці — няма. Усё падганяецца пад сітуацыю. Чым адрозніваецца літаратура ад белетрыстыкі? У літаратуры характары дыктуюць сітуацыю, а ў белетрыстыцы пад сітуацыю падбіраюцца характары. І серыял. Вы глядзелі?

**— Так, і ён зроблены вельмі добрасумленна. У стваральнікаў атрымліваецца перадаць патрэбную атмасферу, настрой. На мой погляд.**

— Гэта бясспрэчна. Але я паглядзеў апошні сезон: гэта ўсё ўжо было. Яны ходзяць па адным і тым жа. Ужо даўно было зразумела, што да чаго прыйшло і як трэба рабіць развязку, а яны ўсё працягваюць, працягваюць і працягваюць — чыстая камерцыя.

Калі б гэты свет застаўся на ўзроўні першай, другой кнігі, без паўтораў і расцяжэння, тады б «Песня лёду і полымя» існавала як Літаратура ў будучыні. А так застанецца кінафактам. Усё роўна пісьменнік — вельмі таленавіты чалавек. Гэта велізарная праца, якая ў мяне выклікае павагу.

**— Мяне як чытача палохаюць велічэзныя паліцы адной і той жа серыі. Палохае аб'ём. Гэтыя цыклы чытаюцца па меры выхаду лёгка, а калі яны скончаны і манументальна стаяць у бібліятэцы або ў кнігарні, дакранацца да іх няма ніякага жадання. У большасці выпадкаў.**

— Палохае не аб'ём. Аб'ём эпапеі «Вайна і мір» нікога не палохае. Аб'ём «Жана Крыстофа» нікога не палохае. Аб'ём «Ціхага Дона» нікога не палохае. А палохае тое, што ведаеш: там слабы тэкст, спачатку добры, а потым слабы. Можна і паўтарацца, але рабіць гэта з высокай якасцю. Толькі, як правіла, паўтор — гэта тое ж самае, толькі горш.

**— І напрыканцы: ці складана быць пісьменнікам? Хоць вы ўжо, здаецца, і адказалі…**

— Якія б ні былі веды, пісьменнік не можа нічога напісаць з таго, што ён сам не разумее і не адчувае ў сабе. Вось, як Дастаеўскі — ён разумее кожнага: ён і атэіст, і той, хто верыць. Калі б ён быў толькі вернікам, ён бы ніколі не напісаў гэтую кнігу, «Злачынства і пакаранне». А ён быў адначасова вернікам і атэістам, разумееце? Ён насяліў твор рознымі людзьмі. І кожны з іх — Дастаеўскі. Яго закваска. Калі гэтай закваскі няма, нічога не створыш.





*Ніна Лістота ў гэтым нумары прэзентуе сваё апавяданне «Туманы». Якія таямніцы могуць хаваць за сабой хвалі туманаў над возерам, якія чары спавіваюць тутэйшыя мясціны? І — што лягчэй: паверыць у цуд ці ў гэтым цудзе раз і назаўжды расчаравацца?*

*Мы, вядома, не збіраемся раскрываць карты і псаваць інтрыгу. Але зазначым: кожны твор — гульня. З сэнсам, са словамі і, галоўнае, з чытачом. Ён, выбудоўваючы паводле ніці аўтарскай думкі ўяўны свет, мае нейкія свае разлікі ды прадчуванні адносна развіцця падзей.*

*А часам аўтар — вядома, для эфектнасці, для лепшага ўздзеяння — гэтыя прадбачаныя чытацкія чаканні наўмысна руйнуе. Прыём падманутага чытача, ні болей ні меней.*

*Але тсс! Мы ж не хочам сказаць замнога.*

*Лепш чытайце.*

Ніна Лістота

## За шклом — туманы

Праз шкляную сцяну гатэля «Кола часу» было бачна вялізнае возера. Адлегласць у трыццаць метраў амаль не заўважалася. Мы ўжо прызвычаіліся падчас сняданку сядзець за круглым сталом і пазіраць на серабрыстыя хвалі.

Сёння возера атуліў туман. Супрацьлеглага берагу больш не было відаць. Наваколле нібы раставарылася. Толькі адна жаночая постаць стаяла на беразе… Яна падымала з зямлі каменьчыкі і кідала іх у ваду, адзін за адным.

Туман праглынаў і нас — тых, хто сядзеў у гасцёўні. Час нібы спыніўся. Праз гэтую цішыню і нерухомасць падавалася, быццам адкрыўся нябачны партал у невядомае.

У нашай зале заіграла класіка. «М-м-м, даўно не чула такой добрай музыкі», — падумала я і азірнулася. Аднак, на ўласнае здзіўленне, не ўбачыла ні магнітафона з дыскамі, ні калонак. Пасярэдзіне залы сядзелі тры музыкі — арфіст, лютніст і дудар — і гралі тую музыку, што мяне так уразіла. Ад нечаканасці я нават ускочыла са свайго месца.

— А, Ганна, вы бачылі гэта?.. — спытала я ў кампаньёнкі, якая звычайна снедала са мной і сядзела побач. Аднак і з ёй адбыліся дзіўныя трансфармацыі. На жанчыне, якая да гэтага была ў спадніцы-званочку і досыць строгай кашулі, аказалася неверагоднай прыгажосці сукенка, расшытая, здаецца, залатымі ніткамі. Яе валасы былі акуратна сабраны, а шыю ўпрыгожвала нітка перлаў.

— Ну вы шляхцянка! — толькі і змагла вымавіць я.

— Цішэй, не звяртайце на сябе залішне ўвагі, — адказала яна. — Вам таксама трэба тэрмінова пераапрануцца. І лепш не кажыце нікому, з якога вы часу.

Ганя ўзяла мяне за руку і хуткімі крокамі павяла прэч з залы. Афіцыянты ў расшытых каляровых кашулях, падпяразаныя ільнянымі пасамі, ветліва схіляліся перада мной, але, па ўсім было відаць, крыху бянтэжыліся.

— Вы можаце мне патлумачыць, што адбываецца? — запытала я, калі мы нарэшце зайшлі ў пакой.

Сюды, між іншым, я раней не трапляла. Навокал была расстаўлена старая мэбля неверагоднай прыгажосці. У масіўнай дубовай раме вісела карціна з выявай палявання. Сцэны былі абабіты цёмна-зялёным аксамітам з залатымі ўзорамі.

— Усё-такі хочацца ведаць, што адбываецца, — не сунімалася я.

— Сёння мы ідыём на баль да князя Вішнявецкага. Мы яго ганаровыя госці, — адказала мая суразмоўца.

— Ганя, натуральна, мы знаёмыя з вамі ўсяго два дні, з таго часу, як я засялілася ў гэты гатэль, — адказала я. — Аднак не трэба прымаць мяне за наіўную дурнічку. Растлумачце, калі ласка, што азначае ўвесь гэты маскарад?

Ганна адклала на канапу сукенку, якую ўжо хвіліны дзве, трымаючы ў руках, падавала мне. Яна пачала прыгадваць:

— Памятаеце, падчас вячэры моцна згусціўся туман? Шкляная сцяна гатэля быццам пачала растварацца. Дык вось, яна знікла зусім. Мы трапілі ў часавую варонку. Я чула ад сваякоў, якія жывуць непадалёк, што такое тут здараецца раз на сто гадоў. Аўдавелы пан Вішнявецкі, які ніяк не мог больш ажаніцца, наклаў закляцце на гэтае месца. Ён сказаў, што жонка да яго прыйдзе з будучыні. З тых часоў, калі ў наваколлі затрымліваюцца прыгожыя дзяўчаты ці кабеты, яго замова пачынае дзейнічаць — і яны пераносяцца ў дом Вішнявецкага.

— Ой, ды ідзіце вы са сваім Вішнявецкім! Я хачу назад. На стале засталася мая недапітая кава і кавалак чызкейка, — у роспачы выгукнула я.

— Не спяшайцеся, — азвалася Ганна. — Вярнуцца адсюль усё адно немагчыма.

— Як гэта — немагчыма?! — я вельмі ўсхвалявалася.

— Кола часу не спрацоўвае ў зваротным кірунку, — пачала тлумачыць яна. — Сёння ўвечары мы трапім на баль да Вішнявецкага, дзе ён будзе выбіраць сабе жонку, размаўляць і танцаваць з ёй. Калі хтосьці з нас яму насамрэч спадабаецца, то стане жонкай князя і атрымае тытул княгіні. Яшчэ адна застанецца памагатай для яе. Усе астатнія (калі яны таксама, як і мы, трапілі з будучага часу), будуць забітыя. Бо ўсім зразумела, што яны не змогуць справіцца з побытам прасталюдзінак гэтых часоў. Таму адзінае, што можа нас уратаваць, — гэта прыхільнасць князя.

На некалькі хвілін павісла напружанае маўчанне.

Я ўсё яшчэ не хацела верыць у тое, што пачула. Лягчэй было думаць, што трапіла на нейкі карнавал. Але ж ад інтэр'ера навокал патыхала даўнінай. Сям-там ляжалі пантофлі, брошкі, вуалі, чэпчыкі — усё тое, чаго не носяць у XXI стагоддзі. Палатно, што вісела на сцяне, таксама, відавочна, не было рэпрадукцыяй. З-за акна данёсся нейкі шум. Я зірнула ўніз і ўбачыла карэту, запрэжаную двойкай коней.

— Слухайце, Ганна, а чаму вы мне дапамагаеце? — я вырашыла высветліць усе непаразуменні. — Чаму самі не прэтэндуеце на ролю княгіні Вішнявецкай? І адкуль вы ўсё гэта ведаеце, пра жаніцьбу і іншае?.. Вы ж, як і я, з сучаснасці.

— Я разумею, што вы надзвычай прыгожая і ёсць вялікая верагоднасць, што князь выбера вас і захоча зрабіць сваёй жонкай. Таму мне лепш усё распавесці вам і падрыхтаваць, каб пасля стаць вашай памагатай, — расказала Ганна і пачала тлумачыць далей. — А адносна таго, адкуль ведаю?.. Я нарадзілася і вырасла ў гэтых мясцінах. У гатэлі спынілася толькі з-за пэўнага збегу акалічнасцяў. Усе гэтыя паданні я чула з самага дзяцінства, іх часта расказвалі мае бацькі і дзяды. Аднак я і падумаць не магла, што ўсё гэта праўда. Ды трапіўшы сюды, у мінулы час, я ўсё пазнаю да дробязяў. Памылкі быць не можа. Гэта тая самая легенда, яна ажыла.

Я схапілася рукамі за галаву і ўсё яшчэ не хацела верыць.

— Давайце ўсё-такі апранацца, — сказала Ганна і працягнула мне сукенку.

***

Мяне вывелі наперад і прадставілі князю:

— Пані Барбара, наша госця з будучых часоў. Як вы і жадалі, ваша міласць.

Вішнявецкі позіркам ацаніў мяне. У яго вачах заблішчэла іскрынка.





Мне на дзіва ўдала падабралі строй: доўгая сіняя сукенка з аксаміту так добра пасавала да блакітных вачэй, удала адцяняла іх колер, яны падаваліся яшчэ больш яркімі. Валасы былі высока сабраны, агаліўшы тонкую шыю, якую ўпрыгожвала нізка каштоўных камянёў.

Князь загадаў, каб мяне пасадзілі з ім побач. Я не магла суняць дрыжыкаў ва ўсім целе. Аднак — што было рабіць — давялося ўсміхацца і адказваць на яго пытанні.

Пасля мы танцавалі пад гукі той жа выдатнай музыкі, якая гэтым разам не мела для мяне ніякага значэння. Мне было і страшна, і дзіўка, і ў той жа час усё, што адбывалася навокал, быццам ап'яняла, напаўняла салодкім дурманам.

Танец, відаць, адмыслова быў падабраны так, што і я, без падрыхтоўкі, добра спраўлялася з ім, толькі паддаючыся рухам князя.

Калі музыка крыху прыціхла і мы скончылі танец, Вішнявецкі выгукнуў:

— Гэта мая нявеста! Я знайшоў яе! Літасцівы Бог нарэшце прывёў да мяне маю адзіную, ясную, бы сонца, Барбару. Ладзім наша вяселле! Сёння ж! Цяпер!

Музыка загучала мацней. Пачуліся крыкі з усіх бакоў. Я стаяла пасярод гэтай гуллівай весялосці і не зусім разумела, што адбываецца.

Ганна і яшчэ адна дзяўчына прынеслі белы вэлюм і прычапілі да маіх валасоў. На падлозе разаслалі каляровы дыван. Мы з князем сталі на яго. Госці ў чаканні цырымоніі сталі вакол нас шчыльным колам.

Выйшаў чалавек у святарскай вопратцы, з тоўстай кнігаю ў руках. Мне падалося, што я дзесьці бачыла яго раней…

— Шаноўная пані Беларэцкая, — загаварыў той, што яшчэ хвіліну таму быў так падобны да святога айца. — Віншуем вас! Вы сталі першай, хто прайшоў новую забаўку ад гатэля «Кола часу».

— Мы вырашылі, што трэба адпавядаць сваёй назве і таму прыдумалі гэты атракцыён з перамяшчэннем і жаніцьбай Вішнявецкага. Спадзяёмся, вам спадабалася, і вы апішаце гэта ў сваім рэпартажы. Не хвалюйцеся, шлюбаваць сёння мы вас не будзем, — той, у кім я нарэшце пазнала дырэктара гатэля, гучна засмяяўся.

Надзвычай весела было і «князю», ён заўсміхаўся і па-сяброўску абняў мяне. Усе навокал апладзіравалі і былі ўзрушаныя і задаволеныя, што інтрыга не раскрылася загадзя.

Падышла Ганна і, пасміхаючыся, пачала гаварыць:

— Выбачайце, што давялося ўвесці вас у зман. Так, я таксама працую ў «Коле часу». Маёй задачай было з самага пачатку пасябраваць з вамі. У нашым гатэлі ёсць музейны пакой, куды я і прывяла вас. Арганізоўваць баль дапамагала прафесійная анімацыйная каманда.

— А як жа туман? — слаба выгукнула я,— Ён жа ператварыўся у партал часу…

— Вой, туман — гэта чыстае супадзенне, — адгукнулася Ганна. — Аднак раніцай мы заўважылі, што ён сапраўды нейкі асаблівы, і вырашылі гэта скарыстаць. Які партал часу? Аха-ха! Цікава, што вы так хутка ў гэта паверылі. Будзе што напісаць у артыкуле пра наш гатэль. Мы адразу зразумелі, што вы прыехалі сюды не проста так, а як «гатэльны крытык», таму вырашылі здзівіць новай праграмай.

***

Я папрасіла прабачэння і пайшла ў свой нумар. Хутка скідала рэчы ў рукзак.

Добра, што нядаўна я знайшла запасны выхад, які зроблены, каб напрамкі трапляць да возера, — не давядзецца ісці праз натоўп узрадаваных шляхцічаў, прабачце, не так — гатэльных супрацоўнікаў і аніматараў.

Я выслізнула з дзвярэй і хутка пашыбавала ў бок шашы, каб злавіць папутку.

«Не будзе. Ніякага артыкула не будзе», — падумала я. — «І лепш бы мне ніколі ў жыцці не ўспамінаць гэты вар'яцкі дзень».



Ганна Шакель

**нарадзілася ў Маладзечне 7 ліпеня 1998 года — у адзін дзень з Янкам Купалам і Маркам Шагалам і лічыць гэты факт біяграфіі ў нейкай ступені лёсавызначальным. Скончыла гімназію-каледж мастацтваў у Маладзечне. Цяпер першакурсніца МДЛУ. Цікавіцца этнаграфіяй. Да нядаўняга часу вершы не любіла і не разумела. Але аднойчы паэзія, у прыватнасці, уласныя вершы, што каханне ў Булгакава, выскачылі перад Ганнай, як забойца ў завулку. Пераможца паэтычнага конкурсу фестывалю «Час Жыць».**

## Мора хвалюецца раз…

### Мора

Канал не праклaсці між нас:
Тут ў глыб сваю цягне дрыгва.
Хачу я ўсяго адчуваць:
Мора хвалюецца — раз,
Мора хвалюецца — два.
Мора хвалюецца — трыста шэсцьдзясят пяць.

Маяк наш згасіў ліхтары.
Не знойдзе ўжо скарб вадалаз
(Відаць, ён ў табе затануў).
Мора хвалюецца — тры.
Мора хвалюецца — два.
Мора хвалюецца — нуль.

### Маладосць

Маладосць —
сама па сабе антонім:
мала — досыць.
Малако цёплае на
дасціпных вуснах.
Маланка перад
досвіткам ціхім.
Малітва малпінымі скокамі.
Дасягненне ў недасведчанасці.
Малінавым колерам пафарбаваная
дашчаная скрыпучая падлога…

### дым

чалавек, што паліш
пад маім акном,
дзякуй
за бясплатныя цыгарэты.
і няхай я
не пачастую цябе
запальнічкай,
я дыхаю
тваёй бядой.

***

я хацела б быць
празрыстасцю,
павевам ветру,
каб праходзіць скрозь людзей,
забіраючы іх чорныя плямы з сабою.
але гэта — метад дзеяння Бога.
я ж —
створаны маімі ж рукамі
ідал,
перад якім стаяць
мае ж калені.

***

Снежыць.
Давайце, белыя восы,
Зрабіце мяне моцнай.
Джальце ў твар проста,
Каб ваш яд вострый
Разліўся па целе,
У сэрца пацэліў —
І стала яно сталёвым.
Гэта цяпер стылёва?

***

Раней любіла толькі
дождж
і праклінала снег.
Маўляў, дождж
самы шчыры,
усім вядома, чаго ад яго чакаць.
А снег хлусіць.
Тыпу такі прыгожанькі:
«Паглядзіце, якія цудоўныя формы сняжынак!»
А ты са сваімі гарачымі рукамі
ідзеш з ім на кантакт —
і ён пераўтвараецца
ў халодную брыдкую вадкасць.

Але, ведаеш,
прынамсі ён мне зразумелы.
Інaчай
быў бы дарэмным
курс фізікі
за шосты клас.

***

Не за ягоных рэбраў краты
Мяне пасадзілі
Падумаць над сваімі паводзінамі.
На гэты раз я — верхняе рабро
Трохкутнага кола,
Праз якое яшчэ невядома,
Ці стане каню лягчэй,
Калі я злезу з воза.



*Перад вамі – доўгачаканы працяг гісторыі, што пачалася спякотным чэрвеньскім поўднем 1570 года. Працяг прыгодаў энергічнага інтэлектуала Андрэя Станкевіча. Як завяршыцца ягонае знаёмства з загадкавымі таемнымі мастацтвамі? Як вызначыць свой далейшы лёс сам юнак, узважыўшы ўсе pro ды contra? Які эксперымент паставіць над уласным наканаваннем, спрабуючы пераўвасобіць хаас у парадак?*

*Заўжды трохі сумна, калі добрыя гісторыі заканчваюцца. Але, калі верыць самому спадару Станкевічу, «у філасофскім эксперыменце галоўнае не вынік, але рух да ісціны». Мяркую, слыннаму «Холмсу» Сярэднявечча тут можам спакойна даверыцца.*

Ягор Конеў

## Андрэй Станкевіч і Таемнае мастацтва

(Заканчэнне. Пачатак у №7/2016)

Абачлівы Станкевіч у час калатнечы на дыспутах хаваўся ад кухталёў пад лавай, слушна мяркуючы, што лёс яшчэ адорыць яго болем. Нашто ж зараз цярпець грымакі ад невукаў? І ўсё ж парачку разоў яму перападала: то вока ледзьве не выбілі, то нечы кулак пазбавіў яго зуба.

Меўся ў такой асцярожнасці і адваротны бок — за год вучобы Андрэй так і не займеў сябрукоў сярод ліцвінаў. Землякі не зважалі на ціхмянага юнака, які ані шумеў у спрэчках, ані махаў кулакамі ў бойцы, ані раскідваўся грашыма ў пашрабках. Не дзіва, што Станкевіча не запрашалі ў братэрства—«нацыю»: якая карысць з такой малацікавай асобы!

У нядзелю шкаляры і студэнты Альбярціны не вучыліся, а забаўляліся і адпачывалі душой і целам. Разам з гараджанамі яны ішлі з Кнайпхофа на мацярык — на паўночным беразе Прэгеля штотыдзень ладзіліся публічныя пакаранні. З поўдня да вечара тут катавалі ды нявечылі прыгаворaных разнастайнымі прыладамі: хвасталі бізунамі да крыві зневажальнікаў дзяржаўнай годнасці, саджалі на палю гвалтаўнікоў, калесавалі выкрадальнікаў коней, адсякалі ногі крумкарам, рукі — фальшываманетчыкам, а пэўныя часткі цела — скаталожнікам. Самым страшным пакараннем лічылася павешанне. Меркавалася, што душа забітага, якая магла выйсці з цела адно праз дупу, непазбежна трапіць толькі ў пекла. На шыбеніцу тузінамі адпраўлялі бадзягаў, якія не мелі сталай працы і прытулку.

Законапаслухмяныя месцічы прыходзілі сюды, на лобнае месца, сем'ямі, прыхапіўшы кашы з харчам і пітвом. У перапынках паміж ажыццяўленнем прыгавораў кнайпхофцы падсілкоўваліся, балакалі, слухалі гарадскіх музыкаў. Тут жа ладзіўся і гандаль.

У Станкевіча ад жудасных крыкаў пакараных апетыт знікаў надоўга. Разам з тым, разумеў, што аніякім іншым чынам павагу да закону пакуль у людзях не ўкараніць.

З цягам часу юнак ужо ставіўся спакайней да ўсяго, што адбывалася на лобным месцы. Аднак не здолеў прыстасавацца да адзіноты, якая нават пасярод тлумнага натоўпу часам падавалася невыноснай.



Нуда грызла сэрца Андрэя, пакуль сам ён грыз граніт навукі.

Ды ўсё неспадзявана перамянілася тым снежаньскім ранкам 1568-га, калі прафесар Якаб Прудэнціус прапанаваў яму пасаду асістэнта.

***

Той летні дзень 1570 года выдарыўся шчодрым на неспадзяванкі.

Пасля ютрані ва ўнутраным дворыку Рэктарыума сабралася выкладчыцкая грамада, каб паглядзець судовы паядынак. Прафесары ў першых радах, магістры і ліцэнцыяты за іх спінамі туліліся ўздоўж сценаў чырвонацаглянага будынка. Ягамосць рэктар зноў заняў пачэснае месца ў масіўным крэсле, а побач згуртаваліся сакратары і даручэнцы.

З недалёкай саборнай вежы, як звычайна апоўдні, загучаў харал:

*Божа Усёмагутны, Цябе молім —*

*Міласць Сваю захавай да нас!..*

Позіркі прысутных скіроўваліся да акрэсленага на бруку белай фарбай кола: унутры яго мусілі дужацца абвінавачаны і выкрывальнік — выкладчык Альфрэд фон Зітцэр і юстыцрат Карл фон Кросбах.

Першым навуковае грамадства здзівіў доктар Зітцэр — заявіўся апрануты, бы на лекцыю: у чырвоным капелюшы і даўгой мантыі, без аніякіх латаў і бяззбройны. Затое ў суправаджэнні чатырох мажных ратнікаў — у кальчугах да каленяў, з мячамі на паясах, з дзідамі ў руках.

— Старадаўні рэгламент паядынку дазваляе выставіць замест сябе добраахвотнікаў, — патлумачыў Зітцэр ягамосці рэктару.

Рэктар зірнуў на сакратара: той кіўнуў — маўляў, не брэша!

Маўклівым узмахам рукі ягамосць сцвердзіў Зітцэраву ініцыятыву.

Неўзабаве ў браму ўвайшоў і юстыцрат — у чорнай мантыі, таксама без аніякай зброі. Кросбаха суправаджаў шкаляр-памочнік, які крыху іранічна ўсміхаўся і цягнуў за плячыма набіты паперамі скураны мех.

— Хіба ён будзе біцца за вас? — указаў рэктар на юнага Станкевіча.

— Не, экселенц, — пакруціў той галавой і указаў за спіну: — Ён.

У дворык нетаропка ўвайшоў каржакаваты вой у малінавым каптане, на які быў надзеты чорны панцыр. Галаву рыцара бараніў пляскаты шалом з кароткімі рагамі, ногі — сталёвыя накаленнікі. У левай руцэ ён трымаў завостраны ўнізе шчыт з выявай белай ліліі, у правай сціскаў паліцу з шыпамі. Ягоны барадаты твар упрыгожвалі перабіты нос і глыбокі шрам на шчацэ.

— Мой аднакласнік Рауль дэ Гі, — пачціва адрэкамендаваў знаёмага Андрэй Станкевіч. — Прыехаў у Кнайпхоф на вучобу аж з Булоні. Ласкава пагадзіўся абараніць гонар юстыцрата ў паядынку.

— Няхай жа Бог вызначыць, каму спрыяе справядлівасць! — узмахам рукі рэктар даў знак для пачатку двубоя.

Нанятыя Зітцэрам ратнікі ўвайшлі ўнутр белага кола.

— Ваш памочнік дакляраваў, што мае паслугі будуць шчодра аплачаныя, — звярнуўся палацінску Рауль дэ Гі да юстыцрата.

— Сквапнасць — не ўласцівы мне грэх, — заявіў Кросбах. — Прашу, аднак, калі магчыма, абысціся без смертазабойства.

Рауль дэ Гі кіўнуў, знянацку раз'ятрана выкрыкнуў баявы дэвіз:

— Віват, Францыя! — і памкнуўся на праціўнікаў.

Прускія найміты разгрупаваліся, мяркуючы атакаваць француза з розных бакоў. Аднак недаацанілі ягонай жвавасці.

Першага немца Гі маланкава стукнуў паліцай у жывот. Той з жаласлівым крыкам сагнуўся ў крук. Яго таварыша француз зваліў з ног ударам у галаву. Кроў арасіла шэры брук.

Тым часам трэці ды чацвёрты прусакі атакавалі Рауля дэ Гі са спіны. Французскі рыцар абараніўся ад іхніх мячоў шчытом і контратакаваў — удала пацэліўшы, пераламаў аднаму ворагу калена, другому — локаць. Абодва немцы зараўлі ад болю ды енчучы, прызналі паразу.

Рауль дэ Гі загадаў ім, каб адцягнулі за белую рысу сваіх паплечнікаў ды каб самі ішлі ўпрочкі. Толькі пасля перасячэння сапернікам мяжы паядынак лічыўся скончаным — пераможцам прызнавалі таго, хто застаўся ўнутры кола.

Пабоішча доўжылася ўсяго парачку хвілін.

Доктар Альфрэд фон Зітцэр, які цікаваў бой, скрыжаваўшы рукі, затраўлена заазіраўся, калі рэктар, падняўшыся з крэсла, прысудзіў перамогу ў судовым паядынку юстыцрату.

— Я затрымліваю вас для допыту, — звярнуўся да выкладчыка Кросбах. — Мой памагаты, — указаў на Рауля дэ Гі, — суправодзіць вас да ратушы…

Меней за ўсё Альфрэд фон Зітцэр жадаў апынуцца ў недалёкім часе сам-насам з юстыцратам у вязніцы. Дык зноў скарыстаў надзейны довад, голасна звярнуўся да прысутнай грамады:

— Усе довады юстыцрата пазбаўлены галоўнага — матыву. Навошта я хацеў забіць Якаба Прудэнцыуса? Хто можа адказаць?

Юстыцрат пачасаў пазногцем брыво і разгублена прамаўчаў. Ягонае вуха дачула асуджальны шэпт сярод вучоных дзеячаў.

Нечакана для ўсіх прагучаў няўпэўнены голас Андрэя Станкевіча:

— Я магу.

Юны філосаф крыху зніякавеў ад сотняў скіраваных на яго позіркаў. Ён шчыльна прыціснуў да грудзей скураны мех са службовымі паперамі ды, хоць голас і дрыжэў, працягваў:

— Падстава для забойства прафесара Прудэнцыуса — яго імя.

***

— Лекі ўтвараюцца з сумесі зёлак і траў, — павучаў асістэнта прафесар Прудэнцыус. — Гэтак і высакароднае золата атрымаецца са з'яднання нешляхетных металаў, такіх, як Меркурый, Венера, Юпітэр, Уран і Сатурн. Трэба толькі вылічыць дакладную прапорцыю інгрэдыентаў і выявіць правільны парадак правядзення эксперымента.

— Колькі на гэта, экселенц, патрэбна часу? — спытаў Станкевіч, раздзьмухваючы кавальскім мехам агонь у каміне.

— Маім папярэднікам і трох тысячагоддзяў не хапіла…

На двары павяваў халоднымі вятрамі кастрычнік 1569 года. Андрэй адзінаццаты месяц працаваў памочнікам прафесара і ўжо засвоіў яго тэрміналогію: маўляў, Венера — гэта медзь (паколькі планета Венера, як сцвярджалі антычныя астраномы, складалася з медзі), Юпітэр — волава, Меркурый — ртуць. Таксама прафесар называў серу Жоўтым ільвом, кінавар — Чырвоным ільвом, а вугаль — Чорным цмокам. Калі Прудэнцыус гаварыў, што будзе «лячыць хворых, каб атрымаўся адзін здаровы», то гэта азначала пераплаўку медзі, жалеза і бронзы ў новы сплаў. Філасофскі камень — мара алхімікаў — пачціва зваўся Вялікім сродкам або Сапраўдным скарбам чалавечага жыцця. Коштам такіх моўных сімвалаў, сфармуляваных Роджэрам Бэканам у трактаце «Моц алхіміі», аматары Таемнага мастацтва маскіраваліся ад гвалту цемрашалаў.

Вялікі сродак быў патрэбны нястомнаму Прудэнцыусу, каб канчаткова разгадаць усе таямніцы натуральнай прыроды. Недарма на факультэце вольных мастацтваў Акадэміі ён выкладаў метафізіку — навуку аб «аб асновах усяго існага». На сваіх лекцыях прафесар тлумачыў вучням сутнасць твораў Андраніка Радоскага і Фамы Аквінскага, Раймунда Лулія і Арнольда дэ Віланова, Альберта фон Больштэда і Фра Банавентуры. Вывучэнне кніжак гэтых мысляроў дапамагло самому Прудэнцыусу сфармуляваць канцэпцыю, паводле якой кожны філосаф, які мае страх Боскі ў сэрцы, здатны трансфармаваць металы ў сплавы, а расліны — у лекавыя зборы, якія ўратуюць ад усіх хвароб і падоўжаць жыццё годнага чалавека да веку біблейскіх патрыярхаў.





У суседняй каталіцкай Польшчы навуковыя пошукі Якаба Прудэнцыуса завяршыліся б арыштам, допытам у катавальні ды вогнішчам на пляцы. У лютэранскай Прусіі ўлада ўспрымала вынаходнікаў Вялікага сродку за бяскрыўдных дзівакоў.

Андрэю Станкевічу сакрэты Таемнага мастацтва адкрыліся не адразу. На пачатку ягонай службы прафесар не дужа давяраў новаму асістэнту. Пэўна, з тае прычыны, што папярэднік Станкевіча абрабаваў свайго гаспадара і ўцёк з Кнайпхофа. Наогул на пасадзе памочніка Прудэнцыуса шкаляры не затрымліваліся. За правіны або недарэчныя памылкі Прудэнцыус падначаленых не ўшчуваў і не збіваў — адразу гнаў упрочкі.

Не дзіва, што прыкладна раз на год прыспявала неабходнасць шукаць новага асістэнта — і тады патрабавальны прафесар прыглядваўся да вучняў у аўдыторыі. Напрыканцы 1568-га ўвагу Прудэнцыуса прыцягнуў шкаляр-артыст Станкевіч. На факультатыўных занятках юны ліцвін гаварыў мала, аднак пытанні задаваў трапныя, а назіранні агучваў змястоўныя. Асабліва ж прафесара ўразіў іспыт па метафізіцы, які здаў яму Станкевіч. У час экзамену юны мянянін засведчыў сябе знаўцам вершаў Авідыя і Гарацыя, трактатаў Плінія і Цыцэрона, а таксама падручнікаў Жана дэ Лініэра — па арыфметыцы, Георга Пурбаха — па астраноміі, Рэгіёмантана — па астралогіі. А яшчэ амаль даслоўна цытаваў лекцыі самога Прудэнцыуса.

Ашчасліўшы юнака высокай адзнакай і змерыўшы дапытлівым позіркам, прафесар раптам спытаў Станкевіча:

— Ці маеце ахвоту стаць маім асістэнтам? Заробак — палова талера штотыдзень. Наўзамен запатрабую дбайнасці ды паслухмянасці.

Андрэй ад радасці ледзьве з лавы не паваліўся, пачуўшы салодкае слова «заробак». Апошнія тыдні яго жыццё хісталася паміж нястачай і галечай. Ён ашчаджаў рэшткі ўручаных бацькам грошай і з жахам думаў, што неўзабаве будзе галадаць. І раптам такая прапазіцыя!

— Чаму мне так шанцуе? — спытаў ён, нізка пакланіўшыся.

— Вы — лепшы з вучняў на вашым курсе, — строга мовіў прафесар.

— А вы, экселенц, лепшы з выкладчыкаў, якіх я сустракаў у жыцці, — пачціва прызнаўся Андрэй.

— А яшчэ бяру вас таму, што вы — ліцвін, — раптам дадаў Прудэнцыус і, засаромеўшыся сваёй нечаканай шчырасці, анічога болей не тлумачыў.

Тым жа вечарам Станкевіч перанёс скрыню са сваёй небагатай маёмасцю з інтэрната ў дамок на Грунэрштрасэ. Употай ён марыў, што гаспадар прывітае яго шчодрай вячэрай. Але ў пачастунак атрымаў акраец хлеба, дробную цыбуліну, куфаль піва ды павучэнне:

— Каб лепей пачувацца, трэба меней есці ўвечары…

Распарадак дня ў прафесара быў адладжаны да дробязяў.

Звычайна Прудэнцыус прачынаўся на досвітку, калі першыя крыкі пеўняў разляталіся над Кнайпхофам, ды сігналіў асістэнту пра пад'ём — шпурляў бот у сцяну кладоўкі, дзе спаў на вузкім ложку Андрэй.

Пасля мыцця і сняданку халоднай аўсянкай на кухні прафесар шпацыраваў у цырульню, дзе галіўся і слухаў гарадскія плёткі.

Андрэй тым часам спяшаўся ў Рэктарыум, каб даведацца: ці няма навінаў для ягамосці? Ці не змяніўся расклад заняткаў?

Па дарозе ў акадэмію юнак сілкаваўся кавалкам хлеба ды трымаўся сярэдзіны вуліцы, каб на яго не патрапіла змесціва начных гаршкоў, якія шчодра выліваліся ранішняй парой з другіх паверхаў дамкоў.

Апоўдні Станкевіч суправаджаў Прудэнцыуса на імшу ў сабор, адтуль — на лекцыю. Юнак цягнуў за плячыма скураны мех з кнігамі і канспектамі. У аўдыторыі Шкаларыума Станкевіч раскладваў паперы на кафедры, сігналіў свістам вучням аб пачатку заняткаў, а затым у памяшканне ўваходзіў прафесар і на працягу трох гадзін знаёміў слухачоў з асновамі метафізікі, чытаючы свае запісы. Андрэй слухаў ягоны выступ, седзячы на лаве ў куце пакоя.

Пасля заканчэння ўрокаў прафесар ішоў на пасяджэнне навуковай рады, а Станкевіч зацягваў мех з паперамі дадому і ляцеў у шынок «Зялёны сон», дзе шмат гадоў ягамосць замаўляў сабе абеды. З шынка юнак прыносіў у жалезным посудзе дзве порцыі супу, кашы і смажанай дзічыны на Грунэрштрасэ, падаграваў ежу на кухні ды падаваў на стол якраз перад вяртаннем гаспадара. Палуднавалі моўчкі — прафесар казаў, што бессэнсоўнай балбатні яму, маўляў, і ў акадэміі хапае з лішкам.

Падсілкаваўшыся, прафесар клаўся адпачыць, потым зачыняўся ў кабінеце, чытаў і нешта пісаў, а на змярканні вячэраў, маліўся, апранаў фартух і спускаўся ў сутарэнне, дзе ладзіў чарговы эксперымент. Пра яго сведчылі густы дым і сноп іскраў, якія выляталі з трубы дома.

Першыя два месяцы Станкевічу ў сутарэнне быў забаронены ўваход, ды юнак не марнаваў час — уладкоўваўся ў кабінеце і чытаў кнігі з бібліятэкі гаспадара. Прудэнціус падымаўся з падзямелля бліжэй да поўначы — або сярдзіта крахтаў, або штосьці задумліва мармытаў. У спальні ён маліўся, затым Станкевіч дапамагаў яму распранууца, задзьмухваў свечку і ў змроку брыў да свайго ложка ў кладоўцы.

Стасункі паміж гаспадаром і асістэнтам перамяніліся ў сакавіку.

Той ноччу моцны вецер трос аканіцы на вокнах. Станкевіч прачнуўся ад таго, што ноздры яму казытаў пах дыму. Спаць юнаку хацелася неймаверна. Аднак інстынкт змусіў яго выкаўзнуць з-пад коўдры, нацягнуць боты і выйсці з кладоўкі, мацаючы ў цемры далонямі сцены.

Спускаючыся па лесвіцы, адчуў, як гаркавата пяршыць у горле. Андрэй мінуў вузкі калідор, штурхануў дубовыя дзверы сутарэння — у твар яму ўдарыў слуп дыму. Скрозь мутна-шэрую заслону юнак угледзеў бляск полымя пасярод стала. Відаць, прафесар пасля эксперымента не заліў вуголле вадою. Сухое бервяно, датляваючы, стралянула іскрай, якая ўпала не на цагляную падлогу, а патрапіла ў цэнтр стала на папяровыя лісты — і разгарэлася.

Санлівасць умомант выветрылася. Андрэй пераступіў парог, зачыніў дзверы, каб полымя не разгарэлася ад свежага паветра, сцягнуў з сябе кашулю, стаіў подых, прыжмурыў вочы і пасунуўся ў шэры змрок.

Дым апякаў яго скуру. Агонь гнуткімі языкамі распаўзаўся па стале, з ціхім трэскам пажыраў паперы.

Юнак змахнуў гарэлую паперу на падлогу і затаптаў агонь. Попел ляцеў у вочы і ў вушы. Хлопец надрыўна закашляў.

Расчыніліся дзверы, увайшоў прафесар.

— Што здарылася?! — закрычаў Прудэнціус. — Захацелі мяне спаліць?!

Андрэй моўчкі пакруціў галавой і балюча паморшчыўся — полымя апякло рукі да локцяў.

Прудэнціус нахмурыўся і звёў Станкевіча ў кабінет, дзе адчыніў шуфляду ды сярод мноства шклянак і слоікаў адшукаў мазь ад апёкаў, змазаў Андрэю пачырванелую скуру, пахваліўся:

— Сам яе зрабіў. Яна больш дзейсная, чым тое, што ёсць у аптэках…

Наступным днём прафесар падоўгу затрымліваў позірк на юнаку, нібы вагаючыся — ці варты той даверу? А ўвечары спытаў:

— Апёк яшчэ баліць? — і, не счакаўшы адказу, дадаў: — Што вы чулі наконт Таемнага мастацтва?

— У Акадэміі выкладаюць сем вольных мастацтваў, — наморшчыў лоб юнак. — Граматыку, рыторыку, дыялектыку, арыфметыку, музыку, геаметрыю і астралогію. Якое з іх маеце на ўвазе, экселенц?

— Тое, якое не выкладаюць у Альбярціне, — усміхнуўся прафесар. — Тое, што болей карыснае за ўсе вольныя мастацтвы разам узятыя. Тое, якое спасцігаюць хіба што дасведчаныя знаўцы. Таму яно і лічыцца таемным. У Кітаі ды Індыі яно завецца Чэмія, у Італіі ды Іспаніі — Свяшчэнная філасофія, а ў Францыі ды Англіі — Алхімія.

— У нас на Літве алхімія не ў пашане, экселенц…





— Ведаю, — пакрывіўся Прудэнціус. — На Літве адзінае мастацтва ў пашане — вытрасанне падаткаў з люду паспалітага.

— Бацюхна мой казаў, нібыта алхімікі — чарнакніжнікі, якія заклёнамі нябожчыкаў з могілак абуджаюць, — перажагнаўся Станкевіч.

— Няма такой карыснай справы, якую нельга было б абылгаць, — горка ўсміхнуўся Прудэнціус. — Я з маладых гадоў лічу сябе адэптам Таемнага мастацтва. З інфернальнымі з'явамі стасункаў не меў, затое меў магчымасць адольваць прыступку за прыступкай па лесвіцы пазнання.

— А ці даўгая тая лесвіца, мой экселенц?

— Мяркую, што бясконцая, бы Боская міласць. І цяпер я запрашаю вас далучыцца да духоўнага ўзыходжання. Учарашні ўчынак выявіў вашу сумленнасць. Папярэднія асістэнты кінуліся б ратавацца. А вы памкнуліся тушыць агонь. Хачу за гэта вам аддзячыць сваім даверам. Мне патрэбны памочнік для эксперыментаў. Але вы мусіце прысягнуць, што захаваеце ў сакрэце, што адбываецца ў маёй лабараторыі, — прафесар выняў з шафы і працягнуў Андрэю кнігу ў драўлянай вокладцы. — Пакладзіце далонь на Святое Пісанне і пакляніцеся.

Дакрануўшыся апечанай далонню да вокладкі кнігі, Андрэй нібы адчуў жар, якім палымнела даследчыцкая душа прафесара.

«Такім апантаным, як ён, ніколі мне не быць, — падумаў юнак. — Але, можа, і я калісьці з Боскай ласкі стану такім жа разумным?..»

З таго дня Андрэй Станкевіч часта спускаўся ўслед за прафесарам у сутарэнне. Познім вечарам, калі прахожыя не снавалі пад вокнамі дома, яны ладзілі эксперымент, на які Прудэнціуса натхнялі вычытаныя ў нейкім трактаце радкі.

Напрыклад, у кнізе Думуса Франконскага «Брама розуму» прадпісвалася: «Каб стварыць эліксір мудрасці, вазьмі зялёнага льва і награвай, пакуль не стане чырвоным. Атрыманае рэчыва дыгерыруй і ажані з вінаградным вінам, нагрэй да кіпеню і пералі ў абмазаную глінай рэторту. У час начнога аднаўлення ты ўбачыш у тым посудзе чорнага цмока. Дакраніся да яго чырвоным вугалем. Цмок адгрызе свой хвост. Дыстылюй атрыманы прадукт і так здзейсніш сваё жаданне».

Калі прафесар упершыню зачытаў гэты рэцэпт, Андрэю ён падаўся бязглуздым. Прудэнціус жа анічога складанага тут не ўгледзеў.

— Зялёным ільвом у Паўночнай Нямеччыне часта называюць свінец, — заявіў прафесар. — У нагрэтым выглядзе ён набывае барвовы колер, становіцца чырвоным ільвом. Дыгерыраванне — гэта награванне рэчыва ў вадкасці без давядзення яе да стану кіпеню. Жаніцьба з вінаградным вінам — змешванне з вінным воцатам. А начное аднаўленне — гэта нараджэнне маладзіка ў небе...

У ноч, калі з'явіўся новы месяц, Андрэй пад наглядам Прудэнціуса распаліў агонь у каміне, абмазаў рэторту вязкай глінай знутры і звонку, а потым пераліваў расплаўленае жалеза з адной прылады ў другую. Калі ў яго ад стомы ўжо сляпіліся вочы і нылі рукі, Прудэнціус разгублена ўтаропіўся ў чорны парашок, які ў іх атрымаўся ў выніку пяцігадзіннага практыкавання, і вылучыў гіпотэзу:

— Пэўна, гэта і ёсць чорны цмок.

Прафесар усунуў у парашковую гушчу вугельчык, які выцягнуў з полымя абцугамі. Чорная маса зашыпела, набыла жоўтую афарбоўку.

— Цмок зжор уласны хвост! — у захапленні закрычаў Прудэнціус.

Ён засыпаў жоўтую сумесь у колбу з воцатам і падагрэў. Трубка колбы скіравала пару ў шкляны слоік. Ахаладзіўшыся, пара пераўтварылася ў жоўта-зялёныя кроплі, якія сцякалі на дно. Яшчэ гадзіна чакання — і Прудэнціус пабоўтаў у слоіку вадкасць з непрыемным пахам. Прафесар пераліў яе ў кілішак, прыгубіў, пацмокаў языком, прызнаўся:

— Штосьці не адчуваю сябе мудрэйшым. Можа, гэты эліксір ратуе ад нейкай хваробы? Думус Франконскі занесены Рымам у спіс забароненых аўтараў. За гэта яго шануюць у лютэранскіх

краінах. Але, можа, ён звычайны пустабрэх? Прыкрывае сваю дурноту цяжка зразумелымі развагамі... Ці, што таксама верагодна, я памылкова растлумачыў сімвалы ў рэцэпце. У Галандыі, напрыклад, зялёным ільвом называюць не толькі свінец, але і ртуць, а ў Францыі — медзяны купарвас. А чорным цмокам можа аказацца і сера, і падсмажаная кінавар. Алегорыі Таемнага мастацтва маюць безліч тлумачэнняў. Мажліва, трансфармацыю трэба здзяйсняць не ў ноч нараджэння маладзіка, а праз дзень ці два...

— Што ж рабіць нам, мой экселенц? — спытаў Андрэй, якога зусім не абнадзеіла лічба «безліч».

— Зараз адпачнём, — загадаў прафесар, сцягваючы скураныя пальчаткі і развязваючы тасёмкі фартуха. — А заўтра распачнём новы эксперымент. У ім скарыстаем іншыя інгрэдыенты. І будзем спрабаваць да тае пары, пакуль з недасканалага не ўтворым дасканалась...

Яшчэ тройчы Прудэнціус і Станкевіч паўтарылі эксперымент па ўтварэнні эліксіру мудрасці. Замест свінцу падагравалі і купарвас, і ртуць. Замест воцату далівалі ў рэторту віна з яблыкаў. І ўсё роўна цудадзейны сродак, дакляраваны Думусам Франконскім, не атрымаўся.

Пасля глыбакадумнага роздуму прафесар прыйшоў да высновы:

— Відаць, аўтар памылкова пазначыў парадак хімічнай рэакцыі... Або пераблытаў змест «зялёнага льва» і «чорнага цмока».

Паўздыхаўшы, ён пагладзіў далонню запалыя шчокі ды пастанавіў:

— Творам Думуса Франконскага больш няма даверу! Аднак памылка аднаго мастака не псуе бляск Таемнага мастацтва. Гэтаксама, як пляма на сонцы не замінае ззянню нябеснага свяціла. Мы будзем зноў спрабаваць. Упэўнены, ісціна зашыфраваная ў іншых трактатах.

— Адкуль вы ведаеце, экселенц, што рэцэпт эліксіру мудрасці наогул існуе? — засумняваўся Станкевіч.

— А вы адкуль ведаеце, што ўсё існае створана Богам?

— Пра гэта напісана ў Святым Пісанні, — падумаўшы, сказаў Андрэй.

— А хто яго пісаў? Мудрацы, якія жылі ў Старадаўнім Егіпце. Пісанне, сабранае ў адзіны твор у ліванскім горадзе Бібласе, сталася неаспрэчным аўтарытэтам... Але ў гэты час стваралiся і іншыя творы. Найболей знакамітым аўтарам тае эпохі быў Гермес Трысмегіст, што азначала Тройчы Вялікі. Ён дасягнуў такой маральнай дасканаласці, што нябёсы адкрылі яму таямніцы быцця. У сваіх творах ён зашыфраваў рэцэпты і эліксіру мудрасці, і філасофскага каменя…

— Навошта ж іх утойваць? Ведамі трэба дзяліцца!

— Не ўсе вартыя такіх дарункаў. Хіба заслугоўвае нягоднік сродку, які яму падорыць несмяротнасць?.. Толькі дасведчаныя жрацы ў Егіпце валодалі сакрэтамі, апісанымі Гермесам Трысмегістам. Яго велічалі «бацькам навукі», а тых жрацоў — кемікамі.

— Кемікамі? — паморшчыў лоб Станкевіч.

— Старажытныя грэкі назвалі Егіпет «Кемія», што азначала «Чорная зямля». Потым Егіпет захапілі арабы, якія да кожнай назвы дадавалі прыстаўку «аль». Так Егіпет стаўся «Аль-Кеміяй», а тамтэйшыя мудрацы — алкемікамі. Праз паўтысячагоддзя ў Егіпет прыплылі французскія крыжакі. Пазнаёміўшыся з вучэннем Гермеса Трысмегіста, яны на свой лад перайменавалі тую навуку ў «алхімію», яе адэптаў — у алхімікаў, а іхняе мастацтва — назвалі таемным, паколькі яно і дагэтуль зашыфравана ў кнігах Гермеса Трысмегіста. На вялікі жаль, ягоныя рукапісы арабы спалілі разам з усёй Александрыйскай бібліятэкай. На вялікае шчасце, захаваліся копіі, перапісаныя ад рукі вучнямі Тройчы Славутага. Парады і павучанні Гермеса Трысмегіста прысутнічаюць у розных кнігах, якімі абменьваюцца вучоныя хрысціяне. Каб зразумець схаваны сэнс, трэба расшыфраваць яго і праверыць эксперыментальным чынам. Кожны, хто хоча дазнацца, як з нікчэмнасці ўтварыць дасканаласць, абірае свой шлях пазнання. Ці ўяўляеце, якая гэта слодыч — штодня набліжацца да вялікага адкрыцця?

— Атрымліваецца, Гермес Трысмегіст для алхімікаў — тое ж самае, што Ісус Хрыстос для вернікаў? — падабраў аналогію Андрэй.





— Калі апеляваць такімі катэгорыямі, то і сам Гасподзь, падазраю, з'яўляецца алхімікам, — сказаў Прудэнціус. — Ён чароўным словам са змроку ўтварыў святло, зямлю, нябёсы і Адама з Евай. А паколькі чалавек створаны па падабенстве Боскім, то гэта азначае, што і мы можам універсальнымі заклёнамі наш свет пераўтвараць з жахлівага ў цудоўны. Трэба толькі тыя заклёны распазнаць.

— Дужа складаная задачка, — пакруціў галавой Станкевіч.

— Настойлівасць і адукаванасць — вось тыя ключы, якія дапамогуць адчыніць дзверы вышэйшай таямніцы, — перакананa заявіў прафесар. — Многія навукоўцы даўно грукаюць у тыя дзверы. Але мне падаецца, што Бог жадае, каб першым адчыніў іх русін. А менавіта — я.

Станкевічу падалося, што ён не дачуў, перапытаў:

— Русін? З нашай зямлі? Вы, экселенц?

Прафесар акадэміі ў Кнайпхофе Якаб Прудэнціус з гонарам мовіў:

— Так, я — русін з Полацка. Як вы — ліцвін з Менска. На Бацькаўшчыне я зваўся Якавам, сынам крамніка Івана Скарыніча.

***

Звычайна Прудэнціус неахвотна ўспамінаў сваё мінулае. Пэўна, таму, што ўспаміны збольшага былі горкія. Аднак, здаралася, ён кідаў фразы кшталту «Калі быў юнаком…» або «Маладой парой мне давялося…». Андрэй іх запамінаў і злучаў у лагічнай паслядоўнасці. Так перад ім пакрысе адкрывалася павілястая дарога, якая прывяла прафесара метафізікі ад сутокаў Палаты і Дзвіны да выспы пасярод Прэгеля.

Наконт свайго ўзросту Прудэнціус аднойчы пажартаваў:

— Мне ўжо за пяцьдзясят. У Старадаўнім Рыме такіх старых, як я, называлі «вартымі толькі ахвяраапрынашэння».

Адэпт Таемнага мастацтва быў другім сынам паважанага ў Полацку крамніка Івана Скарыніча. Немаўлятка ахрысцілі зімовым днём у Багаяўленскай царкве, нараклі Якавам. Сцюжа тады стаяла такая, што дзіця ледзь не акалела. Пэўна, з тае прычыны прафесар усё жыццё баяўся маразоў, нават у цёплы вечар любіў пагрэцца каля каміна.

Да дванаццаці гадоў Якаў вучыўся ў школцы праваслаўнага брацтва, а потым бацька выправіў яго на вучобу ў Кракаў. Такая традыцыя ўкаранілася ў родзе Скарынічаў з тае пары, як дзед Якава — гандляр Лука — сваім пераемнікам прызначыў першынца Івана, а малодшага сына Францішка адправіў па навуку ў Польшчу. Гэтак жа абышоўся з сынамі Іван Скарыніч. Яго першынец Раман атрымліваў бацькоўскую маёмасць, даўгі ды абавязкі, а Якаву бацька аплачваў дарогу да слаўнага горада Кракава і першы год вучобы ў тамтэйшым універсітэце. Далей малодшы сын мусіў шукаць сабе спажытак сам.

— Як я паеду ў Польшчу? — жахнуўся Якаў, пачуўшы бацькава рашэнне. — Там жа ўсе спрэс каталікі, ілжэ-хрысціяне! Настаўнік у школе мовіў, што кожны каталік ад нараджэння душу д'яблу запрадаў.

Бацька спаслаўся на ўласны досвед:

— Настаўнікаў, сынку, слухай, але найперш уласным розумам жыві. Я гандляваў і з каталікамі, і з іўдзеямі, і з мусульманамі. Багата сярод іх паскуднікаў. Аднак жа і сумленных хапае... Калісьці і ты зразумееш, што людзі падзяляюцца на благіх і добрых. І Богу і не так важна, якую ты спавядаеш веру. Важней, да якой часткі сябе далучыш.

З такім наказам на дарогу юны Скарыніч і выправіўся ў Кракаў, у Ягелонскі ўніверсітэт, дзе запісаўся на факультэт вольных мастацтваў пад іменем «сармат Якаў з Русі».

На працягу двух гадоў Скарыніч слухаў лекцыі знакамітых прафесараў. З асновамі юрыспрудэнцыі яго знаёміў паляк Паўла Уладковіц, тэалогіі — іспанец Гарсіяс Андрас, матэматыку выкладаў мазур Якуб Паркоша, астраномію — прускі астролаг Мартын Круцэль, гісторыю — італьянец Канстанцін дэ Канцэлярыс. Усе — каталікі, як дарэчы і пераважная большасць студэнтаў.

Параўноўваючы кракаўскіх выкладчыкаў з полацкімі праваслаўнымі настаўнікамі, Скарыніч прыйшоў да высновы, што, каб рухацца па лесвіцы вучонасці, трэба яму адцурацца бацькоўскай веры і павянчацца з каталіцтвам. Канчаткова ён схіліўся да перамены веравызнання, калі дазнаўся, што тое ж самае зрабіў трыццаць гадоў таму яго родны дзядзька — Францыск, сын Лукі Скарыніча.

Зарабляючы на пражыццё і вучобу, Якаў працаваў перапісчыкам ва ўніверсітэцкім архіве. Складаючы копію з метрычнай кнігі «Anno», юнак знайшоў запіс пра тое, што ў 1504 годзе сюды на вучобу паступіў «Францішак са слаўнага града Полацка». Той Скарыніч быў таксама праваслаўны, але своечасова пераменіў веру. Дзякуючы гэтаму ўчынку ён атрымаў ступені бакалаўра і магістра ў Кракаве, а пазней і доктара навук у Падуанскім універсітэце. Толькі каталік мог выдаваць кнігі на русінскай мове ў Празе, а потым і ў Вільні. Толькі каталік мог заняць важную пасаду прыдворнага садоўніка ў Празе, дагледаць батанічны сад на Градчанах і гатаваць лекі для каралеўскай сям'і.

У 1535-м Скарыніч прыняў каталіцкі хрост і атрымаў імя Якаб. Тады ж ён скончыў факультэт вольных мастацтваў, а ў 1539-м — медыцынскі, дзе абараніў ступень бакалаўра. У 1540 годзе Скарыніч пераехаў у Прагу. У тамтэйшым універсітэце набыў званне магістра, а яшчэ праз пяць гадоў — доктара медыцыны.

Там жа ў Празе Скарыніч адшукаў роднага дзядзьку Францыска. Першае, што палачанін пачуў ад сваяка, была перасцярога:

— За такімі, як мы з табой, за кожным нашым словам, напісаным радком і ўчынкам сочыць святая інквізіцыя. А яна, павер, страшнейшая за яшчара з элінскага падання, які аберагаў дрэва з залатым руном.

Сутнасць дзядзькавай перасцярогі Якаб Скарыніч зразумеў праз сем гадоў, калі раптоўна атрымаў пісьмовы выклік на допыт — пакуль у якасці сведкі. У каземаце-сутарэнні манахі-бенедыкцінцы ўнікліва распытвалі прафесара Скарыніча пра дзядзьку Францыска.

Айцоў-інквізітараў цікавіла выдавецкая дзейнасць пана Францыска ў Празе амаль трыццаць гадоў таму. У пратаколах следства было зафіксавана, што ў 1517—1520 гадах доктар Францыск, сын Лукі Скарыніча, пераклаў і надрукаваў кірылічным шрыфтам дваццаць кніг Бібліі з уласнымі прадмовамі ды пасляслоўямі. На гэтай падставе следчыя пыталіся ў Якаба: ці не з'яўляецца доктар Францыск таемным ерэтыком? Навошта ён друкаваў кніжкі кірылічным шрыфтам, якім карыстаюцца праваслаўныя, а не лацінскім, які чытаюць каталікі? Ці не азначае гэта, што доктар Францыск умацоўваў у схізме праваслаўных на Літве замест таго, каб іх схіляць лацініцай да каталіцтва? І ці не мае доктар Францыск, каралеўскі садоўнік і аптэкар, намеру атруціць яго вялікасць Фердынанда, з Боскай ласкі імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі нямецкай нацыі?

Ад такіх роспытаў Якаб Скарыніч зніякавеў, аднак не падтрымаў паклёпаў на дзядзьку. Яго ўпартасць відавочна прыйшлося не даспадобы следчым. Прафесару прадэманстравалі прылады для катаванняў, а потым правялі па падземным калідоры ўздоўж закратаваных камораў, дзе не адзін год гібелі ў холадзе і ў змроку вязні.

Скарынічу параілі ў будучым быць болей гаваркім і шчырым. З першага допыту яго адпусцілі, аднак папярэдзілі, што не ў далёкім часе зноў запросяць на размову, ад вынікаў якой, маўляў, будзе залежаць: ці не пераменіць ён статус сведкі на падследнага?

Скарыніч у жаху прыбег да дзядзькі ды распавёў пра сваю бяду. Доктар Францыск павёў пляменніка ў батанічны сад, дзе іх ніхто не мог падслухаць. Падразаючы кветкі, дзядзька спытаў:

— Табе дэманстравалі шчыпцы, якімі пальцы плюшчаць? А варонку, праз якую расплаўленае волава ў вочы заліваюць?

— Вы іх таксама бачылі? — ліхаманкава тросся Якаб.

— Слугаваць імператару — значыць мець зайздроснікаў, — патлумачыў дзядзька Францыск. — Ёсць асобы, якія хочуць заняць выгадную пасаду прыдворнага садоўніка. Дзеля таго яны штогод дасылаюць ананімныя паклёпы на мяне, вінавацяць то ў здрадзе, то ў схізме... Пэўна, цябе і ў вязніцу завялі? Мяне аднойчы там ледзьве не зачынілі.





— Што ж вас уратавала?

— А чаму, на тваю думку, імператар Фердынанд так падоўгу жыве ў Празе? — усміхнуўся доктар Скарына. — Да яго паслугаў палацы ў Ахене, у Дрэздэне, у Вене. А ён упадабаў Кралеўскі Градзец... Прычына — у маіх адварах з траваў. Яго вялікасць часта хварэе на запор. У такія моманты ён не падпісвае аніякіх дакументаў і не вырашае аніякіх пытанняў. Усё справаводства ў імперыі спыняецца. Толькі мае настойкі ачышчаюць страўнік яго вялікасці.

— Надзейны ў вас абаронца, — пазайздросціў пляменнік.

— Аднак жа спробы зрынуць мяне з маёй пасады не сунімаюцца, — пакруціў галавой доктар Францыск. — Як з'едзе імператар з Прагі, мяне абавязкова ў нечым вінаваціць. Як вернецца Фердынанд — следства спыняецца. Да новага ад'езду ягамосці... Цяпер вось узяліся за цябе. Лепей табе, пляменнік мілы, уцякаць адсюль. Інакш не ацалееш.

— Куды ж памкнуцца? — панурыўся Скарыніч. — На Бацькаўшчыну? Ды каму там мая метафізіка патрэбна?.. Можа, у Таледа? Ці ў Рым?

— Бяспечней ехаць туды, дзе інквізіцыя цябе не арыштуе.

— У Швейцарыю? У Галандыю? У Нямеччыну? Аднак жа там або кальвіністы, або лютэране. Яны ўсе схізматыкі, ілжэ-хрысціяне!

Доктар Францыск уздыхнуў, унушальна прамаўчаў.

— Маеце рацыю, дзядзька, — падумаўшы, кіўнуў Якаб. — Пра людзей трэба судзіць не па веравызнанні, але па іх учынках.

— Раю падумаць пра Кёнігсберг. Туды я ездзіў у 1530-м. Тамтэйшы герцаг Альберт — адукаваны гаспадар. Я непрацяглы час служыў у яго сакратаром. Намовіў яго светласць адкрыць друкарню і ўніверсітэт. Ягамосць прапаноўваў мне пасаду рэктара. Адно прасіў, каб прыняў лютэранства. Я ужо амаль і пагадзіўся.

— Што ж вам зашкодзіла?

— Прыдворныя інтрыгі. Мне двойчы падсыпалі атруту ў ежу. Прускія арыстакраты не жадалі цярпець побач з герцагам нешляхетнага прыхадня-русіна. Адкрыццё ўніверсітэта з розных прычын зацягвалася. Што ж да выдавецкай справы, то атачэнне Альбрэхта пераканала ягамосць, быццам для распаўсюджання лютэранства кнігі на кірыліцы непатрэбныя. Я не губляў надзеі вярнуць уплыў на герцага. Нават паехаў на сустрэчу з Марцінам Лютэрам — самым уплывовым прапаведнікам у Нямеччыне. Той пагаварыў са мной прыязна, але мая адукаванасць падалася яму падазронай. Лютэр нават даслаў у магістрат ліст, нібыта мае веды — ад д'ябла. І каб праверыць гэта, раіў мяне ўзяць на катаванне. Ледзьве паспеў я ўцячы ў Чэхію. Застаўся ў каталіцкай веры. З тае пары жыву іншай надзеяй. Колькі гадоў таму імператар Фердынанд дакляраваў мне, што заснуе друкарню, у якой я буду выдаваць кнігі. Ды атачэнне ягамосці ўвесь час знаходзіць нагоду, каб зацягнуць справу, — уздыхнуў доктар Францыск.

— Баюся, што і мяне ў тым Кёнігсбергу звядуць у магілу, — укваліўся Якаб. — Страшна туды ехаць. Але і ў Празе заставацца непамысна.

— Вядома, у Прусіі кепска прымуць пляменніка доктара Францыска. Але ты можаш пераменіць прозвішча. Акадэмічны статут дае такое права выкладчыкам і вучням. Наколькі мне вядома, герцаг адкрыў нарэшце акадэмію. Значыць, там патрэбны выкладчыкі. Вось і падстава не марудзіць з ад'ездам…

Пляменнік паслухаўся дзядзькавай парады і ўжо праз паўгода, вясной 1550 года, чытаў лекцыі за кафедрай у аўдыторыі Шкалярыума.

На новым месцы імя сабе Скарыніч пакінуў ранейшае — Якаб. А вось прозвішча абраў гучнейшае — Прудэнціус, што ў перакладзе з лацінскай азначала «той, хто прагне мудрасці». Пад ім і запісаўся ў канцылярыі Рэктарыума. За такое аўтарытэтнае прозвішча ды за прыняцце ім лютэранства доктара Якаба Прудэнціуса запаважалі ў акадэміі. Праз год ён атрымаў ступень прафесара і яму арандавалі дом на Грунэрштрасэ.

Жыццё ў Кнайпхофе прыйшлося Якабу Прудэнціусу даспадобы. Ён нават напісаў дзядзьку Францыску — запрашаў пераехаць сюды з Прагі, даводзіў, што Прусія, маўляў, сталася прыдатным краем для адукаваных людзей. Ды з поўдня прыйшла гаротная навіна — адзіны сын доктара Францыска, Сімяон, напісаў, што бацька неспадзявана памёр. Верагодна, атручаны, хоць яўных доказаў няма…

— Калі я прачытаў тое пасланне, то чамусьці падумаў, што і мяне заб'юць, — крыва ўсміхнуўся Прудэнціус, сочачы за тым, як Станкевіч пералівае скандэнсаваную вадкасць з колбы ў рэторту.

У Андрэя ад яго голасу забалела ў грудзях. Горка было юнаку ўяўляць, што мажа раптоўна страціць чалавека, які тут, на чужыне, стаўся яму амаль што другім бацькам.

***

Насамрэч Якаб Прудэнціус рэдка дазваляў сабе шчырасць і шматслоўнасць. У ягоным доме на Грунэрштрасэ часцей пераважала цішыня. Звычайна гаспадар моўчкі сілкаваўся, чытаў, пісаў, кідаў памочніку кароткія загады. З надыходам вечара Прудэнціус і Андрэй спускаліся ў лабараторыю, дзе прафесар таксама не вызначаўся красамоўствам. Ён вывучаў уласныя запісы і старонкі кніжак, кідаў распараджэнні і мог маўчаць гадзінамі, чакаючы выніку эксперымента. Затое, калі ўсе практыкаванні аказваліся марнымі, то лаяўся гучна.

Асабліва абуралі яго тэксты, якія гучалі як расшыфраваныя парады Гермеса Трысмегіста, але на праверку аказваліся метафарамі.

Напрыклад, аднойчы Прудэнціус вычытаў у ананімным трактаце пад назваю «Дамова нябеснай прасторы з зямною» параду: «На сыходзе сонца шукай схаваную серу. На чыстым агні экстрагіруй брудную сумесь, злучы яе з недасканалай ртуццю, дадай лятучай солі і ўсё дыгерыруй. Пры гэтым нізавошта не думай пра чорнага цмока».

Прафесар дбайна ўзяўся за справу ды раптам перарваў яе і вылаяўся:

— Хіба можна не думаць пра чорнага цмока?.. Гэта алхімічны жарт!

Станкевічу, у якога ад стомы пот струменямі сцякаў са спіны, той жарт падаўся зусім не смешным.

Рэцэпт у кнізе пад назвай «Таемны агонь Мудрасці» рэкамендаваў «ажаніць стары метал і маладую соль, змяшаць з цынкавым пылам і каламінам, дыгерыраваць да жоўтага асадку і праз тры ночы ён куагуліруецца ў крохкі сродак». Старанна выканаўшы гэтую параду, прафесар і Андрэй атрымалі рэчыва, ад якога абодва расчыхаліся.

— Як я не сцяміў, што гаворка ідзе зусім не пра сапраўдныя рэчы? — буркнуў Прудэнціус, выціраючы ўзмакрэлы твар.

— А пра што? — здзівіўся Станкевіч.

— Пра ўнутраны стан чалавека немаладога веку, які надумае ажаніцца з маладзіцай. Твор папярэджвае пра вынікі няроўнага шлюбу, пра нервовыя ўзрушэнні, якія перажывуць абодва ўдзельнікі працэсу.

— А прасцей пра гэта нельга было напісаць? Абавязкова трэба зашыфроўваць відавочныя рэчы ў сімвалы?

— А хто пагодзіцца чытаць кнігу, у якой гаворка пойдзе пра людскія стасункі? Каму гэта цікава?

— Ну, мне, дарэчы, — нясмела прызнаўся юнак.

Прафесар прыгразіў Станкевічу кулаком, паўшчуваў:

— Не вярзіце лухту! У чалавека мусіць быць адна дарога па жыцці — патрапіць пасля смерці ў царства нябеснае. Толькі ўчынкі, якія вядуць туды, маюць значэнне. Гэта дакладная колькасць грошай, якія трэба змарнаваць на міласціну, малітваў, якія трэба прачытаць, зарокаў, якія належыць выканаць... А ўсе чалавечыя забабоны, якія замінаюць шляху з зямнога ў нябеснае, не заслугоўваюць сур'ёзнай увагі!





Станкевічу хапіла розуму прамаўчаць, хоць ён і не пагадзіўся з гаспадаром. Юнак падумаў пра тое, што вычварнасць і мудрагелістасць людскіх паводзінаў варта вывучаць. Бо пакуль людзі, маўляў, патрапяць у райскія шаты або ў пекла, яны шмат чаго ўчыняць у зямным жыцці! А яшчэ Андрэя бянтэжыла безапеляцыйнасць прафесара, які толькі ўласную думку лічыў бездакорнай. Можа, таму многія ідэі ў Андрэя часта нараджаліся не паводле, але насуперак заявам старога земляка…

Засмучала Станкевіча і тое, што ён не высыпаўся па начах, а ўдзень не меў ані хвіліны для адпачынку. Адвечная стома адбілася на поспехах у вучобе. Дакладней, на іхняй адсутнасці.

За першыя тры месяцы навучання Станкевіч паспяхова здаў трывіум — экзамены па граматыцы, рыторыцы і метафізіцы, за што атрымаў статус філосафа. А вось за апошні год аніяк не мог адолець квадрыум — правaліў іспыты па арыфметыцы, геаметрыі, музыцы і астраноміі.

Напружанасць паміж прафесарам і асістэнтам завяршылася ў пачатку сакавіка 1570 года ўзрушэннем.

Прыбіраючыся ўвечары ў кабінеце, Станкевіч незнарок праліў чарніла на вокладку кнігі «Сапраўдны скарб чалавечага існавання».

Ягоная няўклюднасць нечакана моцна раззлавала гаспадара.

— Кошт кнігі роўны майму паўгадавому заробку! — роў Прудэнціус. — Кошт яе зместу наогул неацэнны!

Настрой у прафесара тою парой быў выключна благі. Пэўна, таму, што апошнім часам аніводны эксперымент не завяршаўся ўдала. Прызнаць, што ўсяму віной уласная ўпартасць, гаспадару было цяжка, а вось спагнаць злосць на асістэнце — лягчэй.

Накрычаўшыся, Прудэнціус стрымана мовіў юнаку:

— Ад гэтай хвіліны я вызваляю вас ад вашых абавязкаў, шкаляр. Яны вам не пад сілу. Наша дамова скасаваная. Зараз жа вымятайцеся ўпрочкі.

Ачмурэлы ад такой несправядлівасці, Станкевіч пабрыў у кладоўку, хутка сабраў там свае рэчы ў торбу і сышоў з дому, пакінуўшы дзверы расчыненымі. Бы ап'янелы, тэпаў ён, гайдаючыся, да інтэрната цёмнымі вулкамі. Час ад часу дарогу яму перагароджвалі нацягнутыя ўпоперак ланцугі — гэтак рабілася, каб коннікі не гойсалі па бруку ды не тапталі ў цемры прахожых. Станкевіч на карачках пралазіў пад ланцугамі, якія мацаваліся да крукоў на сценах дамоў, і не адчуваў ані стылага камення, ані зябкага начнога ветру.

Крыўда спапяляла розум хлопца. Юны мянянін яшчэ не разумеў, што сёння ён дасягнуў вышэйшай ступені навучання — таго моманту, калі адэпт сыходзіць ад настаўніка ў самастойную дарогу.

***

Тры месяцы Андрэй пражыў на грошы, што зарабіў на Грунэрштрасе. Нарэшце мог есці нетаропка і дасыта, удосталь адсыпацца ўначы, а дзённы час прысвячаць заняткам.

Ды толькі вучоба ў Альбэрціне ўжо не задавальняла купецкага сына. Стосы прачытаных кніг з хатняй бібліятэкі Прудэнціуса, пазнавальныя размовы з прафесарам, безліч алхімічных эксперыментаў — усё гэта павысіла патрабавальнасць юнака да зместу выкладання. Часта Станкевіч нудзіўся на лекцыях, бо ўжо ведаў навуковыя тэксты, якія агучваліся з трыбуны. Хлапечы розум прагнуў новых ведаў, пазнання таямніц быцця. У халодных сценах акадэміі Кнайпхофа яму сталася цесна, непамысна.

Андрэй задумаўся пра тое, каб далучыцца да вандроўных вучняў, званых вагантамі, ды выправіцца з імі ў іншы ўніверсітэт. Штогод утвараліся такія суполкі са шкаляроў, якім не пашчасціла здаць іспыты. Навучэнцаў гналі на захад чуткі, нібыта там, маўляў, прафесура мудрэйшая і дабрэйшая, цэны таннейшыя, жыццё багацейшае, а да вучобы заахвочваюць грашыма. Па дарозе вандроўнікі-ваганты выступалі ў селішчах: чыталі рэлігійныя вершы, ігралі спектаклі. Аднак за тэатральныя відовішчы сквапныя абывацелі плацілі неахвотна, таму ваганты не грэбавалі

рабункамі. Не дзіва, што частка вандроўнікаў завяршала падарожжа ў турме або на эшафоце. Астатнія з цягам часу дазнаваліся, што не ўсім звесткам пра далёкі захад варта даваць веры.

Станкевіча, вядома, непакоіла такая туманная перспектыва. Ды сядзенне на мулкай падлозе Шкалярыума і нуднае канспектаванне малацікавых лекцый ужо так даймалі юнага філосафа, што ім авалодала нясцерпнае жаданне зрухаў, пераменаў.

І толькі ў Андрэя засвярбелі пяткі перад сыходам з Кнайпхофа, як раптам Фартуна зноў усміхнулася юнаку, услявіла і абнадзеіла яго.

На пачатку лета, вяртаючыся з лекцыі, Станкевіч незнарок дачуў размову выкладчыкаў каля сабора — маўляў, не могуць знайсці апанента для бакалаўра Кастлера. Той меў намер на дыспуце па метафізіцы, запланаваным на бліжэйшую нядзелю, выступіць і прад'явіць свае правы на званне ліцэнцыята. Пра Кастлера гаварылі, што яму апякуе сам рэктар і што судзейскае журы ў любым выпадку прызнае перамогу Кастлера ў дэбатах. Зразумела, ніхто з навукоўцаў не жадаў псаваць сваю рэпутацыю ўдзелам у спрэчцы з вызначаным наперад фіналам. Да таго ж, і ягамосць рэктар не жартам раззлаваўся б, калі б хтосьці з выкладчыкаў у палемічнай гарачнасці «асадзіў» бакалаўра. Вось і атрымлівалася, што няма каму апаніраваць Кастлеру.

Задуменна схіліўшы галаву, Станкевіч пакіраваў у Рэктарыум, дзе заявіў сакратару навуковай рады, што мае намер паспрачацца з Кастлерам. Той радасна запісаў юнага філосафа на дыспут, паколькі іншых ахвотных не прадбачылася.

Станкевіч не збаяўся верагоднага гневу рэктара, паколькі меркаваў, што ў Альбярціне не затрымаецца. А яшчэ Андрэй даўно падазраваў, што красамоўствам не саступіць многім з тых, каго раней чуў на публічных дыспутах. Дык калі яшчэ надарыцца магчымасць праверыць свой палемічны дар?..

Тэма дыспуту гучала змястоўна: «У якім узросце адродзяцца пасля Армагедона нябожчыкі? Ці адновяцца ў іх паадразаныя пазногці ды валасы? Ці будуць яны помніць свае грахі?»

Узнерваваны Станкевіч ва ўпор не заўважаў, як здзекліва пазіраюць на яго старэйшыя студэнты і здзіўлена — малодшыя шкаляры. Адзін позірк не адпускаў яго — задуменна-строгія вочы Якаба Прудэнцыуса, які на дыспуце ўзначальваў калегію з дванаццаці суддзяў.

Першым слова атрымаў бакалаўр Кастлер. Прэтэндэнт у ліцэнцыяты сцвярджаў, абапіраючыся на творы Ансельма Кентэрберыйскага і Фамы Аквінскага, што толькі Бог вырашыць, у якім узросце — юначым ці старэчым — адновіцца чалавек пасля Страшнага Суда.

Атрымаўшы права голасу, Станкевіч у адказ спаслаўся на трактаты Расцэліна ды Іаана Дунса. Юны філосаф даводзіў, што паколькі літасцівы Бог надзяліў грэшнага чалавека правам выбару, то сам чалавек і будзе вырашаць — адродзіцца ён гарэзлівым юнаком або мудрым старцам у Царстве Боскім. Гэтаксама чалавек сам адновіць або адрыне ўласныя ўспаміны. Тое ж тычыцца адрэзаных пазногцяў і валасоў.

Зразумела, гаворка ішла пра нябожчыкаў мужчынскага полу. Думкі, што жанчыны, пазбаўленыя душы з часу грэхападзення, могуць адрадзіцца, ніхто з прысутных не дапускаў.

Усхваляванае сэрца гучна бухкала ў грудзях Андрэя, а ногі па-здрадніцку падрыгвалі. Станкевіч разумеў, што калі справа дойдзе да бойкі, то шыракаплечы бакалаўр зваліць яго на падлогу і затопча. Таму юны мянянін не ўзвышаў голас ды не ўлазіў ва ўзаемныя знявагі, хоць Кастлер парачку разоў знарок назваў яго вашывым сабакам.

Станкевіч запрыкмеціў, што бакалаўр усяляк пазбягае гаворкі пра дахрысціянскіх філосафаў, лічыць іх паганцамі, не вартымі вывучэння. Андрэй зразумеў — вось дзе ахілесава пята Кастлеравых ведаў. І менавіта да яе скіраваў увагу суддзяў, сказаўшы:

— Ігнараваць Лукрэцыя і Дэмакрыта, Платона і Арыстоцеля, Эпікура і Дэмакрыта тое ж самае, што будаваць дом без падмурка. Гэтыя мысляры пакінулі цікавыя развагі наконт пасмяротнага блукання душы. На іх падставе грунтуюцца найноўшыя тэорыі быцця. Недарма сам Фама Аквінскі пісаў, што Платон і Арыстоцель, несумненна, чыталі Біблію.





Кастлер вылупіў вочы і пабялеў, паколькі не памятаў гэтых радкоў Святога Фамы. Калі б бакалаўр мог забіваць позіркам на ўзор міфічнага васіліска, душа Станкевіча ўжо развіталася б з целам. Андрэю ж захацелася заспяваць. Кастлер, які звычайна пазіраў на шкаляроў высакамерна, зараз нагадваў жабу, якая патрапіла пад кола воза.

Слухачы, якія на пачатку дыспуту пасмейваліся са Станкевіча, цяпер ухвалялі яго прывітальнымі крыкамі. Суддзі, для якіх мянянін спярша быў пустым месцам, зараз здзіўлена яго разглядвалі. Дыспут завяршыўся без пабоішча — рэдкая з'ява для Альбярціны. Можа, таму, што Кастлеру мала хто з прысутных сімпатызаваў.

Параіўшыся, калегія суддзяў пастанавіла, што бакалаўру Кастлеру рана прысуджаць ступень ліцэнцыята. Яму, маўляў, трэба падрыхтавацца больш грунтоўна да наступнага дыспуту, што адбудзецца праз год.

Пасля дэбатаў Станкевіч ціхутка памкнуўся да дзвярэй — бачыў, што ў Кастлера кулакі свярбяць ад жадання пагутарыць з ім сам-насам. Раз'юшаны бакалаўр ценем памкнуўся следам. Мажліва, вечар завяршыўся б для Станкевіча членашкодніцтвам, ды, на шчасце, каля выхаду абодвух чакаў Якаб Прудэнцыус. Ягоны палец ткнуўся ў грудзі Андрэю:

— Вы, філосаф, затрымайцеся. Трэба перагаварыць. А вы, — сурова паглядзеў прафесар на бакалаўра, — ідзіце прэч.

Кастлер апёк абодвух гнеўным позіркам ды патупаў з памяшкання.

— У вас несумненны талент палеміста, — ухваліў прафесар Станкевіча і жэстам загадаў суправаджаць яго.

Калі абодва выйшлі са Шкалярыума, Прудэнцыус прамовіў:

— Я прапаную вам вярнуцца, Адрыян. Ваш выступ на дыспуце нагадаў мне, што ў мяне ніколі не было такога разумнага памочніка, як вы. І наўрад ці яшчэ будзе... Няўжо вы сапраўды марыце пра сан святара?

Андрэй шмаргануў носам, расчуліўшыся. Ён не памятаў, каб прафесар кагосьці яшчэ ўхваляў, акрамя роднага дзядзькі Францыска.

Прудэнцыус між тым раптоўна сягануў да іншай тэмы.

— А яшчэ я не ўяўляў раней, як прыемна, калі ў доме жыве зямляк. Калі вы побач, то я быццам душой вяртаюся на Бацькаўшчыну…

— А я хачу вярнуцца ў родны край яшчэ і целам, — прызнаўся юнак.

— Хіба патрэбны там адукаваныя людзі? — уздыхнуў Прудэнцыус. — Там квітнеюць цемрашальства і забабоны. А ў Прусіі клапоцяцца пра дабрабыт падданых, пра ўпарадкаванне зямлі, пра павагу да законаў...

— Мажліва, з цягам часу на Літве стане болей адукаваных людзей пры ўладзе, — дапусціў Станкевіч. — І з каралеўскай ласкі яны паклапоцяцца пра заможнасць люду, пра добраўпарадкаванне і законнасць.

— Нашая Літва ляжыць на ўскрайку цывілізацыі, — пакрывіўся прафесар. — Пакуль туды дойдзе святло навукі, мае і вашыя косці спарахнеюць у магіле. Лепей падумайце пра надзённае. Я пакіну вам болей вольнага часу для заняткаў і падрыхтоўкі да іспытаў. Таксама я гатовы павысіць вам заробак да трох талераў штомесяц.

На другім паверсе дома, міма якога яны брылі ў прыцемках, расчыніліся вокны, пачуўся жаночы крык: «Сцеражыся!» — і палілося змесціва начнога гаршка.

Юнак, тэпаючы на паўкрока за прафесарам, схапіў Прудэнцыуса за мантыю і пацягнуў назад. Як аказалася, недарма. Смуродная вадкасць пралілася якраз туды, куды кіраваў Прудэнцыус.

Вокны наверсе зачыніліся. Змрочна каркнуў крумкач, які ўладкаваўся на краі чарапічнага даху.

Сэрца ў грудзях Андрэя па-ранейшаму ўтрапёна білася ад хвалявання.

— Я згодны, — сказаў ён.

Раптам прафесарскі твар скрывіўся ад болю. Прудэнцыус застагнаў, абапёрся на шкаляра, прамармытаў:

— Пакуль здабываў філасофскі камень, то не заўважыў, як рос камень у маіх нырках. На шчасце, я амаль знайшоў надзейны сродак ад хваробы. Рэцэпт параіў мне адзін калега…

Дапехкаўшы дадому, прафесар на парозе развітаўся з юнаком:

— Чакаю вас заўтра ўвечары.

Станкевіч бадзёра патэпаў у інтэрнат. І не падазраваў, што апошні раз бачыў старога суайчынніка жывым.

***

Назаўтра Станкевіч прыйшоў да дома на Грунэрштрасэ з торбай, у якую спакаваў свае рэчы і кніжкі. Пагрукаў драўляным малатком у дзверы, счакаў і крыху здзівіўся, што гаспадар не адчыняе.

«Можа, задрамаў, — з'явілася думка ў юнака. — Пэўна, зноў да золку нешта мудрагеліў у лабараторыі... »

У дом Андрэй патрапіў праз задні двор: мінуў прыбіральню і гародчык, выцягнуў ключ з-пад цаглянага падаконніка — гаспадар захоўваў яго тут на той выпадак, калі раптам згубіць ключ ад парадных дзвярэй. Адамкнуўшы нізкія дзверы, увайшоў у гасціную, потым зазірнуў у спальню, у сутарэнне — нідзе Прудэнцыуса не ўбачыў. Нарэшце завітаў у кабінет — і аслупянеў на парозе: прафесар метафізікі Якаб Прудэнцыус, ахрышчаны пры нараджэнні Якавам Скарынічам, нерухома ляжаў, учапіўшыся ахаладзелымі пальцамі ў ножку стала.

Для Андрэя Станкевіча час замарудзіўся. Ён не заўважыў, як надоўга знерухомеў. Потым скінуў торбу з пляча, дакрануўся пальцамі, як вучыў прафесар, да пульсу нябожчыка і да яго шыі. Не пульсавала жылка ані на шыі, ані на руцэ.

«Трэба бегчы ў акадэмію, клікаць на дапамогу! — загадаў сабе хлопец і адразу ж асадзіў: — Яму, няшчаснаму, ужо нічым не дапаможаш...»

Юнак аслабела прысеў, прытуліўся спінаю да сцяны, выцер слязу са шчакі, падумаў: «Пэўна, я больш ніколі не засмяюся». Прастора расплывалася перад ім, нібы ў шэрым тумане. Ягоныя нервы не маглі вытрымаць такога напружання — і хлопец праваліўся ў забыццё.

Яму прымроілася пляскатае ўзвышша на беразе шырокай ракі. Лёгкі вецер трапечыў высокую траву. На ўскрайку пагорка стаяў Прудэнцыус — у доктарскай сіняй мантыі, аднак без капелюша. Сівыя валасы яму спадалі на лоб і вочы, але ён іх не адкідваў, глыбока задумаўшыся пра нешта. Безліч зор ззяла ў чорным небе.

— Дзе мы, экселенц? — наблізіўся юнак да настаўніка. — У раі? У чысцілішчы? У пекле?

— Я памыліўся, — прафесар не азірнуўся на вучня. — Галоўнае ў Таемным мастацтве не вынік, але працэс, і не рэчыва, але з'ява.

— Шчыра кажучы, я не такім уяўляў замагільнае царства, — прызнаўся Станкевіч. — Нейкае яно... Зямное.

— Мы не ў доме, але на парозе, — нахмурыўся Прудэнцыус. — Далей я іду адзін. А вам яшчэ належыць спазнаць сутнасць Таемнага мастацтва.

Святло зорак злілося ў залаты бляск. Заслона ночы разышлася, над узвышшам адкрыліся барвова-блакітныя нябёсы, а ўнізе — халодная бездань. Якаб Прудэнцыус ступіў з абрыву ў пустэчу — і не зваліўся, пабрыў па паветры, махнуў рукою юнаку на развітанне, усміхнуўся...

Рэзка прачнуўшыся, шкаляр спалохана агледзеўся — усе прадметы ў пакоі набылі выразную акрэсленасць. Сэрца ўтрапёна білася, заглушаючы ўсе навакольныя гукі. Засяродзіўшы позірк на кніжнай паліцы, хлопец прачытаў дробныя літары назваў на карашках. Гнятлівая думка працяла Андрэя: зямляк-прафесар, які ў цяжкую для юнака пару стаўся яму амаль што другім бацькам, памёр ненатуральнай смерцю. Ён забіты. Але якім жа чынам? Хто забойца? Дзе доказы знайсці, каб абгрунтаваць такое падазрэнне? І якім чынам пакараць зламысніка? Пра ўсё гэта належала падумаць тэрмінова.

Усю ноч Станкевіч не змыкаў вачэй, ціхутка перасоўваючыся па доме са свечкай, даследуючы кожны прадмет у пакоях. Ён баяўся, што забойца прыйдзе на месца злачынства, і ўвесь час прыслухоўваўся да кожнага гуку ў доме. Аднак дачуў толькі, як мышы сноўдалі па кухні.





Пераканаўшыся, што ў доме анічога не знікла, Станкевіч адрынуў гіпотэзу наконт рабаўніцтва. Затое агляд лабараторыі ды знойдзеныя рэшткі сумесі на сценках катла дапамаглі зразумець, як быў атручаны Прудэнцыус. Вывучэнне кніжак ды запісаў у нататніку, знойдзеным у шуфлядзе стала, вывелі Станкевіча на асобу злачынца.

Над Кнайпхофам паляцелі першыя спевы пеўняў, калі шкаляр прыдумаў, як выкрыць доктара Альфрэда фон Зітцэра.

Сонечны прамень заслізгацеў скрозь шчыліну аканіцы па падлозе, упаў на пажаўцелы твар нябожчыка. У пакоі мацнеў непрыемны пах мёртвага цела. Андрэй памаліўся за спачын душы Якаба Прудэнцыуса, а затым сышоў з дома, асцярожна выкаўзнуў на вулку.

Станкевіч вярнуўся ў інтэрнат, пакінуў торбу і паспяшаўся на заняткі. Калі ў акадэміі дазналіся пра смерць Прудэнцыуса і магістр Герберус стаў збіраць шкаляроў, каб прыбраліся ў доме, Андрэй напрасіўся з імі.

У час паўторнага візіту на Грунэрштрасэ Станкевіч стаіўся ў кладоўцы. Счакаўшы, пакуль прыйдзе юстыцрат, а магістр Герберус са шкалярамі сыдзе, Андрэй заявіўся ў кабінет, дзе важдаўся з паперамі Кросбах. Гаворка з юстыцратам дапамагла купецкаму сыну здабыць надзейнага хаўрусніка ў змаганні за справядлівасць.

Ды толькі каб наблізіць трыумф правасуддзя, давялося юнаму філосафу шмат яшчэ пра што паклапаціцца.

***

І цяпер, сонечным чэрвеньскім днём, у брукаваным дворыку Рэктарыума юны філосаф нанёс зламысніку рашучы ўдар — падзяліўся з вучонымі дзеячамі, якія ўважліва яго слухалі, плёнам сваіх росшукаў.

Аказалася, не ўсе з прысутных ведалі, што сапраўднае імя прафесара метафізікі Якаба Прудэнцыуса — Якаў Скарыніч, які тут, у Кнайпхофе, учыніў сапраўдную навуковую рэвалюцыю, непрыкметную для недасведчаных. Да яго пераезду сюды з Прагі многія прафесары і дактары Альбярціны, якія не мелі шляхетнага радаводу, не карысталіся аніякай павагай у прускіх арыстакратаў і месцічаў. Ратуючыся ад праследу інквізіцыі, Якаў Скарыніч узяў сабе псеўданім Прудэнцій, які па-лацінску азначаў «той, хто імкнецца спасцігнуць мудрасць», а лацінскі канчатак «ус» надаваў прозвішчу высакароднае гучанне.

Далей Станкевіч прызнаўся навуковай грамадзе, што паводле загаду юстыцрата і з дазволу акадэмічнага канцлера ўсю папярэднюю ноч прасядзеў у архіве Альбярціны, дзе прагледзеў стосы папераў. Старонкі запыленых хронік праяснілі Андрэю, як учынак Скарыніча-Прудэнцыуса перамяніў вучоны свет усяго за дваццаць гадоў.

Аказалася, першым у акадэміі прыклад Скарыніча пераняў прафесар медыцыны Конрад Шурцфляйш. Ён нарадзіўся ў сям'і рамесніка і дасягнуў навуковага Алімпа без усялякай пратэкцыі, аднак грэблівае стаўленне прускай знаці доўгія гады крыўдзіла яго. Дазнаўшыся ў 1551-м пра перамену прозвішча Прудэнцыусам, Шурцфляйш не прыдумваў сабе новае, але дадаў да ўласнага суфікс «ус», што надавала прозвішчу высакароднасць.

Пабачыўшы, як з прафесарам Шурцфляйшыусам пачалі пачціва вітацца важныя асобы, да сваіх прозвішчаў дадалі канчаткі «ус» іншыя навукоўцы нешляхетнага паходжання — прафесары Булінгерус і Галерус, Мюлерус і Герхардус, Борманус і Форстэрус. Праз колькі гадоў мода на перамену імёнаў сягнула з Прусіі ў іншыя нямецкія землі. Новыя кнігі, што прывозілі ў кніжныя крамы Кнайпхофа з Лейдэна або Майнца, мелі на вокладцы імёны дактароў Хапеліуса або Маргофіуса, Герхардуса або Паўлюса. З Германіі звычай змяняць вучоныя прозвішчы перайшоў у Швейцарыю, Галандыю, Швецыю і нават у далёкую Шатландыю.

Так пакрысе ў Еўропе ўтварылася новая арыстакратыя — навуковая. Прыналежнасць да яе надавалі не кроў у жылах і не патэнт на тытул, але набытыя веды, даследчыцкая дбайнасць і гучны канчатак прозвішча.

Пакольк трансфармацыя навуковых імёнаў пачалася з Прудэнцыуса, то не дзіва, што сярод выкладчыкаў Альбярціны ён карыстаўся аўтарытэтам, роўным рэктарскаму. І пры гэтым не здагадваўся, што спарадзіў і пякучую нянавісць да сябе. Прычым не тут, у Прусіі, а ў Вітэнбергу, дзе доктар багаслоўя Альфрэд фон Зітцэр колькі гадоў таму прэтэндаваў на пасаду прафесара, але прайграў у публічным дыспуце доктару Мергеліусу (сапраўднае імя — Ёган Снук, сын майстра па вырабе скураў). Праз парачку гадоў у Вітэнбергскай акадэміі адкрылася новая прафесарская вакансія. Альфрэд фон Зітцэр зноў прэтэндаваў на яе — і прайграў у дыспуце доктару Цінтарыусу (сапраўднае імя — Марцін Хальк, сын рыбака). Абраза для нашчадка сямі дваранскіх каленаў была нечуваная. Зітцэр пачаў складаць і дасылаць у рэктарат просьбы пра пазбаўленне вучоных званняў асобаў нешляхетнага паходжання.

На бяду для Зітцэра, рэктар вітэнбергскай акадэміі сімпатызаваў «чорнай косці», бо на ўласным досведзе пераканаўся, што арыстакраты безупынку выпрошваюць сабе прывілеі ды мала рупяцца на ніве асветы, а пераважная большасць адкрыццяў робіцца нешляхетнымі навукоўцамі. Для вывучэння стоса Зітцэравых скаргаў рэктар распарадзіўся стварыць навуковую камісію, у якую ўключыў дактароў Мергеліуса і Цінтарыуса. Камісія вынесла аўтарытэтны прысуд: далейшае выкладанне Альфрэда фон Зітцэра шкоднае для акадэміі. Вырак пазбавіў Зітцэра не толькі вялікага заробку, але і ўсялякіх кар'ерных перспектыў. Яму не засталося іншага выйсця, як толькі пакінуць Вітэнберг.

Альфрэд фон Зітцэр мог бы з'ехаць у Паўночную Нямеччыну, дзе тузін акадэмій мелі патрэбу ў выкладчыках-лютэранах. Аднак ён памкнуўся ў Кнайпхоф, дзе стаў выкладаць Свяшчэнную Гісторыю. Прычына яго ўчынку каранілася ў той нянавісці, якую адчуў Зітцэр да чалавека, з якога ў Еўропе пачалася трансфармацыя вучоных прозвішчаў.

Калі б не ён, меркаваў Зітцэр, то нешляхетнае быдла не адважылася б замінаць у навуцы дваранам! І калі дазнаўся, што той нягоднік жыве ў Кнайпхофе, то пакляўся выправіць Скарынічa-Прудэнцыуса ў пекла.

Каб заваяваць давер прафесара метафізікі, Зітцэр назваўся аматарам Таемнага мастацтва. Твор Арнольда Джымалоні з бібліятэкі Прудэнцыуса натхніў яго на выраб атруты, якую Зітцэр прэзентаваў як тынктуру для здабыцця Вялікага сродку. Заставалася толькі пачакаць, калі цікаўны Прудэнцыус нагрэе атруту ў сваёй лабараторыі…

— Адкуль вы дазналіся, філосаф, пра колішнія хібы доктара Зітцэра? — падаў строгі голас рэктар акадэміі.

Андрэй хіснуўся ў бок, але захаваў раўнавагу. Апошнія два дні ён не змыкаў вачэй. Ад неймавернай стомы і нервовага ўзрушэння ледзьве трымаўся на нагах, але выглядаў упэўнена. Выдавалі яго бадай што частае мірганне пачырванелых ад недасыпання вачэй.

Адзервянелымі пальцамі Станкевіч развязаў тасёмкі скуранога меха, пакорпаўся сярод папераў, выцягнуў пажаўцелы скрутак, прыўзняў над галавой, крыху вінавата ўсміхнуўся:

— Я не дарма ўсю ноч праваждаўся ў архіве канцылярыі. Знарок шукаў лісты з Вітэнберга. Перад другімі пеўнямі адшукаў гэтае пасланне ў стосе нечытаных справаздач. Яго напісаў пазалетась доктар Цінтарыус. Той, што спаборнічаў з Зітцэрам за прафесарскую пасаду і перамог у дэбатах. Уведаўшы, што гер Зітцэр выкладае ў Альбярціне, прафесар Цінтарыус палічыў сваім абавязкам папярэдзіць пра ягоны кепскі нораў і выключную нянавісць да навукоўцаў нешляхетнага паходжання. Цінтарыус адрасаваў свой ліст на імя шаноўнага рэктара. Аднак пасланню гэтаму, як зразумеў, не надалі належнае ўвагі...

Рэктар Якаб фон Катцэр хмурна паглядзеў на сакратара, які ў сваю чаргу адрасаваў гнеўны позірк загадчыку канцылярыі. А той развёў рукамі ды апраўдаўся перад рэктарам на свой капыл:

— На кожнага выкладчыка акадэміі напісаны стос даносаў. Пішуць збольшага іхнія калегі. Амаль усе такія паперчыны складаюцца з маны, абразаў і бяздоказнай хлусні. Калі даваць усім паклёпам веры, то ў аўдыторыі не будзе каму працаваць.





— Пасланне доктара Цінтарыуса тлумачыць нам матывы зламыснага ўчынку, — працягваў Станкевіч. — А канчаткова выкрывае віну доктара Зітцэра вось гэты аркушык...

Перадаўшы пажаўцелы ліст Кросбаху, юны філосаф выняў са скуранога меха і падняў над галавой скамечаны кавалак пергаменту. На ім чарнела колькі радкоў, накрэмзаных дробнымі літарамі.

— Рэцэпт атруты, перапісаны з кнігі Арнольда Джамалоні ўласнай рукой Альфрэда фон Зітцэра! — зазвінеў юначы голас. — Злачынца не мог заглядваць у кніжку, калі гатаваў смяротны сродак. Інакш на старонках захаваліся б вільготныя сляды ядавітых выпарэнняў. Дык ён усе звесткі занатаваў на аркушык, які, дарэчы, і цяпер патыхае той жа сумессю, што знойдзена ў лёгкіх нябожчыка і на сценках катла ў лабараторыі. Супастаўленне такіх даных дае нам неаспрэчныя высновы...

— Адкуль у вас рэцэпт? — учапіўшыся ў падлакотнікі, рэктар усхвалявана падаўся ўсім тулавам наперад.

— Я знайшоў яго пад ложкам доктара Зітцэра. Верагодна, упаў са стала і заляцеў туды, калі гаспадар пакоя адчыніў дзверы...

— А я столькі шукаў яго, — прамармытаў Зітцэр. — Хацеў спаліць...

— Ці прызнаецеся ў злачынстве, у якім абвінавацілі вас шкаляр? — спытаў яго рэктар.

Зітцэр затраўлена кідаў позіркі то да чыстага неба, то да бруднага бруку, то да далёкай брамы, то да блізкага Рэктарыума, пры гэтым абмінаючы твары прысутных. Ды раптоўна сустрэў пазмрачнелы погляд Станкевіча — і Зітцэравы вочы акругліліся, указальны палец скіраваўся ў юнака, а з горла вырваўся раз'ятраны роў:

— Трэба было і табе сканаць за кампанію з Прудэнцыусам! Шкада, што ты, мярзотнік, не пакаштаваў маёй стравы!

— Вы не аспрэчваеце сваю віну, гер Зітцэр? — паўтарыў рэктар.

Ды той яго не чуў. Ад прад'яўленых Станкевічам доказаў Альфрэд фон Зітцэа так разгубіўся і так ашалеў, што нечакана шчыра агучыў сваю таемную філасофію.

— Шкадую я бадай толькі пра тое, што вынішчыў усяго адну хамулу, якая з быдла выпхнулася ў навуку! — верашчаў у гнятлівай цішыні доктар багаслоўя. — А трэба забіваць, бы пацукоў, усіх, хто прэцца ў храм адукацыі са смярдзючага мяшчанства. Свяшчэнную сферу навукі нам трэба ачышчаць ад чорнай косці, як ад смецця! Вартыя кары і тыя, хто пускае сюды бязродных вырадкаў. Яныператвараюць акадэмію ў хлеў, далучаюць сваім спрошчаным выкладаннем да запаветных ведаў процьму новых нешляхетных вылюдкаў. Хіба мне аднаму падаецца, што паветра Альбярціны патыхае халопскім смуродам? Хіба толькі я лічу навуку свяцілішчам, у якім павінны служыць абраныя жрацы? Няўжо я адзіны памятаю, што толькі кроў і старадаўні радавод далучаюць да кола тых абраных? Набытыя веды могуць прыхаваць нізкае паходжанне. А кроў, што цячэ ў маіх жылах, ужо ўганаравана заслугамі слаўтых прашчураў. Нашыя продкі-рыцары адважна баранілі Хрыстову веру ад паганцаў. Хіба мы, іхнія нашчадкі, не абавязаны рашуча бараніць храм адукацыі ад саслоўя самазванцаў? Вядома ж, так!

Дзясяткі два прысутных навукоўцаў узгоднена заківалі галовамі, падтрымалі аратара спачувальнымі крыкамі. Аднак значна болей аказалася тых, хто асуджальна загудзеў. Сярдзіта заёрзаў у крэсле і рэктар, абражаны выразам «пускае сюды бязродных вырадкаў». Не жадаючы, каб увесь гэты гармідар завяршыўся кулачным пабоішчам, Якаб фон Катцэр усхапіўся і сваім голасам перакрыў гоман выкладчыкаў:

— Доктар Альфрэд фон Зітцэр, вы пазбаўляецеся ўсіх правоў і прывілеяў нашай акадэміі. Правам, нададзеным мне вышэйшаю ўладай Прусіі, перадаю вас пад апеку юстыцрата. Суд горада Кнайпхофа вырашыць ступень вашай віны і прызначыць меру пакарання. А мы ўсе памолімся за ўратаванне вашай шматгрэшнай душы.

Зітцэр, які дагэтуль спапяляў Станкевіча вачыма, ашаломлена паглядзеў на рэктара, хіснуўся, бы ад удару ў спіну, і ўпаў на калені.

Карл фон Кросбах, не вагаючыся, падаў знак Раулю дэ Гі. Француз ухапіў Зітцэра за каршэнь, рыўком падняў на ногі і павалок да брамы. Следам памкнуліся юстыцрат і Станкевіч.

Натоўп маўкліва расступіўся перад імі.

***

Вячэрні харал паляцеў над Кнайпхофам з саборнай вежы, калі за Зітцэрам замкнуліся дубовыя дзверы камеры ў сутарэнні ратушы.

Юстыцрат запрасіў Рауля дэ Гі ў свой кабінет, выняў са скрыні кашэль з талерамі, шчодра разлічыўся з французам і развітаўся:

— Зычу вам паспяховай вучобы!

— Заўсёды да вашых паслуг, — пакланіўся трыццацігадовы шкаляр.

Калі за ім зачыніліся дзверы, Кросбах падышоў да лавы каля сцяны, на якой расцягнуўся ў дрымоце Андрэй Станкевіч, і задуменна пачухаў шчаку. Юнак суправаджаў юстыцрата, Зітцэра і Гі да самай ратушы, але не пайшоў за імі следам у падвал, а prакаўзнуў сюды і адразу заснуў.

Шкада было яго, вядома, абуджаць, але педантычны юстыцрат не мог скласці пратакол, пакуль розум вярэдзілі нявысветленыя пытанні. Дык, уздыхнуўшы, бесцырымонна расштурхаў юнака. Той спалохана сеў, разгублена азіраўся, прытуліўся да сцяны і стомлена пазяхаў. Кросбах памахаў перад яго носам аркушыкам Зітцэра і строга спытаў:

— Адкуль у вас гэты важны доказ?

Станкевіч пацёр далонямі сонны твар, нагадаў:

— Ці памятаеце, экселенц, як я папярэдзіў вас пра падступнасць Зітцэра?

У памяці Кросбаха ўсплыў учарашні вечар. Юстыцрат маліўся ў храме, каб Бог дараваў яму перамогу ў судовым паядынку. Ён так засяродзіўся ў мысленным звароце да нябёсаў, што не заўважыў, як побач аказаўся юны памочнік. Затое адчуў яго дотык на сваім плячы. Калі юстыцрат і Андрэй выйшлі на саборную плошчу, Кросбах спытаў:

— Знайшлі штосьці цікавае ў архіве?

— Пакуль не, — заклапочана пераступаў з нагі на нагу хлопец.

За колькі гадзін таму яны рассталіся ў канцылярыі Рэктарыума, куды юстыцрат завёў памочніка паводле ягонай просьбы і дамовіўся з канцлерам акадэмічным пра поўны допуск да архіўнай дакументацыі.

— Нашто тады вы тут?

— Непакоюся наконт Зітцэра. Высакароднасць яму не ўласціва. Вырашыў прасачыць за ім. І не дарма. Ён зараз сядзіць у шынку «Адзінарог» і дамаўляецца з нейкімі мяснікамі. Як я змог дачуць, яны заўтра выйдуць замест яго на паядынак супраць вас, экселенц. У архіве я пагартаў статут судовых двубояў. Звычай дазваляе такую замену.

Юстыцрат засмучана панурыўся, уздыхнуў, перажагнаўся.

— Я дамоўлюся наконт вашай замены, — пачціва мовіў Андрэй. — Ёсць у мяне на прыкмеце шкаляр. Рауль дэ Гі. Француз, каталік, ліхі вой. Вучыцца, як і я, на факультэце вольных мастацтваў. Я бачыў яго нораў у час дыспутаў. Калі ўсчынался бойка, ён браў у рукі лаву і змятаў ёю апанентаў тузінамі на падлогу. Вядома, яго паслугі ў якасці паядыншчыка будуць каштаваць дорага. Аднак і вы — чалавек нябедны, і можаце праявіць шчодрасць, роўную вашаму розуму.

— Дамаўляйцеся, — расчулена ляпнуў яго па плячы юстыцрат...

Цяпер жа, седзячы ў цёмным пакоі, сонны Станкевіч прызнаўся:

— Я не сказаў вам, экселенц, што па дарозе ў сабор, дзе вы размаўлялі з Богам, завярнуў у інтэрнат, дзе здымаў пакойчык Зітцэр. Патрапіў у яго жытло праз акенца. Балазе, ён жыве на першым паверсе. Агледзеў інтэр'ер, рэчы, адзенне. Імкнуўся анічога не чапаць рукамі. Але калі ўбачыў пад ложкам кавалачак паперы, то зразумеў, што Зітцэр сам яго згубіў. А як знойдзе, то знішчыць абавязкова. Таму і забраў з сабой гэты важны доказ.

— Вы ўчынілі вобыск, не маючы ані санкцыі, ані майго дазволу, — нахмурыўся юстыцрат. — Доказ, здабыты не зусім законным чынам.

Станкевіч вінавата схіліў галаву, санліва дадаў:





— Тым болей што і рэцэпт атруты з кнігі Джымалоні не такі ўжо яўны доказ. Хіба мала дзеля чаго навукоўца штосьці крэмзае на паперцы? Але ўсе доказы ў сукупнасці паспрыялі прыпадку шчырасці ў забойцы. А гэта ўжо не аспрэчыш — шмат сведкаў пачулі яго прызнанне. Што тут яшчэ сказаць? Нябёсы нам спрыяюць, экселенц.

— Я не магу разлічваць на дапамогу нябёсаў, — задуменна прагаварыў юстыцрат. — Яшчэ мне патрэбны памочнік. Кемлівы, нястомны. Той, хто ў час следства запрыкмеціць тое, што я ўпусціў. А таксама зоймецца дакументацыяй і складаннем пратаколаў. Ці маеце такога на прыкмеце?

Андрэй няўпэўнена паціснуў плячыма.

— Што думаеце пра такую пасаду, юны філосаф? — спытаў юстыцрат. — Гарантую заробак у пяць талераў штомесяц. Упэўнены, гарадская рада пагодзіцца на такія выдаткі. Вашай вучобе служба замінаць не будзе...

— Вельмі ўдзячны вам за прапанову, — прыклаў юнак руку да сэрца.

— Але, як бачу, штосьці вас засмучае?

— Я марыў пра багаслоўскі факультэт, — паспавядаўся юнак. — Бацюхна жадаў, каб я стаў святаром. Баюся, што, абраўшы юрыдычнае поле дзейнасці, я страчу шанц патрапіць у рай пасля смерці.

— Сярод духоўных асобаў таксама трапляюцца нягоднікі, — пакрывіўся Кросбах. — Меў я з такімі справу… Удзень малітвы дасылаюць небу, а ўночы здзяйсняюць такое, ад чаго д'яблы рагочуць. Не пацеры і модлы, але сумленныя ўчынкі — вось прыступкі лесвіцы, якая вядзе ад зямнога быцця ў райскія шаты. Нам на жыццё пакінуты кароткі час — паўсотні гадоў. Можа, крыху больш. За гэты тэрмін трэба прынесці ў гэты свет як мага больш карысці, пакараць злачынцаў, абараніць пакрыўджаных, ушанаваць закон.

Станкевіч упарта сціснуў кулакі. Ён разумеў, што зараз абірае шлях, па якім пойдзе да скону, і хацеў усё асэнсаваць да драбніц, каб потым ні пра што не шкадаваць.

— Ваша прамова, экселенц, сведчыць пра ваш неардынарны розум. І тым не менш яна пакуль не ў стане развеяць мае сумненні. Хіба не абавязаны чалавек шукаць свой шлях да Бога? Прыняўшы ж вашу спакушальную прапанову, баюся, я далёка адыду ад нябеснага святла. Бо сутыкацца буду пераважна з цемрай чалавечых душаў і ўчынкаў.

— Хіба Гасподзь не хоча, каб і ў цемры ззяў агонь? — парыраваў юстыцрат. — А можа, вам якраз наканавана стаць такім агнём?

Усхваляваны Андрэй задуменна абхапіў галаву далонямі.

— Калі я стану праследаваць людзей за іхнія грахі, то й сам пакрысе зраблюся грэшнікам. Я шмат разоў бачыў, як ушаноўваюць закон на лобным месцы. Выракаючы злачынца на смерць сваімі доказамі, хіба не ўчыню я смяротны грэх, які не даруецца нябёсамі?

Карл фон Кросбах нервова рыпнуў зубамі. Верагодна, не аднойчы на гэты конт сам-насам разважаў.

— Закон — падмурак дзяржавы. Калі яго не шануюць, людзі ператвараюцца ў дзікуноў. Абаронцы законнасці, магчыма, дагаджаюць нябёсам не меней за святароў. Дый што вы наогул можаце ведаць пра Боскі замысел? Ён неспасцiжны для чалавечага розуму.

— Прашу, пакіньце час на роздум, — пачціва схіліў галаву Станкевіч.

Юстыцрат пахмурна ўздыхнуў, кіўнуў.

— Аднак жа не марудзьце. Я магу і перадумаць.

***

Хоць Карл фон Кросбах і дэклараваў, што лёгка ўгаворыць ратманаў на дадатковы расходны артыкул у бюджэце Кнайпхофа, аднак гэтая справа зацягнулася не на адзін тыдзень. Гарадская рада колькі разоў абмяркоўвала карысць такой перамены ў каштарысе ды ўсё не магла канчаткова пагадзіцца.

Станкевіч тым часам паспяхова здаў экзамены *квадрыума* —арыфметыку, геаметрыю, музыку, астраномію — і ўрэшце перайшоў са стану шкаляра-філосафа ў шэраг студэнтаў, пра што сведчыла грамата, выпісаная ў канцылярыі Рэктарыума.

Перамена вучэбнага статусу гарантавала пэўныя выгоды. Напрыклад, у час лекцый ён цяпер меў права сядзець на лаве, а не на сене на падлозе, як раней. Таксама калі студэнт уваходзіў у шынок, дзе ўсе сталы занятыя, то прысутны там шкаляр абавязаны быў саступіць яму месца. Акрамя таго, студэнты вызваляліся ад цялесных пакаранняў.

Да пачатку восені Станкевічу належала абраць факультэт для працягу вучобы — медыцынскі, юрыдычны або багаслоўскі — і падаць заяву ў канцылярыю.

Хлопец разумеў: выбар вызначыць яго далейшае жыццё.

І для грунтоўнага роздуму на гэты конт абраў адпаведнае месца.

***

У сінечы неба кружылі ластаўкі. Жнівеньскі вецер церушыў лістоту на галінах ліп, якія раслі абапал могілак. Кнайпхофскі люд хавалі тут — на паўночным беразе Прэгеля, на паўдарозе паміж Крамным мостам і лобным месцам.

Станкевіч заявіўся сюды пасля поўдня, адслухаўшы службу ў саборы. Юнак брыў сцяжынкай, якая пятляла між каменнымі ды жалезнымі плітамі. Надмагільныя помнікі яскрава сведчылі аб саслоўнай прыналежнасці тых, хто спачыў. Жалезны крыж — пра пахаванне заможнага месціча. Каменная чара — духоўнай або вучонай асобы. Выява Святога Іаана — гандляра або чыноўніка. А сціплы насып над магілай азначаў, што ў сваякоў нябожчыка бракуе грошай на помнік.

Пасярод квадрата могілак узвышаўся белацагляны асарыум — будынак з вялізным сутарэннем. Кожныя трынаццаць гадоў сюды зносілі косці са старых могілак і пасля памінальнай службы скідвалі ў яміну. Такім чынам вызвалялася месца для новых пахаванняў.

На могілкі юны ліцвін прыйшоў не толькі каб падумаць пра свой далейшы лёс, але і з тае нагоды, што гэтым днём споўніўся саракавы дзень пасля смерці Якаба Прудэнціуса. Станкевіч лічыў сваім сумленным абавязкам памаліцца за спачын хрысціянскай душы.

Насып на магіле прафесара метафізікі прыціскала шэрая пліта, на якой былі выбіты імя, прозвішча, пасада нябожчыка і лаканічная эпітафія: «На шляху да мудрасці спасціг шмат таямніц быцця».

«І аніякай згадкі на тое, што ён быў ліцвінам, — падумаў Станкевіч. — Такое, відаць, спрадвечнае наканаванне маіх таленавітых землякоў: узбагачаць сваімі здабыткамі чужы народ і быць забытымі на Бацькаўшчыне...»

Памаліўшыся, Станкевіч прысеў на край магільнай пліты.

Гнятлівыя думкі апанавалі юнака.

Непакоіла тое, што працэс над выкрытым забойцам адцягваецца. У Альфрэда фон Зітцэра адшукаліся радавітыя абаронцы, якія займалі ўплывовыя пасады ў Кёнігсбергу. Ім здавалася нясцерпнай сама думка, што арыстакрата выраклі на смерць доказы, здабытыя прасталюдзінам. Нанятыя імі адвакаты аспрэчылі ўсе здабытыя доказы і вынік боскага суда. Акрамя таго, знайшліся сведкі, якія пакляліся, нібыта Зітцэр ані ў чым не прызнаўся ў дворыку Рэктарыума — ані ў забойстве Прудэнціуса, ані ў нянавісці да «чорнай косці» ў навуцы. На падставе такіх важкіх довадаў адвакаты засыпалі магістрат Кнайпхофа апеляцыямі, патрабуючы, каб суд над Зітцэрам адбыўся ў Кёнігсбергу — маўляў, толькі такім чынам можна дамагчыся юрыдычнай непрадузятасці.

Юстыцрату Карлу фон Кросбаху падкінулі ананімны ліст, у якім яму дакляравалася ўзнагарода ў семсот талераў, калі адпусціць Зітцэра на парукі. У адваротным выпадку гарантаваўся нож у спіну начной парою.

Магістрат Кнайпхофа дзейнічаў, як звычайна — адтэрміноўваў канчатковае рашэнне канфліктнага пытання: на просьбы кёнігсбергскіх адвакатаў не пагаджаўся, але і суд над Зітцэрам не распачынаў.





Юстыцрат Кросбах дапускаў, што забойцу ўрэшце перавязуць у Кёнігсберг, дзе, верагодна, амнісціруюць указам герцага. Дык на ананімныя абяцанку і пагрозу адрэагаваў на свой лад — загадаў перавесці зняволенага Зітцэра з сутарэння ў падземную камеру ды скаваць яму рукі і ногі калодкамі. На такую глыбіню не траплялі ані сонечны прамень, ані свежае паветра. Вязні дыхалі вільгаццю, а па халодных сценах струменіліся ручаіны. Сюды саджалі самых злосных нягоднікаў, і менш, чым праз паўгода, арыштант або рабіўся сляпым калекам або яго выносілі адсюль нагамі наперад.

Адзін Бог цяпер ведаў, які лёс напаткае Зітцэра — сканае ў падзямеллі ў дасудовым парадку або ўсё ж дачакаецца вызвалення? Станкевіч меркаваў, што добрага Прудэнціуса наўрад ці парадавалі б пакуты яго забойцы. Крыўдна, што ў нягоднікаў болей абаронцаў, чым у сумленных людзей. І ўсё ж, магчыма, не строгасць пакарання, а яго непазбежнасць — вось што ўкараніць у людзях веру ў справядлівасць...

Знерухомеўшы, бы надмагільны помнік, Андрэй Станкевіч разважаў і пра тое, што лёс звёў яго з Якабам Прудэнціусам, каб хлопец з цягам часу ўвасобіў галоўны пастулат Таемнага мастацтва — трансфармацыю. Зразумела, справа тычыцца не фізічнай трансфармацыі жалеза ў золата або ў філасофскі камень, але духоўнай — пераўвасаблення ўласных заганаў у вартасці. Алхімік Прудэнціус для сваіх эксперыментаў ужываў разнастайныя рэчы — ад гліны да серабра. Мяняніну Станкевічу дапаможа бадай што нястомная воля.

— Што такое нашае жыццё? — засяродзіўшыся ў роздуме, юнак і сам не заўважыў, як ціха загаварыў сам-насам. — Эксперымент Таемнага мастацтва, што пачаўся да майго нараджэння і не спыніцца нават пасля смерці. Мае ўчынкі — складовыя інгрэдыенты. Іхняе злучэнне спародзіць вынікі. Яны папсуюць або палепшаць жыццё іншым людзям...

З будынка асарыума выйшлі вартаўнік і далакоп — абодва нападпітку, бурна спрачаліся пра нешта і брыдкасловілі.

Станкевіч прыгадаў, як летась разам з прафесарам у лабараторыі дома на Грунэрштрасэ разгадвалі таямніцы прыроды. А нядаўна Карл фон Кросбах прапанаваў яму разам распазнаваць таямніцы людскіх злачынстваў. Юстыцрат Кнайпхофа наогул неардынарная асоба. Звычайна чыноўнікі на такой пасадзе клапоцяцца збольшага пра ўласны дабрабыт, а Кросбах насамрэч клапоціцца пра законнасць. Тое, што Станкевіч схаўрусаваўся з ім — удача, якая здараецца, пэўна, раз у жыцці. Ці не падказваюць такім чынам нябёсы на тое, што Андрэй здатны трансфармаваць ліхадзейства сярод люду паспалітага ў правасуддзе і парадак? Хіба гэта не той жа алхімічны эксперымент?..

Вядома, калі б Прудэнціус быў жывы, то запярэчыў: без філасофскага каменя аніякі эксперымент не завершыцца ўдала.

— Але я сумняваюся, што Вялікі сродак існуе ў прыродзе, — працягваў хлопец уяўную спрэчку з мёртвым настаўнікам. — Усе алхімікі пра яго чулі, а ў рукі так і не ўзялі. Мне падаецца, болей верагодна, што філасофскі камень — насамрэч сімвал душы і розуму самога даследчыка. А калі так, то я свой філасофскі камень, свой талент і сваю ўпартасць, змагу ўжыць найлепшым чынам…

Ад магілы Прудэнціуса веяла безнадзейным холадам. Станкевічу здавалася, быццам ён чуе пярэчанні. Маўляў, справа, якой юнак хоча прысвяціць жыццё, загадзя асуджаная на няўдачу. Сам Бог Усёмагутны не пераўвасобіў чалавечую натуру. Людзі жорсткія ад стварэння свету і застануцца такімі да Суднага Дня. І высілкі адзіночак — нават такіх, як Ісус і яго апосталы — кардынальна ў людзях анічога не пераманілі. Ці не дарма Станкевіч спадзяецца на цудадзейныя метамарфозы? Калі сам Гасподзь мірыцца з чалавечай недасканаласцю, то значыць…

— Што Ён жадае, каб мы самі ўпраўляліся з грэшнымі заганамі, — запярэчыў юнак уголас сумненням, якія грызлі яго знутры. — Няхай мне і не выправіць усе недарэчнасці свету. Аднак жа я змагу паклапаціцца, каб добрасумленным хрысціянам не замінaлі жыць нягоднікі ды гіцлі. Калісьці я вярнуся на Бацькаўшчыну і там укараню здабыткі Таемнага мастацтва. А значыць, недарма я з’ехаў з Менска ў Прусію вучыцца.

***

З могілак Андрэй Станкевіч пашыбаваў у горад, да ратушы.

Дарога ад брамы пралягала праз гандлёвую плошчу, дзе віраваў торг. Квадратны пляц поўніўся шумам людской гаманы, рыпу драўляных колаў, конскага ржання, сабачага брэху. Седзячы на павозках, поўных таварам, гандляры хапалі прахожых за рукі, упрошвалі хоць штосьці ў іх набыць. Пад нагамі круціліся галодныя сабакі. Брук быў спрэс запэцканы кучамі конскага гною і лужынамі мачы.

З трох бакоў плошчу абрамлялі майстэрні меднікаў, з якіх далятаў бразгат малаткоў аб жалеза. Вучні выраблялі посуд, зброю і даспехі, чаляднікі раскладвалі вырабы на шырокіх падаконніках ды заклікалі пакупнікоў, а майстры сядзелі на лавах каля дзвярэй, сачылі за падначаленымі, курылі гліняныя трубкі ды плявалі пад ногі абывацелям.

У палове палёту стралы ад гандлёвай плошчы знаходзілася ратуша слаўнага горада Кнайпхофа, ганарліва ўздымала ў неба дзве завостраныя вежы абапал галоўнага ўвахода.

Недалёка ад ратушы ўзвышалася Раландава калона — каменная выява воіна з аголеным мячом у руках. Помнік міфічнаму Раланду, які сваім мячом сцвердзіў вяршэнства закона ў Еўропе, сімвалізавала права суддзяў караць вінаватых суграмадзян.

І суддзі Кнайпхофа карысталіся такім правам напоўніцу. Пра гэта яскрава сведчыла жалезная клетка, падвешаная да перакладзіны каля Раландавай калоны. У клетцы боўтаўся небарака, якога ўжо тройчы бачылі ўшчэнт п'яным. За сваю любоў да віна п'янтос мусіў тры дні правісець над зямлёй. Вінаваты і зараз быў пад хмелем. Ён драмаў, нервова цялёпкаючыся ў сне, а пад клеткаю ўжо ўтварылася лужына яго ванітаў, над якой кружылі мухі.

Побач з клеткаю сядзелі на бруку дзясятак студэнтаў багаслоўскага факультэта. Адрозніваліся ад іншых вучняў акадэміі яны тым, што на ўзор выкладчыкаў коратка стрыгліся і часта галіліся. Напярэдадні багасловы добра падпілі ў шынку і невядома з якой прычыны пабіліся з месцічамі, а потым заявіліся вартаўнікі-«міліцыянеры» і ўсіх увязнілі. У пакаранне за п'яны пагром студэнтам звязалі рукі за спінамі, а ногі замкнулі ў калодкі. У такім выглядзе ім належала прасядзець ад світанку да захаду сонца. Прахожыя мелі права пляваць на іх ды даваць выспятка, і мала хто з гараджан не выкарыстаў такую магчымасць.

Станкевіча пазналі. Слава пра ягоны ўдзел у выкрыцці Альфрэда фон Зітцэра ўжо разляцелася па Альбярціне. Некаторыя з багасловаў звярнуліся да яго з просьбай, каб, маўляў, замовіў за іх слоўца, вызваліў ад кары, бо цела знямела, цярпець пакуту немагчыма дый годзе. Нагадалі яму і пра студэнцкае братэрства. Але Станкевіч зрабіў выгляд, быццам анічога не чуе. За свае правіны, лічыў ён, кожны сам нясе адказнасць… А наогул дужа прыемна пачувацца асобай, надзеленай уладай! У Андрэя нават хада зрабілася паважнай, спіна выраўнялася, а падбародак ускінуўся.

Дапехкаўшы такім чынам да ратушы, юнак перажагнаўся і падняўся па каменнай лесвіцы на шырокі ганак. Канцылярыя юстыцрата размяшчалася ў прыбудове побач з залай пасяджэнняў. Мінуўшы вузкі калідор, юнак увайшоў у кабінет Кросбаха.

Кожнаму, хто трапляў у пакой, кідаўся ў вочы бабаўняны дыван, які ўпрыгожваў цагляную сцяну. На дыване быў вытканы павучальны міфалагічны сюжэт — з несправядлівага суддзі жаўнеры персідскага цара Камбіза здзіралі скуру, каб абабіць ёю крэсла для новага слугі закону.

Карл фон Кросбах якраз збіраўся падсілкавацца. Ён ачысціў пісьмовы стол ад папяровых стосаў, сервіраваў талеркамі з варанымі яйкамі, хлебам і смажанай дзічынай, памыў рукі ў тазіку з вадой, памаліўся і ўзброіўся паляўнічым нажом. Ды толькі адрэзаў лусту хлеба, як трапезу перарвала з'яўленне Станкевіча.

Пакланіўшыся, хлопец сказаў гаспадару кабінета:

— Я прыйшоў, экселенц, каб засведчыць свой намер сумленна слугаваць вам. Вядома, калі вы не перадумалі ды не адцураліся сваёй прапановы. А яшчэ заявіць, што з Боскай ласкі намераны пайсці вучыцца на юрыдычны факультэт.





— А як жа колішнія планы наконт багаслоўя? — усміхнуўся Кросбах.

— Маю істотныя падставы меркаваць, што малітвы ў нашым недасканалым свеце не дапамогуць пакараць нягоднікаў і абараніць слабых. На жаль, выкананне гэтай пачэснай місіі часта ўскладаюць на сябе тыя, якія не маюць ані сумлення, ані страху перад Богам. Калі ж служыць закону стануць людзі шчырыя і неабыякавыя да чужога гора, то хрысціянскае гаспадарства хутчэй здабудзе ласку нябёсаў. Значыць, маё слугаванне на ніве юрыспрудэнцыі — такі ж шлях да Бога, як і малітва ў кляштары. Магчыма, не меней дзейсны.

— Па сутнасці, вы паўтараеце тое, што я вам гаварыў не так даўно.

— Так. Але важна, што ў мяне быў час абдумаць вашы словы. І цяпер я перакананы, што вы маеце рацыю.

— А ў мяне прыемная навіна: ратманы задаволілі маю просьбу, — пахваліўся Кросбах. — Я маю права наняць памочніка. Ваша служба пачынаецца ад гэтай хвіліны. Нас чакаюць тэрміновыя справы. Аднак мы выканаем іх не на пусты страўнік. Пэўна, прагаладаліся? Частуйцеся, — і ён падсунуў юнаму ліцвіну талерку з мясам і хлебам.

***

Першы ж вечар на новай пасадзе для хлопца стаўся незабыўным.

Пасля абеду юстыцрат і яго памочнік пакіравалі на вуліцу Святога Даміяна — у дом півавара Зейфрыда Будштэда.

Прычынаю візіту сталася раптоўнае самагубства жонкі півавара — фраў Грэта Будштэд прывязала вяроўку да бэлькі ў спачывальні і сунула галаву ў пятлю. Юстыцрату належала скласці працакол і высветліць, што змусіла добрапрыстойную кабету на смяротны грэх.

Трохпавярховы цагляны дом майстра Будштэда ўзвышаўся чырвона-чарапічным дахам над усімі дамамі на Свята-Даміянавай вуліцы. Шасцівугольныя зубчастыя вежачкі, апярэзаныя ляпнымі аздобамі, упрыгожвалі фасад. У шырокія парадныя дзверы мог заехаць цэлы воз. На шыльдзе над дзвярыма быў намаляваны куфель з пенным напоем.

— Што павінен рабіць разумны юрыст, калі трапляе туды, дзе адбылося гора? — павучаў па дарозе Кросбах юнага памочніка, які цягнуў за плячыма скураны мех з паперамі: — Агледзець месца здарэння. Апытаць усіх сведак. Анікому з іх цалкам не даваряць, бо людзі часта знарок падманваюць або незнарок блытаюцца ў паказаннях. А ў працаколе запісаць толькі істотныя моманты справы.

— Ваша міласць забыліся дадаць пра пошук доказаў, — нагадаў юнак.

— У выпадку, калі адбылося злачынства, — хмыкнуў Кросбах.

Ён падняўся на ганак, узяў бразготку ў выглядзе галавы барана, якая вісела на ланцугу, ды забарабаніў у абабітыя жалезам дзверы.

Гасцям адчыніла служанка — маладая, круглатварая, мажная ў плячах, пасма русых валасоў выбівалася з-пад чырвонага каптура.

Вялікія сенцы асвятляў ліхтар з мутным шклом і тоўстай свечкай. Высокае скляпенне абапіралася на круглыя масіўныя слупы. Уздоўж сцен складзіраваліся куфры і бочкі. Прахалодай павявалі расчыненыя дзверы ў сутарэнне, дзе размяшчаліся кладоўкі ды пакоі для прыслугі.

— Гаспадар чакае вас, — напаўпрысела ў паклоне служанка.

— Хто быў дома, калі здарылася няшчасце? — спытаў яе Кросбах.

— Анікога. Я сышла на рынак, а гаспадар — на бровар, — адказала тая.

Яна суправадзіла гасцей па каменнай лесвіцы на другі паверх.

Кросбах звярнуў увагу на цішыню ў доме, спытаў служанку:

— А дзе, фройляйн, уся прыслуга?

— На бровары працуюць, — пачырванеўшы, адказала тая, — час для жалобы прыйдзе пазней. Гер Будштэд не спыняе выраб піва. Інакш яго месца на рынку зойме нехта менш сентыментальны.

Гаспадар дома сапраўды не ствараў уражання чуллівай асобы — каржакаваты, шыракатвары, з адвіслымі шчокамі ды вялікім плешам. Пакланіўшыся юстыцрату і коса зірнуўшы на Станкевіча, Будштэд расказаў, што апошнім часам жонка цяжка хварэла на страўнік, маўляў, казала, што лепей ёй памерці, чым трываць такі боль…

Гаворка ішла па-нямецку, але Станкевіч амаль усё разумеў, бо за два гады жыцця ў Кнайпхофе няблага засвоіў гаворку тутэйшага люду. Аднак анікому ў тым не прызнаваўся, мяркуючы, што болей даведаецца, калі месцічы будуць лічыць яго тыповым лацінамоўным шкаляром.

— Значыць, з матывам самагубства ўсё праяснілася, — зрабіў выснову Карл фон Кросбах.

— Трэба для пратакола вызначыць час смерці, а таксама некаторыя акалічнасці, — глуха прагаварыў па-лацінску Станкевіч.

Ягоны голас змусіў юстыцрата наструніцца. Кросбах ужо засвоіў, што калі юнак гаворыць нягучна і выразна, значыць, не ўсё тут ладам. Бо як толькі штосьці насцярожвала Станкевіча, то яго маўленне цішэла, а ў паводзінах з'яўлялася абачлівая стрыманасць.

— Я абавязаны ўбачыць цела, — звярнуўся да гаспадара Кросбах, прыязна ўсміхнуўшыся.

— Прашу за мной, — заклапочана патэпаў той у калідор.

Шумна дыхаючы, Будштэд завёў візіцёраў у спачывальню, якую фраў Будштэд абрала месцам для гвалту над сабой. Драўляныя сцены невялікага пакоя пакрывала разьба — не абцяжараныя адзеннем жаночыя выявы алегорый Дабрабыту, Шчасця, Ашчаднасці, Пяшчоты і Розуму. Вакол іх круціліся пузатыя сатыры, нечым падобныя да гаспадара дома.

Сонечнае святло падала снапамі скрозь зеленаватае круглае акно. Падлога нагадвала шахматную дошку — белыя квадратныя пліты чаргаваліся з чырвонымі. Побач з шырокім ложкам зеўраў prасторны комін. Яго жалезны каўпак трымаўся на каменным карнізе.

Разьба ўпрыгожвала і столь — драўляныя кветкі розных памераў і формаў віліся вакол трох папярэчных бэлек. На сярэдняй вісела нябожчыца — рудаваласая кабета з пасінелым тварам, вытарашчанымі вачыма і распухлым высунутым языком. На яе падбародку засохлі выдзяленні, а на шэрым фартуху — сляды ванітаў. Мокрая сіняя спадніца смярдзела. Жаўтаватая вадкасць распырскалася па падлозе. Паваленае крэсла ляжала спінкай да падаконніка.

Гаспадар, які ўвайшоў першым, адышоў у вугал і запэўніў:

— Тут усё так, як было, калі я ўбачыў Грэту, — затым сеў на лаву, сашчапіў тоўстыя пальцы на жываце і сярдзіта засоп.

На парозе ціха з'явілася служанка, склала далоні на фартуху і запытальна паглядзела на майстра Будштэда, чакаючы распараджэнняў.

Юстыцрат і Станкевіч наблізіліся да мёртвай, стараючыся не ступіць у лужыну.

— Вашы высновы? — звярнуўся па-лацінску Кросбах да юнака.

— Смерць была гвалтоўнай, — адказаў Станкевіч, разглядваючы рукі нябожчыцы. — След ад вяроўкі на бэльцы шырокі. Значыць, яе не проста закінулі, каб павесіцца, а доўга тузалі перад тым, як фраў сканала. Дакладней кажучы, пакуль гаспадыня памірала… Яе моцна трымалі, калі яна торгалася ў пятлі, — указаў ён на чырвоныя сляды на запясцях кабеты. — Я бачыў, што адбываецца з павешанымі пасля пакарання. Калі вяроўка ім ламае шыю, яны выпускаюць са страўніка ўсё змесціва. Мача сцякае ў лужыну пад нагамі памерлага. А тут яна распырскана па ўсім пакоі. Значыць, жанчына не рэзка сарвалася з крэсла, а ёй на шыі завязалі пятлю, падцягнулі да бэлькі і душылі. Пра гэта сведчыць і высунуты язык. Кабета хапала ротам паветра. Нарэшце нахіл галавы, — торкнуў Андрэй пальцам да бэлькі. — У самазабойцы зламаная шыя схілілася б убок. А ў фраў Будштэд галава нахілена наперад. Дадатковае сведчанне, што яе душылі.

— Не жэстыкулюйце, калі ласка, — ціха папрасіў Кросбах.

Станкевіч скасіў вочы — яму падалося, што гаспадар устрывожыўся. Няўжо півавар разумее лацінскую мову? Месцічам Кнайпхофа такое збольшага было не ўласціва.

Андрэй абышоў крэсла, спыніўся каля коміна, абыякава прагаварыў:





— На штанах гаспадара і спадніцы служанкі захаваўся пах урыны. Значыць, абодва стаялі блізка ад фраў Герды ў момант яе смерці. Падазраю, што майстар Будштэд цягнуў вяроўку, перакінутую цераз бэльку, а служанка трымала гаспадыню за рукі.

— Вашы назіранні супадаюць з маімі, — задаволена зманіў Карл фон Кросбах. — Якія ж верагодныя матывы злачынства?

— На ганку служанка ўвяла ў зман вас, экселенц, калі спыталі яе, хто быў дома ў час здарэння. Яна скіравала вочы ўніз і сказала, быццам сышла на рынак. Гэтак жа звычайна скіроўваюць позірк долу шкаляры на іспыце, калі не вывучылі прадмет і падманваюць выкладчыка. А калі на лесвіцы вы, экселенц, назвалі служанку «фройляйн», яна інтуітыўна паклала далонь на жывот. Мяркую, вы і самі здагадаліся, што ў гаспадара і служанкі ўтварылася незаконная сувязь. Пэўна, Будштэду надакучыла старая жонка, і ён такім чынам вызваліў сябе ад шлюбных абавязкаў. А можа, жонка дазналася пра залёты мужа і магла б зняславіць яго на ўвесь горад, папсаваць яму рэпутацыю...

— Падрабязнасці выявім на допыце, — дакляраваў юстыцрат.

Вось тут і высветлілася, што госці дарма недаацанілі лінгвістычны талент гаспадара. Аказваецца, лаціну ён крыху разумеў — недарма столькі піва прадаў студэнтам і выкладчыкам. Нечакана для візіцёраў майстар Будштэд ускочыў з лавы і так заехаў масіўным кулаком у грудзі Кросбаху, што юстыцрат аж уляпіўся ў шахматную падлогу, грукнуўся патыліцай аб дошкі і раскрыжаваў рукі.

На шыі півавара надзьмуліся жылы. З раз'ятраным ровам ён схіліўся над Кросбахам і прыўзняў кулак, каб праламаць юстыцрату галаву.

Станкевіч на імгненне знерухомеў ад жаху, а потым зачарпнуў з коміна жменю попелу, падбег да гаспадара і сыпануў чорны пясок яму ў твар. Будштэд яшчэ паспеў ударыць — кулак стукнуў побач з вухам Кросбаха, прабіўшы расколіну ў падлозе — ды закашляў і пацёр вочы.

Не разгубіўся і юстыцрат. Ён стукнуў злачынца ў самае ўразлівае месца — у нос. Кроў струменем пырснула на Кросбаха.

Півавар зароў, страціўшы зрок ад болю, адкінуўся на бок.

Юстыцрат лоўка ўскараскаўся яму на спіну, заламаў абедзве рукі.

Будштэд намагаўся вырвацца, аднак Кросбах аглушыў яго ўдарам кулака ў скроню.

— Здымі пояс! — крыкнуў юстыцрат Станкевічу. — Звяжам яму рукі…

Ён не паспеў дагаварыць, як служанка, якая слупам стаяла на парозе, знянацку азвярэла заверашчала, падбегла да юстыцрата ззаду і ўваткнула яму пальцы ў вочы. Кросбах пранізліва закрычаў.

Андрэй падляцеў да служанкі ды раздзёр ёй шчаку пазногцямі. Віскнуўшы, кабета інтуітыўна паднесла далонь да скрываўленага твару.

Кросбах, выгнуўшыся, з усяе моцы ўдарыў яе локцем у лоб.

Служанка не ўтрымалася на нагах, гучна ікнула і звалілася кулём.

— Запомніце: падымаць руку на слабы пол дапушчальна толькі ў выключных абставінах, — прамармытаў юстыцрат, прымаючы з рук Станкевіча пояс і абкручваючы гнуткай скурай запясці півавара.

Андрэй міжволі прыгадаў, як часта ў родным доме бацькаў бізун скакаў па спіне матулі ды па сцёгнах сясцёр, ды заявіў:

— Зараз якраз такія акалічнасці, мой экселенц.

***

Сінеча неба над Кнайпхофам афарбавалася барвовым захадам сонца.

Андрэй Станкевіч і Карл фон Кросбах нетаропка брылі з ратушы.

Мінула амаль пяць гадзін з моманту, як яны пераступілі парог дома півавара Зейфрыда Будштэда на вуліцы Святога Даміяна. За гэты тэрмін яны паспелі выкрыць злачынства, звязаць забойцу і яго саўдзельніцу, перадаць іх вартаўнікам (Андрэй збегаў у ратушу па «міліцыянерамі», пакуль юстыцрат каравуліў затрыманых у доме) і скласці пратаколы. Дарэчы, апошняя справа заняла ў іх найболей часу.

Цяпер шлях стомленых ахоўнікаў закону пралягаў міма калодзежа на рагу Булачнай і Кавальскай вуліц. Насустрач ім, звонка перамаўляючыся, ішлі дзяўчаты, неслі вёдры і збаны з вадой. Кабеты, седзячы на ганках сваіх дамоў, бадзёра мылі бялізну ў ночвах і балеях. Памытае адзенне і тканіны гайдаліся на вяроўках, нацягнутых над вулкаю ўздоўж. У расчыненым акне за падаконнікам уладкаваўся шавец з дратваю, ладзіў падэшву бота. У суседнім доме на такім жа рабочым месцы збройнік майстраваў рыцарскі шалом.

Станкевіч усё яшчэ не супакоіўся пасля перажытага. Успамінаў, як дапамагаў вартавым вымаць з пятлі ды ўкладваць на насілкі адзеравянелае цела фраў Герды Будштэд, і нервовая трасца прабірала хударлявага юнака. Не аднойчы ўжо Станкевіч перажываў такое: у момант небяспекі дзейнічаў безразважна рашуча, а потым у сэрца ўкрадваўся гнятлівы страх, і хлопец троссяся, бы асіна на балоце.

Кросбах суперажывальна паклаў яму далонь на плячо, уздыхнуў, потым засаромеўся сваёй чуллівасці ды схаваў руку за спінаю.

— Я ўвайшоў у свет цёмных людскіх учынкаў, калі быў не нашмат старэйшы за вас, — сказаў ён Андрэю. — І спачатку адчуваў сябе зусім непамысна. Калі першы раз даследаваў нябожчыка, то ванітамі запэцкаў увесь пакой. А вы ў першым жа выпрабаванні праявілі кемлівасць і цвёрдасць. Я ганаруся такім памочнікам.

Андрэй адчуў лёгкі сорам ад таго, што яму прыпісваюць неіснуючыя вартасці. Але ж рэпутацыя смельчака так цешыла самалюбства! Дык хлопец далікатна прамаўчаў. А юстыцрат, між тым, учыніў роспыт:

— Пра што зараз думаеце?

— Пра тое, што смерць фраў Будштэд не застанецца без пакарання. Душа яе знойдзе спачын… А яшчэ пра тое, што заўтра адбудзецца новае забойства, крадзеж або гвалт. І паслязаўтра. Праз тыдзень, праз месяц і праз год. А мы з вамі, як той Сізіф з элінскага падання, будзем каціць угору камень законнасці, які назаўтра зрынецца назад.

— Так будзе не заўсёды, — абнадзеіў начальнік памочніка. — Аднойчы я сканаю ад старэчай нягеглясці. Або ад корда забойцы. І давядзецца вартаваць вам справядлівасць ужо без маёй падтрымкі.

— Значыць, з распачатага мной эксперымента знікне важны складнік. Аднак жа потым з’явяцца іншыя. Калісьці я таксама сыду ў нябыт. Ды спадзяюся да тае пары здабыць Боскую ласку за тое, што зраблю. За тых, каго ад смерці ўратую. За тых, каму дапамагу.

— Эксперымент, кажаце? — здагадаўся Кросбах, што мае на ўвазе памочнік. — Гляджу, прафесар Прудэнцыус грунтоўна забіў вам галаву Таемным мастацтвам. А ці не задумваліся пра тое, што жыццё — гэта зусім не фізічны эксперымент, але сукупнасць недарэчнасцяў, з якіх нейкім дзівам утвараецца заканамернасць?

— З досведу, здабытага на службе ў доктара Прудэнцыуса, я засвоіў, што, калі наш свет утварыўся ў выніку Боскага эксперымента, то, верагодна, Гасподзь жадае, каб мы, Яго дзеці, эксперыментавалі з лёсам адпаведна правілам, агучаным у Пісанні. Кожны з нас мусіць пераўвасабляць хаос у парадак, злачынства ў пакаранне, беззаконнасць у справядлівасць, жорсткасць у гуманнасць, ліхадзейства ў парадак. Тады, упэўнены, наша зямля будзе болей адпавядаць Боскаму Замыслу.

Юстыцрат іранічна кашлянуў. Маўляў, не разумее юны летуценнік, што запрагаецца ў непад’ёмны воз.

Яхідства начальніка не ўтаілася ад праніклівага памочніка.

— Няхай мае намаганні і акажуцца марнымі, — сказаў Станкевіч. — Не вялікая бяда!.. У філасофскім эксперыменце галоўнае не вынік, але рух да ісціны. Той, хто распазнае загадкі ў чалавечых сэрцах, лепей пачуе голас Бога ва ўласным. А калі буду хаўрусаваць з сумленнем, нябёсы, веру, мне ахвотна дапамогуць.

І ўпершыню за апошнія два гады ўсміхнуўся, шчаслівы.



Зміцер Захарэвіч

**нарадзіўся 20 сакавіка 1980 года ў Мінску. Скончыў гістарычны факультэт БДУ. Маёр запасу. Выступае як аўтар-выканаўца песень пад гітару. Цікавіцца вайсковай гісторыяй і сібірскім рок-андэграўндам 1980-х. «На маю думку, у паэзіі разам з класічнымі «Слуцкімі ткачыхамі» поўнае права на існаванне мае і «Дыр бул шчыл…», напрыклад, як эмацыянальны выбух творцы. Зрэшты, чаму «мае права на існаванне»? Ужо існуе, нягледзячы на ўсю сваю антыакадэмічнасць», — лічыць Зміцер.**

## Стыхій непрадказальны нораў

### Чарнабад[1]

Дабранач —
чана́рбаД.
Чарнаба́д,
Над
Якім
Месяца паўабаранак
На мінарэце.
І, нібы муэдзін,
Вецер
Кліча світанак
З-за краю Сусвету:
«Хоць на ганак
Мячэці
Прыйдзі,
Апаляючы за вярстою вярсту! —
Я рады адзін
Не дам, брат,
Каб ад мёртвага сну
Абудзіць
Чарнабад!..»

[1] «Бад» (усх. мовы) — горад.

### Штурман

Наш карабель ізноў шугае, не плыве —
Шалее непагадзь, што хлынула з усходу,
І бура ветразі над Балтыкай ірве,
І ноч гусцейшая за штурманаў бароды.

Праменным ранкам пакідалі сонны порт,
Але ў стыхій непрадказальны, страсны нораў:
Нам засцяць вочы рэзвых хваляў пырскі й пот
Няспынна, покуль мора не ў гуморы.

Каб падбадзёрыць, красамовіць капітан —
Раве, як поп п’яны з амбона, пра адплату.
Але ў прасоленай камандзе няма дам,
І значыць, вырвемся са згубнага квадрата.

…Пасля, ачомаўшыся ў рубцы ад прыгод,
Мне брэндзі ў пляшцы шчо-
дры штурман прапануе:
«Відаць, счакалася… Жыццё ў Яго не мёд —
Матросаў Мора да Зямлі здаўна раўнуе».

## Тры сястры

*(наследаванне песням ландскнехтаў XVI—XVII стст.)*

Як згаснуць водбліскі зары
І ў табары заснуць,
Скрозь ноч глухую тры сястры —
Тры здані пабрыдуць.
На варце не спудлуй, ландскнехт,
Не лямантуй дарма —
Не дасць ім рады твой мушкет,
Як смеласці няма.

Знак у малодшай на чале
І валасы як смоль.
Не ўнікнуць подыху яе
Ні крамнік, ні кароль.
Лунаюць пасмы за спіной,
Бы крылы варання,
З вачніцаў выцякае гной.
Чума яе імя.

Рудзейшая, чымся агонь
На дахах нэндзных хат,
Сярэдняя, а голас — стогн
Набату ў спеў гармат.
За золата, што плацяць нам,
Гарыць ярчэй яна.
Нясе наедак груганам,
Яе завуць — Вайна.

А трэцяя — бялей за лёд,
З кульбакаю крывой,
Збірае сёстраў шчодры плён
Касцістаю рукой.
І, без'языкая, імчыць
За імі, каб паспець.
На голых рэбрах крумкачы,
Імя старэйшай — Смерць.

Сляпая поўня. Табар спіць.
Плыве ў паветры снег.
На варце ноч усю стаіць
Хаморлівы ландскнехт.
Адзін — да ранішняй зары,
Таму стрываць не змог,
І тры ўладарныя сястры
Яго збіваюць з ног...

## На восеньскім узбярэжжы

Марнее,
маркоціцца мора
Да дна.
Гонар
гарэць яго не разгорыць.
Шкада.

І шэсцем —
перашэпт шэрых хваляў
Ля ног,
Бо сёння
сонца сонным устала,
Дальбог.

Птушак
запусціць у пустку
Нябёс.
А бераг
брутальны, бы бруствер.
Як ёсць…

Вярбою
Вецер віхляе.
Наўсцяж
Фарбаў бракуе,
І не ўзрушае
Пейзаж.

***

След у гарачым асфальце
І следавік наўзбоч поля.
Першыя — цывілізацыя,
Другія — месцы намоленыя,
Да якіх дзяды скрозь стагоддзі
Дарункі з пашанай неслі,
Верачы — поле народзіць
Да зажынкавых песняў.
На водгулле іх з нябёсаў —
Апякунства сваё засведчыць —
Зыходзіла Матка Боская
І пакінула знак навечна
На камені на ўзмежку жыта,
Край наш дабраславіўшы.
Значыць — наканавана жыць нам
У ласцы й любові вышняй,
Нават найзмрочнай парою
Сеяць у прышласць зерне,
У сэрцы мець веру, як зброю,
І да зямлі сваёй вернасць!

## Тое, што люблю

Я тут самотна баўлю дзень пры дні —
Дзівацтва небогведама якое —
Сышоў у засень саду і спакою
Ад гарадскіх навін і сумятні.

Ці ж я адзін? — Дасужыя шпакі,
Шэкспір і Ніцшэ, працьма перакладаў,
Якім, відаць, ніколі не дам рады —
Пустэльнік у гасподзе ля ракі.

Тут стаў пераглядаецца з вярбой,
Абвіўшы ўранку туманом ёй плечы,
І ўночы аб мінулым вецер сведчыць,
Аж сорамна за створанае мной.

Хай пад акном апалі касачы —
Ляжаць пялёсткі пер'ем сцятых крылаў, —
А неба гэтак блізка, што пад сілу
Крануць рукой любую з аблачын.

***

Пацалунак з прысмакам міндаля,
У чаканні выстылы перон…
Доўгая дарога ад вакзала
Да цябе ў някемлівым метро.

Крокі сон суседскі не парушаць
І няважным зробіцца, што зноў
Аб табе падораныя ружы
Я далоні ў жарсці пакалоў,

Калі здымеш у вітальні плашчык
І нарэшце будзем tête à tête,
Каб да ранку знікнуць у бясчассі,
Ля дзвярэй пакінуўшы букет.

Прагныя, у слодычным трымценні,
Верныя газелям Шыразі́,
На шпалерах нашыя два цені
Апантана злу́чацца ў адзін.

Аднаісна п'ём нектар бяссоння,
Засцячы сузор'евы прасцяг.
І ўладарна ноч наўсцяж напоўняць
Міндалёвы прысмак твой і пах.



*Сяргей Белаяр у гэтым нумары выступае у не зусім звыклай для чытача (а можа, нават і для самога сябе) іпастасі. Усе мы добра памятаем яго навукова-фантастычную серыю пра інтэлектуала Сарву. Але гэты нумар — фантастычны, усё ў ім куляецца з ног на галаву. І перад намі — не навукова-фантастычнае апавяданне, дзеянне якога адбываецца ў расплывіста-далёкай будучыні, але самая надзённая, наўмысна завострана-сацыяльная антыўтопія.*

*Нібыта-шчаслівы свет усеагульнай талерантнасці да меншасцяў апынаецца светам, дзе пад прыгнётам — большасць. Звычайны чалавек тубыльцам такога свету падаецца вылюдкам, звыклыя чалавечыя стасункі — недапушчальнымі.*

*Згушчэнне фарбаў на асобных дэталях, акцэнты на пачварнай «вывернутасці» свету, перамешванне ў галаве цэнтральнага персанажа рэальнасці і ўспамінаў, — усё тут, як у прыстойнай антыўтопіі, працуе на папярэджанне.*

*А інакш…*

Сяргей Белаяр

## Стралок

*Антыўтопія*

HTML-старонка, падпарадкоўваючыся руху пальца, павольна слізгала па маніторы. Пагляд Дэніэла О'Хары зачапіўся за навіну — «Асоба з храналагічным патэнцыялам, якая жыве ў правінцыі Гуандун, пагадзілася расстацца з цнатлівасцю ў абмен на смартфон. Яна выклала свае фатаграфіі ў сацыяльнай сетцы і напісала, што гатовая пераспаць з любым, хто купіць ёй смартфон».

О'Хара прыгнечана паківаў галавой:

— Вырашана. Сёння!

Раздрукаваўшы дзесяцістаронкавы дакумент, О'Хара сунуў стос аркушаў у чысты канверт і вялікімі літарамі напісаў на ім «Маніфест», пасля чаго прыціснуў канверт клавіятурай. Яго знойдуць, калі ўсё скончыцца. Людзі павінны ведаць, што Дэніэл О'Хара ніякі не маньяк. Гэта было б занадта проста і зручна ўладам.

Выключыўшы камп'ютар, О'Хара вырваў штэпсель сеткавага фільтра і прайшоў у ванны пакой, дзе плюхнуў жменю халоднай вады ў твар. Дэкадэнцтва зайшло занадта далёка. Час прымаць меры.

— Кроў змые бруд! Гэты свет можна выправіць толькі свінцом!

З трэснуўшага люстэрка на О'Хару глядзеў дваццацігадовы стары. Вада не змагла змыць ані стомленасць, ані злосць.

Вярнуўшыся ў пакой, О'Хара выцягнуў з-пад ложка стары армейскі баул і вываліў на коўдру яго змесціва. Самазарадная вінтоўка дасталася яму ад бацькі. Дакладней ад «бацькі нумар адзін». О'Хара сумна ўсміхнуўся. «Бацькам нумар два» таксама быў мужчына. Чортаў Пол Адзінгтан...

Помпавую стрэльбу О'Хара купіў сам, на грошы, зробленыя ў кафэ. Праца была цяжкай і няўдзячнай, аднак дазваляла мець некалькі лішніх манет. Нядрэнная дапамога для студэнта каледжа, які жыве на невялікую стыпендыю і нячастыя падпрацоўкі рэпетытарам.

І самазараднай вінтоўкай, і стрэльбай шмат карысталіся, але ўсе механізмы былі спраўныя. Патрабавалася толькі зарадзіць зброю.





На тое, каб падрыхтаваць магазіны, сышло паўгадзіны. О'Хара не спяшаўся — працэс супакойваў і адцягваў ад змрочных думак. Зброя дарыла адчуванне сілы.

— Нам сёння прыйдзецца шмат папрацаваць, сябры мае! — О'Хара пяшчотна пагладзіў вінтоўку і стрэльбу, пасля чаго сунуў іх назад у баул. Туды ж адправіліся магазіны і кардонная скрынка са стрэльбавымі патронамі.

Рваныя джынсы і скамечаная футболка ў спалучэнні з кедамі для сённяшняга дзейства не падыходзілі, таму О'Хара пераапрануўся. На яго погляд, аліўкавыя вайсковыя штаны і кіцель былі яму да твару. Зашнураваўшы чаравікі і выкурыўшы цыгарэту, О'Хара падхапіў баул і замкнуў за сабой дзверы. У пакой павінны ўвайсці паліцыя і журналісты, а не рабаўнікі.

— У мяне ўсё атрымаецца! Я прымушу людзей задумацца!

Смецця на лесвіцы хапала — гаспадар арэнднага дома не надта клапаціўся аб чысціні. Містара Томсана куды больш хвалявалі грошы. Сцены пакрывалі графіці. Нічога, акрамя абурэння, яны не выклікалі.

— Рана ці позна за ўсё прыйдзецца плаціць!

Вуліца сустрэла О'Хару цёплым, зусім не лістападаўскім ветрыкам і ракатаннем мноства аўтамабільных матораў.

— Усё спяшаецеся і ніяк не паспяваеце! Няма часу падумаць пра душу! Нічога... Я вас прымушу задумацца аб тым, што адбываецца!

Ад хвалявання трапіць ключом у замочную шчыліну атрымалася не адразу. О'Хара загадаў сабе супакоіцца, інакш уся задума асуджаная на правал. А наступны раз...

— Наступнага разу не будзе!

Матор старэнькага аўтамабіля завёўся з паўабарота. О'Хара дазволіў рухавіку папрацаваць некалькі хвілін на халастых абаротах, затым уліўся ў транспартны паток. Час набліжаўся да поўдня, так што людзей на вуліцах хапала. Большасць спяшалася па сваіх справах, ні на каго не звяртаючы ўвагі.

— Вы лічыце сябе гаспадарамі жыцця, а насамрэч — толькі марыянеткі ў руках падонкаў, для якіх няма нічога святога. Але сёння ўсё зменіцца — вы пачняце думаць уласнымі мазгамі і навучыцеся самастойна прымаць рашэнні!

Мяркуючы па ўсім, дзесьці адбылася аварыя, і частка дарогі апынулася перакрытай. Да каледжа было каля гадзіны язды. О'Хара прыстроіўся за жоўтым школьным аўтобусам.

— Чаму мы сядзім, а бабуля стаіць? Ёй жа цяжка!

— Разумееш, сынок, калі мы саступім ёй месца, то можам пакрыўдзіць яе!

— Як гэта? — вочы маленькага Дэніэла сталі круглымі ад здзіўлення.

— Зараз паспрабую растлумачыць. Калі мы ўстанем, то гэтым самым прадэманструем, што маладзейшыя і мацнейшыя за яе.

— Так яно і ёсць! Бабуля старая і слабая, і мы павінны саступіць ёй месца! Так мяне вучыла мама!

— Не ўсё так проста, Дэніэл. Па-першае, перастань называць яе бабуляй. Указанне на ўзрост і пол — абраза! На нас могуць падаць у суд за ўказанне на тое, што асоба — непаўнавартасная!

— Але тата...

— Не тата, а бацька нумар адзін! Колькі можна паўтараць?.. Гэта не бабуля і не жанчына, а храналагічна адораная вагінальная асоба! Па-другое, забудзь усё, што казала Эрыка! Інакш скончыш, як яна!

— У турме?

У заднім акне аўтобуса дражніліся двое хлапчукоў не старэйшых за восем гадоў. О'Хара злавіў сябе на думцы аб тым, што тады яму было прыкладна столькі ж.

Убачыўшы, што О'Хара не рэагуе, хлапчукі пераключыліся на таўстуна ў чырвоным пікапе.

— Не таўстуна, а на асобу, якая пераадольвае цяжкасці праз свае гарызантальныя прапорцыі... Куды коціцца гэты свет? Мала таго, што мы лічым белае чорным, а чорнае — белым, дык яшчэ і можам атрымаць кухталёў за тое, што называем рэчы сваімі імёнамі!

Рукі пацелі, і О’Хара па чарзе выціраў іх аб штаны. Як ён і баяўся, захоўваць спакой аказалася няпроста. Усё ж такі не кожны дзень бярэш у рукі зброю.

— Мілы, я патрабую, каб ты неадкладна пазбавіўся ад гэтага праклятага аўтамата! Ён агідны і палохае мяне! Альбо ты хочаш, каб я атрымаў стрэс і не мог больш пісаць? — Пол Адзінгтан быў апрануты толькі ў кароткі шаўковы халат, які адкрываў ягадзіцы з гуллівай татуіроўкай.

— Што ты такое кажаш, каханы? — бацька ўскочыў, ледзь не паваліўшы камп’ютар. — У мяне нават у думках не было замінаць табе тварыць!

— У такім разе зараз жа выкіні гэту пачварнасць з дому!.. Ах, мне трэба выпіць — пачынаецца прыступ мігрэні!

Бацька выцягнуў вінтоўку з насценнай шафы, але выкідаць зброю не стаў. Яна перавандравала на гарышча, дзе была забытая. Лепшага месца не прыдумаеш — бацька нумар два ніколі не заглядваў туды, бо панічна баяўся бруду і пылу.

Праехаўшы з сотню метраў, машыны зноў дружна ўсталі.

— Пракляты гарадскі трафік!

Тыя, у каго нервы былі слабейшыя, раз-пораз да тлуму ціснулі на клаксан. Сёй-той лаяўся. І ўсе стараліся праравацца наперад.

— І ніхто не прапусціць «хуткую»! Пэўна такая ж спяшалася да Сьюзан!

Карэту «хуткай дапамогі» заціснулі паміж грузавіком, пазадарожнікам і седанам. Кіроўцы ігнаравалі пробліскавыя маячкі і сірэну.

О’Хара да хрусту ў пальцах сціснуў абаранак, змагаючыся са спакусай вылезці з машыны і навесці на дарозе парадак.

— Эгаізм стаў другім імем чалавека!

З кожнай хвілінай думкі станавіліся ўсё цяжэйшымі. Раздражненне ўзмацнялася і патрабавала тэрміновага выхаду. О’Хара скасіў погляд на баул і аблізнуў перасохлыя вусны.

— Дэн, старайся страляць чэргамі па тры-чатыры патроны. І мацней прыцiскай прыклад да пляча, тады вінтоўка не будзе так гуляць! — ад Сьюзан пахла маладой ігліцай. Пах перабіваў нават смурод пораху. — І не заплюшчвай вочы!

О’Хара кіўнуў і пацягнуў спускавы кручок. Вінтоўка некалькі разоў нямоцна тузанулася, выпусціўшы па пустой кансервавай банцы з дзясятак куль.

— Не, Дэн! Лічы сам сабе — дваццаць два!

«Дваццаць два!»

Чарга выйшла карацейшай.

— Ужо лепш! Праз месяц-другі трэніровак навучышся страляць, як профі!

О’Хары падабалася займацца з дачкой адстаўнога сяржанта марской пяхоты МакКалаха. Яна была так не падобная на аднагодкаў і большасць дарослых. О’Хара не раз лавіў сябе на думцы аб тым, што яму лёгка са Сьюзан.

— І не забывай лічыць патроны. Інакш у самы непадыходзячы момант застанешся з пустым магазінам!

Яны выбіраліся ў крэйдавы кар’ер кожныя тры тыдні. Дзень стрэльбаў О’Хара чакаў нібы свята. Бо ў іншы час ён мог пагутарыць са Сьюзан толькі па «асьцы». Пра тое, каб патэлефанаваць, не магло ісці гаворкі. Бацька, якога падбіваў Пол Адзінгтан, быў супраць таго, каб ён меў зносіны з «рэтраградамі».

На тое, каб выбрацца з затору, пайшло амаль паўгадзіны.

Каля закрытай некалькі гадоў таму бібліятэкі рабочыя ўсталёўвалі новы білборд.

— Дазволь сабе шмат...

Паміж «м» і «т» О’Хара налічыў з тузін стылізаваных пад сімвал грошай літар «а». Не трэба быць геніем, каб зразумець, на што намякае рэклама. Спажывецкае грамадства не прызнавала межаў.

— Нарэшце закрыюць гэты рассаднік сексізму і фашызму! — запляскаў у ладкі Пол Адзінгтан, калі пачуў паведамленне дыктара службы навін. Бацька нумар два на дух не пераносіў усяго таго, што было звязана са «старым» светам. — І людзі ўздыхнуць з палёгкай!

— Але як жа без кніг? — здзівіўся Дэніэл.





— Вельмі добра! Людзям не патрэбны бруд! Яны павінны чытаць выключна новую літаратуру!

— Якую, містар Адзінгтан? — язык не паварочваўся назваць сужыцеля бацькі татам.

— Тую, што выхоўвае чалавека ў духу цярпімасці!

Дэніэл не стаў развіваць тэму. Пол Адзінгтан лічыў сваё меркаванне адзіна правільным. Спроба даказаць яму што-небудзь, нязменна канчалася істэрыкай бацькі нумар два і шматгадзіннай адседкай у каморы на галодны страўнік.

— Ведаў бы ты, тата, як крыўдна, калі самы блізкі чалавек ніколі не становіцца на твой бок!

Злосць асляпіла.

О’Хары каштавала немалых намаганняў узяць сябе ў рукі. Не хапала толькі ў што-небудзь урэзацца. Паліцэйскім відавочна не спадабаюцца два «ствалы» ў багажніку. Пешшу з цяжкім баулам да каледжа не дайсці — спыніць першы ж патруль.

О’Хара закурыў, незадаволена адзначыўшы дробны трэмар пальцаў. Тытунёвы дым уварваўся ў лёгкія і прасвятліў галаву. На жаль, справіцца з хваляваннем нікацін не дапамог. А О’Хару як ніколі патрабаваўся спакой. Прыцягнуць увагу грамадства да праблем адно, а трэба яшчэ будзе зрабіць заяву...

Ад рэкламы, якая ў большасці сваёй прапаноўвала зусім непатрэбныя рэчы, мітусілася ў вачах. Мэрыя старалася з максімальнай эфектыўнасцю выкарыстоўваць кожны гарадскі метр.

— З максімальнай эфектыўнасцю для сваёй кішэні! — прыйшлося прыкурваць другую цыгарэту. Калі салон зацягнула дымам, О’Хара ўспомніў пра тое, што неабходна адкрыць акно.

Цёплы вецер слізгануў у выраз кіцеля. Дотык быў мяккім, нібы скуру кранула рука маці.

Бацька даваў мала кішэнных грошай, так што Дэніэл не мог дазволіць сабе электронныя кнігі. Тыя рэдкія папяровыя, якія з вялікай цяжкасцю ўдавалася дастаць, прыходзілася ўвесь час хаваць. Балазе, дом у прыгарадзе дазваляў рабіць схованкі. Зрэшты, пазбегнуць прачуханца за чытанне не ўдалося. Як ужо Адзінгтан даведаўся пра тайнік, заставалася толькі здагадвацца.

Тое, што яго пакараюць, О’Хара зразумеў адразу, як толькі ўвайшоў у дом. Бацька нумар два ляжаў на канапе з мокрым ручніком на лбе. У холе пахла лекамі.

— Гэта не дзіця, а пакаранне! Замест таго, каб расці годным членам грамадства, ён ператвараецца ў таталітарнага монстра!.. Сёння чытае забароненыя кнігі, а што заўтра? Выйдзе на шабаш рэтраградаў? Заявіць, што талерантнасць — гэта зло?

Бацька маўчаў. На яго шчоках хадзілі жаўлакі.

— Я не магу спакойна працаваць побач з гэтым маленькім вырадкам! Дзе гарантыя, што ён не ўсадзіць мне нож у спіну, калі я буду спаць? Або не падсыпле атруты ў ежу?

Дэніэл хацеў запярэчыць, але па панурым поглядзе бацькі зразумеў, што не варта адкрываць рота. Будзе толькі горш.

— З-за такога вось гадзяняці ў нас ніяк не атрымліваецца скінуць ярмо праклятага мінулага! Яны як путы не даюць нармальным людзям расправіць крылы! Баласт — гэта самае дакладнае вызначэнне сына гэтай!..

Пол Адзінгтан кожны раз называў маці «гэтай». Дэніэлу было крыўдна, што бацька нават не спрабаваў абараніць яго.

— Я хачу... не, я патрабую, каб ты як мага больш жорстка пакараў смаркача, мілы!

— Але містар Адзінгтан...

— Каморы будзе недастаткова! Дурасць трэба выбіваць, лепш — бізуном!

— У нас няма бізуна.

— Вельмі шкада!.. У такім выпадку вазьмі рэмень! А я пагляджу, хто з нас табе даражэйшы!

Дэніэл да гэтага часу памятаў той вечар. Бацька мог абмежавацца вуснай вымовай і каморай, але ў прысутнасці Пола Адзінгтана быў вымушаны выконваць яго патрабаванні. Азадак пасля лупцоўкі гарэў двое сутак. Дэніэл не мог спаць на спіне, а школу прыйшлося прапусціць.

— Паскуда! — О’Хара скрыгатнуў зубамі. Адзінгтана ён неўзлюбіў з першага погляду. З гадамі нянавісць толькі мацнела.

О’Хара праехаў некалькі кварталаў, перш чым яго ўвагу прыцягнула дзіўная пара — хлопец і дзяўчына.

Яны трымаліся за рукі.

Па цяперашніх часах адважыцца на такое здолеў бы не кожны. Гараджане лаяліся і праводзілі пару пагардлівымі поглядамі. Сёй-той пляваў у спіну, і толькі ўсёвідушчае вока відэакамер стрымлівала гараджан ад рашучых дзеянняў.

У адрозненне ад бацькі і Пола Адзінгтана, Дэніэл не лічыў дэманстрацыю кахання паміж разнаполымі партнёрамі на людзях абразай маральных асноў.

— Дазваляюць жа асобам з альтэрнатыўнай сексуальнай арыентацыяй цалавацца і лапаць адзін аднаго на вуліцы!

Каля крамы па продажы наркотыкаў сабраліся падлеткі з інтэнсіўна выяўленай пігментацыяй скуры, інакш кажучы — чарнаскурыя. Падлеткі паводзілі сябе задзірліва. У сяго-таго О'Хара заўважыў турэмныя татуіроўкі.

— Падобна на тое, што былыя сацыяльна ізаляваныя асобы і не думаюць пачынаць новае жыццё. А навошта? Дзяржава — багатая, выплаціць дапамогу для беспрацоўных.

На гультаёў трацілiся велізарныя грошы, а карысці ад іх не было ніякай.

— А можа не ехаць да каледжа, а зрабіць усё тут?.. — О'Хара прытармазіў. — Не, усё спішуць на «разборкі» паміж маладзёжнымі бандамі, і рэзанансу не будзе. Нікому не цікавая смерць малалетніх злачынцаў.

Гледзячы ў люстэрка задняга віду, О'Хара ніяк не мог пазбавіцца ад думкі аб падабенстве падлеткаў і зграі малпаў. Гараджане імкнуліся трымацца ад чарнаскурых далей.

Па меры набліжэння да цэнтра горада павялічвалася колькасць расцяжак і білбордаў з сацыяльнай рэкламай.

— Бога няма! Хопіць хваляваца! Атрымлівайце асалоду ад жыцця!.. Няма ані жанчын, ані мужчын! Толькі асобы!.. Паліткарэктнасць — ключ да дабрабыту грамадства!.. Не — вяртанню да мінулага!.. Талерантнасць — вырашэнне ўсіх праблем!..

Беласнежка была чорнай.

Дэніэл збянтэжана глядзеў на малюнак у зборніку дзіцячых казак і ніяк не мог зразумець, чаму гераіня братоў Грым раптам кардынальна змянілася.

— Што табе, О'Хара?

— Міс Радрыгес, скажыце, а чаму Беласнежка больш не белая?

— Вобраз перайначылі ў адпаведнасці з новымі рэаліямі!

З Беласнежкі ўсё і пачалося. Спачатку яна ператварылася ў асобу з інтэнсіўна выяўленай пігментацыяй скуры, затым «чорныя дзіркі» сталі называць «зонамі звыш падвышанай гравітацыі», таму што старая назва магла абразіць чарнаскурых, будынак школы перафарбавалі з «непаліткарэктнага» белага колеру ў чорны, звольнілі трэнера жаночай каманды па футболе за тое, што ён праявіў нябачаны акт сексізму — знаходзячыся ў сцэнцы, асмеліўся прыкрыць рукамі геніталіі пры выкананні штрафнога ўдару, прыбралі з туалетаў пісуары, забаранілі ўпрыгожваць калядныя елкі штучным снегам...

— Чалавек, альтэрнатыўна адораны... Дастаеўскі ў труне перавернецца!

Злосць прымушала скрыгатаць зубамі.

— Дэніэл, ты звар'яцеў? Як можна пасылаць аднакласніцы «валянцінку»?

— А што тут такога?

— Паштоўка можа быць успрынята як непажаданае заляцанне! Нам толькі судовай позвы не хапала!

О'Хара праехаў міма ўзору сучаснага мастацтва — гіганцкай бетоннай скрынкі з метровай дзіркай у цэнтры адной з граняў. Унутры манумента была ўсталяваная калона ў выглядзе двух пераплеценых пенісаў.

Дэніэла перасмыкнула. А вось Пол Адзінгтан назваў аўтара інсталяцыі геніем. І жудасна злаваўся, калі хтосьці сумняваўся ў адоранасці «творцы».

— А чаму мне падарылі на дзень нараджэння ляльку як дзяўчынцы? — ніжняя губа Дэніэла дрыжала.





— Пракляты маленькі вырадак, ты павінен быць удзячны нам за тое, што мы вучым цябе памяркоўнасці з дзяцінства!

— Але я хачу машынку!

— Вытры слёзы, шчанюк, і ідзі ў камору!.. Мілы, калі ласка, дай мне віна — зносіны з гэтым дзіцём шкодзяць маёй нервовай сістэме!

О'Хара скінуў хуткасць і зноў закурыў. Кроў літаральна кіпела ад адрэналіну.

— О'Хара, як вы можаце есці сандвіч, калі вашы школьныя таварышы посцяць? Вы што, не паважаеце іх?

— Паважаю, містар Саліван!

— У такім выпадку неадкладна выкіньце сандвіч у бак для смецця!

— А калі я сяду на лужку па-за тэрыторыяй школы?

— О'Хара, сярод гараджан таксама ёсць тыя, хто не прымае ежу па рэлігійных меркаваннях! Вы хочаце, каб мяне звольнілі з пасады дырэктара?

— Не, містар Саліван!

— Тады выконвайце маё распараджэнне, О'Хара, пакуль я не пакараў вас за праяву «белай перавагі»! Вашым бацькам не спадабаецца, калі я выключу вас са школы!.. І вось яшчэ што, О'Хара. Больш нікому не кажыце пра тое, што вы наведвалі спектакль «Рамэа і Джульета».

— Чаму? У ім жа няма нічога дрэннага!

— Памыляецеся, О'Хара. Спектакль залішне гетэрасексуальны!

Можна было выкурыць і пачак, аднак наўрад ці гэта дазволіла б расслабіцца. Каля перакрыжавання Сорак другой і Трыццаць трэцяй О'Хара параўняўся з патрульнай машынай. Паліцэйскія фліртавалі з дзяўчатамі, якім ледзь споўнілася па дванаццаць гадоў.

— Мілы, давай вып'ем віна! Самага лепшага, што ёсць у нас у склепе!

— Што за нагода?

— Кангрэсмены знізілі ўзрост сексуальнай згоды да адзінаццаці гадоў! Не трэба больш хаваць сваіх пачуццяў да асоб з храналагічным патэнцыялам! Гіп-гіп, ура!

— Можа, варта пачакаць, пакуль законапраект не падпіша прэзідэнт?

— Прэзідэнт — наш чалавек!.. Падумаць толькі — не сёння, дык заўтра мы зможам легальна мець уцеху ад вытанчаных пачуццёвых асалодаў!..

Прыўзняты настрой бацькі нумар два не выратаваў Дэніэла ад пакарання. Усё з-за таго, што ад падлетка «пахла жанчынай». А яны ж проста гулялі са Сьюзан, якая ніколі не карысталася касметыкай, па парку. Нават не трымаліся за рукі, хоць гэта вельмі падабалася Дэніэлу.

— Няўдзячны вырадак! Гэтак ты плаціш нам за тое, што мы кормім, апранаем цябе і даём табе прытулак!

— Што я такога зрабіў, містар Аддзінгтан?

— Ён яшчэ смее строіць з сябе нявіннасць! Які нахабнік! Хочаш выкінуць нас з Эндру на вуліцу, каб пасяліць у нашым доме нейкую сексуальна эксплуатаваную асобу?

— Яна не прастытутка! — не стрываў Дэніэл.

— Усе самкі — карыслівыя істоты!

— Вы не павінны так казаць, містар Адзінгтан!

— А то што будзе?

Дэніэл нічога не адказаў, але змерыў бацьку нумар два ненавісным позіркам.

— Мілы, сынок гэтай мне пагражае! Зараз жа прымі меры!

— Мне здаецца, ты згушчаеш фарбы, каханы.

— Не кажы глупства! Хіба ты не бачыў, як ён на мяне паглядзеў? Пракляты аматар вагін!

— Але...

— Ці я, ці ён!

Бацька быў занадта прывязаны да Пола Адзінгтана, каб пярэчыць яму. І гэтым разам усё скончылася перамогай бацькі нумар два.

— Патрымай гадзіну зэдлік у выцягнутых руках і падумай аб сваіх паводзінах, шчанюк!

— Каханы, а можа, проста пасадзім яго ў камору?

— Заткніся, Эндру! Гэтым разам маленькае гадзяня зайшло занадта далёка! Мы не павінны спускаць яму гэта з рук!

Паліцэйскія нават не павярнулі галовы ў бок аўтамабіля О’Хары.

— Спадзяюся, начальства па заслугах ацэніць вашу цягу да маладой плоці!.. Сукі!

Праз паўгадзіны на гарызонце нарэшце паказаўся гатычны будынак каледжа.

О’Хара прыпаркаваўся на стаянцы і выдаткаваў тры хвіліны на тое, каб атрымаць асалоду ад апошняй «вольнай» цыгарэты. Насуперак асцярогам, рашучасці не зменшылася. Калі агонь ушчыльную падабраўся да пальцаў, О’Хара сунуў недакурак у перапоўненую попельніцу і вылез з машыны, адчуваючы, як здрадліва дрыжаць ногі.

Выдыхнуўшы, О’Хара ў думках далічыў да дваццаці, пасля чаго адкрыў багажнік і перш за ўсё разарваў кардонную скрынку, каб набіць кішэні кіцеля патронамі да стрэльбы. Разгрузной камізэлькі раздабыць не ўдалося, так што запасныя магазіны прыйшлося ссыпаць у процівагазавую сумку.

— Дэніэл, мне не падабаецца, што ты сустракаешся з дачкой гэтага фашыста Лі МакКалаха! Гэта можа дрэнна адбіцца на рэпутацыі нашай сям’і!

— Тата, і ты туды ж! Мала мне містара Адзінгтана!

— Бацька нумар адзін, Дэніэл!.. Лі МакКалах выступае за вяртанне старога свету на падставе таго, што не ўсё ў ім было дрэнным!

— Хіба ён не мае рацыю?

— Ты яшчэ занадта малы, каб меркаваць пра такія рэчы, Дэніэл!

— Мне ўжо шаснаццаць!

— Узрост тут зусім ні пры чым! Каб асудзіць рэтраградства, патрэбен асаблівы стан розуму!

— Ты хочаш сказаць — «прамыванне мазгоў»? Мне здаецца, вы выжываеце з розуму са сваёй паліткарэктнасцю! Гэта зусім ніякая не талерантнасць, а звычайная абыякавасць і эгаізм!

Бацька кінуў спалоханы погляд на дзверы ў дзіцячы пакой.

— Не гавары так! Нам толькі праблем з законам не хапала!.. Карацей так — я табе забараняю сустракацца з ёй!

Начапіўшы імправізаваны падсумак, О’Хара закінуў за спіну стрэльбу і ўзяў у рукі самазарадную вінтоўку. Бацькі ён не паслухаўся і працягваў сустракацца са Сьюзан да самай яе смерці.

На стаянцы былі людзі, аднак яны знаходзіліся занадта далёка ад О’Хары, каб зразумець, чым ён займаецца.

— Ва Усходнім раёне знойдзена задушаная і згвалтаваная вагінальная асоба дзесяці гадоў. Па гарачых слядах паліцыя арыштавала пяцярых выхадцаў з краін трэцяга свету!

— Як яны смеюць вінаваціць беднякоў у тым, што яны сарваліся? — Пол Адзінгтан у гневе ўскочыў, ледзь не паваліўшы часопісны столік з кальянам. — Самка, напэўна, сама вінаватая!

— Не бяры гэта блізка да сэрца, каханы!

— Пайшоў да д’ябла, Эндру!

Суха пстрыкнуў засцерагальнік, дазволіўшы затвору з ляскам даслаць у патроннік патрон.

— Так ім і трэба, праклятым рэтраградам! — радаваўся Пол Адзінгтан, гледзячы на тое, як паліцэйскія разганяюць мітынг прыхільнікаў традыцыйных каштоўнасцей. А па шчоках Дэніэла цяклі слёзы — такой жорсткасці ён не бачыў нават у кіно.

— Давай пойдзем адсюль, каханы!

— Хай вырадак паглядзіць, што будзе з тымі, хто перашкаджае прагрэсу!

О’Хара перахапіў вінтоўку і хуткім крокам накіраваўся да каледжа, не звяртаючы ўвагі на аўтааматараў. Гісторыі патрэбныя сведкі.

— Тата, а чаму мэрам стала місіс Бейлі, калі містар Джонсан умее і ведае нашмат больш за яе?

— Гэта гендарная палітыка, Дэніэл! Урад праводзіць палітыку пазітыўнай дыскрымінацыі ў дачыненні да несвядомых пенісатрымальнікаў для стварэння роўнасці ўсіх палоў у грамадстве!

— Але як дыскрымінацыя можа быць станоўчай?.. Гэта ж па-дурному — прызначаць на пасады не за дзелавыя якасці!





Заўважыўшы зброю, людзі з крыкамі кінуліся ўрассыпную.

— Уцякайце, пацукі, і бойцеся думаць далей!

Прыцягнуты шумам, з будкі выйшаў ахоўнік. Ледзь заўважыўшы О’Хару, ён зрабіў спробу выхапіць з кабуры пісталет і адначасова схавацца ўнутры. Дэніэл націснуў на спускавы кручок. Дзве кароткія чаргі запырскалі шкло і пластык крывёю.

— Мілы, сынок гэтай перашкаджае нашаму каханню! Я не жадаю, каб ён і далей жыў з намі! Ён ужо дастаткова дарослы для пачатку самастойнага жыцця!

— Я не думаю, што шаснаццаць гадоў — аптымальны час для таго, каб пакінуць бацькоўскі дом!

— Вымушаны настойваць! Пакуль гэтае гадзяня тут, наш саюз пад пытаннем! Выбірай — ці я, ці гэтая гідкая пачвара!

У бацькі не атрымалася змякчыць Пола Адзінгтана, і праз месяц Дэніэл перабраўся ў здымную кватэру. Пра тое, што паслужыла крыніцай выбуху бацькі нумар два, О’Хара так і не расказаў бацьку.

Наўрад ці ён паверыў бы ў тое, што Пол Адзінгтан дамагаўся Дэніэла.

Не спыняючыся, О’Хара праскочыў браму «альма-матар» і кінуўся да каледжа, дзе правёў лепшыя два гады свайго жыцця.

— Студэнт О’Хара, афіцыйна даводжу да вашага ведама, што з сённяшняга дня вы выключаны!

Дэніэл аслупянеў.

— Калі стары дэкан трываў вашы выхадкі, то я не маю намеру гэта рабіць!.. У вашай шафцы знайшлі забароненыя кнігі і дыскі, а таксама фатаграфію вагінальнай асобы Сьюзан МакКалах, дачкі дзяржаўнага злачынцы Лі МакКалаха! Ужо аднаго гэтага дастаткова для таго, каб выклікаць паліцыю, але з-за павагі да вашага бацькі нумар два, вялікага Пола Адзінгтана, я абмяжуюся толькі вашым выключэннем!

— Як жа, вялікі! — хмыкнуў О’Хара, ідучы да будынка каледжа і пастрэльваючы па баках. — Педафіл, псіхапат і палюбоўнік паловы горада! Падумаць толькі, які гонар — паэтычны фэст непараўнальнай сволачы містара Адзінгтана ў сценах каледжа! Абмачыцца можна ад радасці!

Гільзы са звонам падалі на выкладзеную пліткай дарожку.

— Што тут адбываецца?

— Твой вырадак заявіў, што нікаб зневажае жанчыну, мілы! Таму я і даў яму аплявуху!

— Але ж гэта сапраўды так! — Дэніэла душылі слёзы крыўды.

— Ах ты, маленькі фашыст, зараз я ўзнагароджу цябе кухталём!

— Супакойся, мілы!.. Дэніэл, марш у камору!

— Але, тата...

— МАРШ у камору!

Схавацца ад куль не было дзе.

— Дваццаць два!

Фігуркі падалі, нібы збітыя шарам кеглі.

Бацька дасылаў грошы. Па-за ўсякім сумненнем, робячы гэта ўпотай ад Адзінгтана. Даведайся бацька нумар два пра фінансавую дапамогу, наступствы маглі быць сумнымі. Грошы прыйшліся як нельга дарэчы — першыя паўгода ў кафэ Дэніэл атрымліваў да смешнага мала.

— Дваццаць два!

Магазін хутка апусцеў. О’Хара змяніў яго і адцягнуў затвор. Сэрца рвалася з грудзей.

Сьюзан нагадвала яму маці.

Дабраўшыся да дзвярэй, О’Хара з усяе сілы ўдарыў па іх нагой.

Дажджом асыпалася шкло.

Кітайская ваза...

— Не супраціўляйся, а то будзе горш!

— Не падыходзьце да мяне, містар Адзінгтан! Вы п’яны! — перапалоханы да смерці Дэніэл адыходзіў, а бацька нумар два няўмольна насоўваўся. Яго штаны тапырыліся ў раёне пахвіны.

У Дэніэла не было ніякіх шанцаў адолець Адзінгтана — бацька нумар два быў амаль на фут вышэйшы за яго і цяжэйшы на сто фунтаў.

— Мне даўно варта было пазнаёміць цябе са сваім сябруком! — Пол Адзінгтан драпежна ашчэрыўся.

— Калі ласка, не падыходзьце!

— Заткніся, вырадак! Зараз я дам табе ўрок!

О'Хара адступаў да таго часу, пакуль не ўткнуўся спінай у сцяну. А Пол Адзінгтан з садысцкай усмешкай расшпільваў штаны.

Погляд Дэніэла замітусіўся па пакоі ў пошуках выйсця. Перад дзвярыма ляжала перакуленае камп'ютарнае крэсла, выскачыць у акно перашкаджала шафа для адзення...

— Зараз мы з табой пацешымся! — Адзінгтан вызваліўся ад туфляў і штаноў, на чарзе былі майткі.

— Не трэба, я прашу вас!

— Яшчэ як трэба!

«Ніколі не здавайся! Толькі так можна перамагчы!», — нечакана ўспомніліся словы Сьюзан. І О'Хара зрабіў тое, чаго ніяк ад сябе не чакаў.

Вочы Пола Адзінгтана палезлі з арбіт, твар наліўся крывёй. Трымаючыся абедзвюма рукамі за адбітую мужчынскую годнасць, бацька нумар два кулём паваліўся на падлогу.

У вестыбюлі знаходзіўся пост аховы, аднак абодва ахоўнікі не сталі строіць з сябе герояў, а ратаваліся ўцёкамі.

— Больш няма мужчын, засталіся асобы!

Сысці з дому трэба было раней, але Дэніэлу бракавала духу на рашучы крок. Адбівалася выхаванне. Ды і пасля смерці Сьюзан ён ніяк не мог ачуняць.

— Я кахаю цябе, Сьюзан!

МакКалах усміхнулася і, натапырыўшы Дэніэлу валасы, сказала:

— Ты такі смешны, Дэн!

— Не, праўда!

Некалькі бясконца доўгіх імгненняў Сьюзан глядзела ў вочы О'Хары, а затым пацалавала яго ў шчаку.

Гэта было за чатыры дні да таго, як дзяўчыну збіў на машыне п'яны сенатар ад кіруючай партыі...

— Дваццаць два!

Забіваць аказалася лёгка. Ніякіх згрызот сумлення О'Хара не адчуваў. Яго жэрла полымя нянавісці.

Грукат самазараднай вінтоўкі гуляў пад скляпеннямі каледжа, нагадваючы перастук кастаньет. Кулі наскрозь прашывалі чалавечыя целы, крышылі цэглу і бетон, калолі дрэва, ператваралі ў пыл мармур.

— Дваццаць два!

О'Хара пераступіў забітага, мімаходам адзначыўшы, што гэта дэкан. Хабарнік атрымаў па заслугах.

— Дваццаць два!

Даведаўшыся пра смерць Сьюзан, Дэніэл праплакаў увесь дзень. Бачачы стан сына, бацька ў пакой не заходзіў, а вось Пол Адзінгтан не прамінуў укалоць:

— Гэта ж трэба, як мы знерваваліся з-за смерці самкі!

— Ідзіце адсюль, містар Адзінгтан!

— Чорта з два! Хачу паглядзець на ідыёта, які аплаквае вагіну!

— Калі ласка!

— Ты яшчэ будзеш мне ўказваць, шчанюк!

Дэніэл уткнуў галаву ў падушку і заціснуў далонямі вушы. Больш за ўсё яму ў гэты момант хацелася памерці.

— Дваццаць два!





Ствол вінтоўкі хадзіў па баках, косячы студэнтаў і выкладчыкаў, якія выскоквалі з аўдыторый. Сцены размалявалі чырвоныя рагі крыві, падобныя на карціны вар'ятаў-абстракцыяністаў.

Лекары знайшлі ў маці рак грудзей. Аперабельны, але ніхто не ўзяўся за скальпель — урад вырашыў адмовіцца ад траты грошай на «рэтраградаў». Эрыка працягнула яшчэ шэсць з паловай месяцаў.

— Дваццаць два!

Ад крыкаў і вінтовачнага стаката закладвала вушы, аднак О'Хара не звяртаў на гэта ніякай увагі.

— Гэтая пісала табе кожны тыдзень, але я спальваў яе лісты! — заявіў Пол Адзінгтан, стоячы ў дзвярах дзіцячага пакоя і гледзячы на зборы Дэніэла.

— Што?

— Я пераканаў Эндру, што так будзе лепш для нас усіх!

— Вы не маглі зрабіць так подла, містар Адзінгтан!

— Думаў, я дарую табе тое, што ты атручваў нам жыццё?

— Які ж вы падлюга!

— Вымятайся і назаўсёды забудзь дарогу ў гэты дом! Табе тут не рады!

Падлога была заліта крывёй. О'Хара ў думках пахваліў сябе за прадбачлівасць — каўчукавыя падэшвы па плітцы не слізгалі.

— Дваццаць два!

Пасля таго, як не стала маці і Сьюзан, О'Хара неаднаразова наведвалі думкі пра самагубства. Ён не бачыў сэнсу ў бездапаможным існаванні. І як толькі не звар'яцеў ад гора?

— Дваццаць два!

Усё змянілася ў той момант, калі Дэніэл убачыў у газеце паведамленне пра тое, што Пол Адзінгтан быў прызнаны паэтам года. О'Хару настолькі ўразіла крывадушнасць, што ў яго галаве нарадзіўся маніфест і ўзнікла жаданне спыніць свет, якія каціўся ў прорву.

Вінтоўку Дэніэл выкраў, калі ні бацькі, ні Пола Адзінгтана не было дома. Ключы ад уваходных дзвярэй, як і раней, ляжалі ў кішэні глінянага гнома, які стаяў каля ганка. Адной вінтоўкі хлопцу было мала, таму ён вырашыў здабыць яшчэ адзін «ствол». Работа ў кафэ мала чым адрознівалася ад катаргі, але Дэніэл не наракаў. У яго ўпершыню ў жыцці з'явілася мэта.

Некаторы час О'Хара баяўся таго, што бацька выявіць прапажу і заявіць на яго ў паліцыю, але месяцы ішлі, а нічога не адбывалася.

— Дваццаць два!

Дэніэл не дазваляў сабе скаціцца да банальнай помсты бацьку нумар два. Гэта было б дробна і зусім не кранала грамадства.

— Дваццаць два!

Як ні стараўся О'Хара кантраляваць расход боепрыпасаў, патроны скончыліся нашмат хутчэй, чым ён чакаў.

Ад душы вылаяўшыся, Дэніэл кінуў самазарадную вінтоўку і пацягнуў стрэльбу.

— Людзі — не болей чым бязмозгія лялькі, калі яны не ўмеюць думаць!

Адзіным мінусам стрэльбы з'яўляўся маленькі магазін — усяго на шэсць патронаў. Перазараджаць даводзілася часцей, але для таго, каб зваліць чалавека, хапала і аднаго стрэла.

Крок — стрэл.

Крок — стрэл.

О'Хара адчуваў ні з чым непараўнальнае пачуццё абсалютнай свабоды.

Крок — стрэл.

Крок — стрэл...

Вугальна-чорная форма байцоў падраздзялення спецыяльнага прызначэння паслужыла сігналам да спынення агню.

— Я не павінен дазволіць ім забіць сябе! — О'Хара адкінуў стрэльбу і падняў рукі.

*4—12 сакавіка 2014 года*



*Кацярына Мядзведзева, якую з нецярплівасцю чакалі і супрацоўнікі рэдакцыі, і некаторыя калегі-аўтары і, вядома, чытачы, вярнулася гэтым разам з двума апавяданнямі. Нам падалося, што мэтазгодна змясціць абодва творы побач і загадаць любімым чытачам загадку. Адно з апавяданняў — яскравы прыклад фэнтэзі, другое — прадстаўнік рэалістычнай плыні. Цікава, ці здолееце вы пабачыць за карункамі шыкоўнага аўтарскага стылю, каторае — якое?*

*Трэба сказаць, што стыль Кацярыны — сам па сабе фантастычны. Кажуць, у дэталях д'ябал — але і Бог там, у дэталях і дробязях. І са спакуслівых, бясконца прывабных і ўтульных дробязей аўтарка здольная ўтварыць асобны, асветлены душэўнай цеплынёю свет, напоены простай, як удых, магіяй паўсядзённасці.*

Кацярына Мядзведзева

## Лекі ад кахання

Паважны дзядок выплюхнуў на тратуар вядро мыльнай вады і прыняўся старанна разганяць пену швабрай. Каля суседняй хаты самавіты мужчына падстрыгаў кусты вялікімі садовымі нажніцамі, яго жонка стаяла тут жа і змятала састрыжаныя галінкі венічкам. На лаўцы каля фантана сядзела нянька з кніжкай, а побач дзеткі скакалі ў класікі.

— Утульнае ў вас мястэчка, — заўважыў Томас. — Чыста, ціха.

— Вядома, — кіўнуў таксіст. — А як жа інакш. Нам без цішыні — нікуды. Вядомая справа, навукоўцы: ім засяродзіцца трэба, падумаць, аловак пагрызці ў цішыні.

— Так, так, — падхапіў Томас. — Я чытаў, у вашым мястэчку самая вялікая шчыльнасць навукоўцаў на душу насельніцтва.

— На аднаго простага смяротнага — паўтара прафесара, — сказаў таксіст ганарліва. Хоць сам, без сумнення, належаў менавіта да простых смяротных. — Я сам бадай кожны дзень якога-небудзь навукоўца важу, універсітэт вунь дзе, далёка, да таго ж на ўзгорку.

— І праўда, — кіўнуў Томас з усмешкай. — Нетрэніраванаму чалавеку, ды яшчэ абцяжаранаму немалымі ведамі, ох як нялёгка туды падняцца.

Жаўтабокае таксі трухала па ціхіх вулачках. Томас глядзеў у акно. Удалечыні, на ўзгорку, паблісквалі вокны ўніверсітэта. А горад цешыў позірк дагледжанымі вулачкамі, ружамі, што аплятаюць кожны другі фасад, і найчысцейшым асфальтам — па такім можна ў хатніх тапках хадзіць.

— А вунь там, бачыце, — таксіст махнуў рукой направа. — Масток на горку? Там наша галоўная славутасць, Скала Закаханых.

— Няўжо няшчасныя закаханыя кідаюцца з гэтай скалы ў мора?! — выгукнуў Томас.

— Крый Божа! — таксіст нават на тормаз націснуў ад нечаканасці. — Ну і фантазія ў Вас, малады чалавек! Няма ў нас мора, ды і закаханыя не настолькі галаву губляюць. Усё прасцей. На Скале Закаханых расце незвычайная яблыня. Дык вось, яе яблычкі — самы надзейны сродак ад кахання, якое не падзялілі ці якое надакучыла.



— Як жа вы дагэтуль не наладзілі аптовы продаж такіх цудоўных яблычкаў па ўсім свеце? — усміхнуўся Томас. — Лекі ад кахання! Ды людзі за гэта любыя грошы заплацяць!

— Дарма кпіце, — пакрыўдзіўся таксіст. І, вытрымаўшы прыгожую паўзу, прадэкламаваў тэкст, па ўсёй бачнасці, завучаны ім з нейкага турыстычнага буклета:

— Скала Закаханых непрыступная. Да яе вяршыні вядзе вузкая, абрывістая сцежка, камяні сыплюцца з-пад ног і валяцца глыбока ўніз, на дно бездані, дзе поўзаюць ядавітыя змеі! Не ўсім пашанцавала вярнуцца! Мала хто і хадзіў туды, па праўдзе кажучы.

Апошнюю фразу ён дадаў іншым, звычайным сваім тонам.

— Цяжкадаступнае мястэчка, — з разуменнем кіўнуў Томас. — Гэта ж як трэба закахацца, каб адважыцца на падобнае мерапрыемства. Туды, напэўна, накіроўваюцца толькі тыя, каму жыццё не мілае. Вось Вы, шаноўны, бывалі на Скале Закаханых?

— Калісь, у маладосці падумваў пра гэта, — няпэўна адказаў таксіст.

— Ну і як, смачныя былі чароўныя яблычкі?

— А вось якія! — таксіст памахаў перад Томасам пульхным пальцам з заручальным кольцам. — Вось якія. Не мёд, вядома, і не цукар, але ўжо ўсяляк лепш, чым у бездань зваліцца.

— Разумею, разумею, — прагаварыў Томас з усмешкай. — Інстынкт самазахавання… Меншае ліха…

— А вы да нас па справах прыехалі ці ў турыстах? — непрыязна спытаў таксіст.

— Па справах, — безуважліва адказаў малады чалавек.

— Вы не журналіст часам? — спытаў шафёр падазрона. — У нас тут журналістаў недалюбліваюць. Занадта ахвотны да сенсацый народ гэтыя пісакі, замінаюць нашым навукоўцам спакойна працаваць. Прафесар Шпіц іх асабліва не любіць, бо адзін нягоднік панапісаў пра яго неяк рознага глупства, увесь горад тады ўскаламуціўся… А, дарэчы, гляньце ў акенца, вунь там стаіць помнік прафесару Шпіцу! Геніяльны чалавек, заснавальнік тэорыі пачуццяў. А якую ён бручку вырошчвае, трэба адзначыць!

— Помнік? — ахнуў малады чалавек. — Хіба прафесар ужо памёр?!

— Бог з вамі! — ахнуў і таксіст. — З чаго б яму паміраць, калі ён яшчэ сваю манаграфію ў ста тамах не скончыў? Жывы ён, жывы! Вунь, бачыце, чалавек на балконе — ды вось жа, у доме насупраць ратушы, — кветкі палівае? Прафесар Шпіц, уласнай персонай! А помнік яму ўдзячныя студэнты паставілі, пры жыцці!

— Спыніце машыну! — крыкнуў Томас.

— Вы ж у гасцініцу хацелі… — здзівіўся шафёр.

— Спыніце! Я перадумаў!

Таксіст даў па тармазах. Томас аддаў грошы, схапіў торбу і выбраўся з машыны.

— Ніколі яшчэ мне не даводзілася вазіць такога нервовага маладога чалавека, — пакруціў галавой таксіст. — Адразу відаць — нетутэйшы.

Таксі з'ехала. Томас разглядаў акенцы вялікага асабняка. На балконе ўжо нікога не было. З акенцаў пахла добрай кавай. Томас адчуў, што прагаладаўся.

— Неабачлівы ўчынак, — падумаў ён раптам. — Ну што я скажу? Прафесар, я прыехаў да вас, каб… Ці так: прафесар, вы, напэўна, здзіўлены маім з'яўленнем… А можа быць, лепш сказаць начыстую, хто я і навошта прыйшоў?

Ён перакінуў торбу цераз плячо і пазваніў у дзверы.

Адчыніў дзядок з сівой бародкай, у капелюшы і плашчы. Ён узмахнуў палкай з сярэбраным набалдашнікам і закрычаў узрадавана:

— Ну нарэшце!

— Прафесар… — пачаў быў Томас, але не паспеў ён прадставіцца, як яму сунулі ў рукі гару кніг і загадалі несці гэту гару ў гараж. Выглядаючы то направа, то налева з-за свайго каштоўнага грузу, Томас ішоў следам за прафесарам і думаў толькі пра тое, як бы не спатыкнуцца.

— Вы мне вельмі дапамаглі, — сказаў прафесар, калі Томас грукнуў кнігі на задняе сядзенне бліскучага новенькага чорнага аўтамабіля-«жука». — Гады бяруць сваё. Калісьці я цягаў на ўзгорак дваццацітомную энцыклапедыю!

— Так, я.. — сказаў Томас, нарэшце зняўшы кепку і прыгладзіўшы валасы.

Тут гарадскі гадзіннік на ратушы захрыпеў, зарыпаў і пачаў біць.

— Божачкі! Паехалі хутчэй, я страшэнна спазняюся! — успудзіўся прафесар. — Хутчэй!

І Томас раптам апынуўся за рулём прафесарскага «жука». На шчасце, малады чалавек умеў абыходзіцца з падобнымі механізмамі і спрытна вывеў машыну з гаража.

— Лекцыя праз пятнаццаць хвілін, — занепакоена прагаварыў прафесар. — Паспеем?

— Паспеем, — кіўнуў Томас. Добра, што таксіст паказаў яму, дзе ўніверсітэт.

— Ах, гэта сапраўднае мастацтва — кіраванне аўтамабілем, — сказаў прафесар захоплена, назіраючы, як Томас пераключае хуткасці і круціць абаранак. — Гэта падобна да чараўніцтва, ці не так?

— Хм, — адказаў Томас, бо нічога чароўнага ў каробцы перадач і рулі не заўважаў. — Прафесар, чаму ж вы самі не навучыцеся кіраваць?

— Ах, сябра мой, ды я ўмею, — горка ўсклікнуў прафесар. — Але я зусім не прыстасаваны да гэтага сакральнага майстэрства. Я, прызнацца, няўважлівы. Увесь час абдумваю новую кнігу. І калі мне прыходзіць у галаву геніяльная думка, я спяшаюся яе зафіксаваць, хапаю нататнік ды самапіску — і выпускаю руль! Зусім забываю, што трэба спачатку спыніцца. Гэта ўжо, здаецца, мой чацвёрты аўтамабіль. На шчасце, пакуль абыходзілася без ахвяраў, але правы ў мяне адабралі і, мушу заўважыць, правільна зрабілі. У нашым ціхім мястэчку ўжо сто гадоў не было няшчасных здарэнняў, і не хацелася б мне ўвайсці ў гісторыю парушальнікам гэтай добрай традыцыі!

Тут яны прыехалі. Томас, з павагай да прафесара, выскачыў з машыны першым і адкрыў дзверцы старому. Той ласкава яму кіўнуў.

— Прафесар Шпіц, дазвольце прадставіцца, — пачаў быў Томас сваю даўно ўжо прыгатаваную гаворку.

— Ведаю, ведаю, — падміргнуў яму прафесар. — Вы мой новы шафёр, прыйшлі па аб'яве. Так?

Томас ашаломлена паглядзеў на яго. Памарудзіў — і кіўнуў.

— Здзіўлены маёй празорлівасцю? — усміхнуўся прафесар. — Інтуіцыя, сябар мой! Вялікае пачуццё! Я якраз пішу пра яе кнігу. Мы абавязкова пагаворым пра гэта пазней, а цяпер мяне чакаюць студэнты. Заязджайце за мной папаўдні, а пакуль ідзіце дахаты, Анжаліка пакажа ваш пакой і пакорміць сняданкам.

Калі Томас вярнуўся ў асабняк, дзверы яму адчыніла мажная жанчына ў акулярах і клятчастым фартуху.

— Вы наш новы кіроўца? — прыязна спытала яна. — А я фрау Шпіц. Хадземце снедаць, я зраблю вам каву і грэнкі, а заадно прыгатую на абед бульбяны суп. Бо супы такія карысныя!

На кухні фрау Шпіц запаліла агонь пад патэльняй, плюхнула туды кавалак масла, адкрыла кулінарную кнігу і пагрузілася ў чытанне. Па яе захопленым выглядзе адразу стала ясна, што чытаць яна любіць значна больш, чым гатаваць ежу.

— Вазьміце пяць бульбін сярэдніх памераў, — прачытала яна здзіўлена. — Ну што за рэдактар рыхтаваў гэтыя рэцэпты да выпуску? Хіба недасведчаны чытач можа ведаць, якія памеры бульбы лічыліся сярэднімі ў год выдання гэтай кулінарнай кнігі?

— Мне здаецца… — пачаў быў Томас з усмешкай, але гаспадыня перабіла яго:

— Мне здаецца, я бачыла ў нашай бібліятэцы сельскагаспадарчую энцыклапедыю! — і яна кінула кнігу на стол і выйшла.

Малады чалавек збянтэжана глядзеў на пліту. Масла на патэльні прыгарала, імбрычак закіпеў і пляваўся кіпнем. Не сказаць каб Томас быў аматарам пагаспадарыць на чужых кухнях — але што яму заставалася? І ён, падкасаўшы рукавы, прыняўся ратаваць сняданак.





Калі праз некаторы час ён павярнуўся, каб паставіць на стол талерку з грэнкамі, — то здрыгануўся і ледзь не выпусціў іх на падлогу, таму што ў дзвярным праёме стаяла тоненькая цёмнавалосая дзяўчына і глядзела на яго. На ёй былі акуляры ў тонкай сталёвай аправе, нітачка жэмчугу, сукенка-футарал у чорна-белую шахматную клетку, і хіба што на лбе адсутнічаў надпіс «прафесарская дачка». Але і без гэтага надпісу ўсё было зразумела.

— А дзе мама? — спытала дзяўчына. — Сышла ў бібліятэку чытаць гісторыю ўзнікнення паранай рэпы?

— Вы незвычайна здагадлівая асоба, — кіўнуў Томас. — Снедаць будзеце?

— Вядома, — дзяўчына ўселася за стол і ўтаропілася ў кніжку. — Мне каву з вяршкамі, паўтары лыжкі цукру.

Томас здзіўлена падняў бровы. Але нічога не сказаў, моўчкі наліў два кубачкі кавы і ўсеўся побач. Дастаў з торбы кнігу і таксама разгарнуў яе.

— Ого! Вось гэта навіны! Тата адшукаў кіроўцу, які ўмее чытаць! — прамовіла дзяўчына здзіўлена. — Як ваша імя, унікальнае стварэнне?

— Томас, — адказаў ён. — І наогул, я…

— А я — Анжаліка, — яна працягнула руку — і ўпусціла на падлогу сваю кнігу. Томас прыскокнуў, каб падняць, і з кнігі выпаў ліст у невялікім сінім канверціку. Анжаліка тут жа працягнула руку і выхапіла ліст.

— Гэта маё! — сказала яна строга. Згрэбла грэнкі, каву, кнігу — і сышла.

Так Томас і стаў асабістым шафёрам прафесара Шпіца. Ніякіх дакументаў у яго не спыталі, толькі імя ды жаданую зарплату, якую і выдавалі кожны панядзелак у белым канверціку. Томас вазіў прафесара ва ўніверсітэт і дадому, ездзіў па даручэннях — забраць кнігі ў краме, парасон з рамонту, заказы ў зяленіўшчыка і бакалейшчыка. Увесь астатні час ён праводзіў у двухпавярховым прафесарскім асабняку, дзе панавалі фрэкен і фрау Шпіц.

Дом быў утульны, але недагледжаны, трохі разняволены, адчуваўся недахоп умелых мужчынскіх рук. Не праходзіла і дня, каб Томас не чыніў якую-небудзь перакошаную палічку, не адкрываў намёртва закатаных слоікаў з леча ці не прыбіваў карніз, які так і марыў адваліцца.

Малады чалавек з лёгкасцю сышоўся з лагоднай і ўсмешлівай фрау Шпіц і часцяком замяняў яе каля пліты, калі ў разгар гатавання абеду яна сустракала ў рэцэпце расплывістае «тушыць 10—15 хвілін» і сыходзіла ў кабінет мужа, каб на калькулятары вылічыць сярэдняе арыфметычнае. Яе канькам была празмерная ўніклівасць, любоў да дакладных лічбаў і фармулёвак. Сустракаючы ў кулінарнай кнізе выраз «соль, перац на смак» ці «варыць да гатоўнасці», яна гублялася і, спрабуючы знайсці ў тлумачальным слоўніку расшыфроўку гэтакіх няпэўных паняццяў, часам так зачытвалася, што пра гатаванне абеду забывала зусім.

У цэлым жа фрау Шпіц была надзвычайна добрым чалавекам і часцяком вяла з Томасам шчырыя гутаркі за кубачкам кавы.

Зусім іншыя адносіны склаліся ў навaспечанага кіроўцы з прафесарскай дачкой Анжалікай. Дакладней сказаць, яны не складваліся зусім. Томас адкрыта пабойваўся гэту пахмурную паненку ў акулярах і не ведаў, пра што з ёй можна пагаварыць. Строгая і непрыступная, ішла яна ў бібліятэку са звязкам кніг, ці сядзела ў чытальнай зале, штосьці канспектуючы, ці на лаўцы ў садзе чыркала ў нататніку, нахмурыўшы акуратныя бровы-нітачкі, здавалася, яна ўвесь час захоплена навуковымі пошукамі, матэматычнымі падлікамі, праверкай складаных гіпотэз і рашэннем невырашальных тэарэм. Ведаў бы Томас, што насамрэч яна выбірае сілуэт для новай сукенкі, бо хутка да краўчыхі ехаць, а ў галаве яшчэ поўная нявызначанасць, авальны выраз рабіць ці трохвугольны, спадніцу-сонца ці гадэ… Альбо вырашае, што спячы да чаю, пампушкі ці плюшкі, і ў чым паміж імі розніца, спытаць пра гэта маму ці адразу самой залезці ў слоўнік, і які слоўнік лепш браць, тлумачальны ці кулінарны, і ці не прасцей купіць гатовую выпечку ў кандытара.

Не, Анжаліка не была такой ужо легкадумнай паненкай. Думкі ў яе галаве былі досыць важкія — у сукупнасці, калі злавіць іх усе, звязаць пучком, як радыску, і пакласці на шалі. Паасобку ж гэта была вялікая, пярэстая і вясёлая кампанія самых разнастайных ідэй, сумненняў, разважанняў і азарэнняў. Дачка прафесара Шпіца яшчэ не вырашыла, якой навукай хоча займацца, таму ў яе акуратна прычэсанай галоўцы жылі ўрыўкавыя звесткі з самых розных абласцей, як жывуць у каробцы «Асарці» цукеркі з самымі рознымі начынкамі. Так, Анжаліка чула краем вуха, што ў Окама была брытва, у Шродзінгера кот, а ў Мёбіуса — стужка, але што паважаныя навукоўцы рабілі з гэткім арыгінальным рэквізітам, уцікнуць пакуль не паспела.

Яе добрымі якасцямі былі ўседлівасць, удумлівасць і стараннасць, а недахопам — адзін вялікі сакрэт, які замінаў сур'ёзна заняцца навукай. Сінія канверцікі мелі да гэтага сакрэту самае непасрэднае дачыненне. Вось і насуплівала яна бровы і часта бывала не ў гуморы з раніцы, асабліва калі паштальён пакідаў на ганку адны газеты, вось і сядзела з такім непрыступным выглядам, што Томас баяўся. Здавалася, каб падысці да яе, трэба мець вельмі сур'ёзны прадмет для гутаркі, важкую нагоду, — прынамсі, паведамленне пра канец свету ці ўручэнне Нобелеўскай прэміі, але ўжо ніяк не прапанову выпіць разам чаю на балконе.

Але аднойчы ўсё змянілася.

Аднойчы на досвітку з пакоя Анжалікі раздаўся жудасны лямант. І калі Томас, малюючы ва ўяўленні страшныя карціны (цмокі, забойцы, столь абвалілася), без стуку ўварваўся ў дзявочую спальню, перад яго вачамі паўстала прыемная карціна: перапуджаная, смешная, з распушчанымі валасамі, у беласнежнай кашулі з фальбонкамі, Анжаліка балансавала на крэсле і лямантавала на ўсе жылы, паказваючы на падлогу, дзе валялася разгорнутая кніга.

Цмокам і забойцам апынулася нават не мыш, а ўсяго толькі маленькая станожка, што жыла ў кнізе і не па сваёй волі трапіла з волката бібліятэчнага кнігасховішча сюды, у царства цеплыні і святла. Выканаўшы эпізадычную ролю, яна паспешна схавалася між масніц. А вось Томас схавацца не спяшаўся. Ужо занадта прывабная была Анжаліка, у белым і напаўпразрыстым, з раскошнай грывай цёмных валасоў, без строгіх акуляраў, прыгожая і зусім не страшная. Цудоўнае стварэнне! Багіня! Фея!

Але тут Багіня і Фея, саскочыўшы з крэсла, схапіла свае валасы, згарнула іх у тугі пучок і бязлітасна працяла шпількай. Потым надзела акуляры і паглядзела на Томаса гнеўным позіркам, нібы спрабавала яго спапяліць. І зноў ператварылася ў ранейшую Анжаліку, з-за чаго Томас паспяшаўся знікнуць як мага хутчэй. Але ў памяці ён захаваў успамін пра яе пяшчотную, безабаронную прыгажосць.

Гэты эпізод паспяхова давяршыў тое, што пачало адбывацца ўжо даўно. Томас закахаўся.

Пасля вячэры, жадаючы разабрацца ў сваіх пачуццях — ці проста нянудна правесці адвячорак за лёгкім чытвом, ён узяў у хатняй бібліятэцы кнігу прафесара Шпіца «Анатомія кахання».

— Ці не занадта сур'ёзнае чытанне на ноч? — усміхнуўся прафесар.

— Вядомы факт: чым больш складаная кніга, тым хутчэй заснеш, — адказаў Томас. Прафесар пасмяяўся і ўпотай занёс гэтае выслоўе ў нататнік, каб працытаваць потым у перавыданні сваёй кнігі «Розум і яго адсутнасць», у раздзеле пра тупасць і ленасць розуму.

Не сказаць, каб прафесар лічыў Томаса такім ужо тупіцам. Ён усяго толькі разумеў, што кожнаму — сваё: камусьці рабіць дзёрзкія навуковыя адкрыцці, а камусьці круціць абаранак ды пад капот зазіраць. Для свайго сацыяльнага кола Томас выглядаў нават залішне разумным, і прафесар ганарыўся тым, што займеў гэткага кемлівага кіроўцу. Зірніце, нават на лекцыях і семінарах часам паседжвае, слухае меркаванні і спрэчкі, штосьці запісвае ў сшытак. Прафесар адчуваў таемны гонар, што сілай свайго красамоўства змог прыцягнуць да навукі рабочага неадукаванага чалавека, прышчапіў яму цягу да ведаў.





Па дарозе дахаты яны таксама вялі навуковыя гутаркі. Усё больш — пра каханне. Бо, як вядома, «Анатомія кахання» вытрымала чатыры перавыданні і карысталася велізарным попытам, асабліва сярод юнацтва. У гэтай кнізе было расказана ўсё пра каханне — умовы ўзнікнення, прычыны згасання, падвіды, стадыі і катэгорыі. А ў заключнай частцы, што звалася «Лекі ад кахання», прафесар сцвярджаў, што хоць каханне і хімічны працэс, але лекаў ад яго няма. Менавіта з гэтым вельмі хацелася паспрачацца Томасу.

— Прафесар, а ці праводзіліся даследаванні? Ці спрабавалі людзі вылечыцца ад кахання? Якімі спосабамі, як доўга, які працэнт няўдач? — пытаўся ён.

— Вядома ж, не праводзіліся, — усміхаўся прафесар. — Паспрабуйце знайсці добраахвотнікаў! Хто ж захоча пазбавіцца ад свайго кахання?

— Але ж можна знайсці чалавека, які пакутуе ад непадзеленых пачуццяў, і паспрабаваць яго вылечыць.

— Ну што ж, шукайце ахвяру, — жартаўліва блаславіў яго прафесар. — Магу быць вашым навуковым кіраўніком у гэтым цікавым эксперыменце. Але скажу адразу — вас чакае параза! Ужо лепш адразу назапасьцеся чароўнымі яблыкамі са Скалы Закаханых.

Прафесар Шпіц лічыў сябе знаўцам ва ўсім, што датычылася чалавечых пачуццяў і эмоцый, а таксама рысаў характару. Яго шматтомная «Тэорыя пачуццяў» стаяла ў гасцёўні ў лепшай кніжнай шафе і не без гонару палісквала пазалочанымі карашкамі. Прафесар пісаў па кнізе ў год. Нянавісць, зайздрасць, аптымізм, сарамлівасць, пунктуальнасць, рэўнасць, скупасць, дабрыня. Пра каханне ён напісаў даўно, яшчэ ў маладосці, а з узростам больш значэння надаваў такім паняццям як мудрасць, досвед, сузіранне. Цяпер жа ён пісаў кнігу пра інтуіцыю. Лічыў сябе незвычайна празорлівым, спяшаўся перадаць свае веды будучым пакаленням, і праца яго налічвала ўжо пяцьсот старонак, хоць не падышла яшчэ і да сярэдзіны. Але інтуіцыя падказвала прафесару, што ён на правільным шляху.

Інтуіцыя наогул любіла падказваць прафесару.

— Маё шостае пачуццё шэпча, што дажджу сягоння не будзе, таму парасон я не бяру, — казаў ён і адпраўляўся на пешы шпацыр.

— Наш празорлівец ізноў ашукаўся, — круціла галавой фраў Шпіц, калі праз паўгадзіны ў акно пачыналі стукаць тоўстыя кроплі. Даводзілася Томасу садзіцца за руль і, узіраючыся ў заслону дажджу, вышукваць на спусцелых вулачках змоклага прафесара.

Але прафесар не маркоціўся. Абсушыўшыся каля каміна і прыняўшы чарачку, каб сагрэцца, ён працягваў дзяліцца з Томасам сваімі каштоўнымі назіраннямі.

— Маё шостае пачуццё падказвае, што Анжаліка з галавой сышла ў навуку. Дзяўчынка з раніцы да вечара за кнігай, напрацоўвае тэарэтычную базу, — казаў ён.

Фраў Шпіц не мела такой моцнай інтуіцыі, як яе муж, але да праўды падбіралася значна бліжэй.

— Матчына сэрца падказвае мне, што Анжаліка закахалася, — неяк між іншым прагаварыла яна, калі Томас вёз яе на рынак па пастарнак і буракі. — Я не ведаю падрабязнасцей, але яна перапісваецца і сустракаецца з кімсьці ўжо некалькі гадоў…

Фраў казала так, быццам адказвала на зададзенае Томасам пытанне, і ён здзівіўся: няўжо яго закаханасць такая відавочная? Паставіўшы машыну ў гараж, ён улёгся на траўцы ў садзе і прыняўся ўспамінаць ды супастаўляць. Тэлефонныя гутаркі па міжгародняй лініі. Рэдкія і нядоўгія знікненні Анжалікі, заўсёды па суботах, калі яна асабліва прыхарошвалася і радавалася, а вярталася чамусьці з заплаканымі вачамі. І гэтыя сінія канверты, што раз ці два на тыдзень прыносіў паштальён. І лісты, што яна кожны дзень кідала ў паштовую скрыню насупраць хаты…

Мазаіка склалася. Томас спахмурнеў. Выходзіць, яго сапернік — зусім не навука, а самы звычайны «просты смяротны»?

Зрэшты, засмучэнне Томас лічыў самым непрадуктыўным відам дзейнасці, таму неўзабаве ад назіранняў і перажыванняў перайшоў да аналізу і высноў. Здаецца, каханне Анжалікі не ўзаемнае. Інакш не была б дзяўчына такая знерваваная, ды і даўно б ужо выйшла замуж. А калі каханне прыносіць адны слёзы і ўздыхі, значыць, ад гэтага кахання трэба вылечыць. Бо каханне — гэта як хвароба. І ад яго павінны быць лекі. Тэорыя Томаса была простая: пераключыць думкі дзяўчыны на нешта іншае, заняць яе чым-небудзь. Фіксацыя на новых уражаннях, адным словам — сублімацыя.

Спіс магчымых заняткаў быў для пачатку невялікі:

— спорт (шахматы);

— фізічная праца на свежым паветры (праполка прафесарскага гарода);

— прыродазнаўчыя навукі (лекцыя пра выдатных навукоўцаў-фізікаў);

— гуманітарныя навукі (вывучэнне замежнай мовы, найлепей — складанай);

— творчасць (вершаскладанне, жывапіс).

Самым хісткім пунктам плана было пераканаць Анжаліку ўдзельнічаць у эксперыменце. Сказаць ёй праўду Томас не асмеліўся: наўрад ці яна захоча пазбавіцца ад свайго, хай сабе і не ўзаемнага, кахання. Тут на дапамогу яму прыйшоў прафесар. У канфідэнцыяльнай гутарцы самнасам ён папрасіў Анжаліку ўдзяляць трохі ўвагі Томасу, заняцца яго адукацыяй. Сэрца ў Анжалікі было добрае, і яна пагадзілася. Тым больш што гэты дзіўны кіроўца, які шмат чытае, разважае і задае няпростыя пытанні, даўно не даваў ёй спакою. Такім чынам, яна думала, што праводзіць эксперымент па акультурванні «простага смяротнага», і не падазравала, што сама з'яўляецца аб'ектам эксперыменту.

Але, на жаль, эксперымент праваліўся. Чым бы ні была занята Анжаліка, думкі яе нязменна кружыліся вакол адной толькі тэмы і абстрагавацца не збіраліся. Гуляючы ў шахматы, яна не магла нападаць на ферзя, бо гэта ж каралева, і калі яе забіць, кароль будзе няўцешны! Праполваючы бручку, яна выводзіла палачкай на зямлі загадкавыя ініцыялы. Калі малявала, выходзілі толькі чырвоныя сэрцы, працятыя стрэламі. Практыкуючыся ў версіфікацыі, Анжаліка рупліва шукала рыфмы, — чаканне, вяртанне, прызнанне… І вывучаючы замежную мову, адразу спытала, як будзе «я цябе кахаю».

— Ninakupenda, — адказаў Томас, гледзячы ёй у вочы. Дзяўчына збянтэжылася, ён таксама, урок быў сапсаваны, і ніякіх новых слоў яны больш не вучылі.

Ажывілася Анжаліка толькі на занятках па фізіцы:

— Томас, я раскажу вам сёння пра вечны рухавік!

— О, гэты міф не дае жыцця вынаходнікам ужо шмат стагоддзяў, — сказаў Томас з усмешкай.

— Трэба быць геніем, каб яго вынайсці, — без усмешкі адказала яна. — І дзень, калі свету будзе паказана адкрыццё, ужо не за гарамі.

— Баюся вас расчараваць, але вечны рухавік вынайсці немагчыма, і гэта ведае кожны, хто чуў пра закон захавання энергіі.

— Гэта вы так думаеце, — «бо вы просты смяротны», ледзь не дадала яна. — А ёсць людзі, якія апярэджваюць свой час і робяць немагчымае!

— Можа, вы нават знаёмыя з адным такім геніем? — усміхнуўся Томас.

І па тым, як яна раптам запнулася і разгубілася, зразумеў, што неспадзявана патрапіў у цэль. І што, хутчэй за ўсё, Анжаліка закаханая ў нейкага фізіка-тэарэтыка, які жыве, мяркуючы па сініх канвертах, дзесьці ў іншым горадзе і — ну ці не смех? — вынаходзіць Perpetuum Mobile.

Томасу ніколі не хацелася быць шпіёнам. Але менавіта шпіёнам ён пачуваў сябе, калі таемна выкраў пакінутую Анжалікай кніжку, маладушна замкнуўся з ёй у ванным пакоі і хутка перапісаў адрас з сіняга канверціка. Усярэдзіне кніжкі выявілася таксама абгорнутая ў залацістую паперку ад чаю фатаграфія нейкай персоны мужчынскага полу, з подпісам: «Каханне да цябе — вечны рухавік майго жыцця». Слова «жыццё» было напісана праз адну «ц», а ў слове «вечны» прысутнічаў мяккі знак. І спахмурнелы Томас ізноў паяснеў.





Кажуць, што найбольш цікаўныя істоты — кошкі і жанчыны. Усё гэта глупства. Мужчыны цікаўныя не менш. Праседзеўшы пару дзён як на іголках, Томас пачаў дзейнічаць. Для пачатку ён праверыў імя і прозвішча з сіняга канверціка ў каталогу ўніверсітэцкай бібліятэкі. Як і чакалася, ніводнай навуковай працы, манаграфіі ці нават артыкульчыка ў часопісе ў гэтага таямнічага карэспандэнта не выявілася. У каталогу навукоўцаў, якія прыязджалі на канферэнцыі за апошнія дзесяць гадоў, яго не было таксама, як і ў спісах супрацоўнікаў універсітэта, ад рэктара і да падсобнага рабочага ўніверсітэцкай сталовай. І толькі ў адным дакуменце Томас адкапаў-такі прозвішча саперніка: гэта была зборная табліца саіскальнікаў, якія прэтэндавалі на вакантныя пасады малодшых выкладчыкаў і лабарантаў, але праваліліі іспыты. Герой-вынаходнік апынуўся настаўнікам фізікі з суседняга мястэчка N. Тры дні Томас хадзіў, пераварваючы новыя веды, а на чацвёрты (якраз была нядзеля, таму паслугі шафёра прафесару не патрабаваліся) не вытрымаў, адпрасіўся і паехаў у горад N на азнаямленчую экскурсію.

За акенцам электрычкі мільгалі зялёныя сенажаці з чорна-белымі каровамі, залатыя палі і чырвоныя дахі вясковых хат. Але любавацца буколікай Томасу замінала непрыемнае пачуццё, якое наведала яго яшчэ на вакзале і разам з ім села ў вагон. Пачуццём гэтым быў сумнеў. Ці правільна ён робіць, што ўмешваецца ў асабістае жыццё фрэкен Шпіц? Навошта ён шпіёніць? Што будзе далей? Томас не ведаў. Напэўна, яму проста хацелася ўбачыць свайго саперніка. Калі гэта чалавек годны, Томас з'едзе з горада і не стане замінаць эпісталярнаму шчасцю Анжалікі. Але як пазнаеш, ці годны чалавек, разглядаючы яго фатаграфію ці падлічваючы памылкі ў яго лісце? І ці годны чалавек ты сам, калі робіш усё гэта? Цяпер Томас уяўляў сабой яскравы прыклад «чалавека бязглуздага», апісанага прафесарам Шпіцам у трынаццатым томе яго анталогіі, у частцы «Несусветная дурасць». Ён прагнуў дзеяння, але не разумеў, якіх.

Ужо ў горадзе N, не прыдумаўшы ніякага плана, ён патэлефанаваў настаўніку на дамашні нумар. Прыемны жаночы голас адказаў, што настаўніка няма дома, а шукаць яго трэба на нядзельным пасяджэнні юных аматараў фізікі, якое праходзіць у актавай зале школы. Праз дзесяць хвілін Томас ужо стаяў на ганку школы і любаваўся вялікім замкам на дзвярах. Азадачаны, ён паплёўся па незнаёмых вулачках і завярнуў у першае ж кафэ, што трапіла на шляху (не выключана, што адзінае на ўвесь гарадок), каб выпіць какавы і сабрацца з думкамі. Думкі не збіраліся. Сёрбаючы гарачы напой, Томас ужо быў вырашыў кінуць сваю задуму і вяртацца на вакзал, як раптам у кафэ ўвайшоў чалавек, аднекуль Томасу знаёмы. Пасля двух глыткоў какавы Томас сцяміў — гэта ж той самы «Вечны рухавік»! Ён выглядаў зусім як на фатаграфіі: доўгі нос, залысіны, акуляры і пад акулярамі — вочы, на першы погляд, вельмі разумныя. Зрэшты, дзе ж вы бачылі настаўніка фізікі ды з неразумнымі вачамі?

Ён замовіў сабе куфель піва і, агледзеўшы перапоўненую залу, накіраваўся да століка Томаса.

— Не занята ў вас?

— Калі ласка! — Томас зрабіў запрашальны жэст.

Першы куфель знік у маўчанні. Другі таксама. А вось пасля трэцяга куфля візаві Томаса зрабіўся гаваркім.

— Вы ж не мясцовы? — спытаў ён.

— У вас надзвычайная інтуіцыя, — кіўнуў Томас. — Як вы здагадаліся?

— Мясцовыя ніколі ў жыцці не заказваюць тут какаву, — хмыкнуў настаўнік. — Няма сэнсу сыходзіць у нядзелю з хаты, прэч ад жонкі і дзяцей, каб сербануць какавы. У нас тут і ў галаву нікому гэта не прыйдзе.

— Ад жонкі і дзяцей? — паўтарыў Томас задуменна.

— Не, безумоўна, сям'я — гэта найвялікшае шчасце, падоранае чалавеку, — прамармытаў настаўнік і садзьмуў піўную пенку. — Але калі гэта дзень і ноч, дзень і ноч, з году ў год… Ці верыце, у мяне адна аддушына, ваджу па суботах свой клас ва ўніверсітэцкі гарадок, тут непадалёк, і пакуль яны дзве гадзіны глядзяць кіно, я магу пабадзяцца па вуліцах, выпіць кавы і ўявіць на імгненне, што я — гэта зусім не я, і што я жыву зусім іншым жыццём… Разумееце, пра што я?

— Здаецца, разумею, — сказаў Томас. — Вынайсці б вечны рухавік ды з'ехаць куды вочы павядуць, прочкі ад абрыдлага побыту, ад штодзённай руціны.

— Менавіта так, сябар мой, — Томасу на імгненне нават стала сорамна, што яго назвалі сябрам. — Менавіта так. Хоць я мог бы стаць вынаходнікам… Падарыць свету вялікія адкрыцці… У мяне былі грандыёзныя планы. Але потым нарадзіўся старэйшы, за ім адразу дачка, і мне давялося пайсці выкладаць…

Ён падпёр галаву рукамі і гаротна ўздыхнуў, і гэты паўп'яны ўздых рэзаў Томаса нажом па сэрцы. Ён глядзеў на свой кубак з астылай какавай, зацягнутай плёнкай, і не ведаў, што рабіць далей. Менш за ўсё ён хацеў бы быць тым, хто адкрые Анжаліцы вочы. З урокаў гісторыі Томас не вельмі добра памятаў, што робяць з ганцамі, якія прыносяць благія весткі, але ўжо замуж за іх не выходзяць дакладна...

— Прабачце, у мяне праз пятнаццаць хвілін цягнік, — прамармытаў ён.

Як звычайна па вечарах, Анжаліка пісала ліст. Ліст не атрымліваўся. Дзяўчыну штосьці трывожыла ўжо не першы дзень, але яна ніяк не магла ўхапіць трывогу за хвост і разгледзець яе лепей. «Штосьці не так, штосьці не так», круцілася ў галаве, і замест разумных вялізных развагаў на розум прыходзілі адны толькі банальнасці. «Ах, Томас, калі б ты ведаў, як мне не хапае цябе, твайго голасу, смеху, нашых гутарак пра важныя і няважныя рэчы, — напісала яна. — Мой дарагі, мой каханы Томас, як я чакаю сустрэчы з табой!»

Тут варта ўдакладніць, што імя каханага Анжалікі было зусім іншым.

Анжаліка схапіла ліст. Перачытала. Нахмурылася. Перачытала яшчэ раз. Успыхнула, збянтэжылася і парвала лісток на вельмі дробныя кавалачкі.

Яна зразумела, нарэшце, што трывожыла яе ўвесь вечар: Томаса ўжо тры дні не было відаць. На самай справе! Пасля выхадных прафесар Шпіц ездзіў ва ўніверсітэт выключна на таксі, фраў Шпіц гатавала абеды ў адзіноце, ніхто не прывозіў з рынка кошыкі з трускалкай і ахапкі палявых кветак, і туфлі з абутковай майстэрні таксама забыліся забраць…

Анжаліка адправілася на кухню, дзе бацькі папівалі вячэрнюю каву.

— А дзе наш Homo shoferus? — знарок нядбайна спытала яна.

— Ён захварэў, дарагая, — не адрываючыся ад кнігі, адказаў прафесар. — Застудзіўся падчас нядзельнага шпацыру.

— Я вару яму курыны булён, — дадала фраў Шпіц. — У энцыклапедыі хатняй медыцыны сказана, што пры прастудзе гэта адзін з самых эфектыўных лекаў. Праз хвіліну і чатырнаццаць секунд будзе гатова. Можа, занясеш? Томасу будзе прыемны твой клопат.

— Захварэў?! — паўтарыла Анжаліка зусім не такім абыякавым тонам, якім ёй хацелася. — Захварэў…

А Томас і праўда захварэў. Вярнуўшыся ў нядзелю з горада N, ён трапіў пад дождж, вымак да ніткі і цяпер ляжаў у пасцелі, знішчаў папяровыя насоўкі і раздумваў. Многа ведаў — многа смутку. Калі Анжаліка, хвалюючыся і дзынкаючы лыжачкай на падносе, прынесла булён, Томас толькі ўздыхнуў і гаротна кіўнуў ёй. Яна ўздыхнула ў адказ не меней гаротна, і абодва вытлумачылі гэтыя ўздыхі зусім няправільна.

Наступнага ранку яна прынесла Томасу сняданак, сказала пару слоў пра надвор'е. Томас адказваў нямой усмешкай. Гэтым разам абышлося без уздыхаў.





На трэці дзень Анжаліка з'явілася не адна, а са слоікам варэння, па якое спецыяльна хадзіла на рынак.

— Я прынесла маліны, — засаромеўшыся, сказала яна. — Не ведаю дакладна, Rubus idaeus гэта ці Rubus odoratus, але ў Кароткай медыцынскай энцыклапедыі гаворыцца, што ўсе расліны гэтага роду — лекавыя.

Ён глядзеў на яе моўчкі. Яна гублялася і блыталася ў лаціне. Гутарка не клеілася, хоць абаім, несумненна, была прыемнаю прысутнасць адно аднаго. Томас падумаў: «Вось ён, момант», адкашляўся і пачаў быў:

— Анжаліка, нам трэба пагаварыць…

Тут у дзверы пастукалі. У пакой зазірнула фраў Шпіц:

— Дарагая, табе ліст! — і памахала сінім канверцікам. Дзяўчына ўспыхнула ад радасці. Томас уздыхнуў, зірнуў змрочна і прыняўся есці варэнне лыжачкай са слоіка.

У той вечар Анжаліка доўга не клалася спаць. Яна была вельмі незадаволена сабой. Ужо некалькі гадоў уся яна, як гаворыцца, ад донца да вечка была запоўнена каханнем да чалавека, якога шчыра лічыла геніем. Дык чаму ж яна ўсё менш думае пра яго, жраца навукі, светлую галаву, — і ўсё больш пра Томаса, звычайнага «простага смяротнага», які не вынайшаў бы нават ровара?

Вядома, у штодзённых справах Томас быў выдатны. Ён карміў Анжаліку смачнымі сняданкамі, прыносіў ёй кнігі з бібліятэкі, уласнаручна прыбіў набойку на яе абцасік, а неяк нават падарыў шаўковы шалік — праўда, недарэчнага ружовага колеру. Анжаліка закінула шалік у кут свайго шыфаньера, забітага чорна-белымі ўборамі, але часам успамінала пра яго з паблажлівай усмешкай. Ружовы шалік, вы падумайце, хіба гэта адпаведны падарунак для дзяўчыны, якая збіраецца прысвяціць усю сябе навуцы? Яе фізік-вынаходнік ніколі б не дадумаўся падарыць такую пошласць. Ён, праўда, не дарыў ёй наогул нічога, але Анжаліка яго лёгка апраўдвала. Калі галава забіта чарцяжамі і схемамі, маторчыкамі і шрубамі, адкуль там узяцца думкам пра шалік ці хоць бы маленькі букецік фіялак? Ён навуковец, яму няма калі.

Зрэшты, аднойчы ён даслаў ёй у лісце засушаную кветку. «Гэтыя кветкі абвіваюць плот вакол маёй хаты. Калі я ўдыхаю іх водар, я думаю пра вас», — пісаў фізік. Анжаліка схавала гэту кветку ў медальён і насіла каля сэрца.

Каханне ва ўяўленні Анжалікі было стройным, лагічна выверанным механізмам адзінанакіраванага дзеяння. І цяпер дзяўчына адчувала нейкі дысананс, быццам яна была пясочным гадзіннікам, пясок у якім сыпаўся адначасова ў абодва бакі. Як чалавек, прыбліжаны да навукі, фрэкен Шпіц меркавала, што ва ўсякай з'явы павінны абавязкова быць важкія прычыны, у тым ліку і ў кахання, і кахаць чалавека можна — і трэба — толькі за нейкія яго адмысловыя ўчынкі і добрыя якасці. У Томаса ж яна гэтых добрых якасцяў не назірала. Вялікая справа — машыну вадзіць. Мільёны такіх людзей існуюць на свеце, і калі яны знікаюць, нічога не змяняецца, нічога не пакідаюць яны пасля сябе. Дык чаму ж павінна Анжаліка аднаму з іх, як кажуць у іх горадзе, «простаму смяротнаму», аддаваць сваё палкае сэрца? І не павінна, і не будзе! Але сэрца яе жыло па нейкіх сваіх законах, і дзесяць разоў за дзень дзяўчына знаходзіла падставу, каб прайсці паўз пакой Томаса і прыслухацца, як ён там, ці не кашляе зноў, ці не трэба чаго, як ціха ў пакоі, старонкі не шастаюць, — напэўна, заснуў…

Анжаліка доўга абдумвала і нарэшце напісала вялікі ліст у горад N. У пасланні сваім яна была надзвычайна красамоўная, нават закон сусветнага прыцягнення прыпляла, апісваючы каханне як узаемнае памкненне, для якога галоўны вораг — тая самая адлегласць паміж аб'ектамі. Гэту адлегласць Анжаліка і прапанавала скараціць. Захапіўшыся, яна і не заўважыла, як практычна зрабіла прапанову свайму адрасату. Вядома, гэта была не банальная прапанова рукі і сэрца, не,

фрэкен Шпіц не плавала так мелка. Яна прагнула выціраць пыл з алтара навукі, быць асістэнткай і саўдзельніцай вялікіх спраў і сусветных адкрыццяў, прынесці сябе ў ахвяру чалавецтву, — ну і, у якасці пабочнага эфекту, атрымаць сваю долю маленькіх жаночых радасцяў, накшталт заручальнага пярсцёнка, новага прозвішча і ўсяго адпаведнага рэквізіту.

Ліст атрымаўся цяжкі, перапоўнены каханнем, так што на пошце, узважыўшы яго, на канверт замест адной наляпілі цэлых тры маркі. Анжаліка ж, вярнуўшыся дахаты, пачала збіраць валізку.

Адказу ўсё не было, і ў суботу Анжаліка дарма прачакала ўвесь дзень на вакзале — ніхто не прыехаў. А ў панядзелак ліст з горада N, нарэшце, прыйшоў, такі аб'ёмны і цяжкаважны, што, уручыўшы яго, паштальён выцер пот з ілба і сеў на лаўку перадыхнуць. «Да чаго ж некаторыя людзі любяць пісаць», — нездаволена думаў ён.

Калі не паглыбляцца ў падрабязнасці і асаблівасці стылю, то, у агульных рысах, ліст распавядаў пра нялёгкае жыццё сапраўднага мужчыны і яго строгія маральныя прынцыпы. Пра тое, што прыроджаная высакароднасць ніколі не дазволіць сапраўднаму мужчыну прывесці сваю выбранніцу ва ўбогае струхлелае жыллё. Асабліва калі ён жыве ў пыльнай майстэрні, дзе шмат павуціння і страшных павукоў. Асабліва калі ён п'е распушчальную каву без цукру і есць чэрствы хлеб без масла. Асабліва калі ён дні і ночы напралёт майструе вечны рухавік, прыкручвае, паяе, змазвае машынным маслам. А машыннае масла так цяжка выводзіцца з далікатных жаночых убораў. Не, сапраўдны мужчына не можа асудзіць сваю выбранніцу на гэткае незайздроснае існаванне. Таму выбранніца павінна цярпліва чакаць лепшых часоў, калі сапраўдны мужчына зможа прыехаць па яе на сваёй машыне з вечным рухавіком і падарыць ёй увесь свет.

Ліст ашаламіў Анжаліку. Рэакцыя яе была вельмі бурная, але зусім не такая, якой чакаў аўтар, а зусім процілеглая. Успыхнуўшы ад гонару за сябе («Дарма ён думае, што я такая ўжо беларучка!»), успомніўшы народную мудрасць («з любым рай і ў шалашы»), прасякнуўшыся адвагай і злёгку абрабаваўшы хатнюю кладоўку, Анжаліка стала пакаваць валізку яшчэ больш актыўна. І ўжо ў аўторак раніцай сядзела ў цягніку, які нёс яе, як яна меркавала, насустрач шчасцю. Выглядала фрэкен Шпіц самой дасканаласцю: капялюшык-блінец з вуалеткай, пальчаткі, строгая чорная сукенка з белым шаўковым гальштучкам, раўнюткія стрэлкі на панчохах, туфлікі на шпільцы. Ад яе зыходзіла гармонія парадку і чысціні, правільнасці, выразных формаў і ліній. Напэўна, менавіта так выглядала муза, што прылятала да вялікіх фізікаў і матэматыкаў ды нашэптвала ім рашэнні мудрагелістых тэарэм.

Сярод іншага, муза везла з сабой шчотку, каб змятаць павуцінне, бутэлечку з газай (выдатна выводзіць любыя плямы), чатыры чорна-белыя сукенкі — і ўсё сваё каханне. Кахання было так многа, што, калі б яно было бачным, яго прыйшлося б здаваць у багаж.

Пакінуўшы валізку ў камеры хавання, Анжаліка адправілася шукаць струхлелае жыллё свайго генія. З сабой яна несла пакуначак, у якім былі яшчэ цёплы дамашні хлеб, масла, цукар і паўкілаграма выдатнай свежазмолатай кавы. Яна ўяўляла, як узрадуе, ачоцыць клопатам, накорміць свайго абранніка. І была некалькі здзіўлена, калі па адрасе з канверта замест лядачай майстэрні знайшоўся дагледжаны асабнячок, абсаджаны рознакаляровымі вяргінямі. Выцягнуўшы шыю, Анжаліка разглядала падрабязнасці праз плот, а з ганка насустрач ёй ужо спяшалася мілавідная жанчына з немаўлём на руках.

— Вам дапамагчы? — па-свойску спыталася яна.

Пацешыўшыся, што не ўзяла з сабой валізку, Анжаліка ўвайшла ў брамку.

— Мне патрэбны прафесар Блюм, — паведаміла яна, паспешліва засоўваючы сіні канверцік у кішэнь жакеткі.

— Прафесар? — здзіўлена перапытала гаспадыня. — А, вы, напэўна, жадаеце ўступіць у таварыства юных аматараў фізікі? Мужа зараз няма, ён у школе.





— Мужа?! — ледзь не перапытала Анжаліка, але своечасова апамяталася і перапытала: — У школе?

— Так, у школе. Калі нарадзіўся наш трэці, мужу прыйшлося ўзяць у дадатак да фізікі яшчэ і астралогію. Не, чакайце, астраномію, вечна я іх блытаю. Але ён павінен прыйсці на абед! Праходзьце, я пакуль завару вам гарбаты!

Зусім разгубіўшыся, Анжаліка дазволіла правесці сябе ў гасцёўню, пасадзіць на ўтульную зялёную канапку, і вось яна ўжо п'е гарбату, разглядае вязаную грэлку на імбрычку і слухае аповед гаспадыні.

— Я заўсёды захаплялася яго талентам, — з прыдыханнем казала тая. — Адных кніжак перачытаў колькі, страшна сказаць. А колькі ўсяго вынайшаў! Праўда, гэтыя прасцякі ў бюро патэнтаў не ацанілі яго геній… А потым мы ўзялі крэдыт і купілі гэты дом, ды яшчэ дзеці часта хварэюць, а лекары так дорага бяруць…

Анжаліка рассеяна круціла галавой. Погляд яе перабягаў з парцэлянавых кошачак на ламбрэкены, з качаргі на фікус, і раптам на століку каля акна, побач з чарніліцай і прэс-пап'е, яна ўбачыла кіпу сваіх уласных лістоў, з буйным ліловым штэмпелем універсітэцкага гарадка, і ад нечаканасці ледзь не разліла чай.

Фрау Блюм прасачыла за яе поглядам. Падышла да акна, клапатліва працерла пыл на стале, абмахнула і лісты.

— Таўшчэзны пачак, так? — з усмешкай сказала яна. — Я за ўсё сваё жыццё ніводнага ліста не напісала, граматыка мне цяжка давалася, ды й іншыя навукі. А муж такі захоплены, вось гэта ён перапісваецца з калегам-навукоўцам. Кожны дзень лісты прыходзяць, нават па выхадных!

— Вы іх чыталі? — спытала Анжаліка, пахаладзеўшы, як парцэлянавы каток.

— Нашто ж мне чытаць чужыя лісты? — здзівілася тая. — Ды і не зразумею я там нічога, з гэтымі навуковымі слоўцамі ўсю галаву зломіш.

«Адкрыць ёй вочы?» — падумала Анжаліка. Але ў яе не хапіла духу. Ды і навошта ўносіць смуту ў гэта загрувашчанае мэбляй гняздзечка з камінам, вышытай грэлкай, горкай плюшак на квяцістым блюдзе. Алтар навукі не пыліцца, ён чысты, і прыбраны, і ўвесь у кветках. Што ж, пашукаем іншы алтар. Анжаліка ледзь чутна ўздыхнула, акуратна паставіла кубак на стол і вярнулася ў рэальнасць, злавіўшы абрывак ганарлівага маналогу:

— …такі разумны ў мяне. Па-навуковаму завецца фізік-тэарэтык. Вечарамі ляжыць у кабінеце на канапе і разважае. Я прыношу яму каву, пяку яго любімыя булачкі з карыцай, кожны дзень свежыя. Ад учарашніх булачак, ён кажа, і думкі свежыя ў галаву не прыйдуць. Часам ён піша свайму калегу, і я нашу яго лісты на пошту. Дапамагаю, чым магу!

Вялікі гадзіннік зайграў легкадумную мелодыю.

— Хутка муж прыйдзе, і будзем абедаць, — спахапілася фрау Блюм. — Пайду разагрэю суп ды смажаніну. Добра, што я сёння якраз заслала свежы абрус на стол, найлепшы, нібы адчувала, што будзе госць!

— Прабачце, мне тэрмінова трэба ісці, — выціснула Анжаліка. — Я ўспомніла, што… што не выключыла прас…

— Вазьміце хоць булачак на дарогу! — гукнула гаспадыня, але Анжаліка ўжо адчыняла дзверы. Калі хацела, яна ўмела вельмі хутка хадзіць на абцасах.

Плот быў спавіты тымі самымі кветкамі, супляменніка якіх Анжаліка насіла ў медальёне каля сэрца. Супроць волі яна спынілася і далікатна пагладзіла пялёсткі.

— Жудасныя кветкі, — сказала фрау Блюм. — Шкада, сусед не дае іх знішчыць.

— Як? Навошта? — выклікнула Анжаліка раўніва.

— Ой, у мужа на гэтыя кветкі жудасная алергія! Як яны пачынаюць цвісці, яму жыцця няма зусім. Верыце, яны яму ў кашмарах сняцца! Прыпаўзаюць і душаць…

— Якая жахлівая гісторыя, — прагаварыла Анжаліка, трымаючыся рукой за медальён. Ёй раптам таксама стала цяжка дыхаць.

— Што з вамі? Алергія на пылок?
— Так, — сказала Анжаліка, — менавіта так.

Калі яна вярнулася, дом быў пусты, так што можна было, нарэшце, даць волю пачуццям. Яна рыдала, пакуль паднімалася па ўсходах. Плакала, распранаючыся і вешаючы чорную сукенку на плечкі ў шафу. Усхліпвала, прычэсваючыся каля туалетнага століка. Паспрабавала выціснуць слязу-другую, запісваючы пра сваю паездку ў дзённік, — але на гэты момант слёзы нарэшце скончыліся. Нават пабедаваць уволю не атрымлівалася, а шкада!

Анжаліка зірнула ў люстэрка, зрабіла летуценны твар, потым пакутніцкі, потым паказала сабе язык — і ўсміхнулася. Яе адпусціла. Памыўшыся халоднай вадой і пераапрануўшыся ў простую белую сукенку без выбрыкаў, яна адчула сябе вельмі лёгкай, пустой і як быццам нават трохі шчаслівай. Яна баялася ашукаць — а апынулася ашуканай, і, як ні дзіўна, гэта яе ўзрадавала, як быццам здымала адказнасць і дазваляла тое, што сама яна баялася сабе дазволіць.

Рашуча і сурова яна спаліла ў каміне лісты, фатаграфію і высушаную кветачку, павязала на шыю легкадумны ружовы шалік і, памарудзіўшы трохі, пастукала ў дзверы пакоя Томаса.

Калі яна пастукала другі і трэці раз і не дачакалася адказу, то проста ўвайшла. Пакой сустрэў яе ідэальным парадкам, які бывае ў нежылых памяшканнях. Ніводнай зморшчынкі на пасцелі, ніводнага прадмета на тумбачцы, а пісьмовы стол нават паспеў пакрыцца тонкім і раўнамерным пластом пылу. З нядобрым прадчуваннем Анжаліка адчыніла шафу. Шафа развяла б рукамі, калі б іх мела. Бо была яна зусім пустая.

Стукнулі ўваходныя дзверы, і Анжаліка збегла па прыступках. У пярэднім пакоі стаяла фрау Шпіц з кошыкам зеляніны і гародніны.

— Ох, цяжкавата пешшу на рынак хадзіць, — паскардзілася яна.

— А што ж Томас цябе не падкінуў? — спытала Анжаліка, упершыню, здаецца, назваўшы яго сапраўдным імем, а не «хома шаферус».

— Ён павёз твайго бацьку ва ўніверсітэт, — здзівілася фрау Шпіц. — Сёння ж юбілейны вечар, ушанаванне, а заадно бацька прадставіць новую кнігу.

Анжаліка пляснула сябе па лбе. І праўда, як яна магла забыцца пра падзею, аб якой прафесар размаўляў апошнія дні, не змаўкаючы.

— Я ва ўніверсітэт! — крыкнула яна.

— Бацька будзе вельмі рады цябе ўбачыць, — адказала маці з усмешкай. Ёй і ў галаву не прыйшло паведаміць дачцэ, што Томас узяў разлік і ўжо купіў квіток на цягнік. «Хома шаферус» ніколі асабліва не хваляваў Анжаліку, якой «простыя смяротныя» падаюцца такімі банальнымі. «А шкада, Томас цудоўны хлопец, ён быў бы добрай парай для нашай дзяўчынкі», — няўважліва падумала фрау Шпіц. Потым яе галаву занялі менш рамантычныя думкі. Яна купіла на рынку брокалі і знайшла ў кулінарнай кнізе рэцэпт, які пачынаўся з загадкавага «варыць у невялікай колькасці вады». Верная сабе, фрау Шпіц адправілася ў кабінет мужа па калькулятар, каб вылічыць аптымальную колькасць вады на аптымальную для трох чалавек колькасць капусты.

Анжаліка, запыхаўшыся і растрапаўшы прычоску ад шпаркай хады, увайшла ў вестыбюль універсітэта. Яе ўразіла цішыня, нязвыклая для гэтых сцен. Ах, цяпер жа вакацыі, выпускныя іспыты прайшлі, уступныя яшчэ не распачаліся, большасць студэнтаў раз'ехалася па дамах, а тыя, хто застаўся, напэўна сядзяць цяпер у самай вялікай аўдыторыі і слухаюць, стаіўшы дыханне, як чарговы знакаміты госць чытае панегірык прафесару Шпіцу.

Яна зазірнула ў дзверы. Так і ёсць, памяшканне біткам набітае, бацька сядзіць у прэзідыуме і добразычліва ківае, слухаючы чыюсьці гаворку. І дзіўна: голас чалавека, які выступаў, быў Анжаліцы знаёмы, але яна не магла ўспомніць, каму ж з бацькавых вучняў ён належыць. Хіба іх усіх запомніш.





— Але ў вашым папулярным артыкуле вы казалі, што каханнем можна кіраваць! Што закахацца ці разлюбіць лёгка, трэба толькі ўсё ўсвядоміць і прыняць валявое рашэнне! — прагучала чыясьці рэпліка з залы, і Анжаліка натапырыла вушкі.

— Так, у сваёй манаграфіі прафесар сцвярджаў, што каханне — гэта пачуццё, над якім чалавек не мае ўлады. Я не пагадзіўся і прыехаў спрачацца, але ў выніку быў пераможаны, — адказаў чалавек з трыбуны, і голас яго гучаў адначасова і весела, і сумна.

У папулярным артыкуле? Анжаліка зразумела раптам, хто гэта выступае. Той самы сталічны скандаліст-журналіст, які неяк напісаў кплівы артыкул пра прафесара Шпіца, аспрэчваючы яго пастулаты наконт кахання.

О, яна памятала той артыкул. Памятала, як шумеў і гарачыўся бацька, чые выкладкі і абгрунтаванні былі пабіты ўшчэнт, як ён абураўся: «Але гэта ж тэорыя, голая тэорыя, а вось хай ён дакажа на практыцы!» Фрау Шпіц у той дзень заварвала на кухні сардэчнік і валяр'яну ды паіла мужа гарбаткай, а Анжаліка адстуквала на машынцы копіі артыкула-адказу, які яны потым так і не даслалі ў часопіс. Супакоіўшыся (ці то напой дапамог, ці то здаровы сэнс), прафесар пасля не раз казаў, што гэты артыкул толькі зрабіў рэкламу і прыцягнуў увагу да яго анталогіі «Пачуцці». «Продажы ў кнігарнях узраслі ўтрая! — усклікаў ён, падняўшы ўгару указальны палец. — А той журналіст вырашыў выехаць на маёй славе, ну што ж, кожны робіць сабе імя як умее…»

Але чаму голас журналіста здаецца ёй такім знаёмым? Анжаліка прыслухалася зноў. А з залы выгукнулі яшчэ адно пытанне, нябывалая справа, звычайна ўсе ціха-прыстойна перадавалі запіскі…

— Ваш бліскучы даклад — гэта аснова будучай дысертацыі? Тэма так і будзе гучаць — «Лекі ад кахання»?

У аўдыторыі засмяяліся. І Анжаліка ўсміхнулася. Яны б яшчэ магістарскую работу на тэму «Сто спосабаў пазнаёміцца з дзяўчынай» напісалі…

— Хай вас не хвалюе назва маёй работы. Насамрэч ад кахання не існуе лекаў. Прафесар Шпіц меў рацыю, а я давёў яго тэорыю на практыцы. Падобна адважным дактарам, якія прышчаплялі сабе небяспечныя хваробы, я паставіў эксперымент над сабой. Так выйшла, што я закахаўся — моцна і безнадзейна, — і выпрабаваў на сабе ўсе сродкі, якія легкадумна прапанаваў у сваім артыкуле. На жаль… — Анжаліка не бачыла, але жыва ўявіла, як ён з усмешкай развёў рукамі. — … самы дзейсны сродак ад кахання — пайсці і з'есці чароўны яблычак са Скалы Закаханых. Больш радыкальных сродкаў навука яшчэ не знайшла.

Тут дакладчык, відаць, пакланіўся і пад смех і апладысменты сышоў з трыбуны, хаваючы паперы ў партфель.

— Вы будзеце пісаць дысертацыю ў нашым універсітэце, пад кіраўніцтвам прафесара? — крыкнулі яму ўслед, і на хаду ён адказаў:

— Даследаванні я працягну ў сваім родным горадзе. Не магу болей злоўжываць гасціннасцю прафесара. Даруйце, у мяне мала часу да цягніка, трэба спяшацца.

Анжаліка стаяла — ні жывая ні мёртвая, — калі ён праходзіў міма, строгі і прыгожы, у цёмным гарнітуры, пры гальштуку. Ён размахваў партфелем і хмурыўся, пагружаны ў нейкія свае думкі, і яна не асмелілася варухнуць рукой ці паклікаць, занадта грандыёзнае ўражанне зрабілі на яе словы «закахаўся моцна» і ўвесь яго нязвыклы выгляд.

— Анжаліка, ну як? — да немагчымасці задаволены прафесар Шпіц з'явіўся ў дзвярах, акружаны вучнямі і калегамі. — Ты чула? Ты бачыла яго? Ён быў дасканалы, твой «хома шаферус», я цябе віншую! Не дзіва, што адшукаць лекі ад кахання не атрымалася, ужо ў занадта выдатны аб'ект ён закахаўся, — і бацька падміргнуў ёй і жартаўліва пагразіў пальцам. — Чакай, ты куды, а як жа банкет?!

Калі Анжаліка, для прыліку выседзеўшы дзесяць бясконцых хвілін за сталом, нарэшце выбегла з універсітэта, вуліцы, што вялі ўніз з узгорка, былі пустыя. А непадалёк, на Скале Закаханых, яблыня варушыла галінкамі, і яе самотны сілуэт чарнеў на фоне неба.

Зрэшты, не, сёння ў яблыні быў госць. Нейкі няшчасны закаханы марудна блукаў пад шатамі яе галін, мабыць, не рашаючыся паспытаць забаронены плод і скончыць з неўзаемным каханнем. «Ах, не так усё проста! — падумала Анжаліка, перапоўненая спагадай да незнаёмца. — Не так усё проста!»

І ён таксама, напэўна, думаў, што не так усё проста, і размахваў партфелем, нібы збіраўся са злосці запусціць яго ўніз з гары… Партфелем? Анжаліка зняла свае модныя акуляры, прыжмурылася, прыгледзелася — і, пускаючыся бегчы, падумала з усмешкай, што бег на абцасах стаў апошнім часам яе любімым заняткам.

Трымаючыся за правы бок і задыхаючыся, яна дабралася да вяршыні ўзгорка. Вядома, для турыстаў назва «Скала закаханых» гучыць больш прыгожа, але, шчыра кажучы, «Скала пячоначнай колікі» гучала б значна больш дарэчы. Анжаліка перавяла дух і прыгледзелася. Што ж, дальназоркасць упершыню аказала ёй добрую паслугу, яна не памылілася, гэта быў менавіта Томас — сядзеў на сваім партфелі, павесіўшы пінжак на галінку дрэва, і штосьці жаваў…

— Не трэба, Томас, пачакайце! Не ешце яблык! — закрычала яна з адчаем.

— Позна, — развёў рукамі ён. — Я яго ўжо амаль з'еў. Але ў мяне ёсць яшчэ, частуйцеся! — ён дастаў з кішэні яшчэ адзін яблык. — Смачныя!

Яна з пратэстам схавала рукі за спіну. На яе вачах зазззялі слёзы.

— Што з вамі? — здзівіўся Томас, ускакваючы на ногі. — Анжаліка? Вы плачаце?

Яна глядзела на яблык, які ўсё яшчэ працягваў ёй Томас, а потым узяла яго і зашпурнула далёка ўніз, туды, у бездань, дзе ядавітыя змеі. Няхай грызуць, калі хочуць. А яна застанецца пры сваім, няхай і неўзаемным, каханні. Відаць, лёс у яе такі — улюбляцца не ў таго ці не тады. Сіндром Анжалікі, так можна было б назваць гэту няўдачлівасць. Але ёсць ужо закон бутэрброда, нават тут яна спазнілася…

Томас паглядзеў яблыку ўслед і шпурнуў туды ж свой агрызак.

— Вы дарма яго выкінулі, нават не пакаштаваўшы. У фраў Апфель цудоўныя яблыкі.

— Фраў Апфель? — разгубілася Анжаліка. І перавяла погляд на яблыню непадалёк. — Дык яблык не з гэтага дрэва?

— На жаль, — развёў рукамі Томас. — Нягледзячы на ўсе мае намаганні, я не знайшоў на гэтым дубе ніводнага яблычка.

Разгубленая Анжаліка падышла бліжэй. Падняла з зямлі жолуд у карычневай шапцы. І доўга глядзела на разное дубовае лісце. Па яе твары ўсё яшчэ цяклі слёзы, але плакала яна зараз з зусім іншай прычыны.

— Магчыма, жалуды тут таксама чароўныя, але яны ўжо сапраўды мне не па зубах, — занадта сур'ёзным голасам сказаў Томас, падыходзячы да яе. — Вас гэта засмучае?

— Страшэнна засмучае, — сказала Анжаліка і ўсміхнулася, таму што пачула развітальны гудок цягніка, які адыходзіў ад станцыі. Сямігадзінны, апошні на сёння. Гэта значыла, што, прынамсі сёння Томас не з'едзе.

— Таксама прыйшлі па яблычак?

Яна рассеяна кіўнула і прагаварыла:

— Вось усе здзівяцца, калі даведаюцца. Падумаць толькі, дуб!

— А можа, не будзем нікому казаць? — прапанаваў Томас. — Навошта адбіраць у безнадзейна закаханых людзей іх апошнюю надзею?

І ён паглядзеў на Анжаліку і яе ружовы шалік, усміхаючыся ласкава і іранічна.

— Я магу параіць безнадзейна закаханым іншыя лекі ад кахання, — сказала Анжаліка збянтэжана. — Радыкальны сродак.





— І што ж я выпусцію ў сваіх даследаваннях?

— Лепшыя лекі ад кахання — гэта новае каханне, — сказала Анжаліка, пільна разглядаючы дубовы лісток з парачкай жалудоў на кароткім хвосціку. Як быццам яна менавіта ім, тоўстым і яшчэ зялёным жалудам, паведамляла пра сваё адкрыццё і як быццам не бачыла ўважлівых вачэй Томаса, які падышоў яшчэ бліжэй.

— Якая цікавая гіпотэза, — сказаў Томас сур'ёзна. — Калега, я спадзяюся, за вячэрай вы падзеліцеся са мной падрабязнасцямі вашага дзіўнага адкрыцця?

Ён узяў Анжаліку пад руку, і яны сталі павольна спускацца з гары.

## Мой дзядзька Лунеш

Мой дзядзька Лунеш жыве далёка за горадам. Ад чыгуначнай станцыі вядзе сцяжынка, што зарасла кудлатай папараццю. Увосень над галавой шумяць дубы і каштаны. А часам гэта платаны ды клёны. Усё залежыць ад таго, хочацца вам збіраць бліскучыя новенькія каштаны, якія толькі што на вашых вачах выпалі з калючай шкарлупіны, ці шамацець залатым і барвовым пяціканцовым лісцем. Увесну ж тут абавязкова глог і бэз, і цёмныя ландышавыя затокі пад дрэвамі, і ўсё напоена водарам кветак і маладога моцнага жыцця.

На павароце да сядзібы ружавее стары абрыкос. Уздоўж сцяжынкі ў ярка-зялёнай траве ўспыхваюць выпадковыя валошкі і позняя жоўтыя крокусы. Ніводзін востры камяньчык не трапіць вам у сандалі, такая ўжо гэта прыязная сцяжынка. Драўляны замшэлы масток цераз глыбокі раўчук з ледзяной смачнай вадой прыводзіць амаль адразу да брамкі. Далей — неабсяжны сад, і сцяжынка разбягаецца, жадаючы паспець адразу і ў асабняк, і да студні, і ў куратнік, дзе куры нясуць яйкі з двума жаўткамі, і на сажалку, і ў альтанку, і, вядома, у ружоўнік, дзе звычайна зранку бывае дзядзька Лунеш, і да разложыстых акацый, дзе ў цяньку стаіць сіняя лаўка з прамой спінкай.

Там часцяком можна знайсці забытыя пальчаткі, кнігу са старонкамі, закладзенымі пахкай кветкай, ці шаўковы белы шалік з лёгкім салодкім водарам ванілі. Часам саламяны капялюш ці вязаны, з кутасамі і пацеркамі, шаль чакаюць безуважлівую гаспадыню. Менавіта там, на ўтульнай драўлянай лаўцы, часта бавіць час да сняданку Іза, танкарукая і капрызлівая жонка дзядзькі Лунеша.

Там я ўбачыў яе ўпершыню, з самага ранку, калі, прыехаўшы начным цягнікам, цягнуўся па лесе. Над сцяжынкай гарэлі ліхтарыкі з чырвонай, зялёнай, блакітнай паперы, схаваныя ў галінах пахучых квітнеючых ліп, — дзядзька чакаў майго прыбыцця. Я пераблытаў напрамак — ці мо сцяжынка назнарок збочыла, каб паказаць мне галоўную адметнасць сядзібы. На ружовых і белых півонях зіхацела раса, сонца ўзышло зусім нядаўна, я злёгку змёрз.

Іза сядзела на лаўцы, захутаная ў тоўсты руды шаль. Побач стаяў кошык з дробнай пунсовай трускалкай, на зямлі валяліся зялёныя клубнічныя хвосцікі. Дзяўчына ела нямытыя трускалкі ды чытала кніжку, а пантофлікі яе былі наскрозь мокрыя, увабралі ў сябе расу з градак, па якіх яна блукала, зазіраючы пад зорчатае лісце ў пошуках саспелых ягад.

— Добрай раніцы, — сказала яна, убачыўшы мяне. — Хочаш трускалкі?

— Так, дзякуй.

— Гэты ты — абяцаны мне таленавіты пляменнік Петэр?

— Так, — я разгубіўся. Дзядзька не пісаў, што ў сядзібе жыве жанчына. Хто яна і як мне сябе паводзіць? Няўжо дзядзька Лунеш ажаніўся? Але для жонкі яна здавалася занадта юнай, не больш за шаснаццаць-сямнаццаць гадоў. Тады хто? Пляменніца? Дачка блізкіх сяброў? Служанка? Госця, якая вандруе без багажу?

Пад шалем бялела тонкая празрыстая кашуля, аблямаваная пацешнымі фестончыкамі. На плячах ляжалі тоўстымі залатымі змеямі дзве доўгія касы. Не звязаныя стужкамі, яны амаль

распляліся. Валасы ў Ізы віліся буйнымі кольцамі і блішчалі. Вусны, калі не расцягваліся ва ўсмешцы, складаліся ў пульхнае вільготнае сэрцайка. Даволі шырокі нос не прэтэндаваў на высакароднае паходжанне, нявышчыпаныя бровы раслі, як ім уздумаецца.

Словам, рысы яе твару кожная паасобку не былі занадта вытанчаныя, аднак усе разам стваралі вельмі прывабны малюначак. З такой сяброўкай добра ўзяцца за рукі і прабегчыся пад даждждом ці здзейсніць набег на чужы яблыневы сад, а потым уладкавацца побач на даху, храбусцець яблыкамі і балбатаць пра ўсякую ўсячыну.

— Я табе падабаюся? — спытала Іза. Я апамятаўся і адвёў погляд. Яна засмяялася.

— Лунеш яшчэ спіць. Хадзем яго будзіць!

— Можа, хай сабе спіць? — мне хацелася пагуляць з ёй удваіх, я так даўно не вадзіўся з аднагодкамі.

— Добра, — лёгка пагадзілася яна. — Тады пакажу табе сядзібу. Тут шмат цікавых месцаў.

І мы пайшлі блукаць па заблытаных сцяжынках. Змяіны камень і пабітае навальніцай дрэва. Сад камянёў і зараснік ядлоўцу. Арэлі і гамак з дзвюма памяранцавымі падушкамі ды пледам. Ратангавыя столік і крэслы на беразе сажалкі, дзе вадзіліся трытоны і п'яўкі і раслі белыя гарлачыкі, якія дазвалялася рваць з лодкі. Драўляная хатка на дубе. Буслава гняздо і мурашнік. І свежанькая, прывабная Іза, з ружовымі шчочкамі ды водарам ванільнай вады. Яна нязмушана ўзяла мяне за руку, калі мы праходзілі міма пузатых гарбузоў іградак з кукурузай.

— Люблю гарод! Паненкі абавязаныя захапляцца ружамі ды рамантычнымі заходамі. А я больш задавальнення атрымліваю, калі прыходжу сюды нарваць пятрушкі і цыбулі. Кветкі бульбачкі і парасонікі кропу — чым не букет? Глядзі, маленькія агурочкі! — яна прыўзняла з зямлі доўгую плець з жоўтымі кветкамі і з мезенец велічынёй агуркамі, паказала мне і асцярожна паклала назад.

— Ты даўно тут жывеш? — няўзнак пацікавіўся я.

— Даволі, — нявызначана працягнула дзяўчына. — Паглядзі, радыска! Як павабна тырчыць з градкі, так і просіць пацягнуць за хвосцік!

Іза вырвала пучок радыскі, прыхапіла пару буйных памідораў і ўручыла мне ахапак духмянай зеляніны.

— На кухню! — выгукнула яна. — Паміраю ад голаду!

Нас чакаў накрыты стол. Велізарная патэльня амлету па-сялянску: з бульбачкай, сырам, каўбаскамі, салодкім перцам і зелянінай. Збанкі з гусіным паштэтам, салёным сырам, сметанковым маслам, варэннем і мёдам. Плеценая хлебніца, поўная гарачых булачак.

— Гэта, вядома, не сняданак, але трошкі пад'есці можна, — заявіла Іза, раскладваючы амлет. — Ты не саромейся, еш. Хлопчыкам трэба сілкавацца як след, ты ж яшчэ расцеш!

Словы пра хлопчыка я вырашыў недачуць, хоць, шчыра кажучы, стала крыўдна. Я ж спадзяваўся, што здаюся ёй вялікім ды моцным мужчынам, а не малечай, што «яшчэ расце».

Калі мы прыкончвалі апошнія булачкі, запіваючы іх гарбатай, кухонныя дзверы адкрыліся, і ў белым купальным халаце ўвайшоў дзядзька Лунеш.

— Петэр! — ён шырока раскінуў рукі, нібы збіраўся абняць нас абаіх. — Дзеці, чаму вы не пабудзілі мяне? Добра хоць я не прапусціў сняданак. Давайце пакуль пройдземся трохі. Ці ты стаміўся і хочаш прылегчы?

Вядома, пры Ізе я не прызнаўся, што сапраўды хацеў бы адпачыць, і мы пайшлі ў сад, атрымліваць эстэтычнае задавальненне ад знакамітых руж дзядзькі Лунеша. Іза дэманстратыўна пазяхала і хутка ўцякла.

— Збегла на гарод, — усміхнуўся дзядзька. — Ну, як табе гэта дзівоснае стварэнне?

— Ты не пісаў мне, што ажаніўся, — папракнуў я.

— Не спадабалася неспадзеўка? Ах, Петэр! Калі б ты ведаў загадзя, то ўявіў бы немаведама што! Непрыступную прыгажуню з пярсцёнкамі на дзесяці пальцах і з чароўным люстэркам у кішэні. Ці





сварлівую цётку ў зашмальцаваным каптуры, з галавой пагружаную ў кухонныя клопаты. А без падрыхтоўкі тваё ўспрыманне было чыстым, і ты ўбачыў Ізу такой, якая яна насамрэч і ёсць. Яна дастойная захаплення, і я хацеў, каб ты першы раз зірнуў на яе як на прывабную юную незнаёмку, якая выклікае жаданне і каханне, а не як на маю жонку.

— Але навошта?

— Так больш займальна, ты не згодны?

— Я ледзь у яе не закахаўся! — абурыўся я.

— *Ледзь*? — дзядзька здаваўся расчараваным. — Я разлічваў, што ты закахаешся з першага позірку.

— Чаму? — я нічога не разумеў.

— Яна здаецца табе брыдкай?

— Што ты, не! Яна цудоўная, проста… яна твая жонка.

— Добра, — дзядзька махнуў рукой. — Хадзем снедаць.

У сталовай я прыемна здзівіўся таму, як часта і смачна елі ў гэтым доме. У параўнанні з бедным школьным рацыёнам, якім я здавольваўся сем гадоў, тут квітнеў культ празмернасці ў ежы і пiцці. Макароны з марынаванымі артышокамі і цёртым сырам, агурочная салатка, круглыя пасыпаныя пятрушкай тэфтэлі, запечаная курыца, кменавыя аладкі з вэнджанай стронгай, фрыкасэ з крэветак, бульбяныя катлеткі, а на салодкае аб'ёмістая міска трускалак са смятанай і цукрам.

Першыя некалькі хвілін я адчайна баяўся здацца Ізе абжорам, браў ежу маленькімі кавалачкамі і павольна, старанна жаваў. Але потым пагледзеў, як драпежна расправіляецца са сняданкам дзядзька, як смачна Іза ўгрызаецца ў курыную ножку, — і спакойна пачаў нагружаць на талерку горы, узгорачкі і астраўкі ежы. Падобным апетытам могуць пахваліцца толькі людзі, што не маюць праблем і нячыстага сумлення. Пахваліўся, такім чынам, і я, бо здолеў дабрацца да дэсерту, пакаштаваўшы ўсе стравы, і нават не расшпіліў пояс.

Выпіўшы два кубкі кавы з малаком, дзядзька Лунеш паскардзіўся:

— Мне трэба ад'ехаць. Паспрабую вярнуцца да абеду, але не чакайце, магчыма, затрымаюся. Калі з'явяцца наведвальнікі, Іза, прымі. А ты, Петэр, забаўляйся, у цябе ж вакацыі. Чытай кнігі, шпацыруй. Схадзі на рэчку выкупацца, вада цудоўная.

Ён галантна пацалаваў руку Ізы, кіўнуў мне і сышоў наверх. Праз пару хвілін я ўбачыў праз акно, як ён, у светлым ільняным гарнітуры і белых туфлях, са скуранай папкай пад пахай, хутка перасек лужок. Загыркаў паціху аўтамабіль. Значыць, дзесьці тут пракладзена дарога і хаваецца гараж.

— Ну, вось мы і адны, — Іза нервова перасмыкнула плячамі. А я цешыўся, што мы з ёй сам-насам. Занадта нават цешыўся, бо нельга ўлюбляцца ў чужую жонку. Але яна выглядала такой падзіцячы свежай і мілай, сугучнай мне па ўзросце, здароўю і настрою, што я перастаў задумвацца і шчыра цешыўся кожнай хвілінай.

— Так, адны, — весела кіўнуў я. — Чым зоймемся?

— Зоймемся? — перапытала Іза холадна. — Стрымай свой запал, маляня. Ты, вядома, пляменнік Лунеша, але я не абавязана забаўляць цябе.

Махнуўшы канцамі рудога шаля, яна сышла, яшчэ і пляснула дзвярамі. Пакрыўдзіў я дзяўчыну ці сам маю права пакрыўдзіцца на яе грубыя словы? Вырашаючы гэту задачку, я замарудзіўся. І калі пусціўся ўслед за Ізай, то не здолеў яе адшукаць. Стаілася яна за гардзінай ці схавалася ў гардэроб? Ці забралася на гарышча і, перабіраючы старажытныя кніжкі, пасмейвалася з мяне? Найбольш верагодна, Іза скарысталася чорным ходам ці падземным калідорам. Жыллё чараўніка — гэта вам не кватэра палепшанай планіроўкі. Від з балкона змяняецца кожныя паўгадзіны, у кладоўцы сярод шчотак і вёдраў хаваюцца куфры са скарбамі, а дзверы летняй кухні вядуць у патаемны лабірынт. Спыніўшы безнадзейную для мяне гульню ў хованкі, я пусціўся на экскурсію па асабняку.

Звярталі на сябе ўвагу нядбайны паўпарадак, цёплая ўтульнасць. Не злічу, колькі прамінуў пакояў, але абсалютна ўсе яны здаваліся заселенымі, быццам гаспадар выскачыў на хвілінку і вось-вось вернецца.

Адсутнічалі пыл і пах волкасці, якія звычайна заводзяцца ў прасторных старадаўніх дамах. Там часцяком пануе застылы, казённы парадак. Ён заклікае размаўляць напаўголаса, нібы ў музеі, і нічога не чапаць, і не марыць нават пра тое, каб сесці ў крэсла ці пакруціць у руках цацку з каміннай паліцы.

А тут, у дзядзькі Лунеша, жыццё цякло інакш. Калі на канапе ляжалі падушкі, то не цвёрдыя, быццам на камені вышытыя, думкі, а зручныя пуховыя падушачкі, на якія прыемна апусціць галаву. Свечкі ў кандэлябрах, што адгарэлі на траціну, а то і напалову, намякалі на дзівосны вечар, поўны рамантыкі, шэпту, шампанскага і пацалункаў. Кнігі ў шафе не мясціліся шчыльна самкнутымі шэрагамі, а нядбайна прыхіналіся адна да адной, і выцягнуць любую можна было без асаблівых намаганняў. Іх не падбіралі па колеры вокладак, не кідалі нудзіцца неразрэзанымі. Трапляліся мятыя старонкі, скрозь пачырканыя алоўкам ці нават залітыя гарбатай. Закладкамі служылі фанцік ад цукеркі, засушаная язмінавая галінка, выразаны з газеты артыкул. Усё паказвала на тое, што тут кнігі часта бяруць у рукі і чытаюць.

Вазы на кансолях, камінных палічках і ў сценных нішах красаваліся не дарэмна, а выконвалі сваё прамое прызначэнне — трымалі кветкі. Напэўна, Іза паднімаецца на світанку, надзявае пальчаткі і шыракаполы саламяны капялюш — абавязковы атрыбут дамы, якая ідзе ў сад, — бярэ нажніцы і плоскі кошык і па расе, прамачыўшы, як звычайна, пантофлі, ідзе збіраць букеты. А потым, не спяшаючыся, вынаходзіць пацешныя кампазіцыі. Белы эмаліраваны гарлач з пунсовымі макамі. Бронзавая чара з россыпам буйных балотных незабудак. Шкляная тонкая ваза з самотнай галінкай верасу. Гліняны гарлачык з жоўтымі дзікімі касачамі. Празрысты слоік з рамонкамі і валошкамі. Ландышы ў пузатым бакальчыку.

Толькі знакамітых руж дзядзькі Лунеша ў інтэр'еры не назіралася, як, зрэшты, і іншых садовых раслін. Не, верагодна, Іза прыносіла ахапкі кветак са шпацыру і ставіла іх куды папала. А можа, букеты і не яе рук справа. Ёй жа больш даспадобы агуркі, а не ружы. Я ўявіў, як дзяўчына ходзіць з лазовай пляцёнкай, набітай гароднінай, і раскладвае ўсюды кабачкі, капусту і моркву. Упэўнены, дзядзька б не пярэчыў. Падумаеш — гарбуз на падаконні ці звязак часнаку замест карціны. Калі ласка, колькі заўгодна! Бо дом ладзіцца не напаказ, а для зручнасці і задавальнення гаспадароў.

Фігуркі на шахматнай дошцы стаялі ў баявым парадку, быццам толькі-толькі перапынілася партыя. У кошыку з рознакаляровымі пучкамі нітак ляжала нясконачаная вышыўка. Ноты на адкрытым раялі стракацелі стужкамі, закладзенымі на любімых п'есках. У цукерніцы ўперамешку з шакаладкамі валяліся пустыя абгорткі і нават пара надкусаных цукерак.

У разгорнутым альбоме я знайшоў шмат алоўкавых партрэтаў Ізы. Вось яна задуменна круціць кудзерку, што выбілася з прычоскі. А вось павярнулася ў профіль і ледзь стрымлівае смех. На наступным эскізе — летуценна глядзіць удалячынь, вочы шырока раскрытыя, цень ад доўгіх веек падае на шчокі. Я ўбачыў зусім іншую Ізу. Мастак ухапіў тут не дзявочае няспелае харастcovo, а павольную, злёгку сумную прыгажосць маладой жанчыны, якая добра ведае пра сваю прывабнасць. Ды гэта ж маляваў сам дзядзька Лунеш, сцяміў я. І з якой пяшчотай маляваў! Кожны партрэт — маўклівае прызнанне ў каханні. Я ўздыхнуў і рушыў па суцяшэнне ў бібліятэку.

Пагартаўшы колькі кніг у пошуках малюнкаў ці камічных гісторый, я раптам наткнуўся на нясконачаны ліст, схаваны паміж старонкамі. Адчуваючы сябе шпікам і злодзеем адначасова, драпежна прыціскаючы да грудзей каштоўную паперку з мудрагелістым круглым почыркам, я выбраўся з дома і пакрочыў па сцяжынцы. Міма замшэлага змяінага каменя і міма закінутай альтанкі прайшоў да азярца, якое мне яшчэ не паказвалі: малюпасенькае, зацягнутае кілімам раскі, з навіслымі старымі вербамі і мноствам бліскучакрылых стракоз. Знайшлася і ўрослая ў зямлю аблупленая лаўка. Я прымасціўся і стаў чытаць.





«Добрай табе раніцы, мілая Адэліна», — напісаныя фіялетавым чарнілам літаркі валіліся адна на адну, спяшаючыся скончыць слова і пачаць наступнае. — «Уяўляю сабе, як у маёнтак прывезлі пошту з фургонам агародніны, чую, як рыпяць вароты і бразгае званок на запрэжцы, і мне сумна, што я не з вамі. Мяне не крыўдзяць, пускаюць блукаць, дзе захачу, але зачараваныя сцежкі, куды б я ні бегла, прыводзяць зноў да ганка.

У сядзібе ўтульна. Адначасова квітнеюць пралескі і спеюць грушы, на шпацырах ручныя лісы і казулі дазваляюць сябе пагладзіць, перасмешнікі і сойкі садзяцца на далонь. І хоць сумна жыць выкрадзенай, удалечыні ад сям'і, я ніколькі не схуднела, і шчокі мае ружовыя, як і раней. Памятаеш, як падабаліся яны Іосіфу? Дзе ён цяпер? Ці носіць яшчэ вясёлкавае адзенне? Пэўна, забыўся пра сваю нявесту, няшчасную Ізу. Сустрэнеш яго — перадай, што сэрца маё з ім навекі. А, зрэшты, не, нічога не перадавай, ён знайшоў бы мяне, калі б захацеў.

Каб пацешыць мяне, Лунеш запрасіў пагасцяваць пляменніка. Хлопчык хутка прыбудзе. Ці папярэдзіць яго пра вераломны план дзядзькі? Учора мне адкрылі страшную таямніцу. Гэта датычыцца майго палону тут і дапаможа мне вырвацца на волю. Уяві сабе, Лунеш…»

Ліст абарваўся, і я тупа вытарашчыўся на нерухомую зялёную ваду. Інфармацыі было і мала, і з лішкам. Выходзіць, Іза не жонка, а палонніца? Дзядзька хлусіць і задумвае штосьці жудаснае супраць мяне? Адказы не знаходзіліся, і я вырашыў пакуль што пакласці ліст на месца. Цікава, як Іза перадае свае пасланні? Не кідае ж у паштовую скрыню.

Дом па-ранейшаму пуставаў. У бібліятэцы на стале з'явіўся спадачак з эклерамі і кубачак гарбаты. Я пачаставаўся. Потым вярнуў на месца ліст і адправіўся на шпацыр. Адчуваючы мой няўтольны голад, сядзіба ўсюды старанна раскладвала ласункі: на ганку чакалі міска з мёдам і лусты пшанічнага хлеба, пад дрэвам — рэшата, поўнае саспелай маліны, на сцяжынцы — паўмісак з гарачымі піражкамі. Потым я палез у кусты па арэхі і ўбачыў Ізу. Яна выходзіла з куратніка і трымала ў руках кошык з яйкамі. Да яе спадніцы прыстала пярэстая пярынка.

Я паспяшаўся да Ізы.

— Не перашкоджу?

— Не, — яна ўручыла мне кошык.

— Магу я задаць табе пытанне? Цябе насамрэч укралі?

Яна доўга, неўразумела глядзела на мяне, потым кіўнула.

— Чым табе дапамагчы? Толькі намякні, — прапанаваў я, падбадзёрыўшыся.

— Пастаў кошык, — загадала яна. Я паставіў. Тады яна абвіла маю шыю рукамі і пацалавала мяне ў вусны. Вядома, я не падаў выгляду, што гэта мой першы ў жыцці пацалунак. Але галава закруцілася, як пасля каруселі. Ад Ізы салодка пахла ваніллю, веяла цяплом, і я ўпершыню пашкадаваў, што вучыўся ў закрытай школе, дзе ад студэнтаў патрабавалі абсалютнага адрачэння ад людской марнасці.

— Ты не падобны да свайго дзядзькі, — прашаптала Іза пяшчотна. Ці мне здалося, што пяшчотна. Я глядзеў вялікімі вачамі і, мусіць, нагадваў ідыёта. Яна ўсміхнулася, узяла кошык і пайшла, я заспяшаўся следам.

— Я ўсё ведаю, — выпаліў я. — Хочаш, пазбаўлю цябе ад яго? Хочаш уцячы адсюль? Я дапамагу!

Яна зірнула на мяне, пырснула смехам, зацiснуўшы рот далонькай, і схавалася ў доме, прычым адшукаць яе мне зноў не ўдалося. Я бязмэтна блукаў па пакоях, і цяпер мне сустракаліся выключна негатыўныя, змрочныя дэталі, накшталт бізуна, нядбайна кінутага на крэсле, ці засохлай крыві на кінжале, які ўпрыгожваў сцяну. Пад адной з падушачак на канапе раптам знайшлася вяроўка. У дзіўным пустым памяшканні, зачыненым на ключ, які тырчыць у дзвярах, узвышаўся незразумелы слуп, і я ўявіў, як знемагае небарака Іза, звязаная і бездапаможная, як здзекуецца з яе кат Лунеш, хвошча яе бізуном і коле кінжалам. Потым фантазіі набылі і зусім непрыстойны кірунак. Іза яго жонка, але ці павянчаў іх святар? Цёмны, як навальнічная хмара, поўны панурых думак, спусціўся я ў сталовую. Мне ўжо не падабалася гасцяваць тут, і толькі жаданне выратаваць Ізу не дазваляла паведаміць дзядзьку пра неадкладны ад'езд.

Выглянуўшы ў акно, я ўбачыў постаць у доўгім чорным плашчы. Постаць ішла прэч ад дома — манах ці пілігрым, а то і злы вядзьмар, з якімі водзіцца мой дзядзька. Я ўздыхнуў. Лунеш з дзяцінства быў для мяне кумірам. Мне заўсёды хацелася вырасці вучоным і ўмелым, навучыцца фехтаваць, танцаваць і падабацца людзям, увогуле, стаць такім жа вялікім чараўніком, як дзядзька. Адвучыўшыся сем гадоў у падрыхтоўчай школе, я атрымаў месяц вакацый для адпачынку і роздуму: ці варта марнаваць яшчэ 15 гадоў жыцця — хай і доўгага, не як у звычайных людзей, — на вывучэнне таемных навук. Жыць у гарах, далёка ад вясёлых сяброў і прыгожых дзяўчат, сілкавацца беднай вегетарыянскай ежай і суцішваць цела дзеля ўзвышэння духу. Я ехаў да дзядзькі Лунеша па параду і благаславенне, а цяпер не ведаў, што рабіць.

— Пра што марыш, Петэр? — пацікавілася Іза, і я здрыгануўся. Яна стаяла ў дзвярах, у карункавай бірузовай сукенцы, з каронай залатых валасоў, акуратна ўкладзенай на галаве.

— Садзіся, а то ж усё астыне, — запрасіла яна, і я заўважыў, што стол поўніцца ежай. Фасолевы суп з каўбаскамі, гарачыя адбіўныя і маладая бульбачка, пасыпаная кропам, баклажаны з часнаком і размарынам і запечаная ў фользе траска, цяляціна ў вінна-гарчычным соусе і салата з жоўтых памідораў са смятанай, цёрты бурак з грэцкімі арэхамі і абсмажаная ў сухарах квяцістая капуста. Грыбы з сырам, запечаныя ў цесце, пахлі, быццам толькі што з печкі. Абрыкосавыя блінцы, шарлотка і шакаладны пудынг заклікалі напляваць на ўмоўнасці і пачаць абед з дэсерту. Дарэмна я хваляваўся наконт свайго апетыту, нікуды ён не знік. Ізу таксама ўгаворваць не трэба было, і першыя паўгадзіны мы перакідваліся толькі адрывістымі «калі ласка, перадай хлеб», «будзь ласкава, яшчэ лыжачку салаты» і «м-м-м, як смачна!». Калі, нарэшце, мы наеліся і павольна сёрбалі гарбату, Іза папрасіла:

— Петэр, раскажы мне пра сваю вучобу. Вы завучвалі замовы?

— Не, — маркотна ўздыхнуў я. — Плялі кошыкі і выразалі трысняговыя дудачкі.

Яна слухала ўважліва, ёй нават спадабалася, што я не ўмею вядзьмарыць, затое здольны ляпіць гаршкі і падкаваць каня, варыць піва і дубіць скуры, класці печы і граніць каштоўныя камяні, лудзіць посуд і склюдаваць дошкі, шыць боты і пячы пірагі.

— І ўсё гэта ты вывучыў за сем гадоў? — ашаламілася Іза.

— Нас адбіралі. Не атрымаецца чараўнік з таго, хто не ўмее з нуля вучыцца новаму.

— Значыць, ты асаблівы. Таленавіты.

— Я хутка схопліваю.

— А якая справа ў цябе самая любімая?

Я пацiснуў плячамі.

— Ды ніякая. Выконваў, што загадвалі. Атрымлівалася ніштавата.

— А ты ўжо абраў факультэт? Лячэбная магія ці будаўнічая, а можа, даследчая? Лунеш кажа, там звыш сарака спецыялізацый.

— Не ведаю, — я зноў пацiснуў плячамі.

— Але пра што ты марыш?

— Мару? — паўтарыў я з прыкрасцю, цямячы, што б такое зманіць.

— Так. Запаветнае жаданне. Мэта, да якой імкнешся, — усміхнулася Іза.

— Э… ну… паступіць ва ўніверсітэт…

— А навошта? Што ты марыш вывучаць?

— Ды не ведаю я! — вось прычапілася! Ды яшчэ пасля абеду, калі хочацца прыснуць дзе-небудзь у цяньку і ні пра што не думаць.

Іза здавалася расчараванай. Не дачакаўшыся адказу, яна раптам змяніла тэму:

— Петэр, скажы, вас вучылі змешваць атруты?

— Лекі. Гэта значыць, тэарэтычна, атруту таксама магу зрабіць.

Я пачаў распавядаць пра блёкат, стрыхнін, опіум, сярністае жалеза, цытварны корань ды марскую цыбулю. У школе мы рыхтавалі болесуцішальныя макавыя аладкі і выганялі сінільную кіслату з персікавых костачак, песцілі на гародзе аканіт і цыкуту, але вывучалі хутчэй не атруты, а антыдоты.





— А існуе атрута, што не пахне і не мае ніякага смаку? — спытала Іза.

— Каму ты збіраешся яе падсыпаць? — пажартаваў я.

— Нікому. Я проста вельмі цікаўная.

Яна паднялася і бяздумна прайшлася па пакоі, пераставіла галінкі ліловых званочкаў у патрэсканай белай вазе, паправіла фіранкі на акне. Потым села на канапу, яе ногі агаліліся вышэй каленяў, і я адвёў вочы.

— Я такая дрэнная, Петэр, — прамовіла яна злым голасам. — Калі б ты толькі ведаў…

— Так раскажы, — прапанаваў я. — Я ж таксама вельмі цікаўны.

— Твой дзядзька выдатны, цудоўны чалавек. Ён вельмі добра ставіцца да мяне. А я …

Яна ўсхліпнула. Я не меў досведу зносін з жанчынамі, якія плачуць, таму жудасна разгубіўся. Дзіця супакойваюць, узяўшы на рукі, прылашчыўшы, пацалаваўшы, гэта я вывучыў, калі няньчыўся з малодшымі братамі і сёстрамі. Штосьці мне падказвала, што Ізу можна суцешыць гэтак жа, але яна ж не дзіця, яна — жонка дзядзькі Лунеша.

Я прысеў на канапу. Іза выцерла слёзы карункавым рукавом і дапытліва паглядзела на мяне, нібы з цікавасцю чакала, што я буду рабіць.

— Не плач, — я няўмела пагладзіў яе па валасах. Складаная прычоска Ізы амаль што развалілася і рабіла твар дзяўчыны далікатным і безабаронным. — Калі ласка, не плач.

Як па сігнале, слёзы паліліся раўчукамі, яна скрывілася і прытулілася да мяне, абвіла за шыю рукамі і ўткнулася тварам мне ў грудзі. Я адчуў, як імгненна змакрэла тонкая кашуля. Яшчэ я адчуў, што мяне абдымае прыгожая дзяўчына. Праз імгненне мае рукі ўжо абхапілі стан Ізы, а вусны паціху цалавалі яе шыю і патыліцу.

Па законах подласці і любоўных раманаў з інтрыгай у гэты момант (Іза ўжо сядзела ў мяне на каленях) у пакой павінен быў з крыкам уварвацца дзядзька Лунеш. Але ён не ўварваўся, і Іза падарыла мне некалькі гарачых салёных пацалункаў.

Сэрца білася, я перажываў усе вядомыя чалавеку пачуцці адразу… а потым Іза нечакана ўстала, паправіла сукенку, цяжка зірнула на мяне і пакінула стаповую. Яна любіла знікаць, рэзка змяніўшы настрой, я ўжо і не асабліва здзівіўся. Сышоў да сябе, паваліўся на ложак і імгненна заснуў.

***

Вечарэла. За акном кружылі ластаўкі, іх гнёзды ляпіліся пад дахам. Я прачнуўся, памыўся, надзеў свежую кашулю і пайшоў шукаць людзей. Дом ахінуўся ў цішыню, па кутах збіралася цемра, агню нідзе не запальвалі. Пэўна, дзядзька яшчэ не вярнуўся, а Іза спіць, стомленая слязьмі. Не стукаючы, я адчыніў дзверы ў гасцёўню. Завешаныя вокны стварылі ўтульны прыцемак, гарэлі ў жырандолях свечкі, пахла эўкаліптавым алеем і лавандай. Дзядзька Лунеш сядзеў у крэсле, а Іза стаяла перад ім на каленях. Яе распушчаныя валасы сцякалі па спіне і твары, поза была поўная пакорлівасці і паслухмянасці.

— Прачнуўся? — весела спытаўся дзядзька Лунеш, павярнуўшыся да мяне. — Самы час. Мы яшчэ не вячэралі.

Іза паднялася з дывана і села на лавачку каля ног дзядзькі Лунеша, старанна мяне ігнаруючы. Я пахаладзеў. А што, калі яна прызналася дзядзьку, і ён знарок размаўляе са мной звычайным тонам, каб потым кінуць праўду ў твар?

— Нейкі ты маркотны, — дзядзька ўважліва мяне разглядаў. — Сумаваў днём? Іза распавяла мне…

Маё сэрца стукнула так, што я пахіснуўся і спешна прысеў.

— …што ў яе амаль не знайшлося часу для цябе. Чым ты займаўся?

— Нічым, — прамармытаў я. — Шпацыраваў, чытаў…

— Ну і правільна, — кіўнуў дзядзька. — Трэба адпачыць як след, асабліва калі ты вырашыў працягваць вучобу. Ну, пра гэта мы пагутарым заўтра з раніцы, на свежую галаву. А зараз вячэраць!

Вячэра працякала ў маўчанні і засмучэнні. Мне нічога не хацелася, нават салодкія стравы — яблыкі ў цесце, печыва з разынкамі і бісквіты — не выклікалі апетыту. Іза з нудным выглядам раз-

мазвала па талерцы кукурузную салату. Толькі дзядзька еў за траіх, знішчаючы гуляш з рысам, фаршыраваныя цукіні, падрумяненыя грачаныя катлеты, бужаніну, грыбное рагу і бульбяную запяканку з сырам і цыбуляй.

— Прынясі мае лекі, — папрасіў ён, наеўшыся. Іза выйшла, доўга не з'яўлялася, потым я ўбачыў яе ў дзвярах. Яна трымала ў адной руцэ сярэбраны кубак, у другой — паперку, і насыпала з паперкі ў кубак нейкі светлы парашок.

— Парашок ад мігрэні? — выказаў здагадку я.

— Чараўнікі не хварэюць, — засмяяўся дзядзька. — Гэта настойка на сарака зёлках, надае сіл пасля цяжкага дня.

— Вось як, — кіўнуў я, прыкідваючы, ці існуюць сушаныя настойкі. Іза скамячыла паперку і схавала яе ў рукаў ужо не бірузовай, а залацістай аксамітавай сукенкі, падол якой валокся за ёй па падлозе, як змяя. Потым пранізліва зірнула на мяне, просячы маўчаць, і падала кубак дзядзьку. Крыкнуць «Не пі! Там атрута!» — ці прамаўчаць? Я ўзяў келіх і цягнуў віно, назіраючы, як дзядзька Лунеш п'е. Іза таксама неадрыўна глядзела на яго, пакусваючы вусны.

— Ну а зараз — на шпацыр! — абвясціў дзядзька Лунеш, з грукатам паставіўшы кубак на стол. Падняўся, абхапіў нас за плечы і павёў з дома. Дрэвы свяціліся рознакаляровымі папяровымі ліхтарыкамі. Укапаныя ў зямлю лямпы разлівалі роўнае матавае святло, прыцягваючы мятлушак і мошак. Шкляныя падвескі і медныя бразготкі, утоеныя ў галінах, пазвоньвалі пад ветрам. Непадалёк цурчэў раўчук з маленькім вадаспадам. Спявалі цыкады. Зрэдку крычала сава.

— Штосьці я дрэнна сябе адчуваю, — пажаліўся дзядзька Лунеш, калі мы дасягнулі старой цаглянай альтанкі. — Рэзь у страўніку і слабасць нейкая. Давайце пасядзім.

У альтанцы ўжо гарэлі свечкі. Падлога хавалася пад мядзведжымі шкурамі, у нішах стаялі вазы з персікамі, вінаградам і цукеркамі, а на лаве ў кошыку — непачатая бутэлька віна, штопар і тры келіхі. Ізноў у мяне з'явілася думка пра тое, наколькі сядзіба адгадвае жаданні гаспадароў. На сцяжынках чакаюць гарачыя піражкі, у цені дрэў — зручныя крэслы, а захочаш задрамаць пад кустом у траве — знойдзеш коўдру з падушкай, а то і раскладны ложак.

— Я, мабыць, вас пакіну, — пазяхнуў дзядзька Лунеш. — Пайду прылягу. Не-не, — спыніў ён мяне, — не трэба турбавацца наконт мяне. Такую цёплую ноч нельга марнаваць на дробязі. Я выдатна дабяруся да спальні адзін.

Ён па-бацькоўску пацалаваў Ізу ў лоб, яна цмокнула яго ў шчаку.

— Вяселіцеся! — бадзёра выгукнуў дзядзька і сышоў.

— Хочаш цукерку? — прапанавала Іза, шукаючы ў вазачцы. — Тут цытронавыя, яблычныя і мятныя…

— Як ты можаш спакойна грызці цукеркі, калі дзядзьку дрэнна? — абурыўся я. — Я бачыў, што ты падсыпала парашок.

— Ты яму не скажаш? — яна схапіла мяне за руку. — Петэр, калі ласка, не выдавай мяне!

— Ужо позна яму паведамляць, ці не так? — сказаў я злавесным ледзяным тонам. Чараўнікі не чуллівыя да атрутаў, але, здаецца мне, Іза пра гэта не здагадваецца…

— Калі б ты ведаў… — прагаварыла яна горка.

— Вось я і збіраюся даведацца. Ты ўсё мне раскажаш. Тут. Цяпер. Альбо я іду да дзядзькі.

— Не! — дзяўчына затрэсла галавой і схілілася блізка да мяне. Яе дыханне пахла цытронам, яблыкам і мятай. І як яна ўмудрылася засунуць у рот гэтулькі ледзянцоў адразу?

— Я раскажу. Што ты хочаш пачуць?

— Усё! — не разменьваючыся на дробязі, запатрабаваў я. — Як ты трапіла сюды, дзе пазнаёмілася з маім дзядзькам, і хто такі Іосіф.

— Адкуль ты ведаеш пра Іосіфа?!

— Адтуль. І гэта апошняе пытанне, на якое я сёння адказаў.

Іза ўздыхнула.





— Мяне зачаравалі, і таму вяселле з Іосіфам было адкладзена. Бацькам прыйшлося наняць магутнага чарадзея, каб ён зняў заклён.

— Дзядзьку Лунеша?

Яна кіўнула.

— Лунеш абвясціў: чары саслабнуць, калі я з'еду з горада. Калі родныя абурыліся, ён выкраў мяне і прывёз сюды.

— А хто цябе зачараваў?

— Хіба ты не зразумеў? — здзівілася Іза. — Лунеш.

Надышла мая чарга дзівіцца.

— Але навошта?

— Хіба можна растлумачыць яго ўчынкі? — схітрыла яна.

— Добра, а што дзядзька задумаў? Для чаго выклікаў мяне?

— Гэтага я не смею табе адкрыць, — вельмі сур'ёзна сказала Іза. — Я паклялася маўчаць. Калі парушу зарок — памру.

Спрачацца я не стаў. Зарок — паняцце сур'ёзнае, на першым курсе ўніверсітэта нават ёсць такі прадмет — клятвазнаўства, і мала хто здае экзамен з першага разу. Зарок парушыць нельга, і справа зусім не ў гонары. Зарок злучае людзей тонкімі магічнымі ніткамі. Пацягнуўшы за іх, рызыкуеш разарваць лёс і пашкодзіць жыццё чалавека. Я ўздыхнуў і ўзяў з вазачкі гронку вінаграду.

— Раскажы хоць бы пра Іосіфа.

— Ён адважны, добры, моцны… — Іза старанна пералічвала стандартны набор якасцяў, якімі дзяўчаты, часта без важкай падставы, надзяляюць каханага чалавека.

— Ён абяцаў выратаваць цябе? — я спадзяваўся на адмоўны адказ.

— Так, — кіўнула Іза, адшчыпваючы вінаградзінкі. — Ён абагаўляе мяне. Абяцаў абысці зямлю ў жалезных чаравіках і з жалезным посахам. Я веру, ён знойдзе мяне.

Я ўспомніў яе няскончаны ліст і ўсміхнуўся: таямнічай Адэліне Іза не хлусіла, як мне цяпер, і прызнавалася, што Іосіф, хутчэй за ўсё, забыўся пра свае абяцанне.

— Ты кахаеш яго?

Яна зірнула на мяне дзіўным поглядам — як на кацяня, якое разбіла кубак ці нашкодзіла неяк яшчэ.

— Хачу спаць, — невыразна прамовіла яна і пацягнулася. — Пойдзем.

Месяц кпліва глядзеў, як я асцярожна прытрымліваў тонкую цёплую руку Ізы і ўдыхаў ванільны водар яе расплеценых кос. Падол цяжкай сукенкі цягнуўся па траве, я сачыў, як бы не наступіць на яго незнарок, і думаў, што дзядзька Лунеш не спіць, а сочыць за намі праз акно. Можа, нават у падзорную трубу. Іза напявала штосьці і ўвесь час спатыкалася, задзіраючы галаву да зорнага неба. Яна паводзіла сябе так, нібы і не спрабавала гадзіну назад атруціць свайго мужа. Хоць па яе разліках ён ужо мёртвы. І Іза зусім не перажывала з гэтай нагоды.

***

Начныя разважанні, спробы супаставіць і разгадаць атрыманыя звесткі, не прайшлі дарма. Прачнуўся я позна, разбіты і нявыспаны, без плана дзеянняў і з кашай у галаве. Зрэшты, астатні свет існаваў па заведзеным у сядзібе парадку. Мая ўчарашняя адзежа знікла, мабыць, адправілася ў мыццё, а на спінцы крэсла віселі чыстая кашуля і адпрасаваныя штаны. Дом працягваў клапаціцца аба мне, нягледзячы на мой кепскі настрой.

Успомніўшы, што дзядзька Лунеш дрэнна сябе адчуваў увечары, я ўскочыў, раптам спалохаўшыся. Ці ўваходзіла да яго Іза? Ці выкрыў ён яе намеры? Яна ж не ўмее хлусіць! І паперку ад атруты, напэўна, не схавала… Я спехам прыняў душ, апрануўся і рынуўся ў калідор. У дзвярах сутыкнуўся з дзядзькам і ледзь не закрычаў ад нечаканасці.

— Ты якраз да абеду, — усміхнуўся дзядзька. — Таксама спаў як забіты?

Я прамармытаў нешта няўцямнае.

— Штосьці ты бледны, — Лунеш заклапочана пачапаў мой лоб. — Ці не захварэў? Можа, атруціўся чым? — у мяне ад гэтых слоў падкасіліся ногі. Дзядзька ўсё ведаў! І падазраваў мяне ў саўдзеле!

— Ты кепска выглядаеш, — дзядзька клапатліва ўзяў мяне пад руку. — Пойдзем, вып'ем кавы ў маім кабінеце. Заадно і пагутарым.

Я падбадзёрыўся. Дзядзька запрашае ў свой загадкавы кабінет! З дзяцінства я марыў пракрасціся туды, а мне строга забаранялі, — маўляў, на дзвярах страшныя закляцці, а ў кабінеце — вядзьмарскія кнігі і зеллі, якія нават на адлегласці шкодзяць непадрыхтаванаму чалавеку. І вось зараз я, стаіўшы дыханне, уступіў у святую святых, у прыстанак неверагодных цудаў. І быў неймаверна расчараваны. Ні закутых у ланцугі фаліянтаў, абгорнутых чалавечай скурай, ні злавесных бутэлечак з атрутнымі эліксірамі, ні пентаграм і кудменяў на сценах. Не было нават звычайных магічных атрыбутаў накшталт попельніцы з чэрапа, антыкварнага кубка ці глобуса.

Палову пакоя займала зручная скураная канапа. Замест традыцыйнага пісьмовага стала каля акна стаяла арэхавае бюро-кабінет, упрыгожанае вытанчанай разьбой, а побач — не менел вытанчанае крэсла з крывымі ножкамі. Скрыні бюро замыкаліся на ключ, але гэта падабенства таямнічасці не суцешыла мяне. Я засмучана глядзеў на ўсходні столік з кальянам, пасуднік з бутэлькамі і куфлямі рознай велічыні, тоўсты дыван, які робіць крокі бязгучнымі. Гэты ўтульны салон нічым не нагадваў кабінет вялікага чараўніка.

— Што, чакаў убачыць кацёл на трыножку і звязкі сушаных мышэй? — іранічна спытаў дзядзька, жэстам запрашаючы мяне сесці. Я ўсміхнуўся.

— Добрая чорная кава цябе ўзбадзёрыць, — дзядзька прысунуў да мяне невядома адкуль узятыя парцэлянавы кубачак. Ад горкага водару адразу падняўся настрой і нават захацелася есці.

— Ну, распавядай, што ты надумаў пра вучобу. Працягнеш ці кінеш?

Я пацiснуў плячамі.

— Буду вучыцца далей.

— А для чаго?

Дамовіліся яны з Ізай, ці што?

— Для чаго? Ну як для чаго. Каб умець вядзьмарыць.

— Але навошта? — не суцішаўся ён. Сядзеў, папіваючы каву, на канапе, у нязменна белым махровым халаце, з мокрымі валасамі, свежы і малады, і весела глядзеў на мяне.

— Каб стаць усёмагутным! — ляпнуў я, занадта позна сцяміўшы, якое глупства змарозіў. Дзядзька засмяяўся.

— Я прадбачыў падобны адказ. А што ты маеш на ўвазе пад усёмагутнасцю?

Наступныя паўгадзіны я спрабаваў растлумачыць. А дзядзька лагодна аспрэчваў мае высновы. Выявілася раптам, што я сам не ведаю, для чаго мне ўніверсітэцкая адукацыя. Так прынята ў нашай сям'і, старэйшы сын ідзе вучыцца ва ўніверсітэт магіі, і не мне парушаць традыцыю, створаную продкамі. Урэшце, я сказаў пра гэта дзядзьку. Ён кіўнуў. Цёплая спагада без цені кпінаў прамільгнула ў яго поглядзе, і я набраўся смеласці, каб пацікавіцца:

— Дзядзька Лунеш, а ты чаму вырашыў падацца ў чараўнікі?

Дзядзька летуценна ўздыхнуў. Я зразумеў, што зараз пачую нешта інтрыгоўнае і фантастычнае. У вялікага чалавека і мэты грандыёзныя! Я разявіў рот і ператварыўся ў слых, каб належным чынам пачуць і засвоіць кожнае слова. Вядома, ён хацеў перамагчы цмока. Ці пабудаваць вежу да самых нябёсаў. Ці адкрыць сакрэт філасофскага каменя…

— Вучылася са мной у школе адна сімпатычная асоба, — лірычным тонам пачаў ён. Мой рот зачыніўся, твар выцягнуўся. Але дзядзька не заўважаў гэтых метамарфоз, паглыбіўшыся ва ўспаміны. Дымілася кава, паблiсквала ў прамянях паўдзённага сонца інкрустацыя на кальяне, і грандыёзная мэта рассыпалася ў прах перад банальным жаданнем падлетка даказаць штосьці прыгожай дзяўчынцы…





— Яна старэла на маіх вачах… і памерла, ужо даўно, — ціха скончыў дзядзька Лунеш, памешваючы астылую каву. — Шкада. Толькі прывяжашся да кагосьці, як ужо губляеш. Для мяне жаніцца — што кошку завесці. Загадзя аплакваеш страту.

— Чараўніцтва — каб пакрасавацца перад дзяўчынкай? — прагаварыў я расчаравана. — А як жа цмокі, шкляныя горы, таямнічыя рытуалы?

— Ды табе, Петэр, кніжкі пісаць трэба! Таямнічыя рытуалы — гэта абгортка, дэкарацыя для недасведчаных у вядзьмарстве людзей. Але ты, спадзяюся, ужо ўцяміў, што магія — гэта праца. Шмат працы, вучобы і напружання.

Я прысаромлена кіўнуў.

— Я за табой даўно назіраю, — працягваў дзядзька. — Ты таленавіты хлопчык, але нейкі абыякавы. Старанна выконваеш, што скажуць, асабліва не задумваючыся над сутнасцю. У цябе няма мэты, ты не марыш ні аб чым. А вучыцца без радасці, без стымулу, па дурной сямейнай традыцыі — значыць зрабіцца пасрэдным чараўніком. Ужо лепей — знакамітым кашолачнікам.

— Але я… — фраза павісла ў паветры.

— Ці трэба табе гэта? Чаго ты хочаш? Аб чым марыш?

Я пацiснуў плячамі. Хіба абавязкова чалавеку патрэбна мара?

— Часу ў цябе досыць, не спяшайся з выбарам, — дзядзька агледзеў мяне з ног да галавы і засмяяўся:

— Чаго ты скіс? Пэўна, прагаладаўся? Хадзем абедаць!

І мы адправіліся абедаць. Грыбны крэм-суп з грэнкамі, румяныя бульбяныя палачкі, абсмажаныя ў сметанковым масле, курыныя катлеткі, пузатыя фаршыраваныя перцы, пулярка са струковай фасоляй, жытнія блінцы з вяндлінай, салата з радыскі і зялёнай цыбулі, а на салодкае — пірог з вішнямі і марожанае.

Дзіўна, які выдатны тэрапеўтычны эфект на мяне аказвала смачная ежа. Калі да абеду галава поўнілася вуглаватымі, цяжкімі і нязграбнымі пытаннямі — што рабіць з вучобай, як знайсці годную жыццёвую мэту, да чаго імкнуцца, — то пасля дэсерту цяжкія думы рассыпаліся прахам. Саступілі месца аднаму маленькаму кругленькаму пытаннечку: дзе б гэта зручна ўлегчыся жыватом дагары і гадзіну-другую падрамаць? Я ўладкаваўся ў гамаку, накрыўся памяранцавым пледам і атрымліваў асалоду ад жыцця, ніколькі не хвалюючыся пра тое, чаму Іза не выйшла абедаць і як мне жыць далей.

Сонца ціхамірна прасвечвала скрозь лісце грэцкіх арэхаў, да якіх быў прывязаны гамак. Жаўцелі прымулы, калыхаліся пышныя шапкі фіялетавых і белых астраў, струменілі рэзкі водар высеяныя на кветніку маяран і мацярдушка. Думкі мае цяклі гультаявата, павольна, нібы разліты на сталe цукровы сіроп. У галаву прыходзілі нейкія недарэчныя варыянты дзеяння, напрыклад, залегчы ў спячку. Прачнешся праз пару месяцаў, а праблемы даўно вырашыліся самі сабой… Шкада, што я не мядзведзь… ці не барсук… ці хоць бы не вожык … Унутраны голас станавіўся ўсё больш нязвязным, я паступова засынаў…

Затрашчалі галінкі, хтосьці ціха чартыхнуўся. Я ледзь не вываліўся з гамака, ускочыў і стаіўся за дрэвам. Высокі юнак у вясёлкавым адзенні краўся паміж кустамі глогу і барбарысу. Ён спалохана азіраўся, чапляўся за калючкі і напаўголаса сыпаў праклёнамі. Я стаіўся ў цені арэха. А ў барбарысавых зарасніках мільгала яркая спадніца Ізы. Таямнічы візіцёр яе пакуль не заўважаў і толькі ўздрыгваў ад кожнага шоргату. Дзіва што. Толькі сапраўдны смяльчак здолее без запрашэння пракрасціся ва ўладанні вялікага Лунеша. Мабыць, у хлопца важныя прычыны знаходзіцца тут…

Я разглядаў яго — маладога, кучаравага, з сытым тварам — і раптам здагадаўся, хто гэта. Праз хвіліну мае здагадкі пацвердзіліся.

На дарожцы сярод барбарысавых кустоў з'явілася з кошыкам дробных чырвоных ягадак Іза. Убачыўшы Іосіфа, яна ўскрыкнула. У лепшых традыцыях любоўнага рамана ёй належала б ад нечаканасці выпусціць кошык, але нічога падобнага. Замест гэтага Іза агледзелася, гэтаксама, як і яе госць раней. Пераканаўшыся, што Лунеша побач няма, дзяўчына супакоілася і паважна падышла да былога жаніха.

— Іосіф?!
— Як бачыш, — тонкім высокім голасам адказаў ён і нядбайна, без асаблівай пачцівасці пакланіўся. Слова гонару, упершыню я пашкадаваў, што не чараўнік. Матэрыялізавацца б цяпер у слупе дыму, з громам і маланкамі, напусціць іскраў, прыстрашыць… Цікава, ёсць ва ўніверсітэце факультэт запалохвальнай магіі?
Іза не пакланілася ў адказ. Замест прывітання яна непрыязна спытала:
— Навошта ты тут?
— За табой. Вызваліць ад злога ведзьмака і вярнуць бацькам.
— А што потым? — прагаварыла Іза з цікаўнасцю. — Наша вяселле?
Іосіф збянтэжыўся.
— Я не магу з табою ажаніцца, — прамямліў ён. — Ты ж… адна тут… жывеш з мужчынам… мама мне не дазваляе…
— Так, маму трэба слухацца, — кіўнула Іза, вывучаючы змесціва свайго кошыка і носікі пантофляў. Узнікла няёмкая паўза. Гайдаліся ад ветрыку далікатныя сэрцайкі дзіцэнтры, цягнуўся па чырванаватай кары глогу ланцужок мурашак, памяранцавы плед падумаў-падумаў і зваліўся з гамака, прымусіўшы мяне здрыгануцца ў ненадзейнай лісцевай хованцы. Іза не варухнулася, а Іосіф здрыгануўся таксама, чым нямала мяне ўзрадаваў.
— Дык пойдзем ужо? — мяркуючы па напружаных плячах і бегаючых вочках, ён пачуваўся вельмі няўтульна. І не дзіўна. У любы момант можа наляцець злы чараўнік Лунеш, і тады наўрад ці Іосіфа па вяртанні пазнае родная матуля…
— Каб бацькі паслалі мяне ў манастыр? Не, дзякую! Дарэчы… — Іза працягнула Іосіфу кошык. — Частуйся!
Ён ахвотна зачарпнуў у прыгаршчы ягад — напэўна, ніколі раней не каштаваў барбарысу, — і сунуў у рот. Пажаваў, жудасна скрывіўся, але не асмеліўся плявацца і, душачыся, праглынуў.
— Яшчэ хочаш? — ласкава прапанавала Іза.
— Не, дзякую, — прапішчаў ён зусім ужо кіслым, камарыным голасам. — То што перадаць тваім бацькам?
— Перадай, што я пайшла замуж за Лунеша і жыву сабе шчаслівая.
— Добра, — пакланіўшыся, Іосіф жвава пабег назад, у барбарыс і глог. Мяркуючы па ўсім, там хавалася сцяжынка, якая вяла на станцыю.
Надаўшы твару строгі і пафасны выраз, я пакінуў сваё сховішча. Так, цяжка паўстаць з кустоў, у якіх сядзеў і падслухоўваў, з паважным выглядам. Напэўна, мне гэта не ўдалося, паколькі Іза хмыкнула. Яна зусім не здзівілася майму з'яўленню. Мабыць, даўно мяне заўважыла.
— Ну, як табе жанішок? — пацікавілася яна. Паклала ў рот адну барбарыску і прынялася жаваць, зусім не скрывіўшыся. Скрывіўся я, рот напоўніўся слінай ад адной думкі пра кіслю…
— Ён лёгка ад цябе адступіўся. Ці варта было прыходзіць?
— Калі злы вядзьмар мяне выкрадаў, Іосіф прылюдна даў зарок, што адшукае ненаглядную нявесту, — з іроніяй сказала Іза. — Вось і мучыцца праз неабдуманыя словы.
— Чаму ты не сышла з ім? — спытаў я. Яна з'едліва ўсміхнулася.
— Каб мяне ратавалі толькі дзеля дурнога зароку? Вось яшчэ! Не жадаю!
— Чаго ж ты жадаеш? — я абняў яе і пацалаваў у шыю. Вецер варушыў завіткі залацістых валасоў, веяла ванілляю, мяккая і паслухмяная Іза прыціхла ў маіх руках.
— Жадаю, каб мяне кахалі, — прашаптала яна.
— Я цябе кахаю, — таксама шэптам паведаміў я.
Як ні дзіўна, і зараз яна не выпусціла кошык. Для выкрадзенай асобы яна мае занадта моцныя нервы. Я, прызнацца, чакаў слёз падзякі і доўгіх шчаслівых абдымкаў. Але Іза не пераставала мяне здзіўляць. Яна зірнула на мой урачысты твар — і зарагатала. Кошык з барбарысам, нарэшце, не вытрымаў і зваліўся на зямлю…





***

Прыцемкам, пасля вячэры, мы сабраліся ў гасцінай, як маленькая дружная сям'я. Прысеўшы каля каміна, я варушыў вуглі качаргой, глядзеў на агонь і марыў пра тое, як выкраду Ізу, павязу яе далёка-далёка і зраблю шчаслівай. Уяўленне малявала карціны, адну прывабнейшую за другую. Вось Іза абдымае мяне і шэпча словы падзякі. Цалуе мяне, свайго героя, і нясмела пытае, што прыгатаваць на вячэру… А дзядзька Лунеш, самотны і няшчасны, піша мне пакаянны ліст, дзе моліць не забываць яго, старога, і наведваць час ад часу…
Іза і Лунеш гулялі ў шахматы. Дзядзька старанна абдумваў ходы, а Іза, наадварот, перасоўвала фігуркі з вусцішнай хуткасцю. Яна вытанчаным рухам брала ферзя ці слана і змяшчала яго ў такую пазіцыю, што дзядзька Лунеш хапаўся за галаву. Белых фігурак станавілася на дошцы менш і менш, але дзяўчыну як быццам нават цешыў пройгрыш. Я рабіў выгляд, што назіраю за гульнёй, а насамрэч сачыў за іншым аб'ектам. Калі Іза схілялася над дошкай, у глыбокім выразе вячэрняй чорнай сукенкі адкрываўся выдатны від, і я на ўсе жылы імкнуўся надаць твару абыякавы выраз.
Шахматная партыя не ладзілася. Іза нахмурылася і раптам, нібы выпадкова, шырокім рукавом змахнула фігуркі на падлогу.
— Вось і добра, — дзядзька пацягнуўся, зірнуў на мяне. — Час выпіць шампанскага. Усё-такі сёння асаблівы дзень.
Іза хутка зірнула на яго, у яе вачах мільганулі спалох і роспач. А можа, адлюстраваліся блікі каміннага полымя.
— Асаблівы дзень? — перапытаў я, назіраючы, як з ніадкуль узнікаюць вядзерца з лёдам, келіхі на тоўстых зялёных ножках, талерка з закускамі.
— Сёння роўна месяц, як Іза жыве ў мяне, — растлумачыў дзядзька, спрытна раскручваючы дрот на бутэльцы. Іза панура сачыла за яго рукамі і не выяўляла ніякай радасці з нагоды знамянальнай даты.
— Вы толькі месяц жанатыя? — спытаў я, каб не маўчаць. Дзядзька ўсміхнуўся, Іза гаротна ўздыхнула, і ў гасцінай запанавала панурая цішыня. Я глядзеў на Ізу, яна не адводзіла погляд ад дзядзькі, дзядзька захоплена займаўся шампанскім. Вось з рыльца бясшумна выскачыў корак, вылецеў тонкі белы дымок, залацістыя іскрынкі паліліся ў келіхі.
— За вяртанне Ізы дадому! — абвясціў тост дзядзька Лунеш.
Я піў шампанскае і нічога не мог уцяміць. Значыць, дзядзька ўжо дамогся сваёй мэты, і дапамога Ізы яму больш не патрэбна? Ці звязана гэта нейкім чынам са мной?
— Роўна апоўначы ты сядзеш у карэту і паімчыш да мамы і таты, — казаў Лунеш тым часам. — Хіба гэта не кранальна? Як знудзіліся бацькі! Як тужыла сястрычка Адэліна! Як смяротна пакутаваў няшчасны Іосіф!
Іза павольна паставіла келіх. Да шампанскага яна так і не дакранулася.
— Ідзі пакаваць валізкі! І не крыві носік, а то пакідаю ўборы ў кардонныя скрынкі і заляплю скотчам, — прыстрашыў дзядзька.
— Я нікуды не паеду!
— Паедзеш, — запярэчыў дзядзька. — Ты абяцала.
— Акалічнасці змяніліся!
Дзядзька пакруціў галавой і пачаў прамаўляць штосьці ўзнёслае пра непарушнасць зарокаў, важнасць абяцанняў і легкадумства юных дзяўчат, якія бестурботна парушаюць умовы пагаднення. Іза, са счырванелым носам і бліскучымі вачамі, але пакуль яшчэ без слёз, выглядала, быццам вінаватае, непаслухмянае дзіця, і зрэдку спрабавала ўставіць у дзядзькаў маналог сваю пару рэплік, што ёй так ні разу і не ўдалося.
— …таму ты без лішняй гаворкі з'язджаеш, і спрэчкі на гэтым скончаны, — роўным голасам прамовіў дзядзька. — Петэр, дапівай шампанскае.
Іза ўсхліпнула і, закрыўшы рот рукамі, уцякла.

— Што гэта з ёй? — спытаў я.

— Закахалася, — пацiснуў плячамі дзядзька. — З дзяўчынкамі яе ўзросту гэта здараецца вельмі часта. Вырашыла, што сустрэла свайго нарачонага, хоча звязаць з ім жыццё.

Я булькнуў шампанскім, насілу стрымаўшы шырачэзную ўсмешку трыумфатара. Ах, як прыемна, я — аб'ект любові! Небарака Іза, як моцна яна мяне кахае! Я п'ю шампанскае, а ў галаве спее план. Спаслацца на стомленасць, прыкінуцца, што іду адпачываць, а самому — прабрацца да Ізы. Не цярпелася пачуць гарачыя прызнанні з вуснаў дзяўчыны. Ганарлівая, яна выдатна хавала свае пачуцці. Але няма сэнсу больш утойвацца. Мы ідэальная пара, мы створаныя, каб быць разам, мы сёння ж уначы з'едзем адсюль. Збяжым. Употай прабяромся на станцыю, сядзем у цягнік… Размлеўшы, я ўяўляў, як знаёмлю Ізу з бацькамі, як яна цалуе мне руку і дзякуе за выратаванне, а потым у цішы і адасобленасці шлюбнага гняздзечка яна… яна… і я…

— Петэр! — дзядзька ўстрывожана паляпаў мяне па шчацэ. — Ты спіш, дружа! Штосьці мы заседзеліся. Жыва ў пасцель!

— А як жа… поўнач… Іза… — залапатаў я, выныраючы з салодкіх мрой і спалохаўшыся раптам, што дзядзька чытаў мае думкі.

— Ты паверыў? — ён усміхнуўся. — Поўнач, карэта, — гэта спецэфекты для застрашвання свавольнай дзяўчыны. Заўтра раніцай я адвязу яе на вакзал і пасаджу ў цягнік, толькі і ўсяго. Якія карэты ў наш час, што ты! — ён пажадаў мне салодкіх сноў і, прыхапіўшы свечку са стала, выйшаў. А я, узяўшы іншую свечку, пусціўся адшукваць спальню Ізы.

Уначы дом дзядзькі Лунеша паводзіў сябе яшчэ больш загадкава і непрадказальна, чым днём. Там, дзе я меркаваў усходы, знаходзілася камора з мяцёлкамі. Замест вокнаў за гардзінамі хаваліся таямнічыя замкнёныя дзверцы. Цёмныя калідоры прыводзілі мяне ў тупікі, у прамым значэнні гэтага слова. У кожным тупіку стаяла ўтульнае мяккае крэсла — быццам дом прапанаваў мне прысесці і падумаць, ці варта працягваць блуканні і ці не лепш пайсці ў люлю. Уласную спальню я абмінуў не меней за пяць разоў. Гэта ўжо злавала. Два паверхі і з тры дзясяткі памяшканняў! Як жа мог я так бязглузда заблудзіцца?

Да таго ж, скразняк раптам задзьмуў маю свечку, і я апынуўся ў цемры. Прыйшлося тупаць, выцягнуўшы наперад рукі, і шэптам лаяць дзядзьку, які не лічыў патрэбным начное асвятленне. Чараўнікам добра, яны добра бачаць нават уначы, а як хадзіць простым смяротным? Уразаючыся ў куты, натыкаючыся на мэблю і чапляючыся за дзвярныя ручкі, я вельмі хутка здаўся. Прападзі яно пропадам! Перахаплю Ізу раніцой, а цяпер нядрэнна было б дабрацца да ўласнай пасцелі. Я замёр, спрабуючы вызначыць напрамак, і пачуў прыдушаныя рыданні зусім блізка. Іза!

Мудры чалавек той, хто, не здаволены заваламі і клямкамі, вынайшаў ключ, замок і заадно замочную шчыліну. Уладкоўваючыся ямчэй на каленах, я прытуліўся да дзвярэй. Заспець мяне, падкраўшыся ззаду, не было каму: дзеючыя асобы сабраліся ўнутры. Таму я расслабіўся і пачаў прагна падглядваць і падслухоўваць.

Зарумзаная Іза, усё ў той жа чорнай сукенцы з шырокімі рукавамі, стаяла сярод пакоя і хлюпала носам. Дзядзька Лунеш размясціўся ў фатэлі каля акна і моўчкі глядзеў на дзяўчыну, мабыць, чакаючы, калі ж струмені слёз вычарпаюцца. Мне нібы давалі час азнаёміцца з дэкарацыямі, перш чым акцёры пачнуць спектакль.

Што першае прыйшло ў галаву: цікава, хто абстаўляў пакой Ізы? Я ўявіў дзядзьку Лунеша, які натхнёна перабірае ўзоры ружовага паркалю, спрабуе на мяккасць пуфы і скупляе ў краме ўвесь асартымент парцэлянавых кацянят. Дзіўна, як дом трывае ў сабе гэты прыкры, засмечаны статуэткамі і фальблокамі, куток?

Іза пачувала сябе тут камфортна. Аб гэтым сведчылі кінутыя на падлозе панчохі, поўная шакаладу банбаньерка з размаляваным вечкам і тонкі водар ванільных духоў, які моцна засеў ва ўсіх здольных пахнуць паверхнях і тонкай нябачнай стужкай працякаў праз замочную шчыліну. На падаконніку ляжала расчыненая на сярэдзіне кніга і стаяла талерка з надкушаным зефірам. Пасцель хавалася пад ахапкам сукенак. Ці то Іза не магла выбраць, што надзець да вячэры, ці то ўжо складвала рэчы. У гэты момант яна стаяла спінай да дзвярэй, а дзядзька круціў у руках нейкі ліст, напісаны фіялетавым чарнілам. Якая якасная замочная шчыліна, уразіўся я. Увесь пакой відаць у падрабязнасцях, як на далоні. Вось што значыць жыллё чараўніка! Магічная архітэктура прадугледжвае кожную дробязь, нават не ў меру цікаўных госцяў, якія рашылі разнастаіць вольны час падгляданнем за гаспадарамі…





А гаспадарам, нарэшце, надакучыла маўчаць.

— Іза, хопіць ужо разводзіць сырасць. Ты дарослы чалавек, вазьмі сябе ў рукі!

Яна ўсхліпнула.

— Як мы дамаўляліся? Я выкрадаю цябе, каб праверыць пачуцці Іосіфа і адмяніць нежаданае вяселле. А ты за гэта спакушаеш майго пляменніка і правяраеш яго гатоўнасць адрачыся ад чалавечай марнасці ў імя вучобы. Абодва пункты дамовы выкананы. Іосіф апынуўся баязліўцам і мамчыным сынком, а Петэр пасля пары пацалункаў зусім забыўся пра ўніверсітэт. Усё, Іза, усё! Супрацоўніцтва скончана. Давай я дапамагу табе спакаваць твае сукенкі.

— Я нікуды не паеду!

— Не, я разумею, жыццё пад крылцам мамы і таты табе абрыдла, — разважаў Лунеш. — Тады прымі запрашэнне Петэра. Хлопчык гарыць жаданнем павезці цябе ў далёкія краі.

— Жаўтаротае птушаня, навошта ён мне? — чмыхнула Іза. — Кулічыкі ў пясочніцы ляпіць? Пяць хвілін у яго кампаніі — непазбежная смерць ад нуды!

— Навошта ты так жорстка? — дзядзька пакруціў галавой. — Ён добры хлопец, бяскрыўдны. Толькі здольнасцяў — як кот наплакаў.

— Ну, не ўсім жа вялікімі чараўнікамі станавіцца. Трэба камусьці і яблыні ў садзе бяліць, — усміхнулася Іза. — У твайго пляменніка нават мары няма! Усе думкі засяроджаныя ў вобласці майго дэкальтэ.

— Але ж гэта добра! Ён вачэй з цябе не зводзіць. Узаемнасць забяспечана! Ну што за звычка ў вас, юных дзяўчат, кахаць не ўзаемна?

— Сэрцу не загадаеш, — даволі груба адказала Іза. Яна шморгала носам і спрабавала паказаць, што не плакала, а проста штосьці насмарк разгуляўся.

— Зразумей, ты парушаеш дамову. Як мы дамовіліся? Петэр губляе галаву — і ты вольная. Хочаш — едзь з ім, хочаш — вяртайся дахаты. А ты што робіш?

Іза памаўчала і мірна, неяк па-сталаму ласкава прагаварыла:

— Пасля смерці тваёй жонкі мінула ўжо шмат гадоў. Чаму ты баішся прызнацца, што зноў закаханы?

— Гэта мае і толькі мае справы! Я не збіраюся пускацца ў тлумачэнні, — раззлаваўся дзядзька.

— Не збіраешся? Але ж прыйдзецца! Зрабі міласць, растлумач! — ускіпела яна. — Я ж бачу, што ты кахаеш мяне! Адчуваю!

— Няпраўда, — запярэчыў ён неяк непераканаўча.

— Кахаеш! — выгукнула Іза. — Не можаш не кахаць!

— Ах, сапраўды, — успомніў дзядзька. — Спадзяешся на тое прываротнае зелле, што падсыпала мне ў настойку?

Яна збянтэжылася.

— Адкуль я ведаю? — Лунеш не тоячыся весяліўся. — А ты разгледзела твар злавеснага ведзьмака ў чорным плашчы, у якога купіла парашок?

Іза пакруціла галавой.

— «In Amor via sine lingua latina invia est» — злавесна прабубніў дзядзька і зрабіў пальцамі магічныя пасы.

— Дык гэта быў ты! — зашыпеўшы, як раззлаваная кошка, Іза кінулася на яго. Вядома, Лунеш мог з лёгкасцю адбіць гэтую смешную атаку. Але, мабыць, вырашыў злёгку паддацца. Я не стаў чакаць, пакуль замест штурхалёў і шчыпкоў яны прымуцца ўзнагароджваць адзін аднаго пацалункамі. Паціху падняўся і на зацёклых нагах паплёўся ў сваю спальню. Думкі ў галаве бурлілі і ўскіпалі, грукочучы вечкам. Іза кахае дзядзьку Лунеша, а мяне лічыць жаўтаротым птушанём. Яна смяялася з мяне!

Я вагаўся. Вярнуцца туды і ўчыніць скандал? Кінуцца тварам у падушку і разраўціся, як дзяўчынка? Прыкінуцца, што нічога не здарылася, і з вясёлай усмешкай выйсці да сняданку? Не, ізноў не то.

Дом выдатна адчуваў мой настрой: сабраныя валізкі стаялі на парозе. Не развітваючыся, — шчыра кажучы, каму я тут патрэбны? — я паплёўся на станцыю. Што ж, прызнаю: паездка скончылася правалам і ганебнымі ўцёкамі. Замест блаславення і добрай парады я атрымаў ад дзядзькі сумленны, але які ж непрыемны дыягназ: няўдачнік. Моцны ўдар, які разбіў мае грандыёзныя надзеі.

І што цяпер? Вярнуцца дахаты і да канца жыцця трываць насмешкі братоў і спагадлівыя погляды сясцёр? Заняцца пляценнем кошыкаў ці адкрыць пякарню, назаўжды забыўшыся пра чараўніцтва? Я ўявіў, як дзядзька Лунеш з Ізай прыедуць у наша мястэчка і захочуць адведаць пляменніка Петэра, парушальніка сямейных традыцый, небараку, зусім пазбаўленага здольнасцяў. Я, у белым пякарскім каўпаку і фартуху, перапэцканы мукой, вынесу ім пернікі і крэндзелі. Іза ветліва адшчыкне кавалачак, а дзядзька паляпае мяне па плячы: «Нічога, нічога».

Я ў шаленстве спыніўся і шпурнуў валізкі на сцяжынку. Ну не! Я не зусім пазбаўлены здольнасцяў! «Як кот наплакаў», — сказаў дзядзька, а значыць, хоць бы мізэрны шанц маецца! А астатняе — гэта праца, вучоба і напруга. А я ўседлівы, з добрай памяццю, і цярпення мне не пазычаць! Здолею, змагу! Знарок паступлю на самы складаны факультэт, суткамі буду займацца, закапаюся ў кнігі — і вывучуся на чараўніка!

Слава пра мяне пойдзе з краіны ў краіну, і як-небудзь раніцай за кубачкам кавы дзядзька Лунеш задуменна скажа пастарэлай, патаўсцелай і ўжо не такой прыгожай Ізе: «А ведаеш, я памыляўся ў Петэры. Гэты хлапчук чартоўскі здольны! Ён перасягнуў нават мяне!» Іза расплачацца горкімі слязьмі, раскайваючыся, што неабдумана абрала пасрэднага дзядзьку, не разгледзеўшы геніяльныя задаткі ў пляменніку. Прымецца дасылаць мне любоўныя лісты, якія пахнуць нязменнымі ванільнымі духамі, а я, не чытаючы, пушчу іх на падпалку каміна. Бо я вялікі, я ўсёмагутны, і ўсе дзяўчаты свету — мае…

Суцяшаючы сябе гэткімі фантазіямі, на досвітку я прыцягнуўся, нарэшце, на станцыю. Да цягніка заставалася больш за гадзіну. Перон быў пусты, паміж шпаламі падрыгвалі ад ветрыку дробныя рамонкі, а на лавачцы каля білетнай касы сядзеў Іосіф і змрочна еў сланечнік. Выкалупліваючы пульхнымі пальцамі семкі і злосна сплёўваючы пад ногі шалупіне, ён выглядаў жудасна кіслым і неадпаведным майму прыўзнятаму настрою. Як высвілася, пасля сытнага абеду ў станцыйным буфеце няўдачліваму пасажыру не хапіла грошай на праезд у першым класе, а падарожнічаць другім — ніжэй за ягоную годнасць. Расшчодрыўшыся, я купіў яму квіток.

— Ды ты проста чараўнік! — выгукнуў Іосіф.

Я кіўнуў і загадкава ўсміхнуўся.

Жыццё пачынала ўваходзіць у каляіну.





*Адна з самых любімых аўтараў «Маладосці» — Алёна Беланожка — у гэтым нумары выступае са сваім новым фантастычным апавяданнем, якое прымушае і падзівіцца, і задумацца.*

*Камуфляж тут носіць не толькі прыўкрасная галоўная гераіня, але і іншыя персанажы — толькі ў іх ён свой, адметны, як і ва ўсіх людзей, што здольныя на нечалавечыя ўчынкі.*

*Чалавек і прырода, чалавек і іншыя істоты, чалавек і… сумленне. У такім невялікім творы аўтарка пазначае ўсе гэтыя тэмы, не забываючыся, вядома, прадэманстраваць пераможную жаноцкасць галоўнай гераіні і нагнясці атмасферу ў фінале.*

Алёна Беланожка

## Камуфляж

Быў ліпеньскі полудзень, самая спякота — час, калі людзі хаваюцца ад сонца на цяністых тэрасах, п'юць халодны ліманад, дрэмлюць у крэслах або вядуць лянівыя пустыя размовы.

Ласерта прымала сонечную ванну. Яна ляжала на вялікім плоскім камені, прыкрыўшы вочы, і ўбірала ў сябе святло і ультрафіялет. Гарачыня расцякалася па яе целе, казытала твар, пальцы, калені, распаляла цяжкія залатыя ўпрыгожанні, шчодра прыпраўленыя самацветамі, — пласціны на грудзях, бранзалеты на запясцях і галёнках. Камень быў надзейна схаваны ад цікаўных вачэй ва ўтульнай лагчынцы, якую з усіх бакоў абступалі скалы. Крыху воддаль ад каменя, нібы вялікая пашча, чарнеў уваход у падзямелле. З нетраў зямлі цягнула холадам і сырасцю.

Ласерта ўсміхалася і вуркатала ад задавальнення. Яна, як і ўсе жыхары падзямелля, любіла сонца, але бываць пад яго промнямі Ласерце выпадала не дужа часта. Людзі з кожным годам падбіраліся ўсё бліжэй да пячор, ляпілі смешныя домікі ў перадгор'і, заводзілі невялікія гаспадаркі на зямлі, выпаленай сонцам. Падземныя жыхары стараліся не трапляць людзям на вочы — бераглiся.

Ласерта была яшчэ зусім юная. Яна захаплялася вялікім наземным светам, прыслухоўвалася да сухога трэску цыкад, лавіла вуснамі вецер, а па начах прыбягала сюды, каб паслухаць крык птушак і скавытанне звяроў. Ласерта любіла пах кветак, але тут яны не раслі, бо зямля была бедная.

Яшчэ ніколі Ласерта не бачыла чалавека ўжывую, нават здалёк.

Промні лашчылі скуру Ласерты, і не было лепшай асалоды, як ляжаць і марыць у гэтым салярыі пад адкрытым небам.

Раптам пачуўся шоргат сухастою. Ласерта прыўзнялася і агледзелася.

У лагчыну спускаўся чалавек.

Ласерта не баялася — яна была ў камуфляжы. Аднак, на ўсякі выпадак, яна схавалася за каменем і пачала сачыць за нечаканым госцем.

Чалавек аказаўся маладым хлопцам. Ён ішоў, зразаў нажом сухое калючае вецце і складаў яго ў ахапак.

Хлопец павольна наблізіўся да каменя, хацеў прысесці на яго, але падскочыў, як абвараны: камень быў вельмі гарачым.

Незнаёмец перадумаў садзіцца. Ён кінуў вецце на пясок, павярнуў твар да ўваходу ў падзямелле і прыслухаўся.

«У яго тонкая скура, якая баіцца сонца… і такія тонкія костачкі! — думала Ласерта, разглядаючы чалавека. — Ён такі безабаронны! Чаго яго баяцца?»

Ласерта ўстала. Хлопец адчуў, што нехта глядзіць яму ў спіну, і азірнуўся.

Перад ім стаяла чарнабровая загарэлая дзяўчына. На кончыку яе чорнай густой касы блішчэлі

маленькія званочкі. На дзяўчыне была кароткая шэрая сукенка. Вясковыя жанчыны бераглiся ад сонечных апёкаў, таму насілі доўгія, па пяты, спадніцы, якія ўздымалі пыл над сцежкамі пры кожным руху, і кофты з доўгімі рукавамі.

Аднак не сукенка займала хлопца, не вочы Ласерты, не яе валасы. Як зачараваны, ён глядзеў на ўпрыгожанні, якія зіхацелі на дзяўчыне.

Ласерта заўважыла гэта і бразнула бранзалетамі:

— Падабаюцца?

— Твае бацькі працуюць на рудніках? — спытаўся хлопец.

Ласерта ўсміхнулася. Яе бацькі не працавалі на рудніках, і ўвогуле, Ласерта не ведала, што такое руднікі.

— У мяне такіх многа! — сказала яна, зняла адзін бранзалет і працягнула хлопцу. — Бяры. Гэта табе. Мяне завуць Ласерта.

— А мяне — Дыега.

Хлопец узяў бранзалет, баязліва агледзеўся і хутка схаваў падарунак у кішэню.

— І даўно твае бацькі здабываюць тут золата? — пацікавіўся ён.

— Вельмі даўно, — адказала Ласерта. — Мы прыйшлі сюды раней за вас.

Гэта была праўда. Яшчэ не з'явіліся першыя людзі, а продкі Ласерты ўжо былі тут, на гэтай зямлі — будавалі вялікія гарады, расцілі сады, песціліся пад сонцам. Пасля з неба спусціліся продкі першых людзей. Яны выпалілі нябесным агнём сады і забудовы,ператварылі зялёную зямлю ў сухую пустыню і вымусілі продкаў Ласерты сысці пад зямлю. Аднак новыя гаспадары зямлі былі задужа лянівыя, каб зноў рабіць пустыню садам. Многія тысячагоддзі пустыня заставалася пустыняй, а людзі, замест таго, каб будаваць і працаваць, прызначалі сабе ворагаў, каб абвінавачваць іх ва ўсіх сваіх гаротах. Галоўным ворагам людзі прызначылі жыхароў падзямелля — таму, што ўвесь час баяліся іх помсты.

Дыега паглядзеў у чорную пашчу пячоры.

— Вось калі б я знайшоў залатую жылу! — уздыхнуў ён.

— Чаго яе шукаць? — здзівілася Ласерта. — У гэтых краях яны амаль што на паверхні.

Ласерта не маніла. Яна, як і ўсе падземныя жыхары, умела бачыць унутраным зрокам, дзе праходзяць залатыя жылы, дзе залягаюць медныя руды і велізарныя гронкі прыгожых камянёў. Яна добра ведала, што мясцовыя скалы наскрозь прарэзаны шчыльнай рашоткай залатых жылак. Золата проста сыпалася з іх.

— У пячоры ісці небяспечна, — сказаў Дыега. — Там жывуць жудасныя пачвары, яны сцерагуць сваё дабро і нікому нават зярнятка золата не аддадуць! А хто возьме — таго адразу заб'юць.

— Цікава, нашто ім золата ды камяні… яны што, ядуць іх? — пацікавілася Ласерта.

— Дзіўна, што ты ў мяне гэта пытаеш! — адказаў Дыега з прастадушнай вясковай іроніяй. — Мы ўсе ведаем — вы, рудакопы, у змове з тымі пачварамі! Вы кожны год аддаяце ім ахвяру — маладую дзяўчыну, а яны вам дазваляюць свідраваць іхнія пячоры. Глядзі, каб і цябе не аддалі!

Ласерта ледзьве стрымлівалася, каб не засмяяцца. Ахвяру — падумаць толькі! Што за дзікунства! Падземныя жыхары ніколі не патрабавалі ахвяр ад людзей і не трэсліся над золатам — у іх былі справы і больш цікавыя. І потым, золата, жоўты метал… Самы бескарысны, самы танны з усіх! Дзіўна было чуць, што нехта можа забіць з-за яго. У Ласерты падлога пакоя была выслана залатым пяском, яна па ім хадзіла!

— Хіба можна дзеля зярнятка металу? — спыталася Ласерта.

— Не прыдурвайся! — крыкнуў Дыега. — Яшчэ як можна! Майго бацьку забілі з-за золата!

— А хто забіў? Падземныя жыхары?

— Яго знайшлі мёртвым тут, каля ўваходу ў пячоры.

Ласерта здзівілася. Падземныя жыхары ніколі не нападалі на людзей першымі.

— Мае спачуванні, — сказала яна.

— Гэта даўно было.

Дыега пазмрачнеў.

— Ладна, я пайшоў, — сказаў ён. — Гэта ты тут бадзяешся без справы, а ў мяне работы — воз.

Дыега схаваў нож у кішэню, падняў з зямлі свой ахапак сухастою ды хутка пайшоў у той бок, адкуль з'явіўся ў лагчыне. Пакуль ён крочыў, вострае лязо зрабіла дзірку ў тонкай тканіне, і нож упаў на пясок. Хлопец не заўважыў страту.





Счакаўшы, пакуль Дыега адыдзе далей, Ласерта падбегла да нажа, падняла яго, а пасля вярнулася на камень і села, абхапіўшы калені рукамі.

«Дзіўна, — падумала яна. — Людзі гатовыя верыць у розныя страшныя байкі, якія самі і прыдумваюць».

Яна прасядзела на камені да вечара, разглядаючы нож, але Дыега так і не вярнуўся.

— Ласерта, ты зноў была на паверхні? — спытаўся бацька, калі сям'я сабралася за сталом на вячэру.

— Так, — адказала Ласерта. — Там такое сонца!

— А дзе твой бранзалет? — спыталася маці, заўважыўшы, што на руцэ дачкі не хапае ўпрыгожвання.

— Згубіла, — сказала Ласерта і паклала на стол нож, што згубіў Дыега.

— А гэта ў цябе адкуль? — пацікавіўся бацька.

— Знайшла, — адказала Ласерта.

— Сцеражыся, дачушка, — ціха папярэдзіла яе маці. — Людзі не такія, як мы. Яны не ўмеюць быць удзячнымі.

Маці Ласерты пазнала гэты нож. Яна б яго не зблытала ні з якім іншым! Многа гадоў назад гэтым нажом чалавек адрэзаў ёй руку, каб завалодаць яе бранзалетам.

Наступным днём Ласерта зноў сядзела на камені. Яна паклала перад сабой нож і чакала.

Як і ўчора, у самую спёку ў лагчыне з'явіўся Дыега. Ён ішоў павольна, аглядаючы пясок і сухія хмызы.

— Ты не гэта шукаеш? — крыкнула Ласерта, падняўшы нож над галавой.

Дыега падняў галаву, убачыў Ласерту, падбег да яе і выхапіў свой нож.

— Не тваё — не бяры! — абурыўся ён.

— Калі б я не падняла твой нож, яго б знеслі птушкі, — адказала Ласерта. — Чаму ты злуешся на мяне?

— Я не злуюся, проста табе было б лепш не хадзіць тут такой расфуфыранай! Тут жывуць простыя людзі, а ты дражнішся!

— Ах, вось яно што! — рассмяялася Ласерта. — Ты зайздросціш.

Дыега адвярнуўся. Ласерта скокнула з каменя і падышла да хлопца.

— Патлумач мне, — папрасіла яна. — У вас няма вады, ваша зямля неўрадлівая, яна хварэе, а вы, замест таго, каб лячыць яе, марыце аб бяздонным багацці! Нашто яно вам? На залатым пяску не растуць мандарынавыя дрэвы, з дыяментаў не зварыш поліўку.

— Ты нічога не разумееш! — адказаў Дыега. — Калі я разбагацею, я з'еду адсюль туды, дзе вада — халодная і не салёная, а зямля — тлустая і чорная.

Ласерта задумалася.

— Я магу паказаць табе жылку, — сказала яна. — Гэта побач, за два крокі. Але ты мусіш мне нешта паабяцаць!

— Што ты хочаш? — спытаўся хлопец.

— Ты з'едзеш туды, куды сабраўся, дзе чорная зямля, дзе халодная вада… Ты навучышся рабіць зямлю шчодрай — і вернешся сюды, і навучыш сваіх землякоў. Па руках?

— Па руках, — сказаў Дыега.

Донна Анхела асцярожна ўвайшла ў пакой сына. Яна пераканалася, што Дыега няма, зачыніла дзверы, завесіла фіранкі і пачала пошукі. Жанчына падняла матрац, які ляжаў на грубым драўляным ложку, парылася ў шуфлядах старой камоды, парылася ў кішэнях сынавай вопраткі, прастукала падлогу і сцены. Пошукі нічога не далі.

Донна Анхела прысела на ложак, паставіла сабе на калені падушку і ў задуменні абняла яе. З падушкі ва ўсе бакі паляцела пер'е, а падбародак жанчыны ўпёрся ў нешта цвёрдае. Донья Анхела хутка сцягнула навалачку, разадрала неахайнае шво на падушцы, запусціла руку ўнутр і разам са жменяй пер'я выцягнула на свет бранзалет.

Гэта быў залаты бранзалет тонкай работы, з прыгожай інкрустацыяй — зіхоткай яшчаркай з доўгім апалавым хвастом і вочкамі-ізумрудамі.

Донна Анхела пабегла ў свой пакой, схапіла стары куфар, які стаяў каля ложка, адамкнула яго і з самага дна, з-пад вопраткі і бялізны, дастала яшчэ адзін бранзалет. Ён быў вельмі падобны да таго, што яна знайшла ў падушцы сына: на ім была такая ж яшчарка з доўгім хвастом і бліскучымі вочкамі.

Гэта ўсё, што засталося донне Анхеле пасля мужа. У той дзень яна знайшла гэты бранзалет побач з ім. Мужчына ляжаў каля пячор са сваім нажом у сэрцы. Непадалёк, у пяску, валялася адрэзаная кісць рукі, зусім не падобная на чалавечую. Скура на ёй была зялёна-каштанавая, а кіпці — круглыя, вострыя, доўгія, закручаныя на канцах.

Донна Анхела кінула бранзалеты ў куфар, замкнула яго, выскачыла на двор, схапіла ржавыя граблі і пабегла да пячор.

Ласерта падвяла Дыега да ўвахода ў падзямелле.

— Глядзі, тут зусім недалёка, — сказала яна. — Зараз зробім некалькі крокаў па левым боку, пасля трэба будзе выняць каменную затычку — ты гэта можаш зрабіць сваім нажом, яна выйдзе вельмі лёгка. Там будзе столькі золата, што з яго можна будзе выплавіць сто тысяч маіх бранзалетаў!

Раптам Ласерце перахапіла дыханне, і яна схапілася за горла.

— Што, паганая яшчарка? — прашыпела донна Анхела. Жанчына трымала граблямі залатое ўпрыгожванне, якое шчыльна аблягала шыю Ласерты. — Хочаш заманіць майго сына ў свае пячоры, разарваць на часткі, выпіць яго кроў, з'есці яго сэрца?!

Ласерта хацела крыкнуць, што жанчыне і яе сыну няма чаго баяцца, але яна не магла ўдыхнуць паветра.

— Мама, што ты робіш! — закрычаў Дыега і схапіў донну Анхелу за рукі. — Яна — з руднікоў!

— Я пакажу табе, з якіх яна руднікоў!

Донна Анхела замахнулася граблямі і з размаху ўсадзіла іх вострыя зубы ў ступню Ласерты.

Ласерта ўпала і доўга, пранізліва закрычала. Боль у адзін момант парушыў яе камуфляж.

Перад Дыега і донай Анхелай на зямлі скавытала ад болю двухногая карычнева-зялёная істота з вострымі кіпцямі на пальцах і грэбенем уздоўж спіны, які пераходзіў у моцны, доўгі хвост. З яе параненай нагі сачылася густая сіняя кроў і застывала на пяску вялікімі бліскучымі плямамі.

Дыега аслупянеў ад жудасці.

— Вось, сынок! — пераможна сказала донна Анхела. — Яны ўмеюць прымусіць нас думаць, што выглядаюць, як людзі. Яны забіраюцца да нас у галаву, і нашы вочы бачаць не тое, што ёсць на самай справе! Але толькі не тады, калі ім балюча! Тады яны прымаюць свае сапраўднае аблічча! Вось, палюбуйся, Дыега! Твой бацька — ён таксама паддаўся на гэтую магію! Ён пайшоў за адной з такіх рэптылій, а потым яго знайшлі мёртвым!

Дыега каўтнуў сліну і прамовіў:

— Мы не можам пакінуць яе так.

— Табе шкада яе! — жахнулася донна Анхела.

— Мне шкада не яе, а золата, што на ёй! — адказаў ёй сын. — Калі яна памрэ, нехта іншы знойдзе яго і забярэ сабе!

— Дыега, ты малайчына. Здымай з яе ўпрыгожванні!

Донна Анхела прыставіла граблі да горла Ласерты:

— Толькі тарганіся!

Ласерта і не думала бегчы — у яе не было сіл.

Дыега зняў з яе бранзалеты, зняў упрыгожванне з шыі, залатыя пласціны з грудзей і нават маленькія званочкі з кончыка хваста. Донна Анхела кінула граблі, выхапіла з рук сына трафеі, загарнула іх у фартух. Скончыўшы сваю нечалавечую справу, два чалавекі з усіх ног пабеглі прэч. Яны спяшаліся да новага багатага жыцця.

Ласерта ляжала пад сонцам. Сонца вяртала ёй сілы, абязбольвала, зацягвала раны. Крыху паляжаўшы, Ласерта перавярнулася на жывот і папаўзла ў пячору.

— Я забылася папярэдзіць цябе, Дыега… — прашаптала яна. — Сцеражыся… Мой бацька не ўмее даравацца…





Глеб Ганчароў

**нарадзіўся 23 верасня 1965 года ў Мінску. Працаваў інжынерам-оптыкам-канструктарам, гаспадарчым юрыстам. Выступае з вершамі і прозай у рэспубліканскім друку. Вельмі любіць свайго сына Ягора і пляменніцу Мар'ю. Вялікі прыхільнік оперы, асабліва верыстаў. Марыць пачуць на беларускай сцэне оперу Амількара Панк'елі «Ліцвіны».**

## Каятан Чабор

*Раман у вершах*

*У рэчаіснасці ўсё інакш, чым на самай справе.*
*Антуан дэ Сент-Экзюперы*

*АД АЎТАРА*

*У 1626—1629 гадах паміж Рэччу Паспалітай і Швецыяй адбылася так званая вайна двух Вазаў. Канчатковай мэтай яе было памкненне абедзвюх дзяржаў далучыць да сябе саперніка, каб стварыць адзіную манархію пад скіпетрам аднаго з двух стрыечных братоў — караля Рэчы Паспалітай Жыгімонта III Вазы ці валадара Швецыі Густава II Адольфа.*

*Гэтая вайна стала самым затратным і цяжкім ваенным канфліктам за ўсю гісторыю Рэчы Паспалітай, а таксама скончылася першай паразай адзінай польска-ліцвінскай дзяржавы за ўвесь час яе існавання. Яна прывяла краіну да ўсёабдымнага ўнутранага крызісу, які скончыўся праз паўтара стагоддзя трыма вядомымі падзеламі.*

*Падчас гэтай вайны адбыліся дзве прыкметныя падзеі, якія назаўсёды засталіся ў сусветнай гісторыі. Гэта бітва пры Аліве, калі флот Рэчы Паспалітай атрымаў адзіную сакрушальную ваенную перамогу за ўсе гады свайго існавання, і гібель у першым жа плаванні найбуйнейшага шведскага эскадранага галеона «Ваза», якая да XX стагоддзя заставалася самай вялікай катастрофай на моры.*

*Калі ў шасцідзясятых гадах мінулага стагоддзя «Ваза» быў падняты са дна і адбуксіраваны ў музей, высветлілася, што з-за вялікай колькасці і вагі пастаўленых на ім гармат ён меў занадта высокі цэнтр цяжару і любы парыў ветру быў здольны яго перакуліць.*

*Лёс гэтага карабля заўсёды цікавіў мяне, і вось раптоўна на вочы трапіла фраза з нейкага навуковага артыкула: «Існуе непацверджаная версія, быццам да гібелі "Вазы" мела дачыненне разведка Рэчы Паспалітай»…*

## ПРАЛОГ

У сямнаццатым слёзатачывым стагоддзі
Пад бясконцыя стрэлы марцір і гармат
Над Еўропаю войны ў буйным карагодзе
Гнаякроўем сплывалі, нібыта стыгмат,

Бо супольна звязала гісторыя рэчы,
Што ствараюць сабой непарыўны хаўрус:
Адзінота, бязвыхаднасць, голад, галеча,
А прыяцелем ім назаўжды — беларус.

Так і ў тыя часіны крывёю палітай
Вырастала са збедненай глебы трава
На знясіленых пашах зямлі Паспалітай,
Каб кармілася Польшча ды ела Літва.

Толькі-толькі сканаў Смутны час на Расіі,
У спіжарні была захавана браня,
І не ведаў ніхто, што на ўсходзе ў бяссіллі
Падрастае бурклівае медзведзяня.

Як жывецца прыгону на ўскрайнах дзяржавы,
Пазабыў каралеўскі ўпрыгожаны трон,
Бо па літасцівых меркаваннях Варшавы
Не дастойны турботы дарэмны прыгон.

На манаршым прастоле, заграznуўшы ў склоках,
Плёў густыя інтрыгі, як сеткі, павук,
Каб закідваць паўсюль аж да самых аблокаў,
Аж да самых далёкіх прымежных акруг.

Старажытнай каронай былых Ягелонаў
Быў вянчаны на царства вараг Жыгімонт
Трэці Ваза. О, колькі зласлівых праклёнаў
Узнімалі да Бога за гэты афронт!

Ён з’явіўся на свет як мага недарэчы
Ў той сям’і, дзе шалёныя праз аднаго.
Менавіта таму, нібы кару для Рэчы,
Запрасілі магнаты з-за мора яго.

Незгасальнай пакутаю апанаваны,
Роўна як лускаваты драпежны дракон,
З непрытомнай пагардлівасцю Чынгісхана
Ён увесці імкнуўся паўсюль свой закон.

То счапіўся ў вайне з імператарскай Венай,
То жадаў далучыць маскавіцкую твань,
То наскокваў на вольнасці шляхты гіенай,
Каб пакінуць ад іх бесцялесную здань.

Бо Іван жа Чацвёрты Васільевіч Грозны
Да пазногця прыціснуў свавольную рацць!
Мо і ў Рэчы «ад можа да можа» не позна
З палітычнай арэны баярства прыбраць?

Але ўсе намаганні таго Жыгімонта
Натыкаліся на ўсеагульны адпор:
Паўставалі наёмнікі, князі, віконты,
Земляробы, рамеснікі ды ўласны двор.

І аднойчы шляхецтва дазволіла роскаш
У адзіным парыве схапіцца за меч —
Распачаўся бязмежны раз’юшаны рокаш[1],
Якім славілася Паспалітая Рэч!

Жыгімонт тры гады ад Судэтаў да Буга
Па сялібах насіўся. Так восеньскі трус
Спадзяецца прарвацца з загоннага круга
Хоць да чорта на рогі, хоць у землятрус.

Працаўнік беларускі, літоўскі, жыдоўскі
Ў гэткіх скоках аднолькава вынеслі бед,
Ды галоўны бунтар Мікалай Зебжыдоўскі
Не цураўся нявечыць дзяржаве хрыбет.

А калі нарабіліся да зацямнення
Ягамоснага мозгу абодва бакі,
Паў кароль перад ворагамі на калені,
Праліваючы сціпла слязінак цуркі.

[1] Рокаш — заканадаўча дазволены бунт шляхты супраць караля. Самы знакаміты рокаш — гэта так званы рокаш Зебжыдоўскага супраць Жыгімонта III *(тут і далей заўвагі аўтара).*





Адпачыла знябытая Рэч Паспаліта
Ватыкану — на шчасце, на зайздрасць — Маскве,
Толькі пільна цяпер назірала эліта
За сваім каралём без цара ў галаве.

Каб забылася шляхта аб новай крамоле,
Ёй была неабходна другая гульня.
Дык чаму б не са Швецыяй, дзе на прастоле
Жыгімонтаў кузэн ашалеў без рамня?

Вулканічнаю лавай палала нянавісць,
Пунсавеючы, нібы вербенавы квет,
Бо ягоны сваяк, прайдзісветавы малец,
Не жадаў прызнаваць брацкі аўтарытэт!

Так над светам тварэц паразвешваў планіды,
Што з біблейскіх часоў аж па нашыя дні
Не йснуе больш мярзотнай, паскуднай агіды,
Чым святая агіда да кроўнай радні.

Рыхтаваліся спешна дзяржавы да бою:
Набівалі мушкеты, узводзілі флот
І маліліся Богу, абое-рабое,
Каб ніхто не задумаў чарговы камплот.

Вось і ўсё, што ў пралогу прыйшлося да слова
Расказаць аб жыцці перад гэтай вайной,
Распачатаю ад нараджэння Хрыстова
Нават вусціішна ўспомніць, якою вясной.

## ЧАСТКА ПЕРШАЯ

I

Нетаропкая песня ў свінцовыя хвалі
Акунула сінечы валошкавы кнот,
Паляцеўшы да срэбных мялізнаў Латгалля,
Да Нявы пасівелай заснежаных вод.

Гэту думу пачула Мальборка грамада,
У палескіх балотах імшысты плывун,
Нават чорныя хмары — сябры лістапада —
Суцяшалі суровы балтыйскі бурун.

Карабельныя ветразі, поўныя норду,
Ад натугі трашчалі па дратвенных швах,
І касматыя валы ад левага борта
Залівалі сабе стырнавому ў абшлаг.

Мора грозна качала, бурчала, імчала,
Быццам чорт маляваць намагаўся афорт,
А балтыйскае зыбанне з боку прычала
Напаўняла вадой сырамятны батфорт.

Тонкі голас звінеў, заліваўся, як флейта.
Чарадзейным было, што цудоўны спявак
Паварочваў штурвал быстраходнага флейта[2],
Завяршаючы смела круты аверштаг[3].

Упрыгожвала песня марскую руціну,
Разрывала ў кавалкі журботу і сплін,
Быццам гэты пранізлівы тэнар-альціна
Нарадзіўся сярод італійскіх далін.

*— Ходзяць коні*
*Ў Панямонні*
*Ля запруды, ля вады.*
*Я ў загане, што ў загоне,*
*Ад навету, ад крыўды.*

*Ты нясі мяне, гняды,*
*Там, дзе воды Ясельды.*
*Ад нягоды, ад бяды,*
*Праз сядзібы-гарады.*

*Ходзяць коні*
*Ў Панямонні*
*Ля затокі, ля ракі.*
*Я ў праклёне, што ў палоне,*
*У любімай, у рукі.*

[2] Флейт — быстраходнае паруснае гандлёвае судна.
[3] Аверштаг — плаўны паварот карабля супраць ветру.

*Ты скачы, мой вараны,*
*Над Палотай, ля Дзвіны,*
*Ад нядолі, ад вайны,*
*Да каханай, да жаны.*

*Ходзяць коні*
*Ў Панямонні*
*Ля патоку, ля бруі.*
*Я ў палоне, што ў далоні,*
*У варожай, у зграі.*

*Ты гані, буланы конь,*
*Ды на Прыпяць, на Жалонь,*
*Праз пажары, скрозь агонь,*
*Ад нападаў і пагонь.*

*Ходзяць коні*
*Ў Панямонні*
*Ля крыніцы-ручая.*
*Забурліла, што ў бяздонні,*
*Ты, рака кіпучая.*

*А з табою, дэраш мой,*
*Я пакіну церам свой*
*Ды з дубовай булавой*
*Паскачу ў смяротны бой!*

Песня скончылася, і раптоўна адразу
Снеганосны пранізлівы вецер заціх.
Па-за хмарамі сонца, падобна алмазу,
Усміхнулася, быццам нявесце жаніх.

Экіпаж на паветра падняўся з твіндэкаў[4].
Атрасаючы снег з барады, капітан
Стырнавому казаў самавіта, без здзекаў:
— Віншаванне табе. Малайца, Каятан!

Малады рулявы пакланіўся сумленна,
Разгарнуў у дамашнюю гавань бушпрыт[5].
На бакборце[6] аблашчыла белая пена
Алавяныя літары «Бэзавы кіт».

І пакуль маракі круцяць вал кабестана[7],
Талакою наладжваючы такелаж[8],
Штосьці трэба казаць пра жыццё Каятана
Ды пра вёрткага флейта таемны ваяж.

II

Калі верыць пажухлым пергаментным скруткам —
Старажытным прадвеснікам сёлетніх кніг,
То яшчэ да ўзвядзення дамоў Навагрудка
На прынёманскіх стромах дзяцінец узнік.

Летапісец занёс у Кіева-Пячэрскі
Патэрык[9], што ў глухім непралазным бары,
Дзе з пачварамі танчаць ікластыя чэрці,
Безупынна будуюць плаціны бабры,

Расцякаецца думкай па дрэве вавёрка,
Прабівае прасеку скрозь зараснік тур,
На адхоне ступіўшага ў Нёман пагорка
Нарадзіўся каменны напышлівы мур.

Невядома было таму самаму лету,
Што далёка на Волзе паўстала Казань,
Што кітайскае царства зжывае са свету
Неймаверным падаткам качэўнік-кідань.

На вячорках спляталі вянкі дзеўчаняты
Пад праніклівым позіркам пільных кабет,
І ў калысцы даверлівыя вачаняты
На Шатландыю жмурыў маленькі Макбэт.

З кожным годам мужнеў, упрыгожваўся горад.
Атрымалася неяк без лішніх дамоў,
Што ніхто не лічыў праваслаўных сабораў,
Каталіцкіх касцёлаў, малельных дамоў.

Мінарэты праколвалі пальцамі неба,
Дзе-нідзе свае капішчы песціў Сварог.
Непісьменная паства Хрысту на патрэбу
Не граміла чамусьці зусім сінагог!

[4] Твіндэк — міжпалубная прастора на караблі.
[5] Бушпрыт — гарызантальная ці нахіленая бэлька, якая вытыркаецца наперад з носа карабля і служыць для мацавання насавых ветразей.
[6] Бакборт — левы борт карабля.
[7] Кабестан — лябёдка.
[8] Такелаж — агульная назва ўсіх снасцей на караблі.
[9] Усе апісаныя ніжэй падзеі адбыліся ў 1005 годзе, калі, згодна з летапісам, быў заснаваны гэты горад.





Колькі ў горадзе гэтым бывала гісторый!
Падымалі дружыны Міндоўг і Кейстут,
І любімец рыстала́шча Стэфан Баторый
Воўчаягадаю быў атручаны тут.

Толькі з пеўнямі сціпла румяніўся золак,
Праз масты, перавозы, па бітых шляхах
Да гандлёвых радоў у радне і камзолах
Накіроўваўся люд, паскараючы шаг.

Брукаваныя плошчы натоўпам кіпелі,
Быццам поліўка пырскаецца ў чыгунку:
Хрыстараднічалі, таргаваліся, пелі,
Абмывалі пакупкі ў бліжэйшым шынку.

Ад шматлікіх багаццяў трашчалі прылаўкі,
Разявалі запыхліва рот асятры,
Наўзахват аблавухі, вянцы, каміла́ўкі
Прапаноўвалі спраў капялюшных майстры.

Фарбавальшчык жардзінай памешваў у чане,
Над якім падымаўся індыгавы пар,
Ды паводзіў навокал сляпымі вачамі
Вінакур, што зрасходаваў свой жа тавар.

Між французскіх краўцоў, саладжавых, як пернік,
Між ткачоў, што збівалі жанчын на парчу,
Гандляваў сукнавал — аніякі сапернік
Ні краўцу-падхаліму, ні змію-ткачу.

У ягонай жабрацкай заваленай краме
Неахайнымі кучамі ў самую столь
Гнілі лямец і фетр, што сваімі рукамі
З мокрай воўны валіў, акармляючы моль.

Толькі ўбоства прыносіў валюш поўнай мерай,
Быццам нейкі вядзьмак налажыў загавор,
І таму бедаваў у журбе пан Ксаверый
З заняпалага слаўнага роду Чабор.

Над уласнай павагаю шляхціцы дбалі,
Хоць густую зацірку з павагі вары!
Але пан сукнавал толькі нёманскай хваляй
Запіваў кожны дзень цвілыя сухары.

Ён і сам разумеў, што з бядноты наўрад ці
Яго выцягне зманлівы лёс-шарлатан
Да раўні паабсыпанай золатам знаці,
Ды не меў бы пакут, каб не сын Каятан.

Продак пана Чабора на Сініх Воды
Пад харугваю князя Альгерда пайшоў,
Дзе ў пачэснай вайне баявыя кляйноды[10]
Здабываў самаробным сваім бердышом.

Зарабіў знакамітасць, удзячнасцяў статак,
Незагойную рану, сяброў пахвальбу
Ды напышлівы герб, а да герба ў дадатак
Жабраванне й журбу прывалок на гарбу.

Жонка пана Ксаверыя ў родах сканала
Маладым і амаль бесталковым дзяўчо,
А таму з малалецтва дзіцяці гадавала
Векавуха-суседка ды сельскі дзячок.

Ён вучыў Каятана па «Чэццях-Мінеях»
Друкаванай прамудрасці, грамаце слоў,
Бо нядобра, калі чалавек чырванее
Ад ганьбы ў асяроддзі пісьменных галоў.

III

Выцякалі гады, як з клепсідры[11] струмені,
Як са шклянкі гадзінніка льецца пясок…
Выхавальніцу знішчылі вечныя цені,
І настаўнік паціху здрахлеў ды знямог.

Каятану было трохі больш за трынаццаць.
Хто ж прадбачыў, што ліха не ходзіць адно?
Пан Ксаверый раптоўна пачаў загінацца,
Захінаючыся ў ільняное радно.

[10] Кляйнод — знак пашаны.
[11] Клепсідра *(грэч.)* — вадзяны гадзіннік.

Яго біў гнойны кашаль, трасла ліхаманка,
Пажаўцелыя зрэнкі крывіла наўкос,
Нават ногі не йшлі, каб дабрацца ад ганка
Да разбуранай прызбы. (То быў сілікоз).

Ні адзіны знаёмец вачам не паверыў,
Кім быў месяц таму гэты чэзлы гарбун:
Зачыняліся перад валюшнікам дзверы…
Каятан пачаў пасвіць магнацкі табун.

Колькі грошай на круг абяцалі падпаску?
Медны шэлег ды хлеба акраец у дзень,
Але думаў юнак, быццам трапіў у казку,
Бо дагэтуль такога не бачыў нідзе.

Тыя шэлегі, што гнілатой зелянелі,
Былі страчаны ўсе на карысць шаптуну,
Які пану Чабору гаючыя зеллі
Гатаваў, аж пакуль не ўпіхнуў у труну.

Так гадоў у трынаццаць з маленечкім гакам
Каятан сіратой абяздолеў зусім.
Нават самы аблезлы, галодны сабака
Выхваляўся багаццем сваім перад ім.

Што ж утойваць? Нярэдка цякла праз далоні
Па дзіцячаму твару слязінак рака,
І спагадліва лашчылі сталыя коні
Пастушка, як разгубленага стрыгунка.

О, які быў табун у магната Сапегі:
Неабдымней за мора без дна й берагоў!
Сам Шэкспір разрадзіўся б мільёнам элегій
Ці вянкамі санетаў засыпаў яго!

Беласнежныя коні імчалі лавінай
Упярэмешку з рыжай, буланай вадой,
Дзе пярэстыя хвалі адвагай звярынай
Гналі ўсцяж камяні афарбоўкі гнядой.

Вараныя кіты і рабыя дэльфіны
Гучна ржалі, вітаючы шэрых сяброў.
Удыгалі захоплена дужыя спіны
Бурай масці — такой, як народная кроў.

Але сэрца падпаска да іх не ляжала:
Яго думкі імкліва ішлі ў разнабой,
Ды душу працінала пчалінае джала,
Калі побач праносіўся дэраш стралой.

Каятану здавалася, што ў цэлым свеце
Не сустрэнеш другога такога каня —
Хутканогага, быццам кастрычніцкі вецер,
І трывалага, як баявая браня.

Ой ты, сонечны дэраш — хлапца летуценне!
Хіба бацькам тваім не з'яўляўся Пегас?
Ты ляціш над сусветам у зорным адзенні,
Распускаючы хвост, як павольны бакас!

Скакуна маляваць на царкоўнай іконе
Ды складаць сэрэнады хацеў пастушок,
Але розум ягоны, апроч «Ходзяць коні
Ў Панямонні» прыдумаць нічога не мог.

Эх, забраць бы каня да сябе ад магната!
Толькі сквапны вусач, як пра тое спазнаў,
Усміхнуўся сычом і сказаў зухавата:
— Велічэзная, мусіць, у пана казна.

Пан Чабор, пэўна, грошы кідае лапатай?
Калі так, задзіраць я не буду цаны.
Заплаці ж, Каятан, роўна дзесяць дукатаў
І скачы на каняку хоць да Сатаны.

Чысты лоб Каятана ўспарола маршчына —
Падлічыў ён: без ежы, адзення, пітва
Аж сто семдзесят год працаваць без спачыну!
Нават косці ягоныя страціць Літва.

Пакупнік узгарэўся, пачуўшы абразу.
Рагатаў на ўсё горла вяльможны лагір[12].
Усляпую пабег Каятан, каб адразу
Ў скаламучаны нёманскі кінуцца вір.

Непраглядная сціснула несправядлівасць,
Сэрца горкія слёзы душылі, як кат.
О, калі б яму выпала толькі мажлівасць,
Ён тады…
— Стой! Куды паспяшаешся, брат?

[12] Лагір *(старасл.)* — грубіян.





На абрывістым зрэзе высокага яра
Самагубца пад пахай схапіла рука,
Атрымаўшы як след у лядашчы свой карак,
Неўзабаве Чабор разгледзеў марака.

Барада лямцаватая ўкручвала шыю,
Быццам шалем калматым. На шчоках — апёк.
З неабсяжнага лба, роўна з горнай вяршыні,
Рваны шрам бліскавіцай імкнуўся наўцёк.

Востры позірк у вочы ўтаропіўся шылам,
Валасы навісалі, як плеці ракіт,
На мажным прыдалонні ліловым чарнілам
Вытатуіраваны быў бэзавы кіт.

— Ну, сядай жа, нырэц! Гавары па парадку,
Што, табе захацелася быць карасём?
Мабыць, скардзішся за пакаранне на матку?
Мабыць, у селяніна звалок парасё?

Каятан пад суровым наглядам слухмяна
Распавёў пра сірочы бязлітасны лёс:
Пра айца, адзіноту, Сапегу, падманы.
Мараком было гэта ўспрынята ўсур'ёз.

— Аж сто семдзесят год, ты гаворыш? Пагана!
Толькі, ведаеш, — слінаю плюнь ты на іх:
На галечу, маркоту, бяздушнага пана…
Я далей прамаўчу, каб не ганьбіць твой слых.

Я ж і сам паўстагоддзя назад быў галотай,
Зарабляў па трэць шэлега ў дзень толькі тым,
Што сляпых ды калечных вадзіў да кіvotаў
У царкве і ганяў па Лідзеі плыты.

Надакучыла мне тая сумная доля.
Я падаўся на Балтыку. На карабель
Узышоў у Крулеўцы[13], што ў вусці Прэголі,
І аб'ездзіў на ім два дзясяткі зямель.

Але зараз я маю свой флейт быстраходны,
Ад Парыжа да Гданьска тавары важу.
Пойдзеш юнгам служыць? Вось і добра, што згодны!
Наскрабём мы за дэраша пану маржу[14].

Дык давай пазнаёмімся, хлопец арліны.
Кім па метрыцы будзеш? Чабор Каятан?
Ну, а я — Цiт Пярун, толькі з гэтай хвіліны
Ты мяне называй як матрос: «Капітан»!

І пайшоў наўздагон за раскошай саплівай,
Назаўсёды пакінуўшы бацькаўскі двор,
Каятан, сын Ксаверыя, герба «Лявіва»,
З заняпалага слаўнага роду Чабор.

IV

Капітан не салгаў. Тонкі флейт сухарлявы
Быў напраўду з усіх караблёў карабель.
Прусакі, нідэрландцы, літва, скандынавы
За яго прапаноўвалі доўгі рубель.

Тым смачнейшай была для іх тая здабыча,
Што ў свой час капітан здолеў выбіць патэнт
Ад усякай брыдоты ў манаршым аблічы,
Па-братэрску запэцкаўшай наш кантынент.

А цяпер, у пажары вайны ўсеагульнай,
Толькі «Бэзавы кіт» мог спакойна ісці
Без ніякай увагі на кепскія гульні
Па якому патрэбна марскому пуці.

Ён аб'ездзіў уздоўж дый упоперак мора,
За Ла-Манш вандраваў у Біскайскі заліў,
Плыў насустрач віхуры ў равучых прасторах,
І анёлы яго супраць ветра вялі.

Каятан абышоў Капенгаген і Лондан,
Па Гаазе гуляў, аглядаў Амстэрдам,
Закупляў у Брусэлі брабанцкія блонды[15],
У Парыжы таращчыўся на Нотр-Дам;

[13] Крулевец *(польск.)* — Кёнігсберг.
[14] Маржа — прыбытак, даход.
[15] Блонды — карункі.

За пяць год падвучыў і ангельскае слова,
І французскі пранонс, і нямецкі «іх бін» —
Нават шведскую мову засвоіў нанова,
Размаўляючы, бы Скандынавіі сын.

Плата добрая йшла пасля кожнага рэйса,
Як у бочцы ляжыць селядцоў івасі:
Столькі грошай не бачылі на Ўсходніх Крэсах
З тых часоў, калі сонца ўстае на Русі.

Але ж і працаваць давялося гаротна,
Пад вятрамі, дажджамі, у спёку і снег.
Тут скалеў бы ў натузе Кашчэй Бессмяротны,
А Чабор як-ніяк усяго чалавек!

Ён лапаціў насціл пасля буры і веі,
Каштаваў аплявухі ад кожнай рукі,
Ліхтары па начах паразвешваў на рэі —
Адным словам, рабіў, як і ўсе маракі,

Як прыгнечаны раб на антычных галерах…
Да таго ж ён набыў яшчэ некалькі рыс:
Навучыўся відэльцам са срэбных талерак
Есці індакітайскі рассыпісты рыс,

Адпіваць на бяседах патрошку кларэту,
Пільнаваць таямнічы дзявочы сакрэт,
Цалавацца на балях пад гук менуэта,
Як таго патрабуе спадар этыкет.

Капітан шанаваў і цаніў Каятана,
Перадаў яму веды аб плынях марскіх,
Мудрагельныя тайны кампáса, секстана,
Як спадручней і выгадней весці таргі.

За пяць год безупынных Чабор паступова
Да вялікага чыну старпама падрос,
І загадам ягонае важкае слова
Без сумневу ўспрымаў усялякі матрос.

V

Быў сямнаццаты век. Год ішоў дваццаць сёмы…
Прыканцы лістапада бег «Бэзавы кіт»
Ад халодных нарвежскіх фіёрдаў дадому
З перапоўненым трумам салёнай траскі.

Па балтыйскай прасторы ўжо шнырылі рэзва
Баявыя эскадры буйной чарадой.
Толькі «Бэзавы кіт» — хуліганскі гарэза —
Здольны быў паляцець ад ваўкоў над вадой.

Падмінаў ён бурлівыя хвалі імкліва.
Скрозь хлюпотную замець і хмаравы дым
Затуманены контур заліва Аліва
Прарысоўваўся на даляглядзе стальным.

Сёння будзе разгружана чэрава судна,
Маркітантам кароны прадана траска,
Адна ноч у карчме побач з дзеўкаю бруднай —
Ды бывай назаўсёды, жыццё марака!

Бо цяпер ад дукатаў галандскай чаканкі
Раздзіраўся па швах вышываны кашэль.
Каятан уявіў, як прыйшоў нечакана
Да Сапегі, засунуўшы дулю ў кішэнь.

Задрыжыць крыхабор ад ганебнага жаху,
Перахрысціцца, ўзнёсшы мальбу да нябёс,
Быццам у спачывальні прымеціў вужаку
Ці над каркам яго кат сякеру занёс.

На каленях вымольваць прыніжана літасць
Распачне за абразу. З прызнаннямі ліст
Падмахне, каб уведала Рэч Паспаліта,
Што Ляліва мацней і шляхетней за Ліс[15].

І, пачуўшы пра рыцарскі род Каятана,
Сам кароль Жыгімонт абвясціць прывілей,
Дзе даруе чын віленскага кашталяна,
Тытул князя ды цэлы ахапак лілей.

[16] Род Сапегаў належаў да герба «Ліс».





Пакуль вольна кружылі вар’яцкія думы
Па завулках ягонай пустой галавы,
Маракі спаражнілі смуродныя трумы,
Каб ляцець у харчэўню стралой з цецівы.

Капітан падышоў да свайго выхаванца.
— Ну, тапелец, бывай і прабач, калі што.
Хоць і горка цябе не пабачыць на шканцах[17],
Але я пажадаю: жыві гадоў сто.

Нарадзі чортаў тузін дзяцей небывалых,
У царкве ці ў касцёле гурбой ахрысці.
Хай жа выйдзе з кагосьці вялікі маршалак
Ці каронны падскарбі па імені Ціт.

А цяпер — уцякай, бо дарма я цвярозы.
Мне цвярозым чамусьці бываць не з рукі.
Хіба бачыў ты, як кракадзілавы слёзы
Праліваюць у куфель марскія ваўкі?

На прычале было непрытульна і коўзка.
Мітусіліся ў танцы абрыўкі трасты…
Неўзабаве да іх падляцела павозка,
Падымаючы з лужын фантаны слаты!

VI

— Спадары! — прагучаў з прытармажанай брычкі
Валакітны, цягучы галандскі акцэнт
І патухнуў… Так гаснуць нябесныя знічкі,
Рассыпаючыся пыльным прыскам ушчэнт.

Даўгавязы марак у суконным камзоле
Набліжаўся, сціскаючы кій у руцэ.
Капітан прасачыў, як малюе кран зголі —
Па халепе імжа, і спытаў: — Co pan chce[18]?

Гэта быў усяго паспалітага флоту
Адмірал Арэнд Дыкман. Ад той навіны
Ціт Пярун вокамгненна адкінуў маркоту,
Абярнуўшыся ў слых, быццам філін начны.

— На вайне за манарха казак і латгалец,
Мазаўшанін і прус, безумоўна, павін…
Але ўзняўся ўгару навярэджаны палец
І паветра рассек напалам: — Я — ліцвін!

Адмірал папрасіў прабачэння ахвотна.
— Напярэдадні вечарам мой галеон[19]
Напароўся на мель. Я не маю ніводнай
Нават лодкі, каб выставіць ноччу заслон.

А рыбацкі баркас бачыў непадалёку,
Як лунаюць варожай эскадры сцягі.
Можа, «Бэзавы кіт», бы нядрэмнае вока,
Здольны будзе два дні вартаваць берагі?

Вам пакрые дзяржава любыя расходы.
Столькі грошай, напэўна, і ў раі няма!
Капітан толькі рохнуў з такое нагоды:
— Я радзіму магу бараніць задарма.

VII

Вось як здарылася, што гандлёвае судна
Пад імглой пахмурнелай ушыркі і ўздоўж
Двое сутак абшнарвала хвалі марудна,
Пакідаючы след за кармой, нібы смоўж.

Каятан неадрыўна прыпаў да штурвала,
Бо адзіны з усіх выбіраў такі пуць,
Што вярблюда ў нябеснае царства памалу
Мог скрозь вушка іголкавае праштурхнуць.

Капітан, па кадык налізаўшыся рому,
Працягнуў Каятану навarysты грог
І, пакуль карабель кіраваўся дадому,
Распачаў палітычна благі маналог:

— Ты кажы мне, навошта ў Свяшчэнным Пісанні
Што ні запаведзь — то чартаўшчына і жах?
Чалавек з чалавекам, як прагныя здані,
Сашчапляюцца ў бойцы на вострых нажах.

[17] Шканцы — капітанскі мосцік.
[18] Што пану трэба? *(польск.)*
[19] Галеон — вялікае шматпалубнае ваеннае судна з моцным артылерыйскім узбраеннем.

То ім грошай няма, то харчоў не хапае,
То адзежа благая, то мала зямлі,
То суседская пыса на сварку натхняе.
А калі, нібы блохі, свярбяць каралі.

Застаецца адно што — схавацца ў балота,
Праз саломінку дыхаць і марыць часцей,
Што на тых каралёў Бог нашле кашалота,
Каб ад іх кашалот не пакінуў касцей.

Фанабэрыя іх тым мацней і абжорней,
Чым вялізней дзяржава, на шыю якой
Ланцугамі кароль папрычэпліваў жорны,
Налажыўшы падаткі жалезнай рукой.

Каралі жыць няздатныя без ашуканства,
Звар'яцелай раскошы, натоўпу прайдох,
Але больш за Хрыста, больш за ўсё хрысціянства
Яны любяць шыкоўныя назвы эпох.

У ангельскай краіне аднойчы грымела
Бойка грозная дзвюх разнаколерных руж.
Ах, каб тых садаводаў — чырвонага з белым —
Паразжоўваў худы разнаколерны вуж!

На зямлі афрыканскай гадоў таму з дзвесце
Зноў жа выбухнула «Бітва трох каралёў[20]».
Ажно тры каралі на адным тым жа месцы
Падзяляюць дзяржаву ад гор да палёў!

Ты мяне, Каятане, уважліва слухай
І павер, што народ сплёў бы добры вянок
Каралям на труну, каб, спыніўшы разруху,
Гэтых трох каралёў задушыў васьміног.

У вачах капітана затанчылі чэрці.
Рэзаў шэрыя хвалі лістоўнічны кіль…
Так прарочылі прышласць за момант да смерці
Ерамея, Ісаія, Іезекііль.

— Памяні мае словы: прыгожыя назвы
Чалавецтва не хутка адпусцяць у рай,
Бо для ўсіх каралёў няма большай абразы,
Чым памкненне ўцячы ад іх пугі на ўскрай.

Каралі наядуцца падданых ад пуза
Пад ядранай прыправай з хлусні і маны
Ды пачнуць будаваць чацвярныя саюзы
Ў складзе пятых калон шасцідзённай вайны,

Балазе, шэраг лічбаў практычна бясконцы…
Толькі я б каралёў у трухлявы абрус
Укруціў і закінуў на самае сонца
Ці шпурнуў утапіцца у докавы шлюз!

Калі ў старасці вырашыш крэмзаць нататкі,
У маёнтку сваім папіваючы квас,
Дасягні, каб навекі прызвалі нашчадкі
Гэту брыдкую бойку «Вайною дзвюх ваз».

Два браты за прастол зачапіліся разам,
На ўвесь свет утвараючы лямант і віск.
Чуе сэрца маё, што паганыя вазы
Разаб'юць на аскепкі балтыйскі сервіз…

Капітан хістануўся, упаў на калені
І паплёўся паўсонна ў напрамку кают,
Дзе валяўся Марфей, але ў гэта імгненне
Немы голас падаў устрывожаны ют[21]!

VIII

Па-за мысам, зарослым сцяною чароту,
Развінаў парусы непрыяцельскі флот,
І сцярвятнік радней быў варожаму флоту,
І над морам навіс ён, нібы эшафот!

На чале цвёрдакаменнай шведскай навалы,
Ад якой задыхаўся спалоханы шэльф,
Падаваў караблям баявыя сігналы
Пад харугвай сваёй адмірал Шэрншэльд.

[20] Бітва трох каралёў — вайна за мараканскі прастол паміж султанамі Абу-Марванам і Абу-Абдалой, у якой прымаў удзел партугальскі кароль Себасцьян I. У выніку гэтай бітвы ўсе тры манархі загінулі, а Марока і Партугалія на доўгі час страцілі незалежнасць. Пярун памыляецца толькі наконт даты гэтай падзеі: бітва трох каралёў адбылася 4 жніўня 1578 г.
[21] Ют — кармавая частка палубы.





Галеон адмірала, ахрышчаны «Тыграм»,
Падмінаў і расплюшчваў балтыйскую плоць.
Роўна так ён быў здольны ад Тыбра да Тыгра
Капцюрамі сваімі Еўропу ўспароць.

Следам портамі скаліліся баявымі,
Каб падаць Жыгімонту бязлітасны ўрок,
Велізарнае «Сонца» з бартамі крутымі,
Поўны «Месяц», за ім — «Пелікан», «Аднарог».

І паміж галеонаў, то справа налева,
То ізноў жа направа, з сярэдзіны ў край,
Нібы ў джунглях разлапістых з дрэва на дрэва,
Пераплырхваў вяртлявы пінас[22] «Папугай».

Капітан да штурвала падбег апантана,
Пазабыўшы пра млявасць, разгубленасць, ром,
Паваротам пляча адштурхнуў Каятана,
За дзяржальні схапіўся і раўнуў ільвом:

— Самы поўны! Сігнальныя сцягі— на фалы!
Кармавая гармата, па ворагу — плі! —
Так, што з дзюбы збянтэжана рыбу раняла
Даўгашыяя чапля і з ёй — жураўлі.

У заліве Аліва, пабачыўшы тое,
Арэнд Дыкман пад боскай аховай пратэс
Ірвануў звар'яцелым нахрапістым роем
З паспалітай эскадраю наперарэз.

Узнімаліся мачты паўсюль, нібы вежы,
Што чамусьці на мора пабеглі з зямлі —
Супраць «Тыгра» паўстаў з булавой «Рыцар Ежы»,
Які вёў за сабою на бой караблі.

Разварочваліся на парадку паходным
Караблі баявыя ў ахопісты фронт,
І матроскія сэрцы гарэлі паходняй
Так, што полымем іхнім палаў гарызонт.

Гучна бразнулі коп'і з жалеза і сталі,
Сутыкнуліся ўсмерць ваўкалак і ваўрвольф!
Крывасмокамі прагнымі свету паўсталі
Жыгімонт Трэці Ваза і Густаў Адольф.

Узрывалі паветра чыгунныя ядры,
Асыпаючы мора смяротнай пургой:
Паўпіваліся хціваю пашчай эскадры
Ў ненавісныя горлы адна да другой.

Што праз полымя ўбачыў народ з прыбярэжжа,
Захавалася ў процьме захопленых кніг,
Бо няшмат каштаваў галеон «Рыцар Ежы»,
Калі б разам з ім не ваяваў «Вадзянік»,

Калі б «Чорны крумкач» не ганяў «Папугая»,
А «Лятучы алень» «Аднарога» не біў,
Калі б «Полымя», нібы галінамі гаю,
«Сонца» з «Месяцам» промнямі не зацямніў.

Веяў серай смуроднай задушлівы порах,
Поўз вяроўкаю вісельніка над вадой —
Заваражаны ранак быў у надвячорак,
Як дзіця — у старога з сівой барадой…

Дзве лавіны агню! Дзве сцяны! Два бураны!
Дзве стальныя віхуры, начныя пургі!
Галеон «Цар Давід» ухапіў «Пелікана»
За крыло так, што той застагнаў ад тугі!

«Рыцар Ежы» гарматамі, нібы шчаціннем,
Натапырыўся ўвесь і да «Тыгра» у твар
Ірвануўся, каб сплесці яго павуціннем
Абардажных крукоў, як сплятаюць пачвар.

IX

Абардаж! Рукапашная! Вока за вока!
Вастралёзы кінжал за жывот і кішкі!
З параспорваных сэрцаў бусламі высока
Адляталі да Бога марскія ваўкі.

[22] Пінас — пасыльнае ці разведвальнае судна.

Да гары і да долу ківаліся шалі,
Слізгацелі нябожчыкі ў коўзкай крыві,
І люлялі абодвух праціўнікаў хвалі,
Закаханых на ложку смяротнай любві.

Адмірал Шэрншэльд разрадзіў у кагосьці
Крамянёвы аздоблены срэбрам пістоль,
Выняў з ножан рапіру, каб ведалі госці,
Што для іх не паскупіцца Густаў Адольф.

— Ваша яснавяльможнасць! — вітаў адмірала
Валакітны, цягучы галандскі акцэнт,
Ад якога маркотна душа замірала,
Рассыпаючыся пыльным прыскам ушчэнт…

Здрыгануўся клінок элегантнай рапіры,
Сэрца здрадніцкі скурчылася камяком:
Перад ім у суконным жалобным мундзіры
Адмірал Арэнд Дыкман стаяў з цесаком.

О, дуэль — паядынак прыстойнага панства!
Этыкет. Джэнтльменства. Паклоны, маўляў…
Толькі Дыкман, пазнаўшы характар славянства,
Супраць кветкі заўсёды цагліну трымаў.

Хай не Густаў Адольф, дык ягоны ваяка
Сваім лёсам заплаціць крывавы вергельд[23]!
Размахнуўся цясак, і зваліўся ля бака
З размажджэранай скронню спадар Шэрншэльд.

Тут жа зрынуты быў капітан галеона
І, пабачыўшы тое, што ўвесь галеон
Стаў падобны на воўчае поле загона,
Пачалі скандынавы здавацца ў палон.

X

Ціт Пярун цэлы дзень на далёкай арбіце
Здольны быў толькі збоку на ўсё пазіраць,
Аціраючы шалем запэцканы кіцель,
Ды адольфаву маці дабром памінаць.

Кармавая марціра раз-пораз плявала,
Ледзь трывожачы стрэлам балтыйскае шкло,
Бо паўсюль панавала такая навала,
Дзе прыватнаму флейту не месца было.

Неўзабаве ў баі ён пабачыў нядрэнна,
Што да «Тыгра» аднекуль, знянацку, як чорт,
Жартаўлівым вужом падляцела «Сірэна»,
Каб прыняць з галеона палонных на борт.

— Вось і справа для нас! — капітан Каятану
Паказаў на стрыножаныя караблі:
Там з панурымі тварамі шведы слухмяна,
Як габрэі ў палон асірыйскі, ішлі.

Але «Бэзавы кіт» не паспеў ні на волас
Да «Сірэны» падбегчы, каб дапамагчы
Апрыходаваць вязняў, бо роспачны голас
Падаваў «Вадзянік» пугачом уначы.

Усе погляды разам звярнуліся ўправа:
Там на «Сонца» — страшэннае, нібы прывід —
«Вадзянік» заліхвацкі накінуўся жвава
З баявым збраяносцам сваім «Цар Давід».

Ды аднак жа свяціла, не даўшы ні шанцу,
Агаліла іклата жаролы гармат
Ды ўсмаліла стапушачным пратуберанцам,
Ад сябе адшпурнуўшы шакалаў назад.

«Цар Давід» завішчаў, адвярнуў баязліва,
Звар'яцела шарахнуўся ад усяго.
Праз паўсотні прабоін з заліва Аліва
Пунсавелае мора паіла яго.

Грузна «Сонца» варочала тулава ў хвалях,
Каб дакладна наставіць зараджаны борт
Супраціўніку ў сэрца. Без болю і жалю
Шкіпер сонечны смачна еў яблык апорт.

[23] Вергельд (фр.; герм.) — грашовы выкуп за злачынства.





Пяць кароткіх хвілін да сканчэння манеўру,
Пяць бясконцых імгненняў да стрэлу марцір —
Усміхаліся мякка гарматныя зеўры,
Быццам крэслілі перад забойствам францір[24].

Пабялеўшы ўсім тварам, нібыта завея,
Паглядзеў на свайго пестуна капітан:
— Прынясі мне на мосцік бачурку алею
Ды красала з каюты… Хутчэй, басурман!

Каятан ірвануўся, ледзь боты не страціў.
За хвіліну, не больш, ён усё адшукаў:
Не хапала яшчэ, каб ягоную маці
Побач з маткаю шведскай Пярун мацюкаў.

— Малайца! А цяпер афрыканскаю малпай
На бушпрыт аж да самага краю залезь
І паўсюль яго гэтым алеем абляпай…
Ды ты лі весялей, а не мацай ледзь-ледзь!

Вой, як вымазаўся! Ну, ды чэрці з табою!
Экіпаж! Ану, слухаць заяву маю:
Марш за борт, жываглоты, абое-рабое,
А то пысы вымбоўкаю[25] як разаб'ю!!!

У сцюдзёнае мора матросы гарохам
Ірвануліся з дрыжыкамі стрымгалоў —
Капітан нават змея марскога спалохаць
Здольны быў... Што яму да матроскіх галоў?

Падымаючыся потым з бездані хцівай,
Дзе любы аб жыцці і ратунку маліў,
Кожны бачыў, як па-над залівам Аліва
Капітан вастрадзюбы бушпрыт падпаліў.

Разгарнулася «Сонца» гіганцкаю вошу,
І навёў капітан смертаносны алей
Менавіта туды, дзе за цікавай[26] вошвай
Сотні беркаўцаў[27] пораху спалі ў імгле.

Рушыў «Бэзавы кіт» на чале з капітанам,
У жмуты разадраўшы салёны бурун.
З неабдымнай раз'юшанасцю акіяна
Прама ў «Сонца» ўваткнуўся маланкай Пярун!

У галактыцы грымнула безліч сузор'яў,
Навальніцы вярцелі пякельны галоп,
З гімалайскіх вяршынь і альпійскіх нагор'яў
Набліжаўся лавінай сусветны патоп!

Закруціўся фантан трыдзявятага вала
І закінуў Чабора на тонкі спардэк[28]
(Гэта значыць, на самую верхнюю з палуб)
Непрыкметнай пасудзіны «Ноеў каўчэг».

Заскуголілі рэшткі варожага флоту,
Быццам енчыць ад болю паранены дзік.
«Месяц», што раніцой залаціўся, як злоты,
Замест радаснай поўні сплыў на маладзік.

Разгарнулася чохам эскадра. Як коні
Без свайго завадатара, за далягляд
Наўзахваткі пайшла. Ад магчымай пагоні
«Пелікан» утрапёна пальнуў наўздагад.

Трэба ж так было выпасці, што адзінока
Праляцеў ажно мілю шалёны зарад
І на палубе мёртвага «Тыгра» з наскоку
Роўна Дыкману ў сэрца папаў неўпапад…

*(працяг будзе)*

[24] Францір — мяжа перад невядомымі землямі.
[25] Вымбоўка — драўляны ці металічны рычаг ад вала лябёдкі.
[26] Цік — дзікарослае дрэва сямейства вербенавых з моцнай драўнінай, якое расце ў лясной паласе Індыі, Індакітая.
[27] Беркавец — мера вагі, прыкладна 164 кг.
[28] Спардэк — лёгкая павець над галоўнай палубай.



*Лаўрэн Юрага прыйшоў у літаратуру ў пачатку 1990-х, і «Меч…» стаў адной з першых яго спробаў сіл у літаратуры.*

*«Маладое пакаленне чытачоў, мабыць, не памятае тых часоў — часоў сапраўдных перамен: перамен палітычных, якія аднак спарадзілі і значныя змены ў свядомасці людзей, а ў тым ліку — пісьменнікаў і выдаўцоў. Вельмі добра гэта было відаць на прыкладзе фантастыкі, якая шырокай плынню хлынула са шматлікіх навастворанах выдавецтваў — хоць яшчэ 10 гадоў таму фантастычная літаратура знаходзілася ў СССР, і ў тым ліку на Беларусі, на паўлегальным становішчы.*

*Маё пакаленне — на той час 20-гадовых — чытала, пераважна, фантастыку замежную. Бо беларускай практычна не было, а тое, што стваралася тады па-руску, чытаць было немагчыма — у Расіі фантастычная літаратура яшчэ толькі праходзіла этап станаўлення. Мы чыталі замежную фантастыку і марылі стварыць новую беларускую літаратуру, адпаведную часу і вольную ад догмаў сацрэалізму. Літаратуру, у якой бы знайшлося месца для розных жанраў, раней прыгнечаных і занядбаных — і для фантастыкі таксама.*

*Але гэтыя нераспрацаваныя ў беларускай савецкай літаратуры жанры патрабавалі уласных моўных кодаў — інакш кажучы, адпаведнай лексікі і стылістыкі. І калі я паспрабаваў напісаць твор у жанры фэнтэзі, то сутыкнуўся з гэтай праблемай. Мне было патрэбна, каб мой аповед меў пасмак архаічнасці ці, быць можа, нейкай «казачнасці», таму давялося абкласціся літаратурай і пачаць вывучаць беларускую мову наноў, больш глыбока. У выніку я адабраў тры слоўнікі, якія здаліся мне найбольш прыдатнымі для літаратурнай працы: акадэмічны слоўнік 1953 года пад рэдакцыяй Якуба Коласа, "эмігранцкі" слоўнік Станкевіча і, нарэшце, слоўнік Ластоўскага.*

*Выкарыстоўваючы гэтыя дапаможнікі, мне, як здаецца, удалося надаць задуманай аповесці фэнтэзійнае гучанне, хоць, быць можа, гэта крыху і ўскладніла чытанне з прычыны ўжывання напаўзабытых сёння (а шмат каму і зусім невядомых) слоў».*

*Ці ўдаўся гэты эксперымент — меркаваць чытачу.*

## Лаўрэн Юрага

# Меч Маладзіковага Промня

*Аповесць*

### I

Што прабрацца ў замак будзе нялёгка, я ведаў і раней. Але толькі цяпер, пабачыўшы Гадор увачавідкі, я зразумеў усю складанасць — амаль немагчымасць — выканання гэтае задачы. Жыццё ваяра навучыла мяне з першагляду знаходзіць слабыя месцы і ў замкавых мурах, і ў баявым шыхце цяжкаўзброеных кнехтаў: за дзесяць гадоў баёў і паходаў мне неаднойчы даводзілася як брацьпрыступам, так і абараняць наймагутнейшыя фартэцы[1], змагацца пешкі і конна, гнаць ворага і самому сыходзіць ад пагоні. Я прывык ніколі не вагацца: выбраўшы слушны кірунак, я ўпарта крочыў наперад, бо ведаў, што абавязкова мушу перамагчы. Так было заўсёды — аж пакуль лёс не прывёў мяне сюды, на гэтую выпаленую сонцам раўніну, да гэтых выклятых багамі і людзьмі муроў. Тут я спыніўся — упершыню. Бо напаткаў непераадольную, як здаецца, перашкоду. Але

[1] Фартэца — умацаванне, крэпасць.



толькі спыніўся — не збочыў і не павярнуў назад. Спыніўся, каб знайсці выхад — ці, дакладней кажучы, уваход… Схаваўшыся за вялізным шурпатым глыжаком[2], перабіраў я адзін за адным спосабы пранікнення ў варожы стан — і адзін за адным адкідаў іх: тут не пасаваў ніводны. Мне згадваліся словы майго настаўніка, старога Бутрыма, пра тое, што непрыступных фартэцаў не бывае — і ўпершыню я сумняваўся ў сказаным ім: велічныя муры перада мной выразна сведчылі пра адваротнае.

Такім цяжкадаступным рабіла замак, у значнай меры, ягонае месцазнаходжанне. Важкія, вычасаныя з жывога каменя, муры выраслі з вяршыні аграмаднае чорнае скалы, і іхнія вежы ды башты імкнуліся ўгару натуральным працягам стромых гранітных адхонаў. Узысці наверх да брамы можна было адно па высечанай у камені сцяжыне, якая падступна-слізкай вужакай абвівалася вакол скалы. Сцежка была такой вузкай, што на ёй ледзьве мог змясціцца ўзброены вой, яна закручвалася злева направа — той, хто ішоў да брамы, заўсёды быў звернуты да байніц замка правым, непрыкрытым шчытом, бокам: калі б які нападнік наважыўся прабіцца да брамы, ён стаў бы лёгкім цэлем для лучнікаў на баштах раней, чым паспеў бы зрабіць хаця б пару крокаў нагару. А за нападніка мог быць палічаны кожны чужак, што ўзыходзіць па сцяжыне.

Іншага, па-за брамай, уваходу ў замак не было — я змарнаваў дзве ночы, каб знайсці які патаемны выхад для ганца на выпадак аблогі або схаваны канал для вады — усё дарэмна: князь Гатард добра паклапаціўся пра сваю бяспеку і ніякая ваярская хітрасць не магла тут дапамагчы.

### II

Мой род спрадвечна славіўся мужнымі воямі ды непераможнымі вадарамі[3]. Гэтак і я, паводле звычаю, яшчэ малым дзіцем быў аддадзены на выхаванне і навучанне старому Бутрыму, некалі адважнаму і умеламу ваяру, цяпер жа — пасівеламу старому з яснымі вачыма і яшчэ моцнымі рукамі. Ён распавёў мне пра ўсё, што ведаў сам, навучыў усялякаму збройнаму ўмельству ды баявым зманам, спрактыкаваў маю руку і настрыў мой розум, як вострацьклінгу корда[4]. Ужо ў чатырнаццаць зрабіўся я дасканалым воем: умеў біцца на мячах і на дзідах; ведаў, як змагацца з адным, а як аднача сна з некалькімі ворагамі; мог пацэліць стралой у пярсцёнак на верхавіне дуба або захаляўным нажом у адмеціну за дваццаць крокаў. Я здолеў бы перасядзець пагоню пад вадой з трысцінай у роце і схавацца пад адным плашчом у голым полі, утаймаваць дзікага скакуна і суцішыць вартавога сабаку ў варожым стане.

І вось тады ўпершыню я стаў у баявым шыхце поруч са сваім бацькам — ваяводам Буйвідам, поруч са сваімі дзядзькамі і братамі. Тады ўпершыню я напаіў варожай крывёй сваю баявую сякеру — так пачалося маё жыццё ваяра.

Слава пра нашую непераможнасць грымела па краі — і яна была заслужаная: мы напраўду былі найлепшыя. Кожны князь быў рады бачыць нашую дружыну сярод сваіх войскаў. Мы нятанна прадавалі майстэрства і адвагу, але той валадар, што згаджаўся на нашую цану, не зазнаваў паразы.

Мы рэдка мянялі гаспадароў — хіба што князь, які нас запрасіў, паміраў, а ягоны наступнік, пэўны сваёй магутнасці ці скнарны да багацця (зрэшты, намі ж і здабытага), не згаджаўся аплачваць дорага нашую службу. Тады мы адыходзілі і вярталіся ў роднае паселішча або вандравалі па краі ад замка да замка, аж пакуль не знаходзіўся дастаткова амбітны і багаты валадар, які хацеў і мог нас наняць. Апошняму служылі мы князю Велеміру. Багаты і ўплывовы, ён, аднак, быў досыць міралюбным правіцелем, каб ваяваць чужыя землі самому, — і дастаткова магутным, каб баяцца нападу некага іншага. Таму нашыя старшыні былі здзіўленыя бачыць ягонага ганца з запросінамі — на той час у краі яшчэ не было чуваць пра чорную навалу, што мелася накаціцца з захаду на нашыя землі.

[2] Глыжак — валун.
[3] Вадар — той, хто вядзе за сабой.
[4] Корд — кароткі меч.

На світанку мы вышыхтаваліся ў цэнтры Велеміравага войска. Перад намі сталі латнікі з доўгімі дзідамі, каб прыняць на іх першы ўдар варожае конніцы. Па крылах[5] наперадзе — лепшыя князевы палясоўшчыкі-лучнікі, а ззаду пахіліла аголеныя мячы ягоная асабістая ахова. Далей у пералеску — каб у патрэбную хвілю ўдарыць знянацку — укрылася арда саюзных коннікаў-стэпавікоў.

Мы сталі без страху, з заўсёднай верай у сваю моц ды упэўненасцю ў немінучай перамозе. Іначай і быць не магло — мы заўжды перамагалі, нават паміраючы. Але тым разам Лёс нам здрадзіў. Мы зразумелі гэта, калі сонца перакацілася на іншы бок небасхілу. Ужо былі растаптаны цяжкімі, закутымі ў жалеза конямі латнікі з дзідамі і высечана ўшчэнт князева дружына, знішчаны лучнікі і размецена засадная конніца. Быў ужо забіты і сам Велемір, але мы, пазасталыя яшчэ ў жывых ваяры з Буйвідавага роду, усё яшчэ змагаліся, як нам загадваў гонар. На ўсім засланым мёртвымі целамі полі толькі наш, згорнуты ў кола і значна парадзелы заслон заставаўся апошняй купкай, што яшчэ не растала ў чорнай лаве нападнікаў. Нас усё меншала, а іх — адваротна — прыбывала. На месцы кожнага забітага ворага ставала трох жывых, а поле — аж да далягляду — было запоўнена новымі, што ўсцяж падыходзілі, чужацкімі войскамі.

Чарналатныя хвалі наплывалі, потым адкочваліся, каб нахлынуць ізноў — і за кожным разам падала колькі ворагаў, але таксама і нехта з нашых… ажно пасля чарговага наступу засталіся адно мы з бацькам: поруч са мной толькі ён, зняможаны і без шалома, цяжка махаў яшчэ сваёй булавой, намагаючыся адбіцца ад некалькіх нападнікаў. Я павярнуўся, збіраючыся рынуць яму на дапамогу, але ў гэтую хвілю глухі боль, мязджачы чэрап, працяў свядомасць і праваліў мяне ў суцэльную цемру забыцця…

Калі я апрытомнеў, было надзвычай ціха. Бой, па ўсім відаць, скончыўся даўно. Хіліўся да канца і дзень; за блізкім лесам хавалася сонца, кідаючы чырванаватыя водбліскі на зруйнаваны і выпаленыя дарэшты Велеміраў замак.

Хістаючыся, я ўзняўся. Немавед нашто падхапіў з зямлі свой напалову расколаты шалом, абвёў напаўуцямным поглядам мёртвае поле і… ўбачыў бацьку. Ён ляжаў на кучы забітых ім ворагаў. Ягоная правіца ўсё яшчэ сціскала перасечанае дзяржальна булавы, нават мёртвая не хочучы выпусціць гэтак ж мёртвую зброю, а з-пад нагруднае пласціны панцыра тырчала чорнае дрэўка дзіды.

## III

Я даўно не быў дома: можа, гады з тры, а можа, нават і болей. Пасля смерці маці мы з бацькам нячаста наведвалі роднае паселішча. Служба найміта-ваяра і так не надта дазваляе заседжвацца ў хаце, а нас з домам ужо нічога і не звязвала. Аднак цяпер я вырашыў туды вярнуцца. Не таму, што мне не было куды пайсці — мяне з ахвотаю прыняла б кожная дружына, а проста таму, што ваярства страціла для мяне ўсялякі сэнс. Больш не вабіў покліч бою, не клікаў у дарогу конскі пошчак і бразгат зброі — я стаў абыякавым да гэтых, некалі такіх мілых майму сэрцу, згукаў. Таму я пастанавіў вярнуцца дадому. І вось вярнуўся…

…Мінула ўжо колькі квадраў з часу майго вяртання. Я сядзеў на прызбе і плёў сетку для ловаў. Раптам нечы цень захіліў мне святло; я ўзняў вочы — перада мною стаяў невысокі, сівы, як голуб, стары з доўгай белай барадой і разьбяным посахам у руках. Ён з'явіўся так нячутна, што нават я — спрактыкаваны вартавы і паляўнічы — не пачуў ягонага набліжэння: нездарма кажуць, што вешчбіты не ходзяць — іх пераносяць духі ветру. А гэта ж быў найславуцейшы з кудзебнікаў — сам Мудраслаў, вярхоўны валхвец і чараўнік. Я ніколі не бачыў яго раней, але ў шматлікіх легендах ды баладах, што апявалі чыненыя ім цуды, неаднойчы — і вельмі дакладна — апісваліся і гэты разьбяны чарадзейны посах, і гэты месяцападобны жалезны абярэг, што звісае з шыі на плеценым валасяным шнурку, і гэтая срэбная дыядэма на высокім ілбе.

[5] Па крылах — на флангах.





Маё здзіўленне з ягонага нечаканага прыходу было гэтак вялікае, што я не мог вымавіць ані слова. Але Мудраслаў, прывітаўшы мяне, сам пачаў гаварыць:

— Войшаль! Зоры ўказалі мне на цябе! Ты — адзіны, хто можа ўратаваць наш край. Чорныя войскі Гатарда зваявалі большасць нашых княстваў, замкі падаюць адзін па адным. Яшчэ ніколі раней такі магутны вораг не прыходзіў у нашыя землі. Таму я клічу цябе да зброі!

Я паспрабаваў запярэчыць, што адзін вой ніколі не адолее ў змаганні цэлае войска, а тым болей войска такое шматлікае і спрактыкаванае, як чорныя рыцары Гатарда. Аднак вешчбіт запярэчыў.

— Адолее, — сказаў ён, — калі будзе ўзброены мячом, якому найменне — Маладзіковы Прамень. Ці чуў ты калі пра яго? — запытаў ён, а калі я адмоўна хітнуў галавой, працягнуў: — Задоўга да таго, як мы прыйшлі ў гэтыя землі, жыў тут старажытны і мудры народ. Мы яго ўжо не заспелі, але дзякуючы кнігам, знойдзеным у пакінутых пячорах-бажніцах, здолелі даведацца пра шмат якія даўнія тайніцы. І адной з іх быў Маладзіковы Прамень — меч, які выкавалі валхвяцы гэтага народу ў даўнія часы, каб здолець супрацьстаяць варожай навале, гэтак жа жудаснай і ўсёзнішчальнай, як цяпер — войска Гатарда. Яны вырабілі гэты меч з маладзіковага сяйва, працягнуўшы тонкі, як ніта, прамень скрозь зачараванае адмысловымі кудзебствамі колца. Прамень трыкроць астуджалі ў крынічнай вадзе, аж пакуль не сцвярдзеў ён у тонкую палоску металу, з якой далей валхвяцы выкавалі пад святлом поўні ды покрывам таемных закляццяў неймаверна вострае лязо. Так паўстаў Маладзіковы Прамень, створаны для абароны ад нязмерна мацнейшага ворага. У ім тоіцца чарадзейная сіла месяца, які, паміраючы, штораз родзіцца наноў. Як толькі першы прамень нованароджанага месяца ўпадзе на кляйнот, што вянчае дзяржальна, ваяр, які ўзнясе меч, зробіцца непаражальны і непераможны — аж пакуль не зменіцца квадра (так мудрадумныя кудзебнікі даўняга народу ўчынілі з перасцярогі перад людскай натурай — каб уладар мяча, разбіўшы ворага, не захацеў стаць сам заваёўнікам).

На хвілю ён замоўк, а потым зноў прадоўжыў:

— Зоры мне сказалі, што сярод усіх сыноў нашага народу толькі ты адзін здольны выцягнуць Маладзіковы Прамень з похваў і ўзняць яго супраць ворагаў. Але гэта зусім няпроста. Перш, як ухапіць ягонае дзяржальна і стаць на чале нашых войскаў, ты мусіш гэты меч здабыць. За сотні гадоў ён неаднойчы змяняў уладальніка. З часам людзі — не без дапамогі нашых заклёнаў — забыліся на ягоныя чароўныя ўласцівасці, і пачалі ўспрымаць яго толькі як каштоўную і старажытную, але ўсё ж звычайную, зброю. Апрача вешчбітаў толькі адмыслова выбраны захавальнік — Мечнік — быў пасвячоны ў тайніцу клінка. Апошнім Мечнікам быў князь Велемір. На нядобры выпадак — а можа, з веданнем і адмысловым намерам — Гатард са сваім войскам наблізіўся да нашых межаў напрыканцы другое квадры, калі не было шанцаў ажывіць Прамень. Велемір не змог ужыць яго, таму гэты меч пасля паразы князя, сярод іншых велеміравых каштоўнасцяў, трапіў у рукі чужынцаў, і цяпер Чорны Князь Гатард трымае яго ў сваёй скарбніцы, у замку Гадор на Каменнай Гары.

Гневам выбухнула мая душа, калі я пачуў тыя словы: каб не залішняя міратворнасць ды прытойлівасць[6] жрацоў (бо, напэўна, пра той напад яны ведалі яшчэ тады, калі яго можна было пазбегнуць), каб не вечная іх боязь парушыць волю багоў, дык, можа, не было б гэтае невыноснае паразы; можа, засталіся б жывымі мой бацька і мае браты; можа, усё б было інакшай! Аднак, вою не выпадае даваць волю пачуццям: з каменным тварам ды без найменшае адзнакі ўзрушанасці я кіўнуў галавой Мудраславу на знак таго, што разумею яго. Але гэты выбух гневу ўсё змяніў: у маіх грудзях ізноў пачала расці прага бою, прага змагання.

— Табе трэба ўжо ісці, — ціха прамовіў старац; падобна, ён нават думкі не дапускаў, што я магу адмовіцца. — Цяпер усё ў тваіх руках. Я хацеў бы дапамагчы табе, але не маю сіл супрацьстаяць

[6] Прытойлівасць — скрытнасць.

чорнай магіі чараўнікоў Гатарда. Адзінае, што магу — даць табе гэты старажытны абярэг, што належаў яшчэ майму прадзеду, — вяшчун зняў з сябе і, сказаўшы пахіліць галаву, павесіў мне на шыю месяцападобны талісман. — Ён абароніць цябе ад варожага наслання, а ў патрэбе дазволіць звярнуцца па дапамогу да духаў нашае зямлі. Але памятай: духі не любяць, калі іх занадта часта турбуюць — у першы раз яны дапамогуць, але ў другі могуць загубіць. І яшчэ адно: зараз ветах; на трэцюю ноч, лічачы ад тае, што надыходзіць, родзіцца маладзік. Калі князь Гатард вынясе перад світаннем меч пад ягонае сяйво, дык стане непераможны, а наш край назаўсёды трапіць да яго ў падданства — больш ніколі ўжо мы не будзем цешыцца воляй і вясною, спяваць нашыя песні і жыць паводле сваіх законаў!

Кудзебнік[7] змоўк, пільна гледзячы мне ў вочы, і паўсталі перад маім зрокам зруйнаваныя паселішчы, спаленае на палетках жыта, чароды гнаных у палон кабет ды дзяцей… Потым Мудраслаў загадаў падрыхтаваць зброю і сабраць з сабой ежы. Пасля нядоўгае малітвы ён запаліў жмуток зёлак з даўкім пахам і абвёў ім вакол мяне ў паветры. Я пачуў прамоўлены заклён, і ў той жа момант ахутала мяне бялютка-празрыстая смуга, дрэвы ды рэчы навокал расплыліся, а пасля я раптам ўсвядоміў, што стаю пасярод выпаленага пустэльнага стэпу, а далёка наперадзе, на фоне залаціста-блакітнага неба чарнеюць вострыя зубцы вежаў Гадора. Я пакіраваў да замка…

IV

Ніта ўспамінаў перарвалася… Мая рука ўсё яшчэ несвядома сціскала абярэг, і думкі вярнуліся да яго: як немагчыма трапіць у замак натуральным шляхам, дык я мушу выкарыстаць звышнатуральны, бо апошні дзень ужо гасне — і мне засталася толькі адна ноч. Я не думаў, што давядзецца прасіць дапамогі духаў ужо на самым пачатку маёй выправы — бо хто ж зведае, якія яшчэ перашкоды рыхтуе мне Лёс наперадзе! Але ўсё ж неяк трэба гэтую выправу распачаць!

Я адклаў убок дзіду, адшпіліў з-за спіны шчыт ды выцягнуў з навязі і прыхінуў да глыжака сваю баявую сякеру. Потым укленчыў, запаліў ахвярныя вохнасці[8] і, сціскаючы ў гарачых далонях абярэг, узнёс маленне да духаў. Я прасіў ператварыць мяне на кароткі час у кажана: бо гэтае спароддзе цемры вядзецца ў кожным замку, прынаджанае паўзмрокам скляпенняў у высокіх вежах ды магільнаю прахалодай глыбокіх сутарэнняў і лёхаў; таму ніводзін вартавы, калі ён сам не з'яўляецца чараўніком ці кудзебнікам, не западозрыць у гэткім стварэнні ворага, што прабіраецца ў фартэцыю.

І духі ўважылі маёй малітве. Раптоўна я пачаў змяншацца ў памерах, адначасна парастаючы бура-чорнай кароткай поўсцю. Мае пальцы выцягнуліся, а між імі і да цела нацягнулася тонкая скураная плеўка. Я хацеў падзякаваць духам, але, калі адкрыў рот, маё горла вытыргнула адно абрыдлівы піск.

Гэтае ператварэнне, якое адкрыла для мяне доступ за замкавыя муры, мела, аднак, і адмоўны бок: адно толькі абярэг зменшыўся разам са мною; уся ж вопратка і зброя засталіся звычайных памераў. Значыць, у замку, вярнуўшыся ў сваё прыроднае аблічча, я застануся нават без нажа! Балохтаючыся, я так-сяк выкараскаўся з-пад апалай на мяне кальчугі, выпаўз наверх, узмахнуў плеўчатымі рукамі-крыламі — і паляцеў. Трохі няўклюдна соўваючыся ў паветры, я зрабіў колькі спробных колаў над глыжаком, што яшчэ нядаўна хаваў мяне, і пакіраваў у бок замка.

V

Мае спадзяванні спраўдзіліся, і ніякіх перашкодаў (калі не лічыць майго няўмелага лётання ды яшчэ ветру, што ўвесь час зносіў мяне ўбок), я не напаткаў. Адно толькі перад самымі мурамі мяне паспрабавала заатакаваць чародка кажаноў, што зляцела з вежы; аднак мне ўдалося нырцануць у чорную шчыліну найбліжэйшае бойніцы, і я ад іх адарваўся.

[7] Кудзебнік — чараўнік.
[8] Вохнасці — духмяныя рэчывы.





Пераходы ў замку былі цёмнымі, пакручастымі і бязлюднымі. Я досыць доўга лётаў па іх, блукаючы сярод галерэй са шматлікімі адгалінаваннямі, сходамі ды бакавымі пакоямі, аж пакуль не трапіў у шырокі, асветлены паходнямі калідор, дзе, як і паўсюль, нікога не было. Калідор заканчваўся шчыльна зачыненымі двухстворкавымі дзвярыма, з-за якіх быў чуцён шматгалосы гоман. Я асцярожна зляцеў з-пад скляпення наверх створкі і прыпаў вокам да шчыліны над дзвярыма.

Калі мае вочы пасля цьмяна-міргатлівага святла паходняў звыкліся з зыркім ззяннем лампад і жырандоляў за дзвярыма, я ўбачыў велізарную, напоўненую людзьмі залю. Большасць з прысутных былі ў чорных даспехах і з мячом пры пасе, хоць, разам з тым, у дарагіх раскошных плашчах ды без шаломаў. Я падумаў, што, мусіць, аднак, нешта рыхтуецца, бо ніхто ж не прыходзіць на свецкія ўрачыстасці ў „жалеззі". Былі, аднак, там і дамы ў шытых золатам ды срэбрам суконках, нярэдка таксама чорных; былі яшчэ пару асобаў у пурпуровых мантыях, якіх я вызначыў для сябе як Гатардавых чараўнікоў.

Людзі праходжваліся па зале, збіраліся ў купкі, гучна размаўлялі і смяяліся. Гэтая грамада, бадай, не надта б рознілася ад кожнае іншай, сабранай у звычайным замку, каб не такое панаванне цемнаколерных шатаў ды каб не жорсткія выразы твараў і хіжыя позіркі вачэй. Здавалася, што нейкія чарнапёрыя драпежныя птушкі кружляюць навокала ў пошуках здабычы.

Проста насупраць маёй хованкі знаходзіўся парадны ўваход; важкія залочаныя дзверы былі разнасцежаныя[9]; за імі віднеліся мармуровыя сходы, па якіх таксама спускаліся або ўзыходзілі рыцары і дамы. Пры дзвярах ад боку сходаў стаялі алебарднікі ў панцырах і маршалак з вітым жазлом ды ў срэбнага шытва ліберыі[10]. У іншых канцах залы было бачна яшчэ колькі зачыненых дзвярэй, якія, мусіць, падобна да тых, за каторымі стаіўся я, вялі ў бочныя галерэі. Я разглядаў іх і намагаўся адгадаць, куды далей мне трэба скіравацца. Бо ў такім аграмадным замку меч можна шукаць не адну ноч — і ўсё роўна не знайсці.

Раптоўна гоман і смех сцішыліся. Я зірнуў на парадныя дзверы і зразумеў прычыну: аточаны дужымі ахоўнікамі, на парозе з'явіўся высокі хударлявы мужчына ў чорным аксамітным строі. Ягоная пастава выдавала чалавека ўладарнага; вочы глядзелі жорстка і пранізліва, а вусны змяіліся ў пагардліва-пыхлівай усмешцы. Маршалак ударыў у падлогу жазлом і абвясціў прыход гаспадара замка Чорнага Князя Гатарда. Прысутныя схіліліся ў паклоне.

Князь прайшоў да свайго пасаду, які, на шчасце для мяне, месціўся на процілеглым ад уваходу канцы залы — то бок, непадалёк ад маіх дзвярэй. На шчасце— бо, напружыўшы слых, я мог пачуць, пра што казалі пры пасадзе, а Гатард якраз падклікаў да сябе пахілага сівога чараўніка, што выглядаў найстарэйшым з усіх прысутных.

— Дык што, Даронце, ці не час пачынаць?

— О, не, вяльможны князю! Утаймуй сваю нецярплівасць, — спакойна адказаў маг, — яшчэ зарана. І ці падвоіў ты, як я прасіў, варту? Бо маю сёння нядобрыя прадчуванні. Дый мае кажаны нешта занепакоеныя — ці не прабраўся ў замак чужынец, пра якога папярэджвалі вешчыя руны?

— Але гэта немагчыма! — рэзка запярэчыў Гатард. — У мой замак хіба толькі казюрка зможа прапаўзці незаўважанай!

— Што ж, ён мог перавярнуцца і казюркай, — разважліва адзначыў вяшчун.

— Тады знайдзі яго! Ты ж — маг, дык мусіш ведаць усё! — ледзь не закрычаў на яго князь.

— Не, — пахітаў галавою стары. — Я не бачу яго. Мажліва, ён карыстаецца нейкім моцным чараваннем або абярэгам, які хавае яго ад майго таемнага пагляду. Лепей пашлі кнехтаў агледзець замак — ці не заўважаць яны нечага незвычайнага.

Гатард выглядаў раз'ятраным: ягоныя вочы палымнелі агнём, а напышлівая ўсмешка саступіла месца выразу нястрымнага гневу — мусіць, ён не цярпеў нічыіх парадаў. Маг жа, наадварот,

[9] Разнасцежаныя — расхінутыя насцеж.
[10] Ліберыя — апратка слугаў у багатых дамах; інакш: ліўрэя.

глядзеў пагодна і нібы не заўважаў валадаровага шалу. Але ўрэшце князь адолеў злосць. Ён згодна кіўнуў галавой, прымаючы параду, і паклікаў падысці магутнага рыцара з ваяводскай адзнакай на плашчы. Выслухаўшы загад, той пераказаў яго афіцэрам меншага рангу, якія ўмомант зніклі за параднымі дзвярыма. Неўзабаве зала пачала напаўняцца кнехтамі, якія пасля разыходзіліся праз усе іншыя ўваходы па замкавых анфіладах. Двум жа са сваіх прыбочных ахоўнікаў-магутаў Гатард паказаў на дзверы, за якімі хаваўся я:

— Ідзіце ў Залу Чараў і прынясіце мне магічны меч! Ваявода, дай ім сыгнет, каб зняць пячатку-закляцце з уваходу!

Пра такую ўдачу можна было толькі марыць! Мала таго, што я цяпер ведаў напрамак, дык яшчэ і быў побач! Я хутка ўзляцеў з дзвярэй і павіс уніз галавой, зачапіўшыся кіпцюрамі за каменны карніз пад самай столлю — у быцці кажаном ёсць свае выгоды. Цяжкія створкі разнасцежыліся, і воі прайшлі проста пада мною, нават і не падумаўшы ўзняць галаву ды зірнуць наверх. Іхні цяжкі поступ з бразгатам даспехаў гулкім рэхам адбіваўся ад каменных сценаў.

Быў ужо час вяртацца ў сваё сапраўднае аблічча. Калі дужыя постаці рыцараў зніклі за рогам калідора, я зляцеў уніз і, звярнуўшыся ў малітве да духаў, папрасіў ізноў зрабіць мяне чалавекам. І ў тую ж хвіліну я пачаў расці…

## VI

Мякка ступаючы па халодных каменных плітах, я пачаў красціся ўслед за воямі. Яны нейкі час ішлі знаёмай мне галерэяй, ажно раптам калідор скончыўся і глухі мур перагарадзіў дарогу. Тады той, што стаяў справа, тройчы стукнуў жалезным дзяржальнам па акруглым гладкім камені, які крыху выдаваўся з кладкі проста насупраць яго. Я не даў веры сваім вачам: незварушны, здавалася, мур раптам лёгка папоўз угару, адкрываючы змрочнае чэрава сутарэння. Латнікі ступілі ў цемру: спярша адзін — папярэдне дастаўшы з жалезнага гнязда на сцяне палымяную паходню, — за ім другі. Мур зноў апусціўся на сваё заўсёднае месца.

Я вырашыў далей не ісці, разважыўшы, што ахоўнікі і так будуць вяртацца тым самым шляхам, а мне самому сунуцца ў месца, дзе пануюць чары, патрэбы няма. Здавалася, больш сэнсу было ў тым, каб дачакацца рыцараў тут ды, па магчымасці, аснадзіцца нейкай зброяй. Дзеля гэтага я ўважліва агледзеў прылеглыя пакоі і пераходы, аднак нічога прыдатнага не знайшоў — паўсюдна пашыраны звычай развешваць шчыты ды мячы па сценах у якасці аздобы замка тут поспехам не карыстаўся. Спроба расхістаць і выняць са сцяны які больш-менш вялікі камень таксама выніку не дасягнула — вапнавы рашчын трымаў на подзіў моцна, і я абадраў пальцы, але здабыў адно толькі невялікі кавалачак граніту. Зрэшты, у маіх варунках і тое прыдасца — пры пэўнай кемлівасці можна ўжыць з карысцю для сябе найменшую драбностку.



Акурат у гэты час з боку вялікае залы даляцела рэха крокаў і водгукі галасоў, — мусіць, кнехты, пасланыя на мае росшукі, ужо дапялі і да гэтага калідора. Я паспяшаўся схавацца за цяжкай аксамітнай заслонай пры ўваходзе ў пакой і знерухомеў, сцішыўшы дыханне. Праз нейкі час галасы наблізіліся ўжо настолькі, што я лёгка мог чуць, пра што яны гавораць. Кнехты, падобна, былі зануджаныя доўгім вартаваннем ды безвыніковымі вышукамі і не надта шчыравалі. Лена перагаворваючыся, яны прайшлі паўз мяне ў пакой і назад, нават не падумаўшы адхінуць заслону. Мяркуючы па кроках, іх было трое ці, самае вялікае, чацвёра. Мяне гэта цалкам задавальняла: значна лягчэй даць сабе рады з некалькімі, больш звыклымі трымаць келіх, чым меч, жаўнерамі, і завалодаць іхняй зброяй, чым адразу атакаваць з голымі рукамі тых двух пасланых па Меч рыцараў, якія, несумненна, з'яўляюцца спрактыкаванымі і дасведчанымі воямі.





Пакуль кнехты нетаропка праваландаліся да канца калідора, аглядаючы рэшту пакояў, я выцягнуў з заслоны віты шнур, што прыгожа аблямоўваў ейны край. Потым, нячутна ступаючы, падышоў да цяжкай тканай шпалеры на процілеглай сцяне і прывязаў да ейнага ніжняга кута адзін канец шнура; другі ж канец, дбайна хаваючы яго ў варсістым дыване, працягнуў да таго месца, дзе перад тым хаваўся. У паўцемры шнур быў зусім незаўважны. Задаволены зробленым, я асцярожна праслізнуў назад за заслону і зноў затаіўся.

Доўга чакаць не давялося — даляцелыя неўзабаве тупат, бразгат ды грубы смех далі зразумець, што кнехты вяртаюцца. Датрываўшы, пакуль гэтыя гукі не пачалі зноў аддаляцца (гэта сведчыла, што жаўнеры ўжо прамінулі разнасцежаныя дзверы ў мой пакой і накіраваліся далей), я высунуўся з-за заслоны і шпурнуў выкалупаны са сцяны кавалачак граніту ў дзвярны прахон[11]. Каменьчык трапіў у вялізную мосяжную[12] вазу, што стаяла на калідоры пры дзвярах, і яна загула, як сапраўдны дзвон. Кнехты ўсё ж, відаць, падумалі, што, праходзячы, самі зачапілі яе цяжкім ботам або дзяржальнам алебарды, бо не вярнуліся ўсе разам, а паслалі толькі аднаго праверыць. Праз шчыліну паміж заслонамі мне добра было бачна, як ён, падышоўшы, крыху памарудзіў, але не заўважыўшы нічога падазронага, насцярожана пераступіў невысокі парог. Я злёгку пацягнуў за шнур — шпалера на процілеглай сцяне закалыхалася. Кнехт уздрыгнуў і, выставіўшы доўгую алебарду наперад, крадком пачаў набліжацца да таго падазронага месца. Калі вораг апынуўся спінаю да мяне, я скочыў. Пад маім цяжарам ён ніцма грукнуўся на падлогу, не здолеўшы нават ускрыкнуць; пляскаты, падобны да місы кнехтавы шалом зляцеў з галавы і пакаціўся ў кут. Не трацячы часу, я ўпёрся каленамі сваёй непрытомнай ахвяры ў спіну, схапіў аберуч знізу за падбароддзе і рэзка ірвануў галаву на сябе. Пачуўся непрыемны хруст — і цела кнехта абмякла. Я паволі падняўся на ногі; што ж, зброяй ды апраткаю, здаецца, я ўжо забяспечаны.

Але справа яшчэ не была скончаная. Прыцягнутыя шумам падзення цела, сутаварышы маёй ахвяры, судзячы па хуткіх кроках, спяшаліся да пакою. Я вырашыў паўтарыць той самы ход, толькі ўжо карыстаючыся зброяй. Выцягнуўшы з похваў на пасе пераможанага кнехта меч, я зноў узяўся за вольны канец шнура ды стаіўся па-за заслонаю.

Жаўнеры дзейнічалі цяпераka ўжо больш разважліва: прыхінуўшы алебарды да дзвярэй, яны агалілі свае кароткія мячы і асцярожна прайшлі ў дзверы пакою; далей, аднак, адзін застаўся пры ўваходзе, пільнуючы найменшага руху навокал, другі ж скіраваўся да ніцага цела. Мяне такі расклад цалкам задавальняў. Не паспеў жаўнер схіліцца над мерцвяком, як я зноў патузаў за шнур — і абодва прыхадні зірнулі на шпалеру. У той жа момант, прыадхінуўшы заслону, я маланкавым ударам увагнаў вастрыё мяча ў шыю кнехта, што знаходзіўся пры дзвярах. Другі яшчэ так і стаяў нахіліўшыся ды з разяўленым ротам, калі я скочыў да яго, узнёсшы над галавой меч. Доўга супрацьстаяць мне ён не здолеў. Праз якую хвіліну я ўжо надзяваў ягоную вопратку — ён найболей быў падобны да мяне целаскладам, — а таксама падбіраў сабе зброю ды кальчугу.

## VII

Цяпер ужо можна было сустракацца і з рыцарамі. Ідучы ў кнехтаўскім рыштунку, нават не выпадала асабліва хавацца. Я прайшоў да тупіку і прысеў на парожак найбліжэйшага да лёху пакою — лепш, каб у целаахоўнікаў, калі яны выйдуць з патаемнага ходу, не было надта шмат часу на думанне пра тое, што самотны жаўнер робіць у нежылой анфіладзе.

Неўзабаве далёкае водгулле цяжкіх крокаў за сцяною падказала мне, што рыцары вяртаюцца. Я падняўся і, сціснуўшы алебарду, выпрастаўся пры ўваходзе ў пакой, нібы быў на варце. Праход ізноў расчыніўся, выпускаючы ў калідор пасланцоў: спярша паказаўся адзін, з паходняй; за ім другі — ён нёс меч, загорнуты ў залататканую камку[13]. Па тым, як яны на хвілю замарудзілі, убачыўшы мяне, я зразумеў, што мой выгляд усё ж іх насцярожыў, — выгадаваныя вайной, яны заўсёды

---

[11] Прахон — пройма.

[12] Мосяжны — бронзавы.

[13] Камка — від залататканай тканіны; парча.

адчувалі небяспеку. Уставіўшы паходню на ейнае месца ў насценным гняздзе, яны пакрочылі ўздоўж па калідоры. Першы рыцар ішоў наперадзе, крыху захінаючы ад маіх вачэй другога, і трымаў руку на дзяржальне свайго мяча. Я ж стаяў, як і належыць прыдзвернай варце, — гледзячы проста перад сабой, крыху расставіўшы ногі, з адведзенай убок галябардай у правай руцэ ды закладзенай за спіну левай. Мая пастава і нерухомасць, здаецца, усё ж пераканалі ахоўнікаў, што недарэчна чакаць з боку звычайнага вартавога кнехта нейкае небяспекі, і яны расслабіліся. Бакавым зрокам я бачыў, што першы рыцар урэшце прыбраў руку з дзяржальна мяча, затрымаўся на месцы і азірнуўся на напарніка. Дастойнаму вою не надта выпадае атакаваць, калі супар[14] не глядзіць у ягоны бок, але гэтым разам я не мог дапусціць, каб яны зраўняліся — тады б мае шанцы на перамогу значна панізіліся б, або увогуле не сышлі на нішто, — а разам са мной паразу пацярпеў бы і мой край, мой народ… Таму я ўдарыў. Крутануўшыся на левай назе, я зрабіў крок правай у бок ворагаў, і, перахопліваючы алебарду абедзвюма рукамі, скіраваў ейны канчар проста ў твар першаму рыцару, цэлячы пад прыўзнятую прылбіцу шалома. Выпрацаваныя рэфлексы змусілі яго імгненна азірнуцца на мяне і захінуцца закутай у браню рукой. Аднак, я ўсё-такі быў больш хуткі: канчар[15] увайшоў у лоб, ломячы косці чэрапа, і твар адразу заліўся крывёю. Удар быў дастаткова моцны і трапны, каб сумнявацца, што ён адразу забіў супара насмерць, і я рынуў на другога. Той, аднак, ужо апынуўся па-за дасягальнасцю маёй алебарды. Пакуль я пераадолеў тыя колькі крокаў, што нас раздзялялі, ён ужо адклаў убок Маладзіковы Прамень і чакаў, выцягнуўшы з навязі цяжкую двухлёзавую сякеру. Сякера — страшэнная зброя, калі ў руках дастаткова сілы і спрыту; я сам часта яе ўжываю, бо яна прабівае кожны даспех. Кальчуга кнехта, што была на мне, для сякеры, бы пергамент, — тая праб’е яе, і нават не запаволіць свой лёт. У мяне цяпер была пэўная перавага — даўжынёй у дрэўка алебарды. Зрэшты, нядоўга: рыцар напраўду быў спрактыкаваным ваяром, і праз хвілю я, адкінуўшы перасечаны тронак, ужо агаляў свой меч. Кароткі меч — не зброя супраць сякеры, ды яшчэ калі тая — у руках закутага ў латы рыцара. Цяпер наступаў ужо мой супар, а я толькі і ведаў, што ўварочвацца ад ягоных замахаў. Мяне ратавала адно вузкасць калідора, замінаючы майму супару добра размахнуцца, але пакрысе, крок за крокам, я мусіў адступаць-цопацца назад — убок галоўнай залі. Неўзабаве ляск сякеры па сценах будзе пачуты за тымі, пакуль яшчэ далёкімі, дзвярыма, і мяне аточыць чорны натоўп, праз які я дакладна ўжо не праб’юся. Не! Я не магу гэтага дапусціць!

Вось рыцар узнёс для чарговага ўдару сякеру над галавой, і я, умомант выпусціўшы з рук меч, шпурнуў ад паса нож — проста ў шчыліну, што адкрылася паміж шаломам і нагруднікам. Шчыліна з’явілася толькі на кароткую хвілю — пакуль доўжыўся замах,— але я паспеў: перш, чым сякера пайшла ўніз, дзяржальна нажа ўжо тырчала з-пад ніжняга края шалома. Сякера вырвалася з кутых рукавак і на злёце, выбіваючы іскры ды крошыва, ударыла ў камень падлогі ўсяго за паўкрока ад мяне. Побач з ёй, звонка бразнуўшы напаследак даспехам, зваліўся ў непрытомнасці смерці мой супар. Я зняў свой шалом, сцягнуў з галавы лямцавы падшаломнік і выцер спатнелы лоб: гэты супар змусіў-такі мяне паскакаць. Адпачыўшы хвілю, я пачаў адшпільваць на мёртвым рыцары раменьчыкі панцыра — цяперака мне ягоны рыштунак, без сумневу, будзе больш прыдатны, чым яму. Як, зрэшты, і чароўны сыгнет-ключ, які я знайшоў пад даспехамі. Потым узяў у рукі і Меч. Чамусьці ён мне ўяўляўся іншым — больш доўгім, больш вузкім, з бліскучым лязом ды светлай асадкай. Пэўна, ягоная назва — Маладзіковы Прамень — навеяла падобныя ўяўленні. Бо на самой справе ён быў сярэдняе даўжыні і досыць шырокі, з лязом нязвыклай дзіўнаватай формы, выкананым з чарнёнае сталі. Мусіць, так і павінен выглядаць меч, выкуты старажытным народам у пракаветныя часы. Я ўзважыў зброю на руцэ — яна была вельмі цяжкая, быццам чароўныя ўласцівасці дадавалі клінзе чыста фізічнай вагі. Я вярнуў Меч у похвы і павесіў за спіну — каб менш замінаў пры хадзе ды ў бойцы.

[14] Супар, супарат — праціўнік, спаборнік.
[15] Канчар — наканечнік.





Новаздабытыя даспехі пасавалі мне ў самы раз, і я, трэба прызнаць, быў ад іх у захапленні. Лёгкія, але трывушчыя (як паказваў досвед колішняй бітвы), яны не перашкаджалі рухам і сядзелі, як ўлітыя, прычым амаль не бразгацелі пры хадзе. А адзнака княскае гвардыі на плашчы магла мне дапамагчы выбрацца з замка.

Перахаваўшы целы мёртвых ворагаў па-за мэбляй ды куртынамі[16] ў розных пакоях, я пачаў шукаць выйсця навонкі. Тут было некалькі магчымасцяў. Найпрасцейшы, але, разам з тым, найрызыкоўнейшы крок — убегчы ў пасадную залу, удаючы пасланага па Меч рыцара, і падняць гвалт, што ў замак пранік чужынец. Ахова скіруецца ў Залу Чараў, а я скарыстаю бязладдзем і, выбраўшы момант, прабяруся да брамы. Аднак, па-першае, мяне можа выдаць мой чужаземны акцэнт; па-другое, няма пэўнасці, ці не загадае Гатард у такім разе перадаць Маладзіковы Прамень пад узмоцненую ахову, з якой я ў часе патрэбы не змагу даць сабе рады. Другі шлях, і, здаецца, самы бяспечны, — пашукаць выйсце ў процілеглым напрамку: сярод бочных адводаў ці праз перасячэнні з іншымі галерэямі. Але існуе небяспека нікуды не трапіць і змарнаваць перавагу нечаканасці, якую я пакуль маю, у дарэмных блуканнях па нязнаных калідорах ды пераходах. І, урэшце, трэцяя магчымасць: цалкам верагодна, што ад Залы Чараў да брамы вядзе яшчэ які-небудзь праход. Але калі яго няма, я магу апынуцца замкнёным у пастцы.

Памылка была б аплачаная цаною, вышэйшай за маё жыццё, і таму я усё ж вырашыў ахвяраваць трохі часу, каб праверыць, што адбываецца ў галоўнай зале. Я падняў з падлогі і павесіў за спіну Маладзіковы Прамень, ухапіў рыцараву двухлёзавую сякеру і скіраваўся да ўжо знаёмых мне дзвярэй у канцы калідора. Ды толькі пацягнуў за мосяжную дзвярную ручку, разьбяную, у выглядзе ашчэранай ваўчынай пашчы, ды прыпаў вокам да шчыліны паміж створкамі, як раптам — быццам зніадкуль — зляцела на мяне зграйка кажаноў. Збіўшыся вакол маёй галавы ў суцэльнае чорна-брунатнае воблака, яны брыдка вішчалі, білі крыламі па шаломе, намагаліся пралезці пад прылбіцу. Пераканаўшыся, што мяне не выдрапаць з-пад металу даспехаў, малыя драпежнікі збіліся ў чародку і прасачыліся праз прыадчыненыя дзверы ў залу. Адтуль да маіх вушэй даляцеў вокліч мага Даронта:

— Зірні, княжа! Мае кажаны знайшлі чужынца!

## VIII

Не трэба казаць, што я рынуў як найхутчэй назад па калідоры — балазе, чорныя даспехі не надта перашкаджалі ў бегу. Ледзь паспеў я завярнуць за рог, кінуўшы апошні пагляд на ўваход у залу, як з таго боку данёсся грукат разнасцежваных дзвярэй — і а ад каменных сцен адбіўся тупат шматлікіх ног ды звяганне металу.

Такім чынам, пытанне вырашылася само сабой: калі б я захацеў удаваць з сябе чорнага рыцара, дык кажаны мяне выдалі б, а ўцякаць, блукаючы, ад пагоні па галерэях, якія ворагі ведаюць непараўнальна лепей за мяне, азначала тое ж, што самому здацца ім у рукі. Цяпер заставаўся толькі адзін шлях — праз таемны ход да скарбніцы: Гатард наўрад здагадаецца, што я ведаю сакрэт рухомай сцяны, таму ў гэтым лёху мяне будуць шукаць у апошнюю чаргу. Я падумаў, што, быць можа, гэта багі пры дапамозе Даронтавых кажаноў накіравалі мяне слушнай дарогай, каб я не ўчыніў пагібельнага кроку.

Але вось калідор скончыўся, і я зноў стаў перад таямнічай сцяною. Тройчы стукнуў дзяржальнам сякеры ў круглы камень і, не беручы са сцяны паходні, — каб не дазволіць праследнікам выявіць сябе, — асцярожна ступіў у цёмны лёх. Водбліскі святла з калідора яшчэ далі мне магчымасць заўважыць нядоўгі праход, які заканчваўся невялічкай акруглай пляцоўкай, а за ёю — стромыя сходы, што, звіваючыся вітуніцай, вялі ўніз. Ды неўзабаве сцяна вярнулася на сваё колішняе месца, і я апынуўся ў поўнай цямрэчы. Я ўставіў сякеру ў навязь на рамяні і, абапіраючыся рукамі аб вогкую цэглу вымуроўкі ды намацваючы нагой кожную новую прыступку, пачаў спуск. Сыходзіць было не надта зручна, бо ў мяне на пасе з аднаго боку вісеў меч, а з другога — ся-

[16] Куртына —занавесь.

кера, і яны страшэнна заміналі, блытаючыся ў нагах ды чапляючыся за прыступкі; дзяржальна Маладзіковага Промня за спінаю — як я не нахіляўся — драпала нізкія замшэлыя скляпенні. Прытрымліваць зброю рукамі я не мог, бо кожная бэлька пад маёй нагою магла хаваць пастку для выпадковага прыхадня, і належала быць асцярожным ды мець рукі вольнымі. Пільнасць мяне і выратавала, калі, ступіўшы на чарговую прыступку, я знянацку адчуў пустэчу пад нагамі. Я не зрынуўся ў разворую бездань толькі таму, што паспеў моцна ўперціся рукамі ў сцены. Доўгі палёт каменьчыка, каторы саскочыў уніз з-пад маёй нагі, закончыўся звонкім стукам аб граніт — калі б я сарваўся, ад смяротнага ўдару аб дно развору[17] мяне б ужо не ўратавалі ніякія даспехі.

Урэшце я дапяў да нізу сходаў. Тут было гэтак жа цёмна, і я паспрабаваў навобмацкі высвятліць, дзе знаходжуся: прытрымліваючыся рукой за сцяну, я пайшоў улева. За колькі хвілінаў я абышоў наўкола ўсё памяшканне і зноў вярнуўся да сходаў. Гэта, падобна, была не надта вялікая зала або пляцоўка, ад якой у тры бакі разыходзіліся калідоры. Я скіраваўся ў левы, папярэдне абмацаўшы сцяну напачатку лёху. Як я і спадзяваўся, там у гняздзе была падрыхтавана няпаленая паходня. У капшуку на маім пасе знайшлося крэсіва — і прасмоленае пакулле хутка занялося. Высока ўзняўшы паходню, я паволі рушыў наперад.

Праз колькі дзясяткаў крокаў калідор разрастаўся у анфіладу пакояў. Тут, відаць, даўно ніхто не бываў: на раскошнай мэблі, вазах і статуэтках ляжаў тоўсты слой пылу, а цяжкія тканыя шпалеры месцамі паправісалі і агалілі чорны граніт сцен. Трэба думаць, я ўжо знаходзіўся ў ніжняй частцы замка, якая была не надбудаваная, а высечаная ў скале. Я паспрабаваў знайсці хоць нейкую адтуліну, праз якую можна было б, звіўшы вяроўку, вылезці навонкі і паспрабаваць спусціцца са скалы на раўніну. Але ж не — тут не было ні вокнаў, ні нават байніц: асвятляцца пакоі мусілі толькі за кошт свечаў, жырандолі ды кандэлябры для якіх знаходзіліся паўсюль. Усе дзверы тут былі цяжкія, з вонкавымі запорамі, — падобна, гэтыя пакоі меркаваліся як апартаменты для знатных палоннікаў: наўрад ці адсюль можна было збегчы. Я прайшоў да канца анфілады, ажно ўрэшце трапіў у вялізную пустую залу, таксама без вокнаў. Не было ніякіх слядоў іншага выйсця. Ну, цяпер я, прынамсі, ведаю, што, уцякаючы, сюды бегчы не варта. На ўсялякі выпадак я сунуў за пас колькі свечак і памкнуў назад да выхаду.

Другі калідор адкрываў праход да яшчэ адных вітых сходаў, што вялі ўніз. Агледзіны чарговага паверха маглі заняць шмат часу, і я вырашыў перш, чым спускацца туды, даследаваць апошні, трэці, калідор.

З напругаю прыадчыніўшы цяжкія мосяжныя дзверы, я праслізнуў за іх. Полымя паходні, разрываючы цемру, асвятліла пакой, як дзве кроплі вады падобны да таго, з якога я нядаўна выйшаў. Я падумаў, што з яго мусіць распачынацца такая ж самая анфілада, размешчаная сіметрычна да раней агледжанай. Тым не менш праверыць варта. Ды ў гэты момант са сходаў данесліся цяжкія крокі і гоман — нехта спускаўся з боку галоўнае залы. Я, налёгшы целам на дзверы, хуценька прычыніў іх і агледзеўся. У другім канцы пакоя, як і належала, былі яшчэ адныя дзверы — і я, стараючыся не шумець, подбегам кінуўся да іх. Ад стрэчнага паветра паходня ў маёй руцэ засквірчэла і ўспыхнула ярчэй. Трэба прыдумаць, як ад яе пазбавіцца, бо мяне можа выдаць святло альбо, калі паходню затушыць, пах і дым. Разнасцежыўшы дзверы, я прабег па нядоўгім калідоры і ўскочыў у сярэдзіну наступнага пакоя анфілады. Я адразу заўважыў шэры прастакутнік акна на сцяне і памкнуў да яго. Ды ледзь толькі зрабіў пару крокаў, як у далёкім куце мільгануў белы цень, і цішу разарваў спалоханы жаночы крык.

Акно было закратаванае скразным, але ад гэтага не менш трывалым, сталёвым крунджам[18]. Я сунуў паходню ў празор між штукоўна выкутымі прутамі і штурхануў як надалей — яна агністым птахам зляцела ўніз. Краты не давалі магчымасці выхіліцца з акна, каб прасачыць ейны палёт да канца; але і так у прарванай полымем цемрадзі было відаць, якая глыбокая прорва адкрываецца

[17] Развор — прорва, бездань.
[18] Круднж — металёвыя пруты ў акне вязніцы.





за парапетам. Нават калі б мне і ўдалося выламаць хутка пруты, дык спатрэбілася б надзвычайнай даўжыні вяроўка, каб дапяць да зямлі без шкоды… А з-за дзвярэй ужо даносіўся тупат пагоні, што бегма бегла на пачуты крык. Я агаліў меч і, не звяртаючы ўвагі на сведку ў далёкім куце, адступіў за штору пры акне — калі пераследнікі будуць яе распытваць, іх увага будзе адцягнутая і ў мяне з'явіцца перавага нечаканага нападу.

Ледзь не ў тую ж хвіліну пакой напоўніўся шумам і святлом паходняў, што прасочвалася нават праз шыты золатам ядваб заслоны. Суворы голас прамовіў:

— Прашу даравац мне, высакародная князёўна, за гвалтоўнае ўварванне, але нам пачулася, што вы крычалі. Мы шукаем чужынца, што пры дапамозе нейкага кудзебства[19] пранік у замак. Ці не ён гэтак Вас напужаў?

Я быў гатовы ўжо выскачыць са свае хованкі і заатакаваць сваіх пераследнікаў, як раптам, мне на подзіў, далікатны дзявочы галасок запярэчыў:

— Не, ваявода, ты памыліўся — мне проста прысніўся ваш князь, а гэта найжахлівейшы з усіх кашмараў! Вось я і закрычала. А цяпер ідзіце — я хачу спаць.

— Але ж вораг мог прабегчы паўз Ваш ложак, і, быць можа, таму Вам праснілася нешта страшнае. Можа, Вы ў сне адчулі, што Вам пагражае небяспека…

Я асцярожна прыадхіліў вастрыём мяча заслону на ўзроўні вачэй, а сам адхінуўся назад, схаваўшыся глыбей у цень, — каб бачыць, што адбываецца, без небяспекі быць заўважаным самому. Пакой цяпер быў заліты святлом шматлікіх паходняў. Ваявода, што стаяў пасярэдзіне, звяртаўся да вельмі прыгляднай, захутанай у ядвабную палярынку дзяўчыны, якая, відаць, толькі паднялася з ложку, што стаяў пад чырвоным у залатыя зоры балдахінам на высокіх вітых слупах. Яна нібы свяцілася нейкай дзіўнай мяккай прыгажосцю, і я падумаў, што, праўда, дзяўчына вартая звацца князёўнай. Пры дзвярах і ў пакоі за спінай ваяводы стаялі кнехты ды рыцары, агаліўшы мячы. Апошнія ўжо былі ўбраныя па-баявому — са шчытамі ды ў шаломах, хоць і з прыўзнятымі — дзеля палягчэння дыхання пры бегу — прылбіцамі. На хіжых тварах адбівалася зацятасць выжлаў, што ідуць па следзе

— Ты мне не верыш? — з выклікам запытала князёўна ваяводу. — Дык глядзі ж, дзе ён?! — і дзяўчына адсунула бялізну з ложку, паказваючы, што пад ім нікога няма. — А, можа, тут?! — яна, пад жаночы віскат з-за сцяны, разнасцежыла дзверы непадалёк ад ложку. — Тут спяць навязаныя мне тваім князем фрэйліны — спытай у іх! Раптам гэта яны яго схавалі?! Я паўтараю: ідзіце прэч! Бо іначай я заўтра распавяду пра гэткія паводзіны вашаму валадару, і, мяркую, ён вельмі раз'ятрыцца, пачуўшы, што прычынай маёй адмовы будуць нягжэчныя[20] паводзіны ягоных слугаў.

Ваявода выглядаў вельмі незадаволеным, але, відаць па ўсім, мусіў падпарадкавацца. Хмура гледзячы, ён махнуў рукой воям, і тыя павыходзілі з пакою. Ваявода ж, прычыняючы за сабою ўваходныя дзверы, сказаў з ледзь заўважнай пагрозай у голасе:

— Няхай князёўна сабе спіць спакойна — я пакіну варту пры дзвярах апартаментаў Вашае Светласці.

Рэзкія каманды, што пачуліся з вітальні, пацвердзілі, што ён не кідае слоў на вецер. Князёўна падышла да ўваходных дзвярэй і замкнула іх на засаўку; потым тое ж зрабіла з дзвярыма ў пакой фрэйлін — і без сіл павалілася на ложак. Яна хвіліну ляжала пераводзячы дых, а я, тым часам, стаяў за шторай, разважаючы, ці то дзяўчына сказала ваяводу праўду і насамрэч проста палічыла, што сасніла жудасць; ці то яна свядома ратавала мяне — хоць было зусім неспадзяваным знайсці сабе саюзніка ў такім змяіным кубле, як Гадор. Аднак, усе мае сумневы адразу зніклі, калі князёўна зноў паднялася, запаліла лампадку і, павярнуўшыся тварам у мой бок, прыцішана загаварыла:

— Гэй, шаноўны чужаніца! Хто б вы ні былі, выходзьце — яны ўжо не вернуцца! … Прынамсі, пакуль.

[19] Кудзебства — чараванне, чары.
[20] Нягжэчны — няветлівы, нахабны.



IX

Яна стаяла пасярод пакою каля мініятурнага залочанага століка. Валасы мяккімі хвалямі ападалі на ейныя пакрытыя белай палярынкай плечы, а кволы агеньчык начное лампадкі асвятляў вабную, гнуткую постаць таямнічым мігатлівым святлом. Я не аматар розных там рамантычных сантымэнтаў, але выгляд дзяўчыны абудзіў ува мне шчырае захапленне. Ды я адразу схамянуўся і, апусціўшыся на адно калена, падзякаваў незнаёмцы.

Яна назнарок манерна прысела ў рэвэрансе (мусіць, кпіла з маіх не дужа зграбных у жалезе рухаў), але тут жа сама не вытрымала і засмялялася. Калі б на гаёвых дрэўцах замест сапраўднага лісця расло срэбнае, яно пад лёгкім павевам ветру шалёстала б гэтаксама звонка..

— Не турбуйся пра падзяку, вой! Я заўсёды радая дапамагчы непрыяцелю Гатарда, і паколькі ты ўцякаў ад княскіх рыцараў, я проста павінна была цябе схаваць.

— Ці азначае тое, што князёўна тут — паланянка? — Апошняе было відавочна ўжо хаця б таму, што яе пасялілі ў гэтай частцы замка, а не наверсе — але я хацеў упэўніцца.

— Так… — крыху памарудзіўшы, адказала дзяўчына; яна відавочна не была схільная абмяркоўваць гэтае пытанне.

— Няцяжка здагадацца, як князёўна сюды трапіла… Але, можа, распавядзеце?

— О, гэта дужа доўгая гісторыя… — голас дзяўчыны напоўніўся смуткам, і яна рэзка змяніла тэму: — Як ты намерваешся выйсці адсюль, вой?

О, вялікія богі! Я так замілаваўся гэтаю сустрэчай, што нібыта чары апанавалі мой розум — я зусім забыўся на тое, што мушу як найхутчэй выбрацца з замка! Я зноў падышоў да акна і зірнуў на краты — выламаць іх, маючы сякеру, канечне, няцяжка. Але як спусціцца са скалы? — схіл вельмі стромы, а да зямлі далёка. Гатард, мусіць, таму і вырашыў прасекчы тут акно: не маючы крылаў, усё роўна праз яго не збяжыш.

Я павярнуўся да дзяўчыны:

— Можа, князёўна мне падкажа выйсце?

Яна са скрухай пахітала галавой:

— Каб я магла — я б ужо даўно адсюль уцякла!

Што ж, тады мне прыйдзецца прабівацца скрозь ахову… Князёўна, відаць, прачытала гэтую думку на маім твары, і ў ейных вачах раптам заіскрылася надзея. Яна схапіла мяне за руку:

— Вазьмі мяне з сабою, вой!

— Але пра тое не можа быць і гаворкі! — Досыць рэзка адказаў я. — Як князёўна гэта сабе бачыць? Я ж вымушаны буду змагацца, а вы самлееце ад аднаго выгляду крыві…

— О не! — хутка запярэчыла яна. — Я ж неаднойчы хадзіла з братамі паляваць у пушчу, а бацька ладзіў турніры ў мой гонар — так што кроў я бачыла.

І не паспеў я адказаць, што турнір і сапраўдная бітва — розныя рэчы, і што я хачу прабрацца незаўважна, а ўдвох гэта, бадай, немагчыма, — як яна дадала пераканаўчы аргумент:

— Без мяне ты заблукаеш у гэтым аграмадным замку, вой! Згубішся ў лабірынце шматлікіх калідораў ды галерэй, і ніхто не згодзіцца паказаць табе дарогу навонкі — апрача мяне! А я мела шмат мажлівасці, каб вывучыць Гадор падчас баляў ды штодзённых шпацыраў па замку. Падумай: я тут адзіная, хто згодзіцца табе дапамагчы, хто правядзе цябе да брамы. Дык вазьмі ж мяне з сабой — бо я тут больш не вытрываю!

Як усе жанчыны, яна была шматслоўнай і ад хвалявання паўтаралася, але на гэтыя ейныя словы не было чаго запярэчыць — я сапраўды меў патрэбу ў праводніку, які б паказваў мне дарогу. І пасля нядоўгага намыслу я згодна кіўнуў галавой:

— Ну, што ж, князёўна, хадземце…



— І яшчэ адно, вой, — прамовіла яна. — Не называй мяне князёўнай, як яны… Я Ладзіслава… ці проста Лада. А цяпер мне трэба прыбрацца, — і яна, падышоўшы да ложку, апусціла заслоны балдахіну.

Я вярнуўся да акна і зірнуў на неба. Яно было ўжо скрозь зацягнутае хмарамі — добрая ноч для ўцёкаў. О, каб мог я зноў прасіць духаў праператварэнне! Мы б з князёўнаю абярнуліся птушкамі, узляцелі б у гэтае цёмнае неба і памкнулі б дадому — туды, дзе шумяць разлеглыя дубровы, дзе такая празрыстая вада ў крыніцах ды такое чыстае паветра ў палях і лясах. Але ж не… Дый, ператварыўшыся ў малую істоту, я не змог бы ўнесці з сабою важкі Меч. Трэба было шукаць іншыя шляхі...

X

Лада знянацку закрычала, і вартавыя — два кнехты, а за імі рыцар — уварваліся ў пакой: папярэдне адсунутая ёю засаўка дазволіла дзвярам вольна разнасцежыцца. Ды я ўжо чакаў іх, узняўшы сякеру для ўдару. Кальчужная плецёнка не паставіла найменшага супраціву загартаванаму лязу сякеры — галава першага кнехта зляцела з плячэй, і, падскокваючы, бы гліняная куля для гульні ў кіданкі, пакацілася пад ложак. Зваротны рух сякеры ўвагнаў абаротнае лязо ў грудзі другога кнехта, і яно завязла ў прасечаным панцыры ды перасечаных касцях. Рыцар адкінуў шчыт і рынуў на мяне з узнятым двухручным мячом. Я не стаў марнаваць час на вырыванне сякеры з цела кнехта — выпусціўшы ейнае дзяржальна, я скочыў на супара. Сплёўшы пальцы на абсадцы мяча, мы нейкі час, тварам да твару, змагаліся за зброю. Распяшаючы на крык, рыцар не паспеў апусціць прылбіцу, і я бачыў сціснутыя ў высілку зубы ды буйныя кроплі поту на ягоным твары; у нос мне шугаў ягоны смуродны пах. Змусіўшы супара напружыцца ў супрацьстаянні, я знянацку штурхануў яго назад. Ён машынальна ўклаў усе сілы ў рух супраціўлення і неабароненаю сківіцай наляцеў проста на мой, дакладна нацэлены ды ўцяжараны жалезнай рукаўкай, кулак. Ягоная вага і прыкладзены высілак узмацнілі мой удар удвая. Меч мне ўжо не спатрэбіўся.

Я, не без цяжкасці, вырваў сякеру з цела засечанага кнехта і кіўнуў князёўне, якая хоць і стаяла збялелая, але — было відаць — не страціла валодання над сабой. Мы ціха прайшлі праз разнасцежаныя дзверы, пасля мінулі калідор — ажно апынуліся перад цяжкімі дзвярыма, праз якія я раней трапіў у анфіладу. Я даў знак дзяўчыне стаіцца, а сам прыпаў вухам да счыну дзвярніцаў і нейкі час прыслухоўваўся. Не было чуваць ані шолаху — толькі рэдкі посквакр паходняў. Я кіўнуў князёўне, і яна, злёгку пагрукаўшы ў дзверы, жаласна папрасілася:

— Вартавы, адвядзі мяне да князя Гатарда!

Потым яшчэ раз:

— Вартавы! Ён узнагародзіць цябе, калі ты правядзеш мяне да яго!

Ані згуку у адказ. Гэта пераканала мяне, што са знадворнага боку варта не выстаўленая, і я асцярожна расчыніў цяжкія дзверы. Ды ваявода быў занадта дасведчаны, каб не перасцерагчыся і не падрыхтаваць засаду. Ледзьве я, трымаючы напагатове сякеру, зрабіў крок у прахон, як мяне з абодвух бакоў зaатакавалі ваяры з адзнакамі прыбочнае гвардыі Гатарда — выбранецкае сярод гадорскага рыцарства. Толькі выпрацаваныя з гадамі рэфлексы дазволілі мне ўнікнуць удару мячом і адхінуцца назад за дзверы. Прахон быў занадта вузкі, каб наступаць удвох, і таму адзін працягваў атакаваць, другі ж за яго спінай паднёс да вуснаў баявы горн, каб паклікаць падмогу. Я, уклаўшы ўсе сілы ў кідок, шпурнуў у яго абедзвюма рукамі сваю важкую баявую сякеру — панад плячом пярэдняга. Яна была зацяжкая для кідання, ды ўсё ж мая спроба ўдалася — рыцар зваліўся, так і не паспеўшы выдзьмуць ані зыку, а лязо сякеры моцна засела ў раскроеным шаломе. Але я застаўся без зброі ў руках. Пазасталы вораг застыў на хвілю, калі смяротная сталь пранеслася ў паветры ля ягонае галовы, але тут жа рынуў на мяне з падвоеным спрытам, не даючы часу агаліць меч. Я адступаў, ухіляўся ды шпурляў у яго рэчамі, што траплялiся пад руку. І як толькі мой супар раптам спатыкнуўся аб перакулены столік ды на момант прыпаў на калена, я скарыстаўся замінкай і выцягнуў-такі свой меч з похваў. Цяперака справа пайшла весялей, бо

адступаў ужо рыцар. Ягоны двухручнік быў даўжэйшы і, бадай, больш небяспечны — але толькі на большай адлегласці. Я, ведаючы гэта, імкнуўся навязаць яму бліжні бой; а ён, наадварот, стараўся адысці. Пабачыўшы, што з гэтага нічога не атрымліваецца, ён скочыў назад і, замахнуўшыся збоку, паспрабаваў перасекчы мяне напалам. Бязглузды намер! Зрабіўшы два хуткія крокі назад, я прапусціў вастрыё клінгі літаральна на волас перад сабой, і, калі цяжкі двухручнік пацягнуў рыцара налева, ударыў з выпадам у неабаронены бок — туды, дзе пласціны панцыра мацуюцца адна да адной раменьчыкамі. Рыцар захрыпеў, па лязе хутка пабег струменьчык крыві, а на бране каля раны запухірылася ружаватая сукравіца. Ягоны меч з гулкім бразгатам выпаў з раптоўна аслабелых рук на падлогу; сам рыцар замарудзіў на момант — нібы вагаючыся: што ж усё-ткі зрабіць — аж урэшце, як быццам надумаўшы, зваліўся ніцма. Я выцер свой меч аб ягоныя непрыкрытыя ззаду паножамі нагавіцы і сунуў у похвы; потым падняў з падлогі цяжкі двухручнік і, трымаючы яго перад сабой напагатове, паволі крочыў да прахону. Ззаду за мною паспяшала князёўна.

На выходнай пляцоўцы нікога не было. Яна была зырка асветленая некалькімі паходнямі на сценах, — відаць, Гатард вырашыў не пакідаць у замку цёмных месцаў. Але засаднікі больш нідзе не таіліся — ваявода яўна пераацаніў спрыт сваіх рыцараў. Я азірнуўся на князёўну:

— Што ж, Лада, цяперака твая чарга! Вядзі!

Яна згодна кіўнула і спакойна ды разважліва прамовіла:

— Адсюль мы можам выйсці толькі двума шляхамі — калі не лічыць галоўных сходаў, па якіх цяпер не прайсці. Адзін шлях вядзе праз вартоўню. У гэтым выпадку табе давядзецца змагацца спярша з вартай, што на адпачынку, — гэта чалавек шэсць-восем, але зазвычай кнехты; а потым з тымі, што пры браме, — гэта яшчэ двое-трое. Праўда, у выпадку нападу да іх нярэдка далучаюцца колькі рыцараў. Другі шлях, хоць і больш таемны, аднак не менш небяспечны. Ён праходзіць непадалёк ад скарбніцы. Там толькі двое рыцараў перад самой скарбніцай — яны нас не заўважаць. Але на падыходах у скале выдзеўбана аграмадная пячора, у якой сядзіць грыфон…

— Грыфон? — недаверліва перапытаў я: у нашых краях гэтыя бесты ніколі не вяліся, і іх можна было пабачыць толькі на гербах заезжых рыцараў. Па шчырасці, я заўсёды быў перакананы, што ўсялякія грыфоны, цмокі ды сыльфіды — гэта толькі мройныя ўявы надумлівых падарожнікаў.

— Так, грыфон, — пацвердзіла, аднак, князёўна. — Ён яшчэ малады: яму гадоў пятнаццаць — амаль зусім дзіцянё. Гатард некалі здабаў сваім алхімікам вывесці яго з яйка чорнага пеўня. Але цяперака ён, хоць яшчэ і малы, але ўжо набраў памераў і, па-за тым, дыхае полымем, як цмок. Таму Чорны князь не надта хвалюецца за свае скарбы — жывым да іх ніхто не дабярэцца. Грыфон прызнае толькі Мэйнара — мага, што яго гадуе, ды яшчэ самога Гатарда, які штодня прыходзіць яго паласаваць ды папесціць. Кожнага ж іншага ён папросту спаліць агнём або раздзярэ сваімі кіпцюрамі — яны ў яго даўгія і вострыя, бы шаблі.

— Думаю, гэта ўсё байкі…

— Не! Я бачыла яго сама! — засердаваўшы, тупнула ножкай дзяўчына. — Чорны князь вадзіў мяне глядзець свае скарбы, калі ўгаворваў пайсці за яго замуж. Тады я пабачыла і грыфона. І яшчэ Гатард распавёў, што з гэтага падзямелля вядзе таемны лёх навонкі; ён выходзіць на паверхню далёка за замкавымі мурамі…

— Няўжо ж ён не пабаяўся, што ты скарыстаеш гэтым лёхам і ўцячэш? — спытаў я з лёгкім недаверам у голасе (такі тон нярэдка дапамагаў мне выведваць больш, чым чалавек збіраўся сказаць —людзі не выносяць недаверу да сваіх слоў).

— Ясна, не! — гукнула князёўна з запалам. — Як я магу ўцячы, калі там сядзіць грыфон?!

— А які ён? — запытаў я ўжо прымірэнчым голасам.

— Ён такі вялікі… — яна на хвілю змоўкла. — Падобны, мусіць, да льва — толькі большы. Галава і хвост у яго цмачыныя, а ўсё астатняе, як у льва. Скура тоўстая, а на спіне ды хвасце нагадвае як бы рыбіну луску — толькі чорную, з нейкай прызеленню. Такога колеру, як звычайныя ракі… А на спіне ў яго такія смешныя крыльцы. Толькі я не ведаю, ці ён лятучы, — бо, мусіць, гадуючыся ў пячоры, лётаць не навучыўся.





— А наколькі ён вялікі?

— Я не ведаю, як сказаць… Ну, можа, як тур, ці нават большы…

Я зразумеў, што больш дакладных звестак з яе не выцягнуць. Зрэшты, шлях, ахоўваны грыфонам — апошні, па якім я хацеў бы прайсці. Паводле расповедаў — гэта аграмадныя злосныя пачвары, з якімі па сілах біцца толькі волату. Але, галоўнае тое, што я не ведаў іхніх слабых месцаў. З людзьмі прасцей — ад іх прынамсі ведаеш, што чакаць. І таму я сказаў:

— Лепш хадзем праз вартоўню.

## XI

Мы скіраваліся акурат да тых сходаў, якія я не стаў правяраць, калі ўпершыню апынуўся на пляцоўцы з трыма адгалінаваннямі. Я пайшоў першы, за мною спускалася князёўна. Але, апынуўшыся на наступным паверсе, мы памяняліся месцамі — далей ішла на чале ўжо яна. Мы скіраваліся ў даволі шырокі сярэдзінны калідор, і ўрэшце падышлі да яшчэ адных сходаў. Тут дзяўчына на момант спынілася.

— Мы амаль прыйшлі, — сказала яна ўпошапкі. — Калі сысці па гэтых сходах — трапім якраз у вартоўню. Гэта як бы чорны ход. Карыстаюцца ім вельмі рэдка, бо ён вядзе ў сакрэтную частку замка, дзе месціцца княжая скарбніца, Зала Чараў, а таксама часам селяць палоннікаў, якім Гатард нібы аказвае пашану.

— Такіх, як ты?

— Так, такіх, як я. Дык вось, калі ўварвацца ў вартоўню раптоўна, можна заспець кнехтаў непадрыхтаванымі, і тады будзе больш шанцаў перамагчы. Адно толькі, я не ведаю — ці тыя дзверы не замкнёныя.

Ідэя наконт уварвання ўвогуле добрая, але трэба было спярша высветліць, адкуль кнехтам можа прыйсці падмога. Таму я папрасіў дзяўчыну апісаць, дзе дакладна знаходзіцца вартоўня і запытаўся, ці ёсць з яе іншыя выхады, апрача галоўнага.

— Сама вартоўня месціцца проста па-над брамай. Мне цяжка адказаць напэўна — я толькі выпадкам трапляла туды раз ці два. Але мне здаецца, што адтуль былі бочныя выхады—сходы, што вялі нагару — на муры па абодва бакі брамнае вежы.

— Значыць, зараз мы знаходзімся на ўзроўні абарончага павышку муроў, а вартоўня — паверхам ніжэй?

— Хіба, так...

— А ці выстаўляецца варта на мурах?

— Так, я звычайна бачыла лучнікаў на баштах.

Што ж, калі і раней Гатард не легкаважыў вартоўнага рэгуляміну, дык цяпер ужо напэўна не праміне. Добра, пойдзем паглядзім. Я адклаў набок двухручнік, адшукаў у прыбочнай кайстры запасную сутужыну[21] для лука і звярнуўся да князёўны:

— Правядзі мяне на муры.

Найбліжэйшыя башты знаходзіліся на мурах праз больш-менш роўныя адступы па абодва бакі ад брамнае вежы. Пакінуўшы дзяўчыну ў дзвярах, што адкрывалі ўваход на верхнюю повышку, і прыхінуўшы да іх двухручнік, я асцярожна (наколькі дазваляла цяжкае ўзбраенне) пакрадкам дапяў да левай башты. Вартавы яўна не спадзяваўся майго прыйсця — упёршыся рукамі ў парапет і крыху нахіліўшыся наперад, ён пільна ўглядаўся ў цёмны начны стэп. Побач з ім стаяў прыхілены да сцяны арбалет, — відаць, у пошуках таямнічага прыхадня Гатард пастанавіў узброіць нават баштавую варту ў гэтую рэдкую ды дарагую зброю, стрэлы-бэлты якой прабівалі амаль кожны панцыр. Кнехт быў так заглыблены ў назіранне — ці то ў свае думкі? — што мне ўдалося падысці амаль усутыч, калі раптам ён нешта адчуў і выпрастаўся. Ды я ўжо зацягнуў на ягонай шыі лучную сутужыну. Праз момант ён абмяк, а я, пакінуўшы цела на драўляным памосце ды падабраўшы аснаджаны арбалет, пакіраваў навесным памостам да башты па другі бок ад вежы.

[21] Сутужына — цеціва.

З другім вартавым прайшло яшчэ прасцей. Мне дастаткова было, падышоўшы да ўваходу ў башту, звольніць сталёвую арбалетную сутужыну: з такое адлегласці бэлт працяў кнехта наскрозь і выйшаў з адваротнага боку, звонка дзвынькнуўшы вастрыём аб сцяну ды адкалоўшы ладны кавалак плінфы. Я зноў аснадзіў свой арбалет, а заадно падабраў і ягоны — мне дужа спадабалася хуткасць, з якой гэтую зброю можна ўжыць у справе, не кажучы ўжо пра прабіўную моц стралы. Трымаючы па арбалеце ў кожнай руцэ, я вярнуўся ў башту да Ладзіславы:

— А вось цяпер можна і ў вартоўню.

XII

Ударам нагі я разнасцежыў дзверы і амаль не цэлячыся стрэліў з абодвух арбалетаў у тлум кнехтаў перад сабой — іх было з добры дзясятак. Абодва бэлты самі абралі свае цэлі, і два жаўнеры зараз жа паваліліся на падлогу. Рэшта ж ворагаў яшчэ нават не паспела зразумець, у чым справа, як я ўжо кінуўся на іх з двухручнікам. Калі кнехты даўмеліся схапіцца за алебарды, іх засталася ўжо чацвёра ці пяцёра. Вось зляцела галава яшчэ ў аднаго ды выпала зброя з мёртвых рук другога... Ды тут лязо майго мяча пасля ўдару ўвайшло ў шчыліну між пліт падлогі, і перш чым я паспеў яго вызваліць, адзін з кнехтаў пацэліў па ім навершам алебарды. Лязо разляцелася напалову. Я выхапіў меч з похваў пры пасе, ды трапны — хоць, бадай, выпадковы — удар кісцяня выбіў зброю ў мяне з рукі перш, чым я паспеў скіраваць яе супраць ворагаў.

Двое жаўнераў наступалі на мяне з настаўленымі алебардамі, трэці, з прыгатаваным да ўдару кісцянём на даўгім дзяржальне, ішоў паміж імі і крыху пазадзе. А я, абяззброены, у каторы раз за сёння мусіў адступаць. У вартоўні стаяў толькі даўгі стол і, паабапал, зэдлі — і тое адно у дальнім канцы памяшкання, так што тут — на адрознасць ад жылых пакояў — не было нават ніякага кандэлябру, схапіўшы які, я змог бы адбівацца. Што праўда, з другога боку, і кнехты не былі настолькі небяспечныя, як рыцары. Яны не спрабавалі мяне атакаваць, а толькі цяснілі вастрыямі галябардаў. І я пакрысе адыходзіў назад, трымаючы ворагаў у полі зроку, а, разам з тым, краем вока паглядаючы, што б гэта выкарыстаць у якасці зброі. Аднак, пакуль нічога не траплялася, і я ўсё адступаў ды адступаў. Ды, калі я ўжо амаль упёрся спінаю ў сцяну, раптам пачуў крык князёўны: «Трымай, вой!» — і ўбачыў кінуты мне плазам меч, мусіць, аднаго з забітых кнехтаў. Замест таго, каб, згодна майму загаду, чакаць пры дзвярах, дзяўчына, пэўна, прайшла за мной у вартоўню і прыглядалася да бою зблізу. Што ж, гэтым разам ейная непаслухмянасць мяне ўратавала, і я зноў перайшоў у наступ, нацэліўшы меч на ворагаў.

Адзін з кнехтаў — той, што быў злева, — вырашыў не паддавацца і паспрабаваў сам мяне заатакаваць. Наставіўшы галябарду як дзіду, ён скіраваў яе мне ў жывот, спрабуючы прапароць мяне наскрозь. Ягоныя рухі былі пазбаўленыя таго спрыту, які дае шматгадовая звычка, а выглядаў ён рыхтык, як навабранец на практыкаваннях, калі імкнецца пацэліць у саламянае чучала. Унікнуць ягонага ўдару не было цяжкай задачай. Я рэзка адступіў убок і, крутануўшыся вакол, прапусціў алебарду паўз сябе. А калі, разагнаўшыся, жаўнер праляцеў міма, я з развароту моцна ўдарыў яго абсадкай мяча ззаду ў шалом — забіць такога няздару мне проста не дазволіла сумленне. Ён непрытомна зваліўся на падлогу, а я зрабіў крок у бок двух астатніх. Лёгка ўхіліўшыся кісцянёвых шыпастых куль, я ў момант удару іх аб падложную пліту рэзка наступіў на ланцуг і адразу ж зрабіў выпад — меч праццяў горла нападніка, і супраць мяне застаўся стаяць ужо толькі адзін кнехт. Гэтага яўна не цешыла ідэя застацца са мной сам-насам, і з першага пагляду было бачна, што ён гатовы кінуць сваю галябарду ды даць драла. Я аблегчыў яму задачу, перасекшы рэзкім рухам тронак, і ўжо павярнуўся да Ладзіславы, каб паклікаць яе за сабой, як са сходаў, што вялі ўніз да брамы, данёсся гул спешных цяжкіх крокаў. Дзверы разнасцежыліся— і ў вартоўню ўварваўся з дзясятак рыцараў. Адразу стала відно, што цяперака да брамы ўжо не прабіцца, і, схапіўшы князёўну за руку, я рынуў назад шляхам, якім мы прыйшлі. Адно толькі паспеў шпарка зачыніць за сабой дзверы ды кінуць зверху на клямкі меч — каб перашкодзіць створкам расчыніцца; зрэшты, я не спадзяваўся, што гэтакі дамарослы рыгель[22] надоўга затрымае пагоню.

[22] Рыгель — засаўка.





Хаця князёўна ў сваёй даўгой і цяжкай аксамітнай сукенцы значна замаруджвала наш бег, я ўсё ж спадзяваўся адарвацца ад пераследнікаў — перад намі з Ладзіславаю дарога была простая, а рыцарам прыйдзецца правяраць усе пакоі ды найменшыя закуткі, якія толькі трапяцца ім на шляху. Так, зрэшты, і здарылася: калі мы, задыханыя, узбягалі па сходах да пляцоўкі-ростані перад Ладзіславіным пакоем, гукаў пагоні за спінаю ўжо чуваць не было. Спыніўшыся на пляцоўцы, я спытаў:

— Дык што ты казала пра другі шлях?

— Ты хочаш-такі ісці праз грыфонаву пячору?! — уражана гукнула дзяўчына.

— У жыцці трэба ўсяго паспрабаваць! — пажартаваў я. — Ну, дык як, павядзеш? Ці, мо, баішся?

— Ды нічога я не баюся! — кінула рассердавана князёўна. — Хадзем!

— Не так хутка! Мне спярша трэба ўзброіцца, — я падышоў да дзвярэй у анфіладу, падняў меч таго рыцара, што быў з горнам і ўклаў яго ў свае пустыя похвы. Потым, ударыўшы па канцы дзяржальна, выцягнуў з галавы рыцара сваю ўжо крыху пашчэрбленую сякеру і вярнуўся да дзяўчыны. — Ну што ж, я гатовы.

Яна падышла да каменнае сцяны за сходамі і пацягнула цагліну, што крыху выдавалася з агульнае кладкі. Я ніколі не здагадаўся б, што і тут схаваны ўваход у лёх, але — на дзіва! — сцяна зварухнулася і паволі папаўзла ўбок. Мне падумалася, што ў гэтым замку, пэўна, палова сцен хаваюць патаемныя хады. Зрэшты, тым горш для нас: можна чакаць, што ворагі з'явяцца з ніадкуль. Мы ступілі ў адкрыты праход. Лада тым часам распавядала:

— Далей ад гэтага калідору аддзяляюцца некалькі хадоў-адрогаў[23]. Адзін вядзе ў Залу Чараў і ў скарбніцу, другія — у іншыя памяшканні. Нам жа трэба будзе пайсці па галоўным — аж да сходаў уніз. Спадзяюся, ты ўжо прыдумаў, як прыручыць гэтую мілую пачварку? — дадала яна з ледзь заўважнай кпінай у голасе.

— Яшчэ не, але па дарозе прыдумаю! — бадзёра адказаў я, хоць у маёй галаве і намёку не было на нейкую вартую думку на гэты конт.

XIII

Мы нядоўга прайшлі лёхам, калі неўзабаве спераду, з-за рага калідора, данёсся водгук жалезнае хады. Напраўду, відаць, ваявода паслаў сваіх людзей абысці усе калідоры ды пярэйсці. А паколькі гэты ход быў з самых таемных, дык можна было спадзявацца і ягонае асабістае прысутнасці. Цяжка было вызначыць, колькі там ідзе вояў, — гук, адбіваючыся ад сцен, памнажаў рэха. Магчыма, іх было няшмат, але ўсё ж я падумаў, што прасцей унікнуць небяспечнага становішча, чым пасля ўвесь час змагацца з ягонымі наступствамі. Схапіўшы сваю спадарожніцу за рукава, я ўцягнуў яе ў ход-адгаліначванне, які мы акурат мінулі: «Перачакаем тут!».

Ды ўсё ж, відаць, мы збочылі недастаткова борзда, бо да нас даляцелі словы некага з рыцараў: «Пане ваявода, здаецца, я нешта бачыў там наперадзе!». Стараючыся не тупацець, мы памкнулі ўздоўж гэтым ходам. На шчасце, ён быў досыць пакручасты, і пераследнікі, ідучы ззаду, не маглі нас бачыць з-за рагоў калідорных паваротаў. Заставалася спадзявацца, што на канцы хода нас не чакае выстаўленая варта.

На канцы калідора нас ніхто не чакаў. Ды ў гэтым і не было патрэбы — ход заканчваўся глухой гранітнай сцяной. Мы апынуліся ў тупіку. Вычасаная з граніту сцяна была выслігавана да неверагоднае гладкасці і адбівала нашыя аблічча ў бляску насценных паходняў, як люстра.

— Мы прапалі, — сумна азвалася князёўна. — Гэта Зала Чараў. Нам не прайсці праз сцяну без адмысловага сыгнета, які здымае заклцце ўваходу. А такіх сыгнетаў толькі два — у князя Гатарда ды…

— …ды ў мяне, — закончыў я за яе, здымаючы сталёвую рукаўку.

З хвілю яна прыглядалася да сыгнета на маім пальцы, пасля ейныя вочы заблішчэлі радасцю:

— Так, гэта ён. Але адкуль…

[23] Адрог — адгалінаванне.

— Потым! — перапыніў я яе. — Куды што націскаць?

— Проста даткніся сыгнетам да граніту…

Я так і зрабіў. Сцяна набыла празрыстасць і захвалявалася, быццам паверхня возера; за ёю смутна праступілі абрысы прадметаў. Дзяўчына зрабіла крок проста ў гэтую дзіўную каменную ваду:

— …а цяпер ідзі.

Я таксама ступіў, і мая нага — о, дзіва! — зусім не стрэла супраціву. Праз момант я ўжо стаяў па той бок. Абярнуўшыся, зірнуў на калідор: ззаду пакуль нікога.

— А цяпер закрый уваход, каб ваявода нас не ўбачыў. Зноў дакраніся да сцяны сыгнетам…

Я паслухаўся — і празрыстая паверхня перастала хвалявацца ды дрыжаць… хаця і не страціла сваёй празрыстасці. Якраз у гэты момант з-за рогу калідора паявіўся ваявода са сваімі рыцарамі. Я кінуўся ўбок за заслону, каб не даць сябе заўважыць, але князёўна, што стаяла акурат перад сцяной, разрагаталася:

— Не бойся, вой! Гэта толькі мы іх бачым і чуем. А яны нас — не! Не забывай — гэта Зала Чараў!

Збянтэжаны, я вярнуўся на ранейшае месца. А дзяўчына працягвала:

— Давай паназіраем!

Пагоня падышла амаль усутыч і спынілася. Нас раздзяляла, як здавалася, тонкая і нетрывалая перагародка; не верылася, што мы з Ладзіславай схаваныя для ворагаў. Тым не менш гэта было менавіта так. Адзін з рыцараў стукнуў па сцяне кляйнотам мяча і гукнуў да ваяводы:

— Уваход закрыты — ён бы тут не прайшоў!

— Сам бачу! — злосна буркануў ваявода і, абярнуўшыся, кінуў. — Хадземце далей!

Я перавёў дых: яны сапраўды пайшлі, так нас і не заўважыўшы. Абарочваючыся да Ладзіславы, я быў пачаў гаварыць:

— Ну, усё — можна выбірацца… — ды так і спыніўся на сярэдзіне сказа — дзяўчына стаяла ўся збялелая, а за ёй, трымаючы вострыы штылет пры ейным горле, стаяў чалавек у пурпуровых шатах.

— Я так не думаю, — сказаў ён, кпліва адказваючы на мае словы. — Бо зараз мы паклічам ваяводу назад. А інакш князёўна памрэ.

— Падумай, што робіш! — гукнуў я. — Калі Чорны Князь даведаецца, што ты забіў ягоную нявесту, ён загадае разадраць цябе коньмі!

Той адно пахітаў галавой:

— Не, ён ужо ведае, што ягоная нявеста здрадзіла яму, уцёкшы з чужынцам-прыхаднем, і ў кожным разе загадае скараць яе разам з табой. Няўжо ж ты думаеш, што княжацкія магі забыліся на сваё ўменне?! Дык глядзі! Вось, што здарыцца, калі ваявода неўзабаве вернецца ў пасадавую залу ды стане перад Князем! — Маг, трымаючы левую руку са штылетам пры горле князёўны, асцярожна зняў правую з шыі дзяўчыны і выцягнуў з навязі на сваім пасе дзіўнае кароткае жазло. Указаўшы гэтым жазлом на працілеглую сцяну, ён прамармытаў нейкі заклён — і на сцяне з’явілася выява. Я ўбачыў галоўную залу, Гатарда на пасадзе і схіленага перад ім ваяводу. Чорны Князь ажно кіпеў ад злосці, і, калі пачаў гаварыць, ягоныя словы загучалі ў мяне ўвушшу. Ён загадваў ваяводу адшукаць нас з князёўнай, грозячы ў працілеглым выпадку аддаць яго самога на катаванні, якія ўжо задумаў для мяне і дзяўчыны. Лёгкі мах жазлом — і выява знікла, а маг працягваў: — Цяпер ты, спадзяюся, разумееш, што ён наадварот азалоціць мяне, калі я дастаўлю вас яму жывымі ці мёртвымі.

Ён, відаць, ужо бачыў сваю ўзнагароду і, мо, сябе самога на месцы Даронта, бо зрок яго крыху затуманіўся, а па твары папаўзла задаволеная ўсмешка. Гэта яго і згубіла, — размарыўшыся, чалавек траціць пільнасць. Адным скокам я дапяў да яго і, заціснуўшы адной рукой ягоную левую руку са штылетам, другой выбіў з правай чароўнае жазло — каб не даць стварыць якое абарончае кудзебства. Князёўна ж, якая толькі і чакала зручнага моманту, упілася зубамі ў кулак, што трымаў зброю. Чараўнік узвыў ад болю, выпусціў зброю, і штылет са звонам пакаціўся па чорных каменных плітах; жазло з выбухам святла ўдарыла ў бліскучую сцяну, пакідаючы на ёй чорна-выпаленую матавую пляму. Я ўдарыў мага сваёй галавой у шаломе проста ў твар, і ён адразу ж страціў прытомнасць ды асеў уніз. Выставіўшы сыгнет перад сабой, я пацягнуў за руку дзяўчыну, і мы скочылі скрозь ізноў міргатлівую паверхню-сцяну.





Прыбегшы на тое месца, дзе сустрэча з ваяводам прымусіла нас збочыць са шляху, мы на хвілю сталі і прыслухаліся. Водгукі жалезнай хады даляталі злева — з калідора, якім мы прайшлі раней. Наперадзе — у напрамку да скарбніцы — пярэйсце, падобна, быў вольны. Асцярожна мы рушылі ў той бок.

Неўзабаве падышлі да апошняй развілкі. Ладзіслава ўпэўнена скіравалася да галоўнага ходу ды, прайшоўшы да сходаў, спынілася на месцы.

— Глядзі, — звярнулася яна да мяне. — За тым рогам пасля сходаў калідор пашыраецца і вядзе проста, без паваротаў, да пячоры грыфона. Але будзь асцярожны — ужо адтуль ён ужо можа цябе ўвохшыць[24]: у грыфонаў вельмі добрае чуццё на пахі. І яшчэ: ён прыкуты да скалы тоўстым жалезным ланцугом, але гэты ланцуг вельмі даўгі і дазваляе яму перасоўвацца па ўсёй пячоры. Ды, таксама, не глядзі, што грыфон здаецца важкім і нерухавым — насамрэч ён вельмі жвавы і спрытны.

Я спусціўся па сходах, дайшоў да рогу, прыгнуўся, а там стаіўся і пачаў асцярожна красціся — як на паляванні. Што праўда, па калідорах гулялі скразнякі, і я не надта спадзяваўся, што ён мяне не зможа ўчуць. Неўзабаве — па меры таго, як я набліжаўся да канца калідора, — мне ўсё лепей было відаць грыфона. Калі ж я дапяў да ўваходу ў пячору, дык мог ужо бачыць яго ва ўсю аграмадную велічыню. Ён заўважна нерваваўся: відаць, здалёк увохшаў чужацкі пах. Аднак мяне ён яшчэ не бачыў — пэўна, узгадаваны ў цёмнай пячоры, меў зрок не надта добры. Тым болей, што цяпер калідор быў зырка асветлены паходнямі і іхняе полымя павінна было рэзаць яму вочы.

Але ён быў прыгожы. Дакладна такі, як пра яго распавядала Ладзіслава: з ільвінымі лапамі, цмачынымі галавой ды хвастом, і з не надта вялікімі крыламі, троху падобнымі да кажановых. Усё ж дзяўчына не апісала мне тае непаўторнае грацыі, з якой ён рухаў сваё вялікае, але ладна сфармаванае і магутнае лускатае цела; не апісала тае мяккасці крокаў ягоных цяглістых лап, ганарлівае пасадкі рагатае галавы на даўгой, але моцнай і ладнай, шыі. Стала шкада, што, магчыма, прыйдзецца забіць такога прыгажуна. Уздыхнуўшы, я выйшаў з лёху ды спакойна пакіраваў да яго. Я хацеў звярнуцца да прыёмаў утаймавання дзікіх коней, разважыўшы, што грыфон таксама, у пэўным сэнсе, дзікая жывёліна. Ды мой намер не спрацаваў: звер насцярожыўся, уцягнуў ноздрамі паветра і, не пачуўшы знаёмага паху, дыхнуў-шугануў проста ў мяне агнём. Я апярэдзіў яго на драбок: пабачыўшы, што ён набірае шмат паветра, я хутка кульнуўся наперад. У поўным узбраенні кулёк[25] выйшаў нязграбна, і я добра-такі выцяўся нізам спіны, але ўсё ж уратаваўся ад лётнага полымя. І тут жа ледзь не быў змецены моцным ударам хваста — дзякаваць багам, грыфон не пацэліў.

Забава яму спадабалася — цяперака ён нагадваў ката, што палюе на мыш. Ён прысеў на лапах і пачаў падбірацца да мяне, гатовы да кідка. Мне ўявілася, што будзе, калі такая гара абрынецца на мяне зверху, і па спіне прабеглі халодныя дрыжыкі. Дзвюма рукамі я шпурнуў у яго сякеру. Ён адскочыў — але недастаткова шпарка — і сякера ўвайшла яму ў левую лапу. Цяперака ён раз’юшыўся, што, зрэшты, мне і дапамагло. Забыўшыся на ўсё ад ярасці ды болю, ён памкнуў на мяне. Ланцуг грымеў па камені, сам грыфон роў, шалёна ўзмахваючы сваімі кіпцюрастымі крыламі ды б’ючы хвастом па выкладзенай плітамі падлозе — відовішча ўражвала. Аднак мне дастаткова было толькі скочыць убок перад самым ягоным носам, каб аграмаднае цела бестыі, у паскораным уласным цяжарам руху, пранеслася міма. Я з усіх сіл секануў яго наўздагон мячом па правым боку — ды клінга толькі разляцелася, бы шкляная, ад сутыкнення з цвярдзейшай за сталь грыфонавай луской. Апрача корда, які ніякім чынам не пасаваў для бойкі з бестыяй, у мяне заставаўся толькі Маладзіковы Меч, і я, пакуль звер разварочваўся для новай атакі, выцягнуў яго з похвы за спінаю.

[24] Увохшыць — пачуць пах.
[25] Кулёк — кулянне.

Грыфон, навучаны папярэднім промахам, цяперака ўжо асцярожна падбіраўся да мяне. Я трымаў Меч перад сабою і, робячы падманныя выпады, не даваў зверу напасці. Ён адхінаў назад галаву, баронячы пысу, ды марудна адмахваўся правай лапаю, але было відаць, што без марудження кінецца на мяне, як толькі я стамлюся. Я пастанавіў яго апярэдзіць — не патраплю, дык, можа, прынамсі, напалохаю. Зрабіўшы падвойны крок, я торкнуў вастрыём мяча ў грыфонаву пысу, цэлячы ў вока. У апошні момант ён тузануў галавой, і лязо трапіла ў ніжнюю сківіцу. Што здарылася далей, цяжка апісаць, бо ўсё адбылося маланкава, і я сам не надта ўцяміў, у чым справа. Калі лязо даткнулася грыфонавае скуры, з таго месца раптам выбліснуў пошуг полымя — нібы ў пачвару ўдарыў пярун. Звер ірвануў галаву назад, вырваўшы завязлы ў сківіцы меч у мяне з рук, і зарыкаў-заенчыў так голасна, што ў мяне ажно загуло ў вушах. Меч жа, тым часам, распаліўся нібы ў кавальскім горне; звер скавытаў гэтак голасна, што мне здавалася, лопне галава. А меч ужо тапіўся-плавіўся, бы залаты кубак, кінуты ў агонь, расплываўся-крапаў распаленымі агністымі кроплямі на падлогу. І разам з тым, як ён плавіўся, змяншаўся ў памерах і грыфон. Я не адразу ўцяміў, што адбываецца — глядзеў і не верыў вачам: звер нібы выгараў з сярэдзіны: ягоная скура пачала курчыцца і ападаць, як быццам тое, што было пад ёй, пажыраў нябачны агонь, або яно папросту рашчынялася ў паветры.

Праз нейкую хвілю ўсё скончылася. Лускатая скура некалі агромністага і велічнага прыгажунагрыфона пакамечанай грудай ляжала на падлозе. Галава бестыі ўжо была толькі пакрытым закасцянелаю рагавіцаю чэрапам; з-пад яе віднеўся край калюжыны застылага металу — усё, што засталося ад Мяча Надзеі майго народу. Відовішча сумнае і незвычайна роспачнае! Я прысеў на падлогу ды маркотна дзівіўся на гэтую карціну, што аб'яднала парэшткі прыгожага звера і аскепкі маёй мары. Ваяру не выпадае кідацца ў роспач, але ўсё, дзеля чаго я жыў і змагаўся, раптам перастала існаваць, ператварылася ў азёрную смугу, ці, дакладней кажучы, у металічную калюжыну. Ззаду ціха падышла Ладзіслава і паклала мне руку на плячо:

— Не сумуй, вой…

— Лёгка сказаць!.. Гэты меч быў тым, дзеля чаго я прыйшоў у Гадор… Меч Маладзіковага Промня… Зоркі сказалі вешчбітам, што я здабуду яго і ўздыму супраць Чорнага Князя, каб вызваліць наш край… — сумна адказаў я. — Але цяперака ўсё страчана…

— Меч Маладзіковага Промня?! — няўцямліва перапытала дзяўчына. — Але ж у цябе яго не было!

— Было. Я ўсё ж такі здабыў яго… Памятаеш той меч, што я насіў за спінаю? Я забіў рыцараў, што былі па яго пасланыя, пераапрануўся ў рыштунак аднаго з іх і забраў чароўную зброю. Але цяперака, бачыш: меч, хоць і перамог грыфона, ды сам растапіўся…

— Але ж ты насіў за спінаю не Маладзіковы Промень, — перарвала мяне князёўна. — Гэта быў Рагнар — рытуальны меч Гатарда, пры дапамозе якога Князь, у прадвызначаны час, звяртаецца да надпрыродных сіл, просячы дараваць яму перамогу над ворагам. Так што, калі табе быў патрэбны не ён, няма сэнсу журбоціцца. Лепей цешся, што ты ўратаваў сваё жыццё, а разам з тым і знішчыў магічную моц ворагаў! Цяперака яны ўжо не змогуць звярнуцца да кудзебстваў, што давалі ім раней заўсёдную перамогу. Бо, калі б сутыкнуліся чары Маладзіковага Промня з кудзебствамі Чорнага Мяча, яшчэ невядома, каторыя б адолелі!..

Адразу, бывае, цяжка даць веры, калі ўяўная параза раптам станецца перамогаю. Аднак сумнявацца не прыходзілася, і пасля тых слоў мая душа пачала напаўняцца радасцю. Я не збіраўся болей марнаваць час на бессэнсоўныя згрызоты — трэба было ізноў брацца за справу! Я борздзенька падхапіўся на ногі, уклаў у похвы дзяржальна разбітага рыцарскага мяча — на ўсялякі выпадак — і сказаў:

— Што ж, князёўна, найперш пакажы мне, дзе месціцца той патаемны выхад з замка, што ты распавядала раней.





XIV

Пакуль дзяўчына вяла мяне праз усю пячору да грота ў дальняй сцяне, я прыняўся яе распытваць пра тое, што цікавіла мяне цяпер найболей:

— Значыць, ты ўсё ведаеш пра Маладзіковы Прамень? Дык, можа, ты знаеш і дзе яго шукаць?

— Канечне! — упэўнена адказала князёўна. — У скарбніцы — я яго там не раз бачыла.

— І што — даруй мне маю недаверлівасць! — ты адразу распазнала Меч з легендаў?

— Так! Бо я калісьці не аднойчы трымала ў руках гэтую зброю. Мой бацька — князь Ваіслаў; ён быў братам захавальніка мяча князя Велеміра, — а я не адзін месяц прабавіла ў замку дзядзькі. Там мяне і паланіў Гатард, калі я апошні раз гасцявала… — дадала яна пасумнелым голасам. — Але, у кожным разе, ты можаш быць пэўны, што ведаю Меч і ягоную гісторыю не горай за якога-небудзь кудзебніка, хоць для іншых людзей гэтыя рэчы і заставаліся таямніцай. Не ведаю, праўда, ці не здагадваецца і Гатард пра чароўныя ўласцівасці Промня — бо надта ж асцярожна з ім абыходзіўся. Але, у кожным разе, Чорны Князь захоўвае яго менавіта сярод здабытых скарбаў, а не ў Зале Чараў. Зрэшты, Гатард і не стаў бы яго ўжываць, пакуль мог карыстацца магічнай моцай свайго раней выпрабаванага мяча Рагнара, але цяперака ўсё можа змяніцца. Чараўнікам спатрэбілася б колькі дзясяткаў год, каб выкаваць новую зброю такой жа кудзебнае сілы, а Гатард напэўна не захоча перапыняць сваю пераможную заваёву на гэтак доўгі час.

— Калі ж гэты меч быў зроблены такім моцным чараваннем, дык чаму ж ён тады растапіўся, ледзь даткнуўшыся грыфона?

— Бо сустрэліся дзве магіі тае самае натуры, скіраваныя адна супраць другой. Я ж табе распавядала, што гадорскі грыфон не быў прыродным. Ён не вылупіўся з яйка, адкладзенага жывымі грыфонамі, а быў штучна выведзены пры дапамозе магіі. І быў абаронены сілаю гэтай магіі. Калі яна ўвайшла ў супрацьдзеянне з магіяй мяча, гэтыя дзве кудзебныя стыхіі знішчылі адна адну.

— Чаму ж ты мяне не папярэдзіла, што грыфон мае магічную абарону, калі я ішоў з ім змагацца?

— Гэта ж найпрасцейшыя асновы чаравання! Мне і ў галаву не магло прыйсці, што ты сам гэтага не ведаеш!

«Ну, так! Гэтай выкшталцонай паненцы не прыйшло ў галаву, што просты вой не атрымаў такое асветы, як яна, прадстаўніца княжацкага роду! Хоць, зрэшты, і Мудраслаў мог мне хоць пару слоў сказаць наконт усіх тых кудзебстваў, што чакаюць мяне ў Гадоры!» — падумаў я раззлавана. Але калі ўтаймаваў гнеў, дык мусіў сабе прызнацца, што дагэтуль мне ва ўсім неверагодна шчасціла. Усё ж, так ці інакш, мною апякуюцца духі, дзякуючы падоранаму Мудраславам абярэгу. Кудзебнікі ведаюць усё, што станецца, далёка наперад, і, пэўна, у вешчуна былі падставы нічога не казаць мне загадзя. У гэты момант мы акурат дасягнулі гроту. Дзяўчына, стаўшы на ўваходзе ў яго, сказала:

— Там далей — крыніца. Гэта вада вымыла грот і большую частку таемнага ходу ў скале. Грыфон піў ваду з крыніцы і, пакуль ён быў жывы, Гатард мог не баяцца нечаканых гасцей, нават, каб ягоныя ворагі і знайшлі ўваход у лёх навонкі — бо грыфоны нікога не дапускаюць ані да сваіх вадапояў ані ўвогуле на сваю тэрыторыю.

Я хутка ступіў у грот. Там было амаль цёмна — сюды ўжо не дасягала святло паходняў. Брыдучы ледзь не па калена ў вадзе, я навобмацкі знайшоў невялікія дзверы з таўстых, акутых жалезам дошак і засаўку на іх. На дзвярах не было нават замка. Я адсунуў засаўку і разнасцежыў праход — калі прыйдзем ізноў, дык цалкам верагодна, не будзем мецць часу на тое, каб яго адчыніць. А калі ворагі трапяць сюды раней за нас, дык вырашаць, што мы ўжо выйшлі з замка і перастануць шукаць нас усярэдзіне. Я выйшаў з гроту і сказаў дзяўчыне:

— Час сыходзіць. Рыканне грыфона перад смерцю, напэўна, чулі нагары, і сюды ўжо, мусіць, спяшае ваявода.

Ваявода напраўду паспяшаў, бо ледзь мы збочылі ў калідор, што вёў да скарбніцы, як ззаду пачуліся крыкі пагоні, якія, зрэшты, неўзабаве замоўклі. Вызірнуўшы з-за рогу, я ўбачыў, як рыцары скупіліся вакол парожняй грыфонавай скуры ці тое ў задуменні, ці тое ў смутку. Я не стаў высвятляць, якія ўсё-ткі эмоцыі імі авалодалі, і пацягнуў Ладзіславу наперад, працягваючы распытваць:

— Ты казала, што грыфон прызнае толькі самога Гатарда ды яшчэ таго мага, што яго гадаваў. Правільна?
— Ну, правільна…
— Значыць, ваяводу і іншых рыцараў ён не знае. Так?
— Так… — яна ўсё яшчэ не разумела, навошта я пытаюся.
— А хто праводзіў варту да скарбніцы? Напэўна ж не ваявода?
— Не ведаю… можа, маг?
— Вось, і мне гэтак жа здаецца. Але ж маг не будзе ўвесь час бавіць з воямі на варце: адвядзе ў належную пару — і сыдзе. Так?
— Мусіць, так.
— Значыць, ваявода да скарбніцы з пагоняй не даходзіў — толькі да грыфонавай пячоры. А гэта, у сваю чаргу, азначае, што вартавыя могуць яшчэ і не ведаць пра нашыя з табою ўцёкі. Таму давай паспрабуем іх падмануць, — і я распавёў ёй сваю задуму.

XV

Дзякуючы майму плану гэтым разам мне нават біцца не давялося.
— Вітайце, рыцары! — звярнулася князёўна да ваяроў пры ўваходзе ў скарбніцу, калі мы нарэшце туды дапялі. — Спадзяюся, вы мяне ведаеце? — тыя згодна пахілілі галовы.
— Дык вось, я толькі што згадзілася нарэшце выйсці замуж за вашага князя, і ён мне дазволіў выбраць штосьці са скарбаў дзеля абсталюнку нашых шлюбных пакояў. Гэты рыцар, што пасланы мяне супраўваджаць, дапаможа мне ўсё занесці на месца.
Ваяры слухалі Ладзіславу з увагаю і не рабілі ніякай спробы нас затрымаць, — відавочна, вестка пра апошнія падзеі ўсё ж сюды яшчэ не даляцела. Але тым не менш пераканаць вартавых было не так і лёгка.
— Мы не можам пусціць шаноўную князёўну. Сюды маюць права заходзіць толькі сам князь і ягоны скарбнік. Ніхто іншы без іхняга асабістага распараджэння сюды не ўвойдзе — нават пан ваявода.
— Хіба вы сумняваецеся ў словах сваёй будучай валадаркі? Ці не баіцеся майго гневу за непаслушэнства? — падчас побыту ў замку князёўна добра навучылася, на якіх слабасцях Гатардавых падданых яна можа згуляць.
Вартавыя ўсё яшчэ ваганіся.
— Між іншым, князь Гатард наўмысна паслаў са мною гэтага рыцара, каб ні ў кога не паўставала сумневаў. Вой, пакажы ім князеў сыгнет.
Я зняў баявую рукаўку і выставіў палец з сыгнетам. Няпэўнасць становішча вартавых была зразумелая: страшна аслухацца валадара, але з будучай валадаркай замка спрачацца таксама небяспечна. Усё ж урэшце, пасля пэўнага вагання яны згадзіліся нас прапусціць.

Цяпер Меч я распазнаў адразу — ён быў сапраўды такі, якім я яго некалі і ўяўляў: светлы, даўгі і даволі вузкі, з штукарна выробленым са срэбра і ўпрыгожаным дыяментамі дзяржальнам. Зброя месцілася на адмысловай разьбянай падстаўцы пасярэдзіне вялікай залы, у якую мы ўвайшлі. Вакол сцен залы былі расстаўленыя куфры, вазы ды розныя начынні з каштоўнасцямі, срэбнымі і залатымі манетамі розных народаў, дарагімі футрамі і іншымі рэчамі, што ва ўсіх народаў азначаюцца адным словам — багацце. З залы, праз шматлікія разнасцежаныя дзверы, было відаць іншыя пакоі, гэтак жа набітыя каштоўнасцямі.
Ладзіслава падышла да падстаўкі з Мячом і, пяшчотна пагладзіўшы зброю па клінзе, мовіла:
— Вось ён, Маладзіковы Прамень… Бяры Меч, ваяр, — ты здабыў яго!
Хоць, можа, тое было і непашанотнае абыходжанне — хай даруюць мне вялікія багі! — але я загарнуў Прамень разам з похвамі ў невялічкі перскі дыванок. Трэба было пастарацца, каб вартавыя не ўбачылі ды не зацікавіліся, нашто князёўне спатрэбілася зброя. Ідэя зрабіць пакунак такога роду прыйшла да мяне, калі я згадаў, як рыцары неслі магічны меч Гатарда ў злататканай камцы. Што праўда, яны тым аказвалі зброі пашану, у той час, як я хаваў яе, — найгоршая пагарда, якую можна ўчыніць мячу. Але я ведаў, што раблю слушна. Набралі мы з сабою і розных залатых ваз, кандэлябраў ды пакаёвых упрыгожванняў — каб адвесці магчымае падазрэнне. Апрача таго павесіў я Ладзіславе на шыю каралі, на рукі даў надзець залатыя бранзалеты, а на пальцы — пярсцёнкі з каштоўнымі камянямі. Бо дзіўна, калі дзяўчына выходзіць са скарбніцы, не выбраўшы сабе кляйнотаў. Так заладаваўшыся, мы рушылі ў зваротную дарогу.
Нашае знаходжанне сярод скарбаў не трывала вельмі доўга, і, падобна, гэта ўсё ж крыху здзівіла варту, калі судзіць па іхніх уражаных пагладах. Пытацца, аднак, яны не сталі. Князёўна развіталася з імі і падаравала кожнаму па залатым, чым адразу заваявала іхнюю прыхільнасць і нават дамаглася яшчэ большае паслужлівасці ў голасе ды жэстах. Пасля гэтага мы павольна і шляхотна рушылі назад да грыфонавае пячоры, каб, схаваўшыся за першым жа рогам калідора, скінуць усё багацце у кучу і, захапіўшы толькі Маладзіковы Прамень, памкнуць далей ужо ледзь не бегма. Некалькі кароткіх хвіль мы былі на месцы, дзе калідор ўліваўся ў грыфонаву пячору. Асцярожна высірнуўшы з-за рога, можна было лёгка пабачыць усё, што ў пячоры дзеелася. Уся зала была поўная кнехтаў і рыцараў, што трымалі запаленыя паходні. Пасярэдзіне, побач з пакурчанай скурай бестыі, сядзеў Гатард і трымаў далонь на чэрапе грыфона, як, бывае, трымаюць на галаве памёрлага любімага сабакі. Я не лічыў яго здатным на чалавечыя пачуцці, але мне здалося, што ў кутку ягонага вока бліснула сляза. Зрэшты, ён тут жа падняўся ўва ўвесь рост і зароў:
— Яны забілі майго Вальдорга! Але яны мне за гэта заплацяць! Як заплаціш і ты, — кінуў ён ваяводу, — што своечасова не злавіў іх. Але з табой потым — калі яны будуць у маіх руках! А цяпер шукай іх — ты яшчэ маеш шанец крыху палегчыць сваю долю!
Ваявода, які, нягледзячы на сваю велічную постаць, выглядаў, як пабіты сабака, кінуўся раздаваць загады, паказваючы рукою, каму куды накіравацца. Першы дзясятак ён паслаў праверыць таемны лёх, што вёў навонкі, астатніх — у іншыя калідоры, а ў тым ліку і наш. Я ўжо пачаў выцягваць Прамень з похваў, як з гроту даляцеў зык:
— Уваход у лёх расчынены! Яны прайшлі сюдою!
Усе праследнікі рынулі ў грот. Небяспека быць знойдзенымі зноў нас абмінула на каліва — духі нам па-ранейшаму спрыялі! Аднак цяпер мы былі замкнёныя ў пастцы: лёхам не прайсці, а і пры браме, пэўна, засталося шмат рыцараў. Нават выйсці з калідора мы не маглі, бо ў пячоры ўсё яшчэ заставаўся Гатард з тузінам прыбочных ахоўнікаў. Дый ход да скарбніцы быў просты, без бакавых адводаў — нікуды больш не пойдзеш. Заставалася толькі чакаць.
Праз нейкі час вярнуўся прыгнечаны ваявода з часткаю рыцараў:
— Паблізу ад выхаду іх няма. Але я знайшоў кальчугу ды ўзбраенне — ён там праходзіў. Я пакінуў людзей, каб шукалі іх, а калі Князь дазволіць, дык з астатнімі сяду на коней і даганю іх у стэпе! Дазволь мне, о вялікі Князь!
Гадар толькі сыкнуў на яго:
— Дык чаму ж ты яшчэ тут! — і пакінуў пячору.
Ваявода з рыцарамі рынулі за ім, баючыся адстаць, але і не смеючы абагнаць. Вялікая зала нарэшце апусцела. Мы выйшлі з хованкі.
— Якія ты маеш намеры? — запыталася князёўна.
Я, аднак, ніякіх адмысловых задум не меў. Ужо, мусіць, набліжалася раніца. Бяссонне апошніх начэй, а да таго ж падзеі гэтай, што яшчэ доўжылася: ператварэнні, уцёкі, бойкі… — усё тое высмактала мяне ўшчэнт. Галава цалкам адмаўлялася нешта думаць, таму ляпнуў першае, што ў яе прыйшло:
— Хадзем лёхам!
Князёўна здзівілася:



— Але ж там ваяры Гатарда!

— Што-небудзь прыдумаем, — змрочна адказаў я, каб хоць неяк апраўдаць свае словы, — але зусім не ўяўляў сабе, што ж яшчэ можна прыдумаць.

Я паволі пакрочыў да гроту; дзяўчына слухмяна рушыла ўслед за мною, а да мяне з кожным крокам вярталіся сілы — небяспека добра бадзёрыць. Калі я ступіў у цемру гроту, дык ужо быў цалкам гатовы дзейнічаць.

Ні ў гроце, ні ў бліжэйшай частцы лёху нікога не было. Я пастаяў, прыслухоўваючыся, а потым запаліў свячу, некалі запаслiва пакладзеную ў кайстру. Свечка — не паходня: ейнае святло далёка не рассейваецца; дый пагасіць яе можна хутка. Прыкрыўшы далонню кволы агеньчык, я пасунуў наперад па таемным ходзе.

Мы ішлі даволі доўга, ажно я адчуў, што подзьмухі ветру ў калідоры ўзмацніліся, — верная прыкмета, што выхад блізка. Я згасіў свячу, і наша хада зрабілася яшчэ больш павольнай ды асцярожнай. Колькі крокаў, заварот за рог — і вось вусны ўжо прагна ловяць свежае паветра пасля цвіллёвай задухі падзямелляў. Толькі атрымаўшы нешта зноў, адчуваеш, чаго ты быў пазбаўлены.

Па прыступках, што былі выбітыя ў камені, азіраючыся, я выбраўся на паверхню. Далей у стэпе наўкола былі бачныя шматлікія агні паходняў, што на адлегласці здаваліся светлякамі. Пры самім выхадзе з лёху варты, на шчасце, не было — ваявода ў сваім прагненні пагоні, відаць, страціў усялякую пільнасць. Тым горай для яго. Я дапамог выбрацца Ладзіславе, ды раптам пачуў, як нехта ціхутка аклікнуў мяне з цемры па імені. Запаліўся слабы блакітны агеньчык — і я ўбачыў Мудраслава: у сваіх палатняных шатах ды з нязменным посахам у руках ён выйшаў з-за вялізнага глыжака. Гэта быў той самы камень — хоць і перакулены набок, — за якім я хаваўся тры дні, так і не ўцяміўшы, што таемны ўваход у замак Гатарда крыецца менавіта пад ім!

— Забірай нас адсюль! — стомлена папрасіў я чараўніка.

Ён толькі лагодна пасміхнуўся і кіўнуў галавой. Потым абвёў вакол мяне з Ладзіславай запаленым жмутком зёлак з даўкім пахам — і прастора навокал раптам зноў зрабілася бы затканая бялёсай смугой, нас падхапіла нейкая віхура і памчала ўдалеч. Дамоў…

* * *

На зыходзе наступнае ночы злучаныя войскі незваяваных яшчэ князёў нашага краю пад вярхоўніцтвам князя Ваіслава вышыхтаваліся на раўніне, каб выступіць насустрач чорным рыцарам Гатарда. Мудраславава закляцце разагнала з неба хмары, і я вынес пад зыркае ззянне маладзіка магічны Прамень-меч. Калі водбліск месячнага сяйва ўпаў на кляйнот узнесенага ўгару дзяржальна, клінга раптам заіскрылася-заззіхацела халодным полымем, а я зразумеў, што справа завершаная, — ніякая магічная моц цяпер не зможа супыніць нашую адваёву. Народ ды край будуць вызваленыя і застануцца свабоднымі — цяпер і назаўсёды!

Я ўзнёс зіхоткі меч над галовою і павярнуўся да шыхтоў. Бадзёрым, вясёлым і ваяўнічым рыкам войскі прывіталі цуд, што стаўся — і рушылі ў наступ…

*1991, 2003.*

*Ілюстрацыі Даны Цюперак.*



**Ірына Шаўлякова**

# Поўня як сонца беларускай паэзіі

*Кароткі агляд «выбранага з выбранага» Леаніда Галубовіча*

Леанід Галубовіч — паэт нясвоечасовы. У тым сэнсе, што ў сваім часе (і са сваім часам) яму, здаецца, усё менш хочацца гаварыць. Затое маўчаць — ахвотна.

Нясвоечасовасць Галубовіча-паэта кампенсуецца своечасовасцю Галубовіча-кнігара: яго **«Поўня»** [1] так патрапіла ў фармат сённяшняга літаратурнага жыцця, што закрадваецца сумненне: а ці не патраціў паэт гады маўчання на скрупулёзнае даследаванне прыхамацяў сучаснай чытацкай публікі?..

Аўтар «Поўні» прапануе сучаснаму чытачу найноўшую канцэпцыю поўнага Збору твораў. Менш чым на ста пяцідзесяці старонках змясціліся «…лепшыя вершы аўтара (па яго версіі), напісаныя за трыццаць пяць гадоў, што ўваходзілі ў шэсць яго папярэдніх кніжак, а таксама "Зацемкі з левай кішэні" з аднайменнага выдання, якія тычацца літаратурнай творчасці» [1, с. 2]. «Поўня», разлічаная «на вузкае кола абазнаных прыхільнікаў краснага пісьменства» [1, с. 2], як своеасаблівае выбранае атрымалася (насуперак айчыннай традыцыі) тонкай, але важкай, не ў апошнюю чаргу дзякуючы таму, што маўчанне ў ёй як бы пераважвае маўленне.

[Заўважу ў дужках: паколькі вершы ў гэтым «выбраным» асабіста мне бачацца як бы «больш абранымі», чым літаратурнацэнтраваныя «зацемкі», маё (пра)чытанне «Поўні» — паэзіяцэнтрычнае як бы па вызначэнні.]

Абраная творцам паэзія сабрана ў два раздзелы: «Выбраныя вершы з ранейшых кніг» і «Вершы без кніг і новыя вершы»; першы ўтрымлівае творы з 1979 да 2011 года, другі — творы 2012—2014 гадоў. Розныя паэтычныя зборнікі ў поўневым «зборы паэзіі» Леаніда Галубовіча прадстаўлены ў колькасным плане няроўна: з аднаго туды трапілі чатыры, з іншага — больш за дзясятак.

Адкрываецца «Поўня» творамі са зборніка ***«Таемнасць агню»*** (1979—1983). Ужо на першых старонках «выбранага» выбар вершаў такі, быццам самы першы зборнік пісаў «равеснік поўні» — настолькі сталым адзінотнікам выглядае лірычны герой («***Сатканы восеньскі матыў…», «***Хмурная восень злізала пагоркі…»). «Так мала чытачоў, / І тыя ўсе — паэты» («***Шукаю чытача…» [1, с. 5]). Ранняя (магчыма нават заўчасная) сталасць лірычнага героя Леаніда Галубовіча засведчана амаль у кожным вершы, што мае гонар прадстаўляць першую паэтычную кнігу ў «поўневым выбраным». Так, у трох строфах твора «***Мы многа гаворым, а болей маўчым…» [1, с. 11] змясцілася амаль вычарпальнае вытлумачэнне маўчання як сутнасці, усе праявы якой важныя для *ўсяго* Галубовіча. Тут ёсць каротка-празрыстае тлумачэнне прычын маўчання: «Мы многа гаворым, а болей маўчым. / Не выказаць час, што скрозь нас працякае». І абгрунтаванне ашчаднасці ў словах як натуральнага спосабу існавання — таксама тут: «Праўдзівае слова гадую гады, // Не ў сілах яго адарваць ад істоты». І нават прадчуванне, што сутнасць словатворчасці як жыцця стане зразумелай хутчэй, чым варта было б:

Пазнаўшы пачатак — не знаем канца…
І свет гэты белы сцвярджаем нанова.
І плача ў калысцы сасновай дзіця.
Не знае сябе і пакутуе словам…

Шматкроп'е, якім твор нібыта заканчваецца, затрымлівае на сабе ўвагу як указанне на сутнасную адкрытасць, незавершанасць; пры гэтым «разамкнутасць» выказвання на ўзроўні паэтычнай формы падтрымліваецца і паглыбляецца рытміка-інтанацыйнай недасказанасцю.

Недасказанасць у паэзіі Леаніда Галубовіча можа быць брамай не толькі ў медытатыўнасць, але і ў… (сама)іранічнасць, якую найменш чакаў бы сустрэць, напрыклад, у зборніку пад назвай ***«Споведзь бяссоннай ночы»*** (1984—1988).

Аднак стасункі паэта з іроніяй зусім не падобныя да гульні ў шкляныя перліны: іронія ў вершах Леаніда Галубовіча выконвае ролю своеасаблівых «цягліц», у скруце якіх побач утрымліваюцца лёгка-паблажлівыя назіранні — і змрочна-палкія высновы паводле гэтых назіранняў:

Пра коней столькі напісалі,
Як коням вывезці самім.
Якія пугі прасвісталі

Са словам зычным і благім
Над іх спіною разагнутай?!
І ці каню таго не знаць:
Калі з яго здымаюць путы,
То, пэўна, будуць запрагаць…
<…>
Табун папасам пагрукоча —
І лейцы рвуцца на шматы…
І гнеў і боль палоняць вочы…
Свабода, дзе твае сляды?

*«Яшчэ раз пра коней»* [1, с. 15]

З чатырох вершаў, рэкрутаваных у «выбранае» са зборніка «Споведзь бяссоннай душы», толькі адзін — «Вольная ода паэзіі» — зусім пазбаўлены гэтых «цягліц» іроніі. Іх функцыю выконваюць рытарычныя звароты-загады: «Любіце паэзію / Ціха, наўзрыд…»; «У наш высакосны час / Яе паўсюль беражыце. / Хай плача ў душы ў вас, / Як перапёлка ў жыце…» [1, с. 17]. Чамусьці якраз гэты твор падаецца амаль выпадкова абраным у «выбранае»...

З шасці вершаў, што прадстаўляюць у «Поўні» зборнік ***«Заложнік цемры»*** (1989—1993), тры маюць прысвячэнні. Хіба што паводле дзіўнага супадзення менавіта гэтыя «ахвяр(ава) ныя» вершы ўтрымліваюць найбольш нагод паразважаць пра няўлоўнасць моманту, у які проза жыцця становіцца паэзіяй. Няўлоўнасць гэтая пакутлівая для чытача-дэканструктывіста: ад яго не хаваюць ні «рэчываў», ні «інструментаў» творчасці, усе кампаненты вершавання навідавоку. Але вынік… не тое што пераўзыходзіць чаканні, але шчыра ігнаруе логіку чаканняў. Зрэшты, сам момант пераходу рэчыўнага свету ў тонкі, слова — у непрамоўленасць у выпадку з вершамі, падобнымі да «Недасланага ліста» [1, с. 21—22] (прысвечаны памяці Яўгеніі Янішчыц), пры кожным новым у яго ўглядванні-ўчытванні аказваецца ў іншым — нечаканым — месцы:

…Перачытваў твае лісты.
У мяне — ад цябе — іх тры.
Ад Яўгеніі два — казённыя.
І ад Жэні адзін — будзённы.
(Два — з рэдакцыі, так адпіскі.
Ад рукі адзін, асабісты.)
<…>
Жэня, страшна бывае ноччу,
Быццам я за табою крочу,
Адарвуся і — палячу…
Ды баюся і ў сне крычу…
Бог не даў мне з пялюхаў крылаў.
Груба скажам: не выйшаў рылам.
Духам — выйшаў, а целам — тут.
Што ж, затое няшмат пакут.
<…>
Ёсць, вядома, ў мяне сябры.
Іх таксама чамусьці тры…

Два казённыя — для труны,
Трэці верны, ды ўсё п'яны…
Ёсць дачка.
Я чакаю смерці —
Трэба цела з душою звесці…

Гэты верш, праўда, бессэнсоўна цытаваць па частках: тут кожны радок — галоўны (і для сэнсу, і для формы). Гэтаксама складана рэйтынгаваць вершы ў «Поўні» паводле іх мастацкай вартасці. Па вялікім рахунку, асноватворнай субстанцыяй паэтычнасці для айчыннага вершавання і ў сярэдзіне 2010-х застаецца вобразна-выяўленчая рафінаванасць — як антонім бязвобразнасці, канстататыўнасці, апісальнасці; пры гэтым фарматворчыя штукарствы ўважаюцца за рэчы як бы дадатковыя. Для вершаў, што складаюць «выбранае» Л. Галубовіча, уласціва канцэнтраваная тропавасць, якая пры ўсёй насычанасці малюнка ніколі не выплёскваецца ў стылявую збыткоўнасць:

У храме Восені — ні служкі, ні ратая.
Прыпаўшы да зямлі, малітву шэпча ліст…
Гарласты клін гусей пад купалам рыдае,
Гартанна п'е тугу задыханы гарніст…

*«Душ»* [1, с. 25]

Магчыма, у сваіх «родных» зборніках падобныя вершы ўспрымаліся інакш, але ў «выбраным» яны як бы аўтаматычна набываюць дадатковыя вымярэнні. Так, любоўны верш «***…Я з губ тваіх любові п'ю атруту…» [1, с. 24] (з прысвячэннем «Веры») у шчыльна-метафарычнай прасторы «Поўні» пачынае пульсаваць як прастора інтымнага — высокага і аднячасова ўцялесненага — метафарызму:





Душа перакладае шэпт шалёны
Душы —
і намагаюцца наноў
Высокіх рук заплеценыя кроны
Высмоктваць сок з глыбокіх каранёў…

Наогул, пасля высілкаў цэласнага аналізу вершаў Леаніда Галубовіча застаецца аскоміна прыкрай марнасці (дакладна такое ж адчуванне мела пасля захадаў *прааналізаваць* верш Ніны Мацяш «На Дзяды»[1]): шанц трапіць у нетры невымоўнага быў, але ты змарнаваў яго на безвыніковыя блуканні па ваколіцах.

Гэтак жа бессэнсоўна сёння марнаваць час на дыскусію пра рэзоны, якімі кіраваўся паэт, даючы адной са сваіх кніг назву ***«Апошнія вершы Леаніда Галубовіча»***. З'яўленне ў 2000 годзе зборніка, куды ўвайшлі творы 1994—1999 гадоў, паўтара дзесяцігоддзя таму многім бачылася нейкім піяр-ходам з запланаваным «выхадам з-за печкі», то бок з'яўленнем чарговага «апошняга» гадоў праз пяць. Ішоў час, паэт Леанід Галубовіч адступіў у цень — саступіў месца ЛеГАЛу (знанаму крытыку ды вольнаму эсэісту). Здавалася, Галубовіч-паэт назаўсёды сышоў на тую «ўнутраную выспу», куды крытык Павал Абрамовіч заклікаў перабрацца беларускіх пісьменнікаў усім кагалам год гэтак на сто[2], — і замаўчаў.

Варта заўважыць, што для сябе я адмяжоўваю моўкнасць ад маўчання. Найперш, паводле сферы ўплывовасці: першая ёсць пагрозай жыццёваму тэксту; другое, як ні дзіўна, — адзін з самых дзейсных сродкаў ператварэння літаратуры ў жыццятворчы Тэкст. Інакш кажучы, тое, што для быцця ёсць канчатковай адмовай ад маўлення, для мастацтва можа быць метапрамаўленнем.

[1] «Поначнае ваколле. / Гразкае, слізкае поле. За гэтым няветлым гародам — / усе з найбліжэйшага роду. / Мусова і мне туды. / Грузну ў калкай разоры. / Не страх апякае, а сорам. / Страху няма й на волас. / Дотык рукі, мамін голас: / — Ступай у мае сляды» [цыт. па: 2]

[2] «На нашых вачах знікае, ператвараецца ў попел маральны аўтарытэт нацыянальнай літаратуры, і самі пісьменнікі ўжо не здольныя абараніць свае ідэалы, абгрунтаваць уласнае эстэтычнае крэда, пераканаць чытачоў у жыццёвай неабходнасці сваіх твораў ці хаця б проста стаць на непрацяглы час нашымі цікавымі суразмоўцамі. <…> І паўсюль — няўпэўненасць. Перадусім ва ўласных сілах і здольнасцях. Трэба, каб у Беларусі нарэшце запанавалі сто гадоў літаратурнай адзіноты, каб пісьменнікі сышлі на свае ўнутраныя выспы, больш не пілі “горкую” з журналістамі і крытыкамі, не ляцелі на зманлівае святло хуткаплынных літаратурных прэміяў і тусовак, не прагнулі як мага хутчэй аддаваць у друк свае творы, а напісалі штосьці і схавалі ў стол. Толькі так можа адбыцца трыумф беларускай літаратуры, яе павяртанне да чытача» [3].

Некалі Сяргей Даўлатаў сцвярджаў, што маўчанне — агромністая сіла — і прапаноўваў яго забараніць як бактэрыялагічную зброю. Леанід Галубовіч — творца пераважна міралюбны і неамбітны. Так, на няслушнасць падазрэнняў у піяршчыне ўказвае якраз выбар твораў з «Апошніх вершаў…» для ўключэнне ў «Поўню»: кожны з іх падаецца фрагментам своеасаблівай паэтычнай стэнаграмы таго, як і навошта было прынятае рашэнне замаўчаць.

Для некаторых творцаў маўчанне аказваецца адзіна магчымым паратункам ад канчатковай (рэальнай) моўкнасці, (у) якой захлынуўся не адзін паэт.

Назіранні за лірычным героем «Апошніх вершаў Леаніда Галубовіча» даюць падставы меркаваць, што адной з важкіх прычын для яго маўчання магло б стацца назапашванне крытычнай масы непаразумення з навакольным жыццём. Цікава, што раздражнёны, нават злосны лірычны герой, ненатуральны для паэзіі Леаніда Галубовіча, з'яўляецца менавіта ў «Апошніх вершах…». Твор «Нянавісць» [1, с. 30] можна прачытаць як рэдкі для гэтага паэта ўзор верша-крыку (ненатуральна рытарычнага — асабліва для гэтага паэта). Але нас згаданы тэкст цікавіць найперш як амаль дакументальнае сведчанне таго, наколькі рэальнай была пагроза разрыву камунікацыі са сваім часам і нават з сабой у гэтым часе («Ненавіджу гэты час, / Што размежыў наша ў нас. / Ненавіджу»). Якраз паводле гэтага і падобных «наружана-напятых» *вершакрыкаў* можна амаль з храналагічнай дакладнасцю вызначыць моманты, калі і наколькі блізка моўкнасць падбіралася да творцы.

Універсальным сродкам барацьбы з анталагічнай моўкнасцю становяцца для паэта вандроўкі па розных рэальнасцях. Дакладней, гэта не столькі працяглыя вандроўкі, колькі кароткія «вымыканні» — напрыклад, з фізічнай прасторы бацькоўскай хаты ў зорную метафізіку, якая не мае нічога агульнага з бязмежна-беспрытульным космасам:

…У хаце, дзе выдыхся ў коміне дым,
Дзе пахне рыззё, нібы клунак жабрацкі,
І цягне з падрубы халодным, пустым —
Кладуся я ў ложак нябожчыка-бацькі…
<…>

«Поўня», разлічаная «на вузкае кола абазнаных прыхільнікаў краснага пісьменства», як своеасаблівае выбранае атрымалася тонкай, але важкай, не ў апошнюю чаргу дзякуючы таму, што маўчанне ў ёй як бы пераважвае маўленне

На ім я і лётаю ў зорную выш
І ў хату вяртаюся толькі наранку,
Дзе ў хаце старой завіхаецца мыш
І марна грызе сцверазелую шклянку…
*«Ноч у бацькоўскім ложку»* [1, с. 32—33]

Адна з ключавых адзнак індывідуальнага стылю Леаніда Галубовіча звязана з эфектам своеасаблівай запаралеленасці ў прасторы метафарычнага маўлення згаданых «фізікі» і «метафізікі», «сцверазелай шклянкі» — і «зорнай вышыні». Яны не сутыкаюцца, не супрацьпастаўляюцца, не ранжыруюцца па ступені важнасці/сапраўднасці; яны прадстаўляюцца як роўна важныя ўмовы для таго, каб здолець, захацець *быць* чалавекам, нават калі пранізліва ўсведамляецца неадменнасць нябыту:

А там, дзе я не буду жыць,
над той травою —
чарвяк лічынаю ляжыць,
галодны мною…
<…>
Нібы мастак, я свет лаўлю
ў пусты падрамнік…
А неба ўцягвае зямлю
ў свой зорны страўнік…
*«***Адтуль, дзе я цяпер жыву…»* [1, с. 49]

Зборнік, што некалі прадстаўляўся як апошні паэтычны, мог бы стацца «гаражным распродажам» — сукупнасцю рознавартасных твораў

Іронія ў вершах Леаніда Галубовіча выконвае ролю своеасаблівых «цягліц», у скруце якіх побач утрымліваюцца лёгка-паблажлівыя назіранні — і змрочна-палкія высновы паводле гэтых назіранняў

(а раптам каму калі-небудзь спатрэбіцца?..) Аднак «Апошнія вершы…» Леаніда Галубовіча нават у межах «Поўні» як бліц-выбранага дзіўным чынам захавалі сваю мастацка-эстэтычную цэльнасць. Гэты эфект не ў апошнюю чаргу ўтвараецца дзякуючы натуральнай, як бы безварыянтнай карэляцыі сэнсу (канцэптуальназмястоўнага складніка) і формы (вобразнавыяўленчага ўвасаблення зместу). Так, у вершы «На бацькаўшчыне» [1, с. 34] складаны свет прамаўляецца ў простых словах: «Дрэвы стаяць узрушана. / Стрэхі сушаць бакі. / Лагчына мыецца ў лужыне. / На ферме равуць быкі». Але эканомнасць, нават падкрэсленая намінатыўнасць маўлення не мае вынікам бязвобразнасць, бясколернасць. У нейкі няўлоўны момант ў простых словах «На бацькаўшчыне» пачынае пульсаваць сэнсавая глыбіня, аточаная вобразнай карункавасцю:

Збірае мама ў падворку
Трэсак сонечны лёд.
Ветрыцца на падворку
Дзіцё — не пазнаць здалёк
Чыё…
Ці не я — з хрушчоўскім
Пачаткам хлеба наўзруч —
Увільваю вершаў Броўкі,
Бразготных, нібы абруч…

Іду да мамы пахіла —
Мой цень на яе шчацэ…
І кроў ледзяная ў жылах
Адтайвае… і цячэ…

У «поўневага» Леаніда Галубовіча дзівосным чынам выніковым становіцца не толькі вобразнавыяўленчая эканомнасць, але і само маўчанне. Менавіта яго дванаццацігадовым плёнам сталіся ў 2012 годзе «вершы пасля вершаў», што склаліся ў зборнік ***«З гэтага свету»*** (2010—2011). Кніга гэтая сама па сабе падавалася чымсьці адметным, бо выспеленым ў працэсе красамоўнага паэтавага маўчання. А ў «Поўні» два дзясяткі вершаў нагогул выглядаюць як «выбранае з выбранага».

Пачынаецца ўсё, як і мае быць… са смерці (дакладней — з яе планавання):

Усе мае лепшыя вершы
са мною павінны памерці,
калі ж я сканаю першы,
то вы ім паверце
і без маёй прысутнасці,
проста на слова,
бо, калі браць па сутнасці,
я — іх палова.
*«***Усе мае лепшыя вершы…»* [1, с. 52]

Дух Поўні, не хаваючыся, лунае ўжо ў творах «З гэтага свету»: *поўневасць* як вобраз-матыў, вобраз-настрой каранямі трымаецца ў «жніўным узросце» лірычнага героя, што стаіць «перад трунной, як мім / на пакуль нейтральнай тэрыторыі…» («***Рускі чалавек Барыс Бур'ян…» [1, с. 69]). Чым паслядоўна прырастае лірычны герой Леаніда Галубовіча ад кнігі да кнігі — дык гэта майстэрствам самотнай іроніі і асабліва самаіроніі, якая дасягае піку ў вершах «З гэтага свету» («На ранішні выгул сабакі», «Мазыр-1982», «***О не, не галавой мастацтва творым…» і інш.).

Бадай, менавіта самаіронія засцерагала лірычнага героя ад таго нешырокага кроку, які аддзяляе самотнага маўчальніка ад раздражнёнага, са зрывамі ў злосны сарказм трыбуна. Яна ж, відаць, утрымлівала аўтара ад уключэння ў да-*поўневыя* зборнікі вершаў кшталту «***Да самай смерці бацька быў рабом…» (1997), «Эпілог» (1998) (у «Поўні» прадстаўлены ў раздзеле «Вершы без кніг і новыя вершы 2012 —2014»).

Ёсць падставы меркаваць, што згаданы пік майстэрства самаіроніі (і не толькі) — прамежкавы для аўтара «Поўні».

Здавалася б, новыя вершы красамоўна гавораць пра тое, наколькі песімістычна паэт настроены ў дачыненні да *жыццясмерцевых* перспектыў лірычнага я-героя: «Я ў кніжцы той, нібы ў труне, / і стылы дух жыцця з мяне// да вас імкнецца, / але — не…» («***Я кніжку вершаў напісаў…» [1, с. 102]). Але ў новых вершах з-пад экзістэнцыйнай коўдры флегматычнай тугі, на тле прысудаў у духу аўтадафэ («Я — хлюпік, паўінтэлігент, / пакутнік паскудны» [1, с. 84]), нібы насміхаючыся над прызнаннямі аўтара «Зацемак з левай кішэні» ў «духоўнай немачы»[3], жыццё ўпарта расце — *прырастае* сутнасным:

Сеў на бяскроўны пень
і слухаю, як ува мне
шуміць, шапоча, хвалюецца
кронай разгалістай дрэва…

Душа
ўсё
яшчэ расце…
*«***У лесе робяць прарэджванне…»* [1, с. 99]

На думку Сяргея Дубаўца, «уздым паэзіі сапраўды не сведчыць пра культурны росквіт, але — пра роспач. Гэта вечная роспач немаўляці, што прыходзіць на свет, роспач першае закаханасці, роспач парадзіхі і роспач таго, хто гэты свет пакідае. Паэзія — гэта й ёсць роспач жыцця» [4, с. 12]. У пэўным сэнсе, гэта галоўная ўмова і асноўны закон быцця беларускай паэзіі: нашы паэты, «нават у самых светлых і радасных сваіх вершах — гэта плачкі, што ў словах радасці хаваюць свае галашэнні»; у любым вершы тоіцца «бяздонне роспачы — незразумелай і неўтаймоўнай» [4, с. 8].

Я з лёгкім сэрцам, штораз вяртаючыся ў «Поўню» Леаніда Галубовіча, назіраю за ўшчыльненнем роспачы бліжэй да фіналу гэтага «выбранага з выбранага». Бо калі поўня ёсць сапраўдным сонцам для беларускай паэзіі, то пакуль яна ў сіле, вершы ўпарта растуць нават унутры самых зацятых ахвотнікаў развітацца з Паэзіяй.

[3] «Колькі часу я загубіў на бяздарныя вершы?! Колькі душы я страціў у незваротным часе, каб зарыфмаваць гэтае "ночы-вочы", так і не ўбачыўшы святла ў цемрычы?! Цяпер я пераважна пішу верлібрам, наіўна спадзеючыся, што чытачы не адчуюць маёй духоўнай немачы» [«Поўня», с. 111].

**Спіс выкарыстаных крыніц**

1. Галубовіч, Л. Поўня: выбранае / Леанід Галубовіч. — Мінск: Кнігазбор, 2015. — 144 с. — (Бібліятэчка часопіса «Дзеяслоў», вып. 17).

2. Мацяш, Н. У прыгаршчах ветру: Вершы, пераклады, эсэ / Ніна Мацяш. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2009. — 144 с.

3. Абрамовіч, П. Выбар на карысць чытачоў / Павал Абрамовіч [Электронны рэсурс] http://www.livejournal.com. — Рэжым доступу: http://paval-abramovi4.livejournal.com/. — Дата доступу: 12.02.2013.

4. Дубавец, С. Вершы / Сяргей Дубавец. — Мінск: Медысонт, 2007. — 224 с. — (Бібліятэчка часопіса «Дзеяслоў», вып. 5).

**Таццяна Лаўрык**

# «Люблю старадаўнасць і веру ёй»

**З творчасцю гэтага пісьменніка звязана ўсё маё жыццё. Першы гістарычны твор, прачытаны мною па-беларуску яшчэ ў дзяцінстве, —яго твор.**



Памятаю, кніг у 1980-я не хапала. Мой дзядуля рабіў з часопісных варыянтаў пераплеценыя выданні. Першай такой кнігай, якая тады захапіла мяне, быў раман «Меч князя Вячкі» Леаніда Дайнекі — у белым ільняным пераплёце, з назвай, напісанай чорным фламастарам па белай паперы, наклеенай на вокладку. Як жа я марыла атрымаць у сваю бібліятэку сапраўдную кнігу пісьменніка!

Як і шмат хто ў тыя гады, я збірала бібліятэку і вяла каталог, занатоўваючы назвы ў алфавітным парадку. І вось у маёй бібліятэцы з'явіліся доўгачаканцы — «Меч князя Вячкі» (1987), «След ваўкалака» (1988), «Жалезныя жалуды» (1993). Я хацела пазнаёміцца з творчасцю любімага пісьменніка бліжэй, таму пачала перачытваць іншыя яго раманы — «Людзі і маланкі» (1978), «Запомнім сябе маладымі» (1981), «Футбол на замініраваным полі» (1983). Адназначна: цікавасць да беларускай літаратуры і гісторыі звязана ў мяне з творчасцю гэтага таленавітага чалавека, які змог захапіць сваімі раманамі падлеткаў майго пакалення.

***

Пра першыя кнігі Леаніда Дайнекі даследчыкі яго творчасці пісалі мала. Гэта была толькі проба пяра. Бывае, што першы твор становіцца найлепшай працай аўтара, аднак з Дайнекам так не адбылося — такімі былі ўжо сталыя працы пісьменніка-раманіста.

«Людзі і маланкі» (1978) — першы раман пісьменніка. Апавядае пра падзеі Першай сусветнай вайны і Кастрычніцкай рэвалюцыі, а таксама падзеі паслярэвалюцыйныя — калі адбываўся Усебеларускі ўстаноўчы сход. У 1970-я, у час напісання рамана аўтар быў вымушаны падпарадкавацца схематызму савецкай літаратуры. У творы яўна бачыцца падзел на станоўчыя і адмоўныя вобразы.

Усебеларускі ўстаноўчы сход паказаны вачыма простага селяніна, які не разумее, што адбываецца і чаго хочуць дэлегаты. Добра відаць прыхільнасць аўтара да бальшавікоў, якія адмаўляюцца ад незалежнай дзяржавы, імкнучыся да сувязі з магутнай Расіяй. Гістарычныя падзеі прасочваюцца ў творы праз жыццёвыя дарогі братоў — Кузьмы і Антона Радзімовічаў. Старэйшы, Кузьма, — вайсковец, прайшоў фронт, апынуўся ў Чырвоным войску. Ён упэўнены, што ідзе правільным шляхам, падтрымлівае бальшавікоў і свята верыць новай уладзе.

Паспрабаваў пісьменнік паказаць і «пошукі сябе» — праз вобраз Антона Радзімовіча. На мой погляд, гэты герой нечым нагадвае самога пісьменніка, выхадца з вёскі. Як пра сябе думае Антон, ён не падобны на ўсіх вяскоўцаў, яго цікавіць іншае. Да таго ж, яму спадабалася кніга пра Спартака, пра якога пісьменнік згадвае на працягу сваёй творчасці ў некалькіх творах.

«Запомнім сябе маладымі» (1981) — працяг рамана «Людзі і маланкі». Падзеі разгортваюцца ў гады змагання беларусаў з немцамі пасля захопу краіны кайзераўскімі войскамі. Лёс падзяліў братоў, яны апынуліся, як гавораць, «па розныя бакі барыкад». Кузьма змагаецца за савецкую ўладу ў партызанскім атрадзе, а ў канцы рамана трапляе ў Маскву на канферэнцыю беларускіх секцый РКП(б), дзе абмяркоўваецца стварэнне Беларускай Савецкай рэспублікі. Антона закруціў вір, ён адчувае, што яго ўсё глыбей засмоктвае, але змяніць нічога не можа. Паспеў папрацаваць і на немцаў, а ў канцы рамана заканчвае жыццё самагубствам, страціўшы надзею на выйсце.



Аўтар дэманструе нам цікавую асобу — рускага ўрача Барыса Аляксеевіча Лутошкіна, двараніна, гуманіста, талстоўца. Лёс закідвае яго ў Чмялі, дзе ён лечыць людзей і спрабуе жыць, як простыя сяляне. Але яго не прымаюць тут, адчуваючы непадобнасць да іншых. Цікавую думку выказвае аўтар вуснамі Лутошкіна. Доктар разважае пра лёс народа — беларусаў: "Дзе ж ён быў раней, гэты народ? Няўжо так моцна спаў?" Барыс Аляксеевіч не чуў раней пра такую нацыю, якая загучала цяпер, якая хоча незалежнасці.

Доктара пакахала сялянка Агапка — удава з дзіцём, салдатка. Яна прымае яго такім, які ёсць. У простай вёсцы, жывучы з Агапкай, Барыс Аляксеевіч адчувае сябе шчаслівым. Аднак такім ціхім і мяккім, як ён, цяжка даводзіцца ў час вайны. Доктар трапляе ў пастку, яго забіваюць нямецкія паслугачы.

Абодва раманы выклікаюць цікавыя думкі-развагі — пра лёс чалавека, яго прызначэнне, каханне і справядлівасць.

У 1990-я беларускія гісторыкі і пісьменнікі пачынаюць звяртацца да гісторыі Полацкага княства, Вялікага Княства Літоўскага — сівой даўніны. Адным з паслядоўнікаў Уладзіміра Караткевіча стаў Леанід Дайнека — менавіта з яго імем даследчыкі звязваюць узнікненне ў беларускай літаратуры гістарычнага раманнага цыкла. «Меч князя Вячкі», «След ваўкалака», «Жалезныя жалуды» пераносілі чытача ў глыбокую старажытнасць.

Аўтар звяртаўся да «Хронікі Лівоніі», гэта выразна бачна ў рамане «Меч князя Вячкі» (1987), што ўзнавіў сваімі старонкамі вобраз легендарнага князя, які кіраваў Кукейносам і бараніў заходнія землі Полацкага княства ад нападу крыжакоў. Леанід Дайнека з дапамогай творчай фантазіі стварыў шырокі вобраз народа таго часу. Як ён жыў, як змагаўся. Хоць пісьменнік на той час толькі пачынаў пісаць актыўна, але на ягоным рахунку ўжо было тры раманы. Таму твор атрымаўся цікавым.

«След ваўкалака» (1988) распавядае пра княжанне Усяслава Чарадзея. У гэтым творы пісьменнік апісвае героя маштабна — адчуваецца глыбокі падыход. Магчыма, гэта звязана з больш раскрытым вобразам вядомага князя ў гістарычнай літаратуры ўвогуле, з шырокім доступам да шматлікіх крыніц.

І раман «Жалезныя жалуды» (1993) узнаўляе старажытныя часы нашай дзяржавы — пачаткі Вялікага Княства Літоўскага і яго стваральніка — Міндоўга, пра якога на сёння таксама напісана шмат. Аднак пісьменнік звяртаецца да героя не толькі як да кіраўніка дзяржавы, але і як да чалавека жорсткага, непахіснага. Для князя галоўнае — палітычнае становішча. Таму ён, у залежнасці ад сітуацыі ў краіне, некалькі разоў мяняе веру, не адчуваючы згрызотаў сумлення. Спроба паказаць глыбей вобраз Міндоўга-чалавека назіраецца і ў аповесцях Юрыя Татарынава «Роковая страсть короля Миндовга» (2013) і Канстанціна Тарасава «Апошняе каханне князя Міндоўга» (2000). Але ў гэтых творах адчуваецца значнае розначытанне гісторыі кахання Міндоўга. Па-рознаму прадстаўлены вобразы яго жонак. Але ж мы не можам канстатаваць нейкую пэўную ступень праўдзівасці гісторый кахання гістарычных асоб у мастацкіх творах. Кожны падае тут свой варыянт.

Да гістарычнага цыкла Леаніда Дайнекі звярталіся многія крытыкі, таму напісана пра іх шмат, мяне ж цікавяць тыя старонкі з творчасці пісьменніка, якія раскрыты мала.

У пачатку 1990-х Леанід Дайнека ставіў перад сабой мэту напісаць гістарычны цыкл з дзесяці кніг. У яго гутарцы з Алесем Марціновічам дакладна адчуваецца жаданне напісаць новы раман, прычым, аўтар ведае ўжо назву — «Гарады не здаюцца». Гэты раман павінен быў апавядаць пра Давыда Гарадзенскага, паплечніка Гедыміна. Ён жыў у першай палове XIV стагоддзя, не пацярпеў ніводнага паражэння, паспяхова абараняў ад крыжакоў Гародню і Навагародак. Аднак раман з такой назвай не выйшаў.

На доўгі час пісьменнік спыніў свае спробы. Прыйшлі знакамітыя 1990-я, перыяд перабудовы і прадпрымальніцтва. Адкрываліся прыватныя фірмы, людзі спрабавалі зарабляць грошы на лепшае жыццё для сваіх сем'яў. Усе памятаюць галодныя гады 1991-ы і 1992-і, калі адразу пасля распаду СССР апусцелі крамы, а работ стала менш. Тым не менш людзі адчулі вызваленне ад дзяржаўнага адміністрацыйна-каманднага кіравання. Не абышоў гэты час і Дайнекаў. Актыўны Леанід Марцінавіч рушыў у бізнес. У вёсцы Жажэлка Смалявіцкага раёна вырас гарэ-







лачны завод БЕЛПІ, якім валодаў пісьменнік з трыма сынамі. Завод распрацаваў вытворчасць старажытнага літоўскага пітва — «Крамбамбулі» з рознымі напаўненнямі. На кожнай бутэльцы было адзначана — «Глыток гісторыі», а дэвіз кампаніі быў: «Праз адраджэнне нацыянальных традыцый да росквіту Беларусі».

Як вызначаў Міхась Скобла, «і ў гарэлачным бізнесе Л. Дайнека практыкуе творчы падыход: вынайдзены ім напой «Крамбамбуля» карыстаецца попытам у нацыянальна свядомай моладзі». Цяпер прывезці ў падарунак з Беларусі пляшку старажытнай «Крамбамбулі» не атрымаецца, бо краіна страціла вытворцу нацыянальнага прадукту. Але на старонках новых раманаў Леаніда Дайнекі героі, асабліва шляхта, п'юць «Крамбамбулю» — нацыянальны беларускі напой.

У творах пісьменніка адчуваецца прадпрымальніцкая жылка. Ён актыўна рэкламуе сваю прадукцыю. Можна вызначыць новы элемент, які ўводзіць аўтар, — рэклама і антырэклама. Аўтар словамі свайго героя ў рамане «Пра лісоўчыка, злога хлопчыка» спрабуе растлумачыць, чаму не падабаецца яму назва беларускай настойкі «Бульбаш» канкурэнтнай вытворчасці: «Я разумею, чаму ў нашай краіне даюць зялёнае святло такім зневажальным назвам. Людзі-арганізатары гэтых піяркампаній хочуць праз назву аднаго з самых масавых прадуктаў увабіць у свядомасць усіх і кожнага, што беларусы — дзяржаўны негістарычны народ, што яны адпачатку толькі сяляне-мужыкі, толькі халопы, адным словам, бульбашы і няздольныя жыць сваім самастойным гаспадарствам».

Памятаю студзень 2010 года, марозны вечар, калі я па запрашэнні аўтара прыйшла на яго юбілейны вечар у Чырвоны касцёл. Сабраліся пісьменнікі, літаратуразнаўцы, неабыякавыя суайчыннікі, проста аматары твораў Леаніда Дайнекі. Зала маленькая, а людзей шмат. Некаторыя проста стаялі каля сцен, бо не хапала месца сесці. Мне спадабалася хатняя атмасфера ў зале, адчувалася, што многія ведаюць адзін аднаго. Нават простыя чытачы, якой была і я, пачувалі сябе тут утульна. Не было той няёмкасці, калі табе здаецца, што ты забрыў не туды. На сцэне выступалі пісьменнікі з рознымі падарункамі, успамінамі пра доўгае знаёмства. Чулася прыязнасць да Леаніда Марцінавіча, гэта былі шчырыя словы падзякі да чалавека, які адзначаў 70-годдзе. Аўтар падрыхтаваў для ўсіх музычныя падарункі, але выступалі не проста выпадковыя спевакі, а добра знаёмыя аўтару Алена Беланогая і гурт «Стары Ольса».

Потым, пасля юбілею, пісалі, што пісьменнік мог бы арганізаваць яго святкаванне і ў больш шыкоўнай зале. Сродкі яму дазвалялі, бо ўсё ж «ён разам з сынамі валодае гарэлачным заводам БЕЛПІ. Але для аўтара «Жалезных жалудоў» і «Мяча князя Вячкі» гэта было сімвалічна. Бо Леанід Дайнека толькі пару гадоў таму пачаў хадзіць у касцёл». Мне здаецца, прычына магла быць і ў іншым. Як для мяне, вобраз гэтага пісьменніка больш нагадвае сціпласць, лаяльнасць. Гэта не той чалавек, які выхваляецца дасягненнямі.





Леанід Дайнека паспрабаваў звярнуцца і да фантастыкі — жанру, вельмі актуальнага сярод моладзі. Пакуль ім напісаны адзін фантастычны раман. Ён выйшаў у 1994 годзе. А ў 2014 годзе з'явілася новае выданне — «Чалавек з брыльянтавым сэрцам» з серыі «Кніжная паліца школьніка». Стваральнік ВЭП — Вялікай Эры Плюралізму, Леанід Дайнека не толькі звяртаецца да мінулага, але і марыць пра будучыню. Ён намаляваў тэхнічна развітую будучыню, у якой магчымасці і здольнасці чалавека пашыраюцца, але прага да вывучэння і захавання спадчыны продкаў, гісторыі сваёй краіны — застаецца.

У рамане прагучала ісціна: шчасце грамадства пачынаецца са шчасця кожнага чалавека, узятага паасобку. І не можа быць шчаслівай і вялікай краіна, у якой жыве ў няшчасці маленькі чалавек. Раман рэкамендаваны для пазакласнага чытання вучням сёмага класа.

На сёння гэта самае свежае кніжнае выданне твораў Леаніда Дайнекі, нягледзячы на тое, што пісьменнік працягвае пісаць. У Санкт-Пецярбургу ў 2012 годзе былі перавыдадзены на рускай мове раманы «Меч князя Вячкі», «Тропой Чародея», «Железные желуди». У бібліятэкі Беларусі яны не трапілі.

Хочацца адзначыць нязгасны энтузіязм Леаніда Дайнекі ў апошні час, калі ён пачаў ствараць новыя раманы: «Назаві сына Канстанцінам» (2010, у часопісным варыянце выйшаў у 2008 годзе), «Пра лісоўчыка, злога хлопчыка» (пакуль толькі ў часопісе, у 2010 годзе). Пісьменнік працягвае працаваць, размяшчаючы новыя раманы на ўласным сайце daineka.by.

Як адзначала Люміла Рублёўская: «Пока ведутся споры об освоении белорусской литературой Интернета, у Леонида Мартиновича давно действует персональный сайт, на котором размещены и романы, и стихи, и «геродотинки» — остроумные миниатюры».

«Герадоцінкі» аўтар выкладвае штогод, яны напоўнены вершамі, успамінамі, анекдотамі, развагамі пісьменніка над лёсам краіны. І як я не люблю чытаць творы такога кшталту, а ў «Герадоцінках» бачу мудрыя і цікавыя рэчы. Не дзіва, што назва гэтага аўтарскага штогодніка нясе ў сабе імя вялікага мысліцеля.

На сайце пісьменніка з'явіліся раманы «Той, каго ўдарылі па шчацэ» (2011) і «Ілоты» (2015). Аўтар працягвае ствараць гістарычныя раманы, аднак пад уплывам сучаснай моды насычае творы неверагоднымі здарэннямі і прыгодамі.

Асабліва захапляе раман «Назаві сына Канстанцінам» (2010), які можна назваць фантастычным, які ўзнаўляе міфічную ідэю паходжання ліцвінаў ад князя Палемона. У сувязі з гэтым праз увесь раман праходзіць гісторыя існавання Ордэна святога Палемона, уплыў яго на гісторыю дзяржавы, змаганне яго членаў за волю і незалежнасць Вялікага Княства Літоўскага. Канстанцін Тарасаў у аповесці «Апошняе каханне князя Міндоўга» таксама згадвае гэту легенду пра «вылічэнне продкаў ад агульнага ўсім князям прашчура князя Палемона, які з'явіўся недзе з-за мора».

Нягледзячы на тое, што аўтар знаёміць нас з гісторыяй Беларусі, кожны яго наступны раман напоўнены новай інфармацыяй аб жыцці іншых краін і народаў. Тут аўтар распавядае пра Турцыю: пра з'яўленне янычараў і жыццё жанчын у султанавым гарэме.

Фактычна раман падзелены на дзве часткі. Першыя два раздзелы распавядаюць пра Марціна Жабыка-Жэмбу і яго каханую Зосю Квяцінскую. Падзеі адбываюцца ў 1452 годзе, калі маладыя ліцвіны на чале з Марцінам адпраўляюцца ратаваць Канстанцінопаль, хрысціянскую святыню, ад турэцкага нашэсця. Перад паходам героі трапляюць «праз хронадзірку» ў старажытны Канстанцінопаль, у часы Канстанціна Вялікага — першага імператара, які пабудаваў у сталіцы Святую Сафію. А перад вяртаннем у свой час атрымліваюць ад імператара ў падарунак штандар Дваццатага Маланкападобнага Рэйнскага Легіёна з выявай арла. У часы выпрабаванняў дзіўная птушка ажывала і дапамагала ім.

Другая частка рамана распавядае ўжо пра іншы час — год 1507-ы. І падзеі адбываюцца ў Вялікім Княстве Літоўскім. Нашчадак Марціна Жабыка-Жэмбы, яго ўнук, таксама Марцін у сваім часе становіцца новым Палемонам, які аднаўляе Ордэн. Разам з сябрамі ён спяшаецца на дапамогу трэцяму Канстанціну (Астрожскаму). Гэта чалавек,




які зможа змяніць гісторыю, дапамагчы сваёй краіне. У канцы рамана прасочваецца сувязь з імем Канстанцін, якое атрымліваюць знакамітыя людзі краіны. Народзіцца яшчэ два вялікіх Канстанціна, якія здолеюць паўплываць на гісторыю Беларусі, — Кастусь Каліноўскі і Канстанцін Міцкевіч (Якуб Колас).

Што ж зноў падказвае, што гэта не проста гістарычны твор? Вера сялян у маленькі народ, які жыве ў лесе. Легенда пра Хлопчыка з Залатым зубам, які можа шукаць скарбы, а жыве ён ужо больш, чым цягнецца чалавечае жыццё. Такі Хлопчык павінен дапамагчы знайсці святыні Ордэна, якія былі недзе схаваны. Сапраўды фантастычная гісторыя!

Я не змагла застацца проста чытачом і не ўключыцца ў палеміку, якая распачалася паміж крытыкамі М. Дубоўскім і Ц. Чарнякевічам вакол рамана «Назаві сына Канстанцінам» у 2009 годзе, калі раман выйшаў у часопісным варыянце. У 2010 годзе, пасля выдання кнігі, далучылася яшчэ і адмоўная рэцэнзія Я. Конева.

Як піша М. Дубоўскі пра кнігі Л. Дайнекі, яны не залежваюцца на паліцах кнігарняў. Сапраўды, кніга з накладам у 2000 экзэмпляраў разышлася хутка. Я вельмі хацела атрымаць яе ў сваю бібліятэку. Працуючы ў Нацыянальцы, убачыла яе ў фондах, павіншавала аўтара. Праз амаль пятнаццацігадовы перапынак у пісьменніцкай дзейнасці аўтар прадставіў зусім новы твор. Але поўны жывасці, авантурных прыгод, і чытаўся ён вельмі лёгка. Аўтар змог трапіць у плынь новай, сучаснай літаратуры. А што важна для твора? Жывасць, займальны сюжэт. Разам з тым раман знаёміць з пэўнымі падзеямі ў гісторыі. Зразумела, што ён напоўнены выдумкай. Крытыкі шмат гавораць пра гістарычныя рэаліі рамана, забываючы, што гэта ў першую чаргу мастацкі твор, а не навуковае даследаванне, і аўтар можа сам вырашаць, як падаваць падзеі ў сваім творы. Чытачы, зразумела, успрымаюць раманы як гістарычныя прыгоды. А маладое пакаленне вывучае гісторыю па падручніках і навуковых выданнях, а не па гістарычных раманах. У такіх творах не заўсёды зразумела, ці ў адпаведнасці з рэальнымі падзеямі ідзе аповед. Будучы філолагам-беларусаведам, шмат папрацаваўшы ў школе, магу дакладна сказаць, што дзяцей прыцягваюць неверагодныя падзеі, «скачкі праз хронадзіркі ў часе» (што і адбываецца з героямі твора), а не сухія гістарычныя факты. Леанід Дайнека — пісьменнік, які піша для дзяцей.

Не менш неверагодным падаўся мне раман «Пра лісоўчыка, злога хлопчыка», які зноў распавядае пра сучасны перыяд і часы Вялікага Княства Літоўскага.

Звесткі пра лісоўчыкаў знаходзім і ў В. Ластоўскага, які з'яўляўся рэдактарам часопіса «Крывіч». У «Крывічы» ў №1 за 1923 год размяшчаецца пераклад урыўка з польскай паэмы «Władysław IV król Polski i Szwedzki» (1649):

Лесоўчыкі
*Лесоўчык ваюе, што пажар бушуе,*
*Бы вясной паводка, ён усё раўнуе…*

Як адзначаў Ластоўскі, «Лесоўчыкі — названьне лёгкай беларускай кавалерыі-казацтва, якое ў адрозненне ад Украінскага, нізавога казацтва («Нізаўчыкоў»), насіла названьне — «Лесаўчыкі». Польскія гісторыкі выводзяць названьне гэтай кавалерыі ад імяні аднаго з галасных у пачатках XVII ст. атаманаў Лесаўчыкоў, беларускага шляхціца Аляксандра-Язэпа Лісоўскага-Яновіча. У часе бунту Зэбржыдоўскага Лесаўчыкі сталі супраць караля Жыгімонта III, за што яны, разам з атаманам, былі асуджаны на выгнаньне».

У кожны свой раман пісьменнік укладвае душу, тут жывуць падобныя да яго героі. Таму вельмі ярка





ўспрымаецца вобраз пісьменніка Антона Даніловіча-Гоцкага, які нагадвае самога аўтара. Гэта таксама пісьменнік, які калісьці ствараў вершы, а цяпер піша гістарычныя раманы.

Ішлі цяжкія гады крызісу, калі развальваліся фірмы, прадпрымальнікі заставаліся без працы, увогуле, час быў цяжкі для простага народу. У рамане аўтар распавядае пра лёсы чатырох герояў, якім наканавана сустрэцца. Крызіс паставіў іх у цяжкае становішча. У кожнага свая трагедыя. У выніку яны разумеюць, што лёс для чагосьці іх аб'яднаў, што яны павінны быць разам. Антон Даніловіч-Гоцкі пісаў гістарычны раман пра лісоўчыкаў, якімі становяцца нашы героі. Прынамсі, яны сябе адчуваюць такімі. Аб'яднаўшыся, едуць працаваць на фірму «Дуга Струвэ» да Аляксандра Лісоўскага — нашчадка палкоўніка, які вёў лісоўчыкаў у бой. Тут яны сапраўды ўспрымаюць сябе лісоўчыкамі. Падчас навальніцы адбываецца нешта, што пераносіць герояў у старажытнасць.

Другая частка распавядае пра Смутныя часы, прыход да ўлады Лжэдзмітрыя I і Лжэдзмітрыя II. Змены ўлады ў Маскоўскай дзяржаве ўплывалі і на Вялікае Княства Літоўскае. Пачаліся войны, спачатку са Швецыяй, потым войскі ліцвінаў пайшлі на дапамогу Лжэдзмітрыю II. Вось у гэтыя часы і ствараецца войска Лісоўскага, якое змагаецца супраць шведаў, а потым ідзе ўглыб Маскоўскай дзяржавы. Тут мы і сустракаем герояў рамана, якія рознымі шляхамі трапляюць у войска палкоўніка, а там становяцца паплечнікамі і сябрамі.

Можна адзначыць дваістыя адносіны да палкоўніка Лісоўскага. З аднаго боку — мужны ваяр, патрыёт, рызыкуе жыццём дзеля справы. А з другога — чалавек без сэрца.

Увогуле, трошкі незразумелая і нечаканая канцоўка рамана. Пасля гераічных подзвігаў, якія здзейснілі героі, яны зноў вяртаюцца ў XXI стагоддзе. Прайшло ўжо восем гадоў. На Беларусі новае жыццё, яна ўступіла ў Еўразвяз. Акрамя таго, змяніліся людзі: яны на дзіва вясёлыя і прыветныя. Здаецца, гэта мара пісьменніка пра лепшую для краіны будучыню.

«Той, каго ўдарылі па шчацэ» (2011) — раман пра Язафата Кунцэвіча, вялікалітоўскага царкоўнага і палітычнага дзеяча, уніяцкага святара, забітага ў 1623 годзе ў Віцебску і прылічанага да святых каталіцкай царквой. Сам пісьменнік тлумачыць, дзеля чаго пісаўся гэты раман: «Я пачаў пісаць гэтую кнігу (адразу заяўляю і заяўляю з усёй магчымай шчырасцю!) дзеля рэабілітацыі Ясафата Кунцэвіча, вуніяцкага арцыбіскупа Полацкага і Віцебскага, які нарадзіўся ў сям'і шаўца ў месце Уладзіміры (сёння Украіна, а ў той час — Рэч Паспалітая) у 1580 годзе. Зазначу, што мой герой ужо даўно рэабілітаваны — каталіцкі касцёл абвясціў яго святым пакутнікам за веру».

Аўтар паказвае вобраз галоўнага героя, пачынаючы з яго дзіцячых гадоў. Гэта быў адзіны сын (было яшчэ дзве дачкі) у шавецкай сям'і, якому бацька хацеў перадаць майстэрню. Бо, як і ў любой сям'і, сын становіцца нашчадкам бацькавай справы. Хлопчык нарадзіўся з радзімкай пад грудзьмі, якая гаварыла пра тое, што нарадзіўся святы чалавек. Сапраўды, бацькава праца была яму нецікавая, хлопчык прагнуў вучыцца, а вышэй за ўсё быў для яго Бог. Вельмі паўплывала на яго кніга, падораная шляхціцам Каспарам Швайкоўскім (Жаўнерыкам). Кніга пра святога мучаніка Джыралама Саванаролу. На ўсё жыццё быў закладзены ўплыў, наканаваны будучы лёс: Язафат быў забіты як Саванарола і стаў святым мучанікам за сваю веру. Чаму ж твор так названы? — «Той, каго ўдарылі па шчацэ».

У час вучобы будучага святога ў Віленскай праваслаўнай школе здарыўся такі эпізод. Ладзілася інсцэніроўка Святога Пісання. Усе ведаюць запаведзь Хрыста: «Калі цябе б'юць па адной шчацэ, падстаў другую». Але Іван не падставіў другую шчаку, не стаў мірыцца з абразай. Гэты выпадак акрэсліў характар будучага святара, які будзе гвалтоўна насаджаць сваю веру, а не мірыцца з верай іншых, упарта ісці да сваёй мэты.

Пасля прыняцця ўніяцтва каля 1599 года Кунцэвіч становіцца гарачым прыхільнік веры. Ён уступае ў духоўную гвардыю, якая служыць аховай для Уніі. Кунцэвіч — сотнік, у яго пад рукою — сотня гарачых ваяроў. Стараннямі Іпація Пацея для гвардзейцаў была адчынена школа, у якой яны вывучалі Святое Пісанне, розныя мовы, філасофію і гісторыю. Асаблівая ўвага надавалася вайсковай справе. Гвардыя ахоўвала мітрапаліта ў яго паездках, мэта якіх была адна — схіляць да уніі праваслаўных вернікаў.

З запалам выконваў Кунцэвіч даручаную місію, не спыняючыся перад гвалтоўнымі метадамі. Непамяркоўнасць яго выклікала пратэст праваслаўных. Уніяты і католікі таксама асуджалі яго і перасцерагалі.

Праглядаючы інфармацыю пра Кунцэвіча, цяжка пацвердзіць, ці была такая духоўная гвардыя створана, ці быў ён сотнікам гвардзейцаў? Але ж перыяд, пакуль ён не прыняў манаства ў 1604 годзе, прапушчаны ў жыцці Язафата. Гэта дае падставу думаць, што ён мог дапамагаць Іпацію Пацею ў насаджэнні ўніяцкай веры і такім чынам. Нездарма ж яго называлі «душахватам». Мог забіваць, а пазней зрабіцца красамоўцам, словам хапаць за душу, упэўніваць людзей у чым заўгодна.

У 1613 годзе Кунцэвіч прызначаны ігуменам Быценскага манастыра, да 1617 года быў архімандрытам Віленскага Траецкага манастыра. Шмат зрабіў для добраўпарадкавання апошняга, арганізацыі базыліянскага ордэна. Па рэкамендацыі Я. Руцкага ў 1617 годзе прызначаны епіскапам віцебскім і адначасова каад'ютарам да полацкага архіепіскапа Гедэона Бральніцкага, чалавека старога і слабага. Пасля смерці Бральніцкага (канец 1618 года) стаў полацкім архіепіскапам.

Але ж раман «Той, каго ўдарылі па шчацэ» не толькі паказвае нам актыўную дзейнасць Кунцэвіча па ўвядзенню уніі на землях Беларусі. Аўтар паспрабаваў раскрыць супярэчлівага чалавека, які марыў не толькі жыць дзеля краіны, але і кахаць, нарадзіць нашчадкаў. Як самы звычайны юнак, Іван сустракае каханне, якое нясе яму радасць, але застацца з каханай не можа. У Язафата і Юстыны Мярло нарадзіўся ўдалы хлопец Іван, які шаснаццаць гадоў не ведаў свайго бацьку. Калі яны сустрэліся, сын пайшоў з бацькам, каб служыць уніі. Адчуваючы адданасць справе, Язафат не імкнецца да славы. У яго адна мэта — моц краіны, якую ён бачыў у яднанні дзвюх вер, якія б далі незалежнасць ад маскоўскага цара, ад Расіі.

Гісторык Вацлаў Пануцэвіч вызначаў, што «віной» Язафата былі нездаванне пазіцый ды стойкасць у выкананні пастырскіх абавязкаў, за якія ён гатовы быў аддаць жыццё сваё».

Вельмі неадназначны вобраз галоўнага героя, вельмі супярэчлівае стаўленне да яго прыхільнікаў розных веравызнанняў. Але ж у 1867 годзе Папа Пій IX прылічыў Кунцэвіча да ліку святых. Папа Ян Павел II назваў Язафата Кунцэвіча Апосталам Еднасці.

У рамане ўпершыню апісваецца незвычайны, на мой погляд, лад жыцця казакоў Запарожскай сечы. Жыццё іх падобна на жыццё качэўнікаў-татар. Яны жывуць казацкімі станамі ці абозамі. Гэтае качэўнае жыццё патрабуе сумеснага карыстання прадметамі быту, супольнага жыцця ў куранях (доўгіх будынінах, дзе казаку аддзялялецца толькі маленькі кавалак уласнага жытла). У тыя часы да казакоў, як і да качэўнай Арды, прыводзілі прыгонных дзяўчат з Літвы, якія прадаваліся за вялікія грошы. З імі абыходзіліся тут, як і ў Ардзе. Менавіта гэтым і займаўся Швайкоўскі (Жаўнерык). Пазней ён паплоціцца ўласным жыццём за загубленыя душы.

Аднаму з герояў рамана — вучонаму немцу, доктару, аўтар дае сваё прозвішча. Гэта псеўданім, які выбраў герой, пачаўшы жыць у Рэчы Паспалітай, — Караль Дайнека. Магчыма, у нечым аўтар бачыць блізкасць гэтага вобраза да сябе.

Мова рамана займальная, яна не перанасычана гістарызмамі, хоць і апісваецца XVII стагоддзе. Таму і малады чытач можа лёгка пазнаёміцца з творам. Аўтар не ставіў за мэту наблізіць да рэальна магчымага побыт людзей тых часоў. Таму і назіраецца шмат неадпаведнасцей. Таму і прызначаны гэты твор хутчэй для азнаямлення з жыццём нашых продкаў, чым для глыбокага вывучэння гісторыі.

Пры чытанні апошніх твораў пісьменніка адчуваецца сувязь і ўзаемапранікненне падзей і герояў з аднаго твора ў другі.

Так, у рамане «Назаві сына Канстанцінам» галоўны герой належыць роду Жабыка-Жэмбаў, а з яго нашчадкам мы сустракаемся ў рамане «Пра лісоўчыка, злога хлопчыка». З Язафатам Кунцэвічам упершыню знаёмімся ў рамане «Пра лісоўчыка, злога хлопчыка», а пасля Дайнека стварае раман «Той, каго ўдарылі па шчацэ», дзе галоўным героем выступае менавіта гэты чалавек.

Вельмі цікава, што ў пісьменніка ў розных раманах сустракаюцца героі з падобнымі лёсамі, трошкі змененымі. Напрыклад, цяжкі лёс дзяўчыны-прыгажуні ў рамане «Людзі і маланкі». Падобны ж лёс напаткаў дзяўчыну ў творы «Пра лісоўчыка, злога хлопчыка». Абедзве страцілі сваю прыгажосць і жорстка пакутуюць. Такіх падабенстваў шмат. Ці можна растлумачыць гэта ўласнай цікавасцю аўтара да асобных жыццёвых сітуацый, ці выкарыстаннем новых элементаў у раскрыцці гістарычных падзей?

Чытаючы новыя раманы Дайнекі, адчуваеш сувязь з папярэднімі творамі. Як абяцаў аўтар, ён працягвае раскрываць невядомыя старонкі гісторыі Беларусі.

«Ілоты» (2015) — гэта апошні на сёння, адзінаццаты раман пісьменніка. Кароткая гістарычная звестка: «ілоты — земляробы Старажытнай Спарты, якіх заваявалі дарыйцы. Лічыліся ўласнасцю дзяржавы. Яны не ўваходзілі ў склад спартанскай абшчыны, не валодалі ніякімі правамі. Ад рабоў адрозніваліся тым, што валодалі сродкамі вытворчасці, вялі сваю гаспадарку, уласнікі ўчасткаў не маглі іх ні прадаваць, ні забіваць. Жорсткая эксплуатацыя выклікала паўстанні ілотаў, самае буйное з іх — так званая 2-я Месенская вайна. З мэтай папярэджання іх паўстанняў спартанцы ўвялі сістэму крыптый — перыядычных карных экспедыцый».

Ведаючы аўтара і тое, што ён піша пра гісторыю Беларусі, было дзіўна пачаць чытаць твор пра спартанцаў і ілотаў. Але з такім прыгнаным народам Старажытнай Спарты аўтар параўноўвае забіты беларускі народ, які доўгі час жыў падобным жыццём. Пра падзеі ў Месеніі і Спарце мы даведваемся падрабязна, бо галоўны герой рамана Зміцер Берагейка — настаўнік гісторыі, піша раман пра ілотаў. З дзяцінства Зміцер любіў чытаць кнігі, найбольш яго прываблівалі гістарычныя прыгодніцкія раманы. Асабліва захапіў раман «Спартак», ад якога не мог адарвацца. Таму і вырас такі незвычайны, дасціпны, адукаваны юнак у сям'і простага пастуха. З дзяцінства адчуваў гэтую падпарадкаванасць вяскоўцаў, якія ў далёкія 1950-я былі прывязаны да зямлі, не мелі магчымасці выбіраць сабе лепшую долю. Таму так імкнуліся юнакі паступіць ў горадзе ў ВНУ, каб жыць лепш, чым прыгнечаныя калгаснікі, якія працавалі за рысачкі-працадні.

Але ж і ў самога пісьменніка назіралася цікавасць да Старажытнай Спарты. У адным з першых зборнікаў вершаў «Начныя тэлеграмы» змяшчаецца верш «Спартак»:



На заводзе.

Яго мячамі пасекла  
Шалёных ворагаў зграя.  
Яшчэ не было пекла.  
Яшчэ не было раю.  
На захад ішлі аблокі.  
І ў дзень той, глухі і шэры,  
Было да свабоды далёка,  
Далей, чым да нашай эры.  
У сечы злой, рукапашнай  
Упаў ён на дол зялёны.  
Смяяліся хрыпла і страшна  
Рымскія легіёны.  
Ляжаў ён мужны і горды,  
Сцяўшы крывавыя зубы.  
Са смерцю прыйшла свабода,  
Таемная, як Везувій.  
Скончыліся прынукі.  
Смерць — за свабоду плата.  
Болей не пырсне на рукі  
Кроў гладыятара-брата.  
Змоўкне водгулле бою.  
І шчасце,  
што ён не ўбачыць,  
Як кінуць слабыя зброю,  
Зноў у ярме заплачуць.  
Колькі яшчэ пакаленняў  
Жыць без святла, без хлеба?  
Стануць рабы на калені,  
Глянуць рабы на неба.

Бывае, што першы твор становіцца найлепшай працай аўтара, аднак з Дайнекам так не адбылося — такімі былі ўжо сталыя працы пісьменніка-раманіста

У апошнім рамане аўтар звяртаецца да некалькіх гістарычных падзей, быццам пераплятаючы іх, падтрымліваючы паміж імі сувязь. Па-першае, гэта часы пасля Вялікай Айчыннай вайны, апошнія гады сталінізму, смерць Сталіна і ўспрыманне яе насельніцтвам. Па-другое, пры дапамозе дзённіка Гані Доўгерд, нявесты атамана «Зялёнага дуба», аўтар спрабуе расказаць пра Слуцкае паўстанне і нацыянальны рух на Беларусі ў 1920-я гады. І зразумела, Месенскае паўстанне ў Спарце. І ўсё ў рамане злучана ідэяй — беларускі народ занядбаны, знаходзіцца ў стане ілотаў — рабоў. Бачым, што ў розныя часы людзі, адчуваючы сваё становішча, падымаліся на барацьбу. Яны спрабавалі змяніць жыццё, аднавіць дзяржаву. У гэтым рамане аўтар маштабна ўзнаўляе падзеі Слуцкага паўстання, таму твор насычаны вялікай колькасцю рэальных гістарычных асоб. Пра іх мы можам пачытаць у многіх падручніках па гісторыі. Аднак вобразы аўтар спрабуе раскрыць глыбока, наколькі яму гэта ўдалася — цяжка сказаць. Пра герояў тых часоў вядома мала, дык ці былі яны такімі ў рэальнасці? Гэта кіраўнікі антыбальшавіцкага партызанскага руху — беларускай сялянскай партыі «Зялёнага дуба» — Вячаслаў Адамовіч-старэйшы і Вячаслаў Адамовіч-малодшы па мянушцы Дзяргач, Антон Лявіцкі (Ядвігін Ш.). Паспрабаваў аўтар раскрыць вобразы бацькі Махно, генерала Станіслава Булак-Балаховіча, Зінаіды Гіпіус і іншых рэальных асоб.



З жонкай Зінаідай.

Багаты твор на падзеі прыгодніцкія. Яны звязаны з пошукам скарбу, схаванага атаманам Дзергачом. Аўтар па-майстэрску пераскоквае з адной рэаліі на другую, з часу ў час, што даволі нязвыкла, таму і твор чытаецца з захапленнем. Не люблю крывавыя баталіі, апісанні ваенных будняў, аднак аўтар акцэнтуе ўвагу на адносінах паміж мірным насельніцтвам і войскамі, аздабляе ваенныя падзеі незвычайнымі эпізодамі з такога жыцця.

А як абысціся ў рамане без вялікага і шчырага кахання? Ім прасякнуты старонкі! Гэта каханне Гані Доўгерт і Вячаслава Адамовіча, Змітра Берагейкі і Марты Сазанавец. Праз увесь фронт прайшла Ганя Доўгерт, каб знайсці і сустрэць каханага Вячку. Шмат выпрабаванняў сустрэлася на яе шляху, але яна ўсё вытрымала. У канцы рамана мы даведваемся пра яе смерць. Ганю расстралялі за прыналежнасць да «Зялёнага дуба» і шпіянаж.

На мой погляд, раман «Ілоты» — гэта новая спроба пераасэнсаваць тое мінулае краіны, да якога пісьменнік звяртаўся амаль сорак гадоў таму, пішучы свой першы раман «Людзі і маланкі» (1978). Але гэта зусім іншы падыход, пераасэнсаванне гісторыі, заўважна майстэрскі стыль. Да таго ж пісьменнік арыгінальна распавядае пра некалькі гістарычных прастораў.

Цяпер Леанід Дайнека працуе над новым раманам «Сын Ільва, дачка Зеўса — Леанід і Зінаіда», на яго сайце ўжо размешчаны пачатак твора. Добра сказаў Алесь Марціновіч пра гэтага пісьменніка: «Леанід Дайнека працуе, як той мудры беларускі селянін, для якога не так і важна, што пра яго скажуць, бо для яго галоўнае, каб апрацаваная ніва давала шчодры ўраджай». Ён не звяртае ўвагі на тое, што камусьці не падабаецца яго праца, ён смела ідзе сваім шляхам. І ў гэтым праяўляецца яго наватарства і смеласць.

**Мікола Чарняўскі**

## «Сцвярджаць сябе ўсёй жыццёвай праўдай...»

У той дзень, 17 верасня 2006 года, я збіраўся патэлефанаваць Валодзю: успомніў, што ў час размовы напярэдадні расказаў яму не ўсе навіны, якія прывёз з нашай Будакашалёўшчыны Анатоль Зэкаў. Не паспеў: апярэдзіў ранні званок. Можа, ён сам патурбаваў мяне з самай раніцы, як гэта рабіў не адзін раз? Ды ў трубцы пачуўся сцішаны жаночы голас — ягонай жонкі Надзі. А голасу Валодзі Дзюбы ўжо не пачую ніколі. Той раніцай, якая прынесла смутак у сям'ю, яго сваякам, сябрам і знаёмым, ён не прачнуўся...

«Парадзеў патапаўскі лясок...» — з журбою напісаў я на абрыўку лістка ў хвіліны неспадзеўнага і назаўсёднага расстання з ім — шчырым сябрам, земляком, пісьменнікам, міжволі згадаўшы яго знакамітыя радкі: «Дубы раслі на той дзялянцы. // Іх там няма. // На месцы тым сасонкам вольна маладым. // Іх мы садзілі, падшыванцы...» Ён быў першым з вядомай сёння патапаўскай «тройцы» (Уладзімір Дзюба, Таццяна Гарэлікава, Анатоль Зэкаў), якая змагла годна засвяціцца на літаратурным небасхіле роднай Беларусі. І, як ні сумна ўсведамляць, першым адышоў...

А ці даўно было, калі ён, сямнаццацігадовы, пышначупрыністы, выпускнік Патапаўскай дзесяцігодкі, упершыню прыехаў у Мінск здаваць экзамены ў Белдзяржуніверсітэт, ужо маючы ў сваёй творчай вярэньцы даволі прыстойны па такім узросце літаратурны набытак — нізку вершаў у рэспубліканскай газеце «Чырвоная змена» за 1963 год. Як помню дагэтуль, з партрэтам, з рэдакцыйнай прадмоўкай. Я шчыра радаваўся, чытаючы іх: дык ён жа з вёскі, не такой далёкай ад нашай, адкуль родам мая маці, дзе жыве родная цётка!

А ўпершыню сустрэліся з ім, калі я працаваў у зарубежнай рэдакцыі Беларускага радыё. Ён знайшоў мяне разам з такім жа маладым паэтам Міколам Хамянковым. Пагаварылі, пазнаёміліся бліжэй, і хлопцы пачалі чытаць вершы. Валодзя ўмеў чытаць. Чытаў бойка, узнёсла, выразна, не даючы гуляць рукам: то ўскідваў іх, то апускаў, надаючы чытанню пэўную артыстычнасць, чым я асабіста не мог пахваліцца, чаго крышку нават саромеўся. А Валодзя Дзюба, здавалася, быў у сваёй стыхіі:

Уздоўж чыгункі, як быццам зоры,  
Святлафоры мігцяць, святлафоры.  
Вецер злёгку гойдае лісце,  
А мы едзем, едзем кудысьці.



Не пытаюць у нас, бязвусых,  
Хто і як, адкуль?..  
Беларусы!..  
Едзем мы здалёку і зблізку.  
Хто з-пад Гомеля, хто з-пад Мінску.  
Едзем мы па нязнаных сцежках,  
А вязём мы з сабой — усмешкі,  
Што цяплейшымі робяць зімы,  
Мы — усім і ўсе нам — пабрацімы!

Літаратурны дэбют Валодзі Дзюбы адбыўся раней, яшчэ за тры гады да з'яўлення публікацыі ў «Чырвонцы». Восем радочкаў наіўнага вучнёўскага практыкавання «Выйду ў поле...», змешчаныя на старонках раённай газеты «Ленінскі шлях» (з 1962 года «Авангард»), тады мала чаго маглі сказаць пра паэтычныя задаткі сямікласніка-пачаткоўца з вёскі Патапаўка. Аб тым, што ў нашу літаратуру ідзе цікавы, удумлівы, улюбёны ў жыццё і людзей паэт, пераканаўча сведчылі яго вершы юнацкай пары «Кастры», «Хлапчукі», «Грыня», «Уздоўж чыгункі...», «Пушча», «Радыёхвалі», «Ля помніка Марату Казею», «Самалёт» і іншыя. У іх з першага ж знаёмства адчувалася імкненне паэта да самастойнасці, да свайго «Я» ў творчым пошуку, старанне знаходзіць радкі, якія прываблівалі б свежасцю пачуццяў



і навізной аўтарскіх знаходак, наводзілі б на роздум, праглядвалася ўменне выказваць думкі вобразна, метафарычна, як гэтага патрабуе сапраўдная паэзія.

Спынімся на вершы «Самалёт». У дзіцячым парку ён, вялікі птах, пастаўлены для забавы дзятвы, не болей. А пад пяром паэта самалёт раптам казачна ажывае, ноччу «бярэ імклівы паміж дрэў разгон і нейкі час над паркам сонным кружыцца...»

А потым набірае вышыню
І там жыве, пакуль не прыйдзе раніца.
І за крыло,
Нібы за даланю
Дзень новы з самалётам прывітаецца.

«І за крыло, нібы за даланю...» такое магчыма толькі ў паэзіі.

Ці возьмем гэты верш-чатырохрадкоўе:

О, прадчуванне небяспекі!
Асокаў вострыя нажы
Павытыркалі грозна рэкі,
І кожны з тых нажоў дрыжыць...

Хіба не паэтычна, хіба не наводзяць гэтыя радкі на сумны роздум, ведаючы сёння, які лёс напаткаў многія нашы рэкі ды азёры?

Пра што б ні пісаў паэт, дзе ні бываў, яго заўсёды нястрымна цягнула ў родныя мясціны, да людзей, сярод якіх гадаваўся, станавіўся «на крыло». У хату, дзе пад ласкавым прыглядам маці Ніны Апанасаўны і айчыма Мікалая Маркавіча Мяшкова набіраліся жыццёвай дужасці чацвёра малодшых братоў і сясцёр. Яму пашанцавала на айчыма: ён усяляк спрыяў Валодзю, ставіўся да яго як да роднага сына, а ўдзячны пасынак адказваў яму ўсё жыццё любоўю і павагай.

Заўчасна асірацеламу Валодзю не давялося пабачыцца з бацькам, пагушкацца на яго руках. Іван Савіч, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, трагічна загінуў у былой Усходняй Прусіі якраз у той год, калі нарадзіўся сын. У 1946-ы. Бацька не ўбачыў сына, а сын убачыў бацьку, падросшы, на фотаздымках, што захаваліся ў маці. Шчымлівы боль страты роднага чалавека не пакідаў паэта да апошніх дзён, стаў лейтматывам яго ранніх і пазнейшых вершаў: «Хлапчукі», «Ты помніш, маці...», «Старэнькая хатка...» Чытаеш іх і да слёз верыш у шчырае сыноўняе прызнанне паэта:

Бацьку б убачыць свайго
Хоць аднойчы.
Каб пабач.
Жывога.
На ўласныя вочы.
Хоць праўду адрозніць
Магу ад няпраўды,
А цяжка,
Хоць плач,
Без бацькоўскай парады.





Пасля ўніверсітэта Уладзімір Дзюба нейкі час працаваў настаўнікам на роднай Будакашалёўшчыне. Потым была служба ў арміі, адкуль зноў вярнуўся бліжэй да сваёй хаты. Спачатку працаваў у Веткаўскай раённай газеце, а крышку пазней — на Гомельскай студыі тэлебачання і ў рэдакцыі газеты «Гомельская праўда». Нягледзячы на тое, што ў паэта-журналіста шмат часу забірала звычайная рэдакцыйная будзёншчына, яму ўдалося напісаць нямала адметных змястоўных твораў: каля дзясятка лірычных рэпартажаў, важкую вязанку вершаў, прасякнутых шчырай любоўю да роднай зямлі, увагай да лёсаў людскіх («Святлее ў полі баразна...», «Матруна», «Мы ў кааперацыю ішлі», «Швачкі», «Вёска Кусні», «Асушылі балота...», «Крылы», «Мой горад», «Вясковая ідылія», «Ульяна Фёдараўна...»), вянок санетаў «Выток». Надрукаваны ў часопісе «Маладосць», гэты вянок санетаў быў прызнаны лепшым паэтычным творам года і адзначаны рэдакцыйнай прэміяй. Ён жа стаў асновай першага зборніка Уладзіміра Дзюбы «Вуліцы без назваў», які выйшаў у 1972 годзе.

Кніжку заўважылі. У прыватнасці, наш прызнаны крытык і літаратуразнаўца Уладзімір Гніламёдаў, робячы агляд маладой беларускай паэзіі, у сваіх нататках «Яны прыходзяць самі...» выказаўся так: «Цікавая з'ява ў нашай сучаснай маладой паэзіі — вянок санетаў Уладзіміра Дзюбы пад назвай "Выток", змешчаны ў яго першай кніжцы "Вуліцы без назваў". Сімпатычна ўжо тое, што аўтар шукае паэзію ў справах і думках сваіх сучаснікаў, у працоўных буднях рэспублікі. У старажытнай форме санетаў ён расказаў пра такую сучасную падзею, якой з'яўляецца адкрыццё нафты ў Беларусі…»

Надзвычай напружаным і ў той жа час плённым выдаўся мінскі перыяд жыцця і творчасці Уладзіміра Дзюбы. Недзе за дваццаць гадоў адпрацаваў ён на Беларускім радыё. Спачатку ў той жа рэдакцыі, у тым жа самым пакоі, дзе калісьці адбылася наша першая сустрэча, а затым — у літаратурна-драматычнай рэдакцыі. Хто працаваў на радыё, добра ведае, які ён, радыйны хлеб: болей за тысячу перадач — нарысаў, радыёкампазіцый, інсцэніровак па творах беларускіх і замежных аўтараў, гутарак перад мікрафонам з творцамі літаратуры і мастацтва, рэпартажаў з пасяджэнняў раённых і абласных літаб'яднанняў, шматлікіх інтэрв'ю — прайшло праз сэрца і рукі паэта. І, як і ў паэзіі, ён імкнуўся быць самім сабою, арыгінальным. Рабіў усё з душою, вынаходліва, прыдумваючы самыя нечаканыя сюжэты і формы падачы літаратурных матэрыялаў, каб іх цікава было слухаць, каб яны не пакідалі раўнадушнымі аўдыторыю. Слухаючы яго радыёперадачы, мабыць, мала хто здагадваўся, колькі сіл адбіралі яны ў яго, колькі вершаваных радкоў недалічылася яна, прасветленая шчырасцю пачуцця, прачула-ўдумлівая лірыка паэта.

Аднак менавіта ў гэты перыяд адбываецца круты паварот у творчасці майго сябра: ён пераключаецца на драматургію. І пачаў, як ужо вялося за ім раней, без аглядкі, бадай з самага цяжкага — напісаў вершаваную драму «Доктар Русель» — пра жыццёвую адысею ўраджэнца Магілёўшчыны, вядомага рэвалюцыянера-народніка, першага прэзідэнта Гавайскіх астравоў Мікалая Судзілоўскага. Гэта кніга стала знакавай у творчасці Уладзіміра Дзюбы. І не толькі таму, што добра «далася ў знакі», пакуль убачыла свет у выдавецтве «Мастацкая літаратура», але і таму, што з яе выхадам ён яшчэ больш паверыў у свае творчыя магчымасці, у свае сілы, што яго твор яшчэ ў рукапісе быў заўважаны мэтрамі нашай літаратуры Янкам Брылём і Анатолем Вялюгіным. Заўважаны і падтрыманы. Добра патузаўшы аўтара сваімі прыдзірлівымі заўвагамі і слушнымі падказкамі, Анатоль Сцяпанавіч не пасаромеўся потым на тытульнай старонцы рукапісу напісаць уласнаручна: «Літаратурны рэдактар Анатоль Вялюгін».

Можна было толькі здзіўляцца, а сябрам — і радавацца той незвычайнай апантанасці, настойлівасці і захопленасці, з якімі з дня ў дзень, з году ў год нястомна працаваў над сваімі творамі аўтар. Не проста пісаў, а працаваў, бо перш чым узяцца за каторы з іх, патрэбна было «пералапаціць» груды адпаведнай літаратуры, акунуцца ў тую эпоху, у той час, у якім жылі і дзейнічалі яго героі, да драбніц вывучыць іх радаслоўныя, удумліва-псіхалагічна асэнсаваць іх паводзіны і ўчынкі, тыя падзеі і рэаліі, што спадарожнічалі ў жыцці, паспрыялі выбару свайго месца ў ім, сталі лёсавызначальнымі. Каб усё напісанае было не плодам адной аўтарскай фантазіі, а гістарычнай і жыццёвай праўдай, творам, які б адпавядаў у значнай меры патрабаванням належнага літаратурнага майстэрства.

Шкада, што не ўсе гэтыя творы былі надрукаваны, а змаглі дайсці да нас, «загучаць» (і то для людзей майго веку!) толькі ў версіях радыёспектакляў, якія не возьмеш у фанатэцы і не паслухаеш, калі табе захочацца, тым болей — не прачытаеш. Ды і такой у нечым прывіднай магчымасці ўжо не стала: па чыймсьці патрабаванні «зверху» многія радыёфанатэчныя скарбы былі падвергнуты жорсткаму тэхнічнаму і ідэалагічнаму перагляду і бяздумна забракаваны, беззваротна знішчаны. Не ўпэўнены, што радыёп'есам Уладзіміра Дзюбы пашанцавала «застацца ў жывых».

Па сваім характары і душэўнай апантанасці Валодзя быў аптымістам-жыццялюбам. Яго вочы і твар пры гаворцы заўсёды свяціліся вясёлай прыязнай усмешкай, выклікаючы давер і шчырасць. Яны не выказвалі асаблівага засмучэння, лагодна ўсміхаліся і тады, калі ён, заядлы шахматыст, бывала, прызнаваў сябе пераможаным, цярпеў паразу ў баталіі за шахматнай дошкай, чаго нельга было сказаць пра яго не менш майстравітых сапернікаў Васіля Макарэвіча ці Міколу Базарэвіча, з якімі часцей за ўсё «скрыжоўваў шпагі» на шахматным полі ў час абедзеннага перапынку ці застаючыся ў рэдакцыі пасля работы, — «прамаргаўшы» нейкі ўдалы ход, хлопцы панурыліся, нярэдка гарачыліся, злавалі, нервова тузаліся, што яшчэ больш падагравала іх саміх, а Валодзю і выпадковых «балельшчыкаў» (сам, здаралася, быў сярод іх) толькі стрымана весяліла. Стрымана, каб хлопцы, крый Божа, не пакрыўдзіліся ды зноў залішне не ўспылілі.

Як памятаю, ніводнае сяброўскае застолле не абыходзілася без «канцэртаў па заяўках» майго сябра (дзеля гэтага і дома і ў гасцях заўсёды трымаў пад рукою, насіў з сабою ў кішэні розныя зборнічкі песень), без яго каронннага нумара «праграмы» — раскаціста-барытоннага «Живёт моя отрада…», якім часта «заводзіў» усю кампанію, нават тых з нас, хто, здавалася б, быў глухаваты да спеваў, збіраўся адмоўчацца ў застоллі, пасядзець толькі ў ролі слухача. Заставаўся такім, бадзёра-зухаватым, нават тады, калі раптоўная немач здрадліва пазбавіла мажлівасці вольна чуцца і хадзіць, як раней, прымусіла прызвычайвацца да мыліцаў, узяла яго, няўрымсніка-няўседу, у нязвыклы кватэрны палон, абмежаваўшы сустрэчы з людзьмі, выезды на лецішча, дзе ён, па-сялянску гаспадарліва і ўвішна, на дачных сотках паспеў пабудавацца, пасадзіць сад і разжыцца на новых сяброў-суседзяў, заўсёды мог у ахвотку паклапатаць на градах, душою адпачыць ад гарадской мітусні, парадавацца цішыні і хараству вясновых і летніх вечароў, а восенню — сціпламу, але здабытаму сваёю працай, ураджаю. І, вядома ж, новым радкам і задумам, што завіталі да яго ў гэтым куточку роднай зямлі.

Было ў яго яшчэ адно «захапленне»: любіў хадзіць пехатой. Як сам прызнаваўся: у час хадзьбы хораша думалася і разважалася, нават гарадскі асфальт вясковым гасцінцам здаваўся, а таполі і клёны наўзбоч — прыдарожнымі прысадамі. А ў апошнія гады жыцця, быццам прадчуваючы немінучую бяду, часта давяраўся не рэйсаваму аўтобусу, а свайму «адзінаццатаму нумару», крокамі адмяраючы вёрсты з Масюкоўшчыны, дзе жыў, да Дома радыё, а пазней — і да рэдакцыі «Краязнаўчай газеты», у якой таксама давялося працаваць, сышоўшы сюды пасля радыйнай «перабудовы». Падсмейваўся: «Затое на дыету садзіцца не трэба, каб лішнюю вагу скінуць, хоць халера на яго, пратэпаўшы столькі, апетыт не прападае, есці яшчэ больш хочацца».

Ён пайшоў з жыцця, пакінуўшы змястоўную спадчыну, лепшыя і шчырыя ўспаміны пра яго. А ў мяне асабіста — дык і штосьці больш адчувальнае, па-свойму настальгічнае і кранальнае. Зноў дастаю з-за шкла кніжнай паліцы, з пачуццём нейкага патаемнага ўзрушэння бяру ў рукі светла-шэры «томік» блакнота-алфавітніка. Здавалася б, звычайнага з выгляду, але такога ў нашы дні, напэўна, ужо і днём з агнём не знойдзеш. Чаму? Бо ў іх было сваё прызначэнне. Што ён, гэты блакнот, таксама мае сваё, адпаведнае прызначэнне, яскрава падказвае выява палічкі з кнігамі на яго тытульнай старонцы, падмацаваная словамі — «Моя библиотека». Крышку ніжэй, ужо наўскос, рукою Валодзі Дзюбы зроблены жартаўлівы дарчы подпіс: «Міколу Чарняўскаму з пажаданнем шчасця і добрай жонкі ў час яго 25-годдзя». Забягаючы наперад, скажу: яго словы з пажаданнямі «добрай жонкі» праз нейкі час як хто Богу ў вушы ўклаў...

Помніцца, я і за гэты сціплы студэнцкі падарунак быў шчыра ўдзячны земляку, бо ён падарыў блакнот, ведаючы, што я няроўна дыхаў да кніг, збіраў сваю бібліятэку і ўжо меў сякі-такі «кніжны фонд», якому патрабавалася неабходная ў такіх выпадках «інвентарызацыя». Сам я, падумаўшы, наўрад ці даўмеўся б прыдбаць такую рэч, заняцца перапісам кніжнага насельніцтва. Прызнаюся, я так і не зрабіў гэтага, чамусьці цярпення не хапіла. Але, каб не асабліва спадзявацца на памяць, у гэты «кандуіт» пачаў тады занатоўваць прозвішчы чытачоў сваёй бібліятэкі. Часцей — сяброў, знаёмых, суседзяў...

Адгортваю старонку на літару «Д». Яна самая запоўненая і скрэсленая мною. Дзе ручкай, дзе алоўкам. І значыцца, як ні дзіўна, толькі адно прозвішча — Дзюба. А браў ён у мяне тамы С. Бабаеўскага, Л. Касіля, О. Уайльда, Д. Голсуарсі, фантаста Яфрэмава, зборнікі «Замежны дэтэктыў», «О Достоевском», «Разговор с Гёте», «Декабристы». Як можна здагадвацца, яму гэтыя кнігі былі для нечага патрэбны. Не залікі ж ці экзамены здаваць, а, мабыць, штосьці знаходзіць у іх для напісання сваіх гістарычна-дакументальных твораў, якія з'явіліся ў задумах неўзабаве, жанрава ўзбагаціўшы яго творчасць.

Ці думаў ён спачатку, што стане самым актыўным чытачом маёй бібліятэкі? Ці думаў я сам, што Валодзеў падарунак праз дзесяцігоддзі не згубіцца, не раскідаецца па лістках, а перажыве яго і, чаго ўжо там таіцца, напэўна, і цяперашняга ўладальніка гэтай рэліквіі — незвычайнага сведкі нашага зямляцтва і шчырага сяброўства?..

А вяселле? Праўда, не ў слаўтай камедыйнай Малінаўцы (хоць і такая вёска ёсць у Буда-Кашалёўскім раёне), а ў Патапаўцы? Як не ўспомніць Валодзеву жаніцьбу? Ажаніўся ж ён — у параўнанні са мной — рана, не дачакаўшыся заканчэння вучобы ў БДУ. На пятым курсе. Паспяшаўся, бо, мусіць жа, баяўся, каб ніхто з патапаўскіх ці будакашалёўскіх хлопцаў не апярэдзілі і раней за яго не завалодалі сэрцам вясковай гарэзніцы Надзі, не павялі да шлюбу. Ці ж не яна снілася яму начамі ў студэнцкім інтэрнаце, прымушала ў святочныя дні хутчэй імчаць у вёску, каб дома сустрэцца з роднымі і... з ёю?

Распісаўся з Надзяй улетку, перад ад'ездам са студэнцкім будаўнічым атрадам на цаліну. Вяселле зладзілася ўжо ўвосень, у кастрычніку, пакуль яшчэ не падсыпала турбот і неспакою экзаменацыйная сесія.

Той дзень выдаўся на дзіва сонечным і не па-восеньскаму цёплым. Студэнцкі вясельны дэсант, які высадзіўся ў Патапаўцы, узначальваў тады Валодзеў аднакурснік і сусед па пакоі Генрых Далідовіч — такі ж пачатковец, як і ён сам. Але — празаік. Хто яго сёння не ведае? Я ж дабіраўся аднаасобна, з бацькавай хаты, куды прыехаў быў на дзень раней — узяў камандзіроўку ў рэдакцыі сваёй «Бярозкі». Пад абед сышоўшы з цягніка, з роспытамі адшукаў дворышча Валодзевых бацькоў, дзе ўжо здаля адчувалася дыханне вяселля: даносілася музыка, да двара па адным, па два, а то і купкамі сцякаліся госці. Паспяшаўся і я...

Яшчэ да збораў на вяселле мною раптам апанавала думка — пабачыцца нарэшце з бацькавай сястрой, цёткай Лісаветай, якая жыла ў Патапаўцы, адкуль, хоць і рэдка, ды на святы прыязджала да нас у госці. Нагода ж надарылася — лепш не прыдумаеш. Так думалася тады. Адно трошкі трывожыла: ці ўдасца адшукаць яе ў такой вялікай вёсцы, што расцягнулася ўздоўж чыгункі ажно на два прыпынкі прыгараднага цягніка «Гомель—Жлобін»? Я ж ні разу не быў у яе ў гасцях, не ведаю нават, дзе хата стаіць, на якой вуліцы. Але ж вёска не горад, няўжо не знайду?..

Схадзіць да цёткі ў госці я вырашыў ужо надвячоркам, пасля застолля і скокаў у вясковым клубе. Каб не гаркава-пякучы падмацунак мясцовай вытворчасці, які папярэднічаў гэтаму рашэнню і даволі моцна падагрэў яго, дык наўрад ці адважыўся б я на такую авантуру — шукаць радню ў незнаёмай мне Патапаўцы на ноч глядзячы. Кажуць, язык да Кіева давядзе. Але, як аказалася, не ў маім выпадку. Вядомая ісціна чамусьці зусім не спрацавала. Тыя, хто жыў бліжэй да Дзюбавых бацькоў, не маглі нічога канкрэтнага падказаць, нават перапытвалі: «Гэта якая Лісавета?» Мая няўпэўненая наводка, што яе хата стаіць каля саменькага лесу, як мне бацька казаў, таксама павісала ў паветры, не магла вывесці на патрэбны след, бо Патапаўцы пашанцавала: лес абступаў яе з трох бакоў і дзе знаходзіцца цётчына хата — хто яго ведае. Адны паказвалі: «Можа, там». Другія: «Напэўна, там». Хаджу, куды паказваюць. А тут ужо і сцямнела зусім: пара ж асенняя, змрок рана гусцее. Нахадзіўшыся туды-сюды, стаў на нейкай вуліцы, азіраюся бездапаможна, прыслухоўваюся. Але ж ні музыкі вясельнай не чуваць, ні душы на апусцелай вуліцы. У каго спытаць, як ужо не да цёткі, а да Дзюбавай хаты, да вяселля дабрацца? У прыціхлыя дамы стукацца, ратунку прасіць? Адчуваю, і холад прабірае пачаў: я ж у адным толькі

пінжачку, разгарачаны скокамі ў клубе, выбраўся ў свой пошук-вандроўку. А на вуліцы ўжо цёмна-цёмна стала, да таго ж туман апусціўся, хоць рукамі яго разграбай, каб нешта ўбачыць. Той хмель, што спачатку весяліў, цяплом па жылах расцякаўся, непрыкметна некуды выветрыўся. Нейкі незразумелы страх пачаў падкрадвацца, кошкаю шкрэбаць на душы. І сорам: трэба ж, у чужых людзях лішняга клопату і пярэпалаху нарабіў. Відаць, там усё вяселле ўжо на вушы паставіў, галаву ламаюць, дзе госця шукаць? А дзе шукаць мяне па такой цемрадзі? Крычаць, прасіць ратунку? Эт, думаю, сяду на ганку ў каго, пачакаю, пакуль развіднее трохі. Знойдуць дык знойдуць, а не знойдуць — можа, неяк пераб'юся, не дам сабе змерзнуць да рання... Усё ж мяне знайшлі. Ужо недзе апоўначы ўбачыў я, як мільганула ў цемрыве святло ліхтарыка і пачуліся галасы маіх выратавальнікаў — мінскіх хлопцаў і дзяўчат. Што з імі быў Валодзя, пераканаўся адразу, па голасе здаля: «Мікола, дзе ты?»

Неўзабаве я зноў апынуўся за сталом, а Мікалай Маркавіч, Валодзеў айчым, пастараўся, каб хутчэй вярнуць госцю вясельны настрой, прыглушыць дрыжыкі, што не-не ды злёгку трэслі мяне... Затое спалася не так, як у гасцях. А з прыходам новага дня зноў гаманіла застолле, госці віншавалі маладых, жадалі ім шчасця ды сямейнай згоды, колькі кропель у шклянцы — столькі здаровых ды галасістых дзетак, стараліся музыканты. Шчаслівa ўсміхаўся пад выкрыкі «Горка!» Валодзя, з кожным разам пяшчотна абдымаючы і закахана гледзячы ў вочы сваёй абранніцы Надзі. І гэтай пяшчоты, закаханасці і любасці хапіла ў іх на ўсе сорак гадоў сямейнага жыцця. Выгадавалі і вывучылі на здатнага ўрача дачку Алёнку. Аднак лёс вырашыў так, што і прысутнасць свайго доктара ў доме, усе старанні дачкі, не змаглі ўратаваць сям'ю ад заўчаснай незваротнай страты роднага ім чалавека, а нам, нашай літаратуры — шчырага і добразычлівага сябра-таварыша, удумлівага майстра пяра...

Стоячы ў той скупаваты на сонца верасвнёўскі дзень на пагосце побліз вёскі Анусіна, дзе Валодзя пажадаў знайсці апошні прытулак, я ніяк не мог змірыцца з думкаю, што юбілейны творчы партрэт двухгадовай даўнасці, напісаны мною да 60-годдзя сябра-земляка, быў развітальным, што давядзецца мне «сплятаць» гэты вяночак трыялетаў, каб, як тыя кветкі, ускласці на жвірысты пагорак нашай добрай памяці аб ім...

***

Жыў надзеяй, жартаваў, смяяўся,
Гонячы ад сэрца прэч тугу.
З келіхам, а то й праз не магу —
Жыў надзеяй, жартаваў, смяяўся.

Скутаны бядой, на ланцугу,
Ды ў палон да мыліц не здаваўся.
Жыў надзеяй, жартаваў, смяяўся.
Гонячы ад сэрца прэч тугу.

***

Сон кароткі твой — стаў вечным сном,
Дом зямны — раптоўна стаў нябесным,
Быццам гэты быў няўтульны, цесны,
Сон кароткі твой — стаў вечным сном.

У журбе рабіны за акном,
Неба ў смутку жураўлінай песні.
Сон кароткі твой — стаў вечным сном,
Дом зямны — раптоўна стаў нябесным.

***

Парадзеў патапаўскі лясок,
Дзе дубы спакон раскашавалі,
Дзе зязюлі ім гады кувалі —
Парадзеў патапаўскі лясок.

Наступ лёсу — як сякер наскок,
І зязюлі іх не ўратавалі.
Парадзеў патапаўскі лясок,
Дзе дубы спакон раскашавалі.

***

Жменька жвіру — смутку валунок —
Стукнула ў труну: «Бывай, Валодзя...»
Гай на ўзгорку ў ранняй пазалоце.
Жменька жвіру — смутку валунок.

Што чакае там — святло ці змрок,
Як душа куток-прыстанак знойдзе?
Жменька жвіру — смутку валунок —
Стукнула ў труну: «Бывай, Валодзя...»



# Што час нам прынясе?

**Творчасць маладых пісьменнікаў у блізкім замежжы... Напрыклад, на постсавецкай прасторы. Што адбываецца ў літаратуры, якую ствараюць пісьменнікі ва ўзросце да 30—35 гадоў? Мы паспрабавалі пагутарыць на гэтую тэму з пісьменнікамі, перакладчыкамі, літаратуразнаўцамі з Туркменістана, Таджыкістана, Азербайджана і Казахстана. У доктара філалагічных навук з Казахстана Алімжана Хамраева запыталіся і пра развіццё ўйгурскай нацыянальнай літаратуры, паколькі ў Казахстане вялікі атрад пісьменнікаў піша і на ўйгурскай мове. Пытанні ад «Маладосці» ўсім суразмоўцам былі аднолькавыя: 1. Ці заўважны ў вашай нацыянальнай літаратуры яркія імёны маладых паэтаў і празаікаў — да 35 гадоў? 2. Сучасная літаратурная моладзь у вашай краіне да чаго больш цягнецца — да эксперыментаў, розных авангардысцкіх цячэнняў, праяў альбо памятае пра традыцыі? 3. Ваша галоўная парада маладым пісьменнікам?**
**І вось што пачулі ў адказ...**

*Максат Бяшымаў, адказны сакратар часопіса «Дунья эдебияты» («Сусветная літаратура»), празаік, перакладчык (Туркменістан):*

— Сярод маладых аўтараў у сучаснай туркменскай літаратуры болей заўважныя імёны паэтаў і паэтэс, чым празаікаў. Гістарычна так склалася, што менавіта ўзбіраючыся на Парнас, туркменскія пісьменнікі дасягалі найбольшых вышынь. Творчасць Маланепеса, Махтумкулі, Кемінэ, Курбаназара Эззізава, Керыма Курбанняпесава, Бердыназара Худайназарава і іншых класікаў літаральна прымушаюць новыя таленты працягваць іх паэтычную традыцыю.

Арэнай для публікацый з'яўляецца газета «Несил». Шмат моладзі друкуецца ў адмысловых рубрыках газеты «Эдебият ве сунгат» і часопіса «Гарагум».

Апошнім часам вялікую работу па выяўленні новых імёнаў праводзіць і рэдакцыя газеты «Эсгер», якая аб'яднала вакол сябе некалькі цікавых аўтараў, сярод якіх паэтэсы Лачын Пюрджаева, Айгюль Гараева і Гюльшырын Ханава.

Асабіста мне імпануюць творы Л. Пюрджаевай. Моўныя эксперыменты і фалькорная абагульненасць надаюць яе паэзіі на дзіва своеасаблівую навізну. Найбольшай папулярнасцю карыстаюцца паэты Какамурат Рэджэпаў і Сейітмурад Гелдыеў. У творчасці апошняга раней адчуваўся ўплыў вершаў К. Курбанняпесава. С. Гельдыеў імкнуўся да «народнасці», часта выкарыстоўваў простую мову, пісаў сюжэтныя вершы. Але апошнім часам стараецца знайсці свой уласны голас. Яго лірыка ўзбагачаецца цікавымі метафарамі і пошукамі новых формаў выкладання.

Какамурата Рэджэпава можна назваць старэйшым з маладых пісьменнікаў і маладым сярод старэйшых. Яму 30 гадоў, але ён паспеў ужо папрацаваць галоўным рэдактарам газеты «Несил», дзе шмат хто з пачаткоўцаў лічылі яго сваім настаўнікам. Зараз з'яўляецца галоўным рэдактарам газеты «Туркменистан». Яго творчасць адрозніваецца самабытным і свежым светапоглядам. Лірыка паядноўвае напеўнасць з маляўнічасцю. З другіх вядомых мне аўтараў магу асобна вылучыць імёны Акнур Разыевай, Энвера Нызамава, Мукама Мухамава.

На жаль, — і гэта выключна маё асабістае меркаванне, — большасць нашай моладзі не толькі не цягнецца да авангардных эксперыментаў, а я нават сказаў бы, што зацыклілася на рэалістычным і рамантычным складніках. У многіх творах прысутнічае сентыментальны пафас, і гэта не толькі ў паэзіі, але і ў прозе. Зразумела, ёсць рэдкія выключэнні.

Напрыклад, проза маладога пісьменніка Эзіза Акаева хоць і не дасягнула вялікай папулярнасці, ды і не так часта яго творы сустрэнеш у перыёдыцы, але ўсё ж свет яго апавяданняў, у якіх у будзённы, ідэалістычны ўклад жыцця раптоўна ўмешваецца кафкіянская сіла, не пакіне раўнадушным дасведчаных чытачоў.

Паэтычныя эксперыменты вышэйзгаданай Л. Пюрджаевай таксама можна назваць цягай да постмадэрнізму, але з незвычайным ухілам да народнай творчасці. У асобных вершах яна імкнецца вярнуць да жыцця паэзію ў ключы рэчытатываў са старажытнага туркменскага эпасу «Кніга майго дзеда Каркута». І пры гэтым аўтар імкнецца асвяжыць твор новымі сродкамі выкладання. У выніку атрымліваецца дзіўны сінтэз фальклору з авангардызмам.

Падобныя эксперыменты сустракаюцца і ў вершах Айгюль Гараевай. Асабліва цікава назіраць у яе вершах за тым, як яна ўмела захоўвае паліфанію паміж гучаннем слова і зместам твора. Я маю на ўвазе тое, што ва ўмоўным творы, вершы вам абавязкова будзе чутны грукат капытоў ці фырканне, хоць гэта і не апісваецца там напрамую...

Хутчэй за ўсё, недахоп авангардных цячэнняў у туркменскай літаратуры можна патлумачыць капрызамі чытачоў і ўласцівай усім жыхарам Усходу адданасцю традыцыям. Не шмат хто можа ўспрыняць алагізм мыслення самабытнага творцы. І так справы складваюцца не толькі ў літаратуры, але, між іншым, і ў музыцы, кіно, жывапісе, іншых відах мастацтва.

Патэнцыйны «туркменскі Кафка» ці «туркменскі Джойс» ці нават «туркменскі Хемінгуэй» не можа пазбавіцца ад страху быць не зразуметым, баіцца, што да яго паставяцца з недаверам, а то і ўвогуле не звернуць увагі. І тут я вымушаны канстатаваць, што баязлівасць не пазбаўлена асновы.

А можа яно і да лепшага?.. Не рызыкуем мы ў такім разе атрымаць «філалогію» замест прозы пры наяўнасці эксперыментальных вопытаў? Не ператворыцца часам літаратура ў звычайныя моўныя практыкаванні ці бясконцую «гульню ў класікі»?

Можа быць, усё ж такі не будзем прымушаць пакутаваць Уліса і дазволім яму лепей добра дабрацца дахаты, у Ітаку, да жонкі і сына? Але, з другога боку, усё ж такі цікава было б пахадзіць з ім у Дубліне... Словам, гэтае пытанне адкрытае і ўсё яшчэ актуальнае.

Я яшчэ не дарос да таго, каб даваць парады, але з неўласцівым мне нахабствам выкарыстаю момант для таго, каб выказаць свае пажаданні ў якасці чытача: хочацца, каб маладыя пісьменнікі сталі смелымі і болей дзёрзкімі, не баяліся эксперыментаў і болей чыталі. Насуперак парадам, якія часта паўтараюць старэйшыя калегі па цэху, варта сачыць за сучаснай літаратурай, звяртаць увагу на новыя пакаленні пісьменнікаў (тут я кідаю пагляд у бок вядомых аўтараў), хоць бы дзеля таго, каб помніць, што вы сыдзеце, і прыйдуць яны, ды зоймуць вашы месцы.

Можа быць, грозна і пафасна гэта гучыць, але галоўнае — дзёрзка!



*Бахром Рахматаў, літаратуразнаўца, паэт, перакладчык (Таджыкістан):*

— Калі па праўдзе сказаць, то яшчэ не бачыў, не сустракаў выдатных маладых паэтаў і празаікаў. Але вынаходлівасцю ў нас, у Таджыкістане, адрозніваюцца такія паэты, як Рустам Ачамі, Таліб Лукмон, Шабегмі, Мухрыддзін Сабуры, Бузургмехры Фірдаусі Азам і зусім юны, школьнік яшчэ Бузурмегры Хакім. А з прозай у нас сітуацыя шмат іншая. У нас мала тых, хто сур'ёзна займаецца прозай. Хіба што Адзіл Назіры, Усмон Башыры. Нашы маладыя паэты, такія, як Талібі Лукмон, таксама схільныя пісаць прозу. І ўжо некаторыя іх празаічныя творы вядомыя чытачу. Некаторыя са згаданых паэтаў схільныя да новых плыняў сучаснай літаратуры, пішуць белым вершам. Практыкуюцца ў іншых кірунках. Але большая частка літаратурнай моладзі помніць пра традыцыі. Не, гэта не сляпое капіраванне. Яны свядома ідуць традыцыйнымі шляхамі, але набываюць і свой вопыт, сваю мастацкую адукацыю.

Раю ўсім паболей чытаць нацыянальнай і сусветнай класікі. Дарога наперад патрабуе вялікай вучобы. Навізну трэба сумяшчаць з засваеннем вопыту класікаў. Трымаючы на ўзбраенні нацыянальныя мастацкія ідэі, трэба кіравацца любоўю да ўсяго чалавецтва.







*Алімжан Хамраеў, доктар філалагічных навук, літаратуразнаўца (Казахстан):*

— Уражвае размах зробленага маладымі прадстаўнікамі сучаснай казахскай літаратуры. Творчая іх праца выяўляе самыя сур'ёзныя здабыткі. Своеасаблівы палёт у паэзіі, шматбаковасць і шматграннасць Ерлана Жуніса, Тактаралі Танжарыка, Даўлетбека Байтурсынулы, Серыкбала Хасана, Асылбека Жанбырбая, Жаната Жанкашулы і многіх іншых маладых казахскіх пісьменнікаў уражваюць. Іх творы дазваляюць глыбока зазірнуць у адмысловы творчы свет, свет шуканняў і знаходак. Яны, гэтая літаратурная моладзь, пачалі аказваць істотныя ўплывы на казахскіх чытачоў і грамадства ў цэлым.

У сённяшняй уйгурскай літаратуры Казахстана маладых паэтаў і празаікаў вельмі і вельмі мала. Відаць, магу назваць толькі Шаірам Баратаву і Вільяма Молатава. Маладыя ўйгурскія паэты, такія, як Адзілжан Азнібакыеў, Малутжан Тахтахунаў, Зульфія Абдулаева і іншыя аказаліся ў вузкіх творчых рамках. Стымулу для іх таксама няма. Мы перажываем сумную змену пакаленняў у плане пераемнасці ў развіцці ўйгурскай нацыянальнай літаратуры. Уся праблема заключаецца ў тым, што ў рынкавую эпоху сістэматычная падтрымка мастацтва слова ў грамадстве зусім аслабела. Да таго ж літаратурная дзейнасць у савецкую і постсавецкую эпоху эвалюцыяніруе па законах пісьменніцкай іерархіі. Кар'ерны прафесіяналізм стаў пэўнай нормай. Ад нейкіх устойлівых канонаў і стэрэатыпаў у пісьменніцкім асяродку сталі залежаць узровень, адзнакі паэзіі. Малады пісьменнік павінен прайсці абавязкова нейкі шлях, калі хоча, кар'ернага росту, нават калі ён напісаў, стварыў адразу моцны твор, нават калі ён мае асаблівы талент. Я думаю, што гэта яшчэ атавізм, звязаны з прадуктыўнай дзейнасцю такога афіцыйнага органа, як Саюз пісьменнікаў — асаблівага, адметнага феномена савецкай і постсавецкай эпохі. Ад гэта ідзе разуменне вартасцяў (ці псеўдавартасцяў?!) пісьменніцкай іерархіі як складніка творчага росту. І колькі там было кан'юнктуры ў савецкім часе!.. Дык навошта нешта браць, пераносіць у нашы дні, у заўтра. Усе гэтыя пратэкцыянісцкія справы — якая ім цана ў базарны дзень?!. Арыенцір на такую нудоту, на такі падман зніжае і зніжаў планку літаратурна-мастацкай крытыкі... Мо хіба толькі выхоўваў мужных творцаў і мужных літаратурных крытыкаў... Барацьба за ўзнагароды наўрад ці мела якое дачыненне да сапраўднай творчасці, сапраўднай літаратуры. Губляліся правільныя сацыяльна-эстэтычныя арыенціры. Здаралася так, што адзін і той самы крытык мог падысці да твора па-рознаму. Нейкая такая бінарная крытыка. Ці не так?

І сучасная крытыка следам у многім падначальваецца сацыяльнаму заказу. Пазірае на іерархію, на, так бы мовіць, пісьменніцкія аўтарытэты. У такіх умовах сапраўдныя творы, сапраўдныя здабыткі застаюцца ў цені.

У перыяд дзяржаўнай незалежнасці маладыя казахскія паэты і празаікі аб'ектыўна сталі на шлях літаратурнага шматаблічча. У перыяд незалежнасці з'явіліся новыя архетыпы ў паэзіі. Сучасны літаратурны герой казахскага прыгожага пісьменства часцей думае аб умацаванні дзяржаўных і грамадскіх прыярытэтаў. Ён ставіць

І колькі там было кан'юктуры ў савецкім часе!.. Дык навошта нешта браць, пераносіць у нашы дні, у заўтра. Усе гэтыя пратэкцыянісцкія справы – якая ім цана ў базарны дзень?!.

дзяржаўныя інтарэсы вышэй асабістых. Раней гэты феномен фактычна адсутнічаў. Гэты працэс узвысіў жанр гістарычнага рамана ў від элітарнага мастацтва. У сувязі з палёгкай у пераадольванні ранейшых межаў і мытняў і пранікненнем шырокага ісламскага светапогляду, маладыя паэты садзейнічалі з'яўленню новай хвалі казахскай нацыянальнай паэзіі. У творах Ерлана Жуніса, Тактаралі Танжарыка, Даўлетбека Байтурсынула, Серыкбалі Хасана, Асылбека Жанбырбая, Жаната Жанкашулы яўна адчуваюцца рамантычныя і неамадэрнісцкія тэндэнцыі. Мы назіраем таксама імгненнае пранікненне неасуфійскіх і рэлігійных матываў у сучасную казахскую лірыку. На мой погляд, мадэрнісцкія памкненні сучасных казахскіх паэтаў і празаікаў у сувязі з пранікненнем літаратурных вопытаў Захаду паступальна ўплываюць на вектары развіцця казахскага прыгожага пісьменства. Ва ўйгурскім маладзёжным асяродку справы складваюцца іначай. Мы ўвайшлі ў эпоху творчага крызісу. У гэтым плане творчасць Шаірам Баратавай істотна адрозніваецца, вылучаецца з агульнага рада. Яна паслядоўна ідзе ў рэчышчы традыцыі ўйгурскага верша. Яна разам з тым і пераасэнсоўвае змест і форму класічнага рубаі. Паэтэса ўпэўнена ў тым, пераканана, што гэты жанр ва ўйгурскай паэзіі сябе не вычарпаў. Магчымасцяў у яго яшчэ шмат. Важна толькі ўнікнуць у іх, прачытаць, разгарнуць гэтыя магчымасці. У выніку мы назіраем, прачытваем адкрыцці маладой паэтэсы ў галіне рубаі.

На мой прыватны погляд, малады пісьменнік павінен самым сур'ёзным чынам адчуваць унутраны рытм свайго твора. Унутранае адчуванне паступова прывядзе яго да мастацкіх вышынь. Гэты працэс таксама дасць яму адчуць таўталогію ў сваім творы, даць магчымасць злавіць устойлівыя паўторы, якія з'яўляюцца своеасаблівым вірусам мастацкай творчасці. Малады пісьменнік абавязкова павінен ведаць таксама ранейшыя стылі і кірункі, мастацкія густы сваіх папярэднікаў. Менавіта ўсё гэта і ёсць крыніца, што сілкуе развіццё, насычае новым, дае падставы для росту. Арыгінальнасць любога паэта — метафара яго пачуццяў, палітра яго нястомных шуканняў. І важна пры гэтым адчуваць адзінства прасторы і часу. Так, міжкультурныя сутыкненні непазбежныя. І важна ў гэтых умовах кіравацца ідэямі і матывамі чалавекалюбства і міралюбства. Толькі гэта забяспечыць духоўную гармонію пісьменніка. Толькі гэта паспрыяе вырашэнню боскіх, справядлівых задач у пабудове і ўмацаванні светапогляду чытача. А іначай і не трэба займацца мастацкай літаратурай!..




*Святлана Ананьева, кандыдат філалагічных навук, літаратуразнаўца, загадчык аддзела міжнародных сувязяў Інстытута літаратуры і мастацтва імя М. Аўэзава (Казахстан):*

— Сучасная літаратура Казахстана багатая на таленты — Саят Камшыгер, Юрый Серабранскі, Есей Жэнісулы, Міхаіл Зямскоў, Нургалі Араз, Бейбіт Сарыбай, Ільля Адэгаў, Наталля Абдуваліева, Айгерым Тажы і іншыя.



Маладыя празаікі і паэты шмат эксперыментуюць з формай і зместам, ствараючы такім чынам новую мастацкую рэальнасць. Сюжэты іх твораў шчырыя і фантазійныя, казачныя і пазітыўныя. Проза маладых інтэлектуальная і захапляльная. Лірыка светлая і напалову празрыстая. Моцныя ў той самы час застаюцца грамадзянскія матывы, тэма любові да Айчыны. Вечныя і развагі пра паэта і паэзію. І жанр фэнтэзі суседнічае з рэалістычнымі аповедамі. Менавіта на стыку жанраў нараджаюцца цікавыя рэчы.

Я шчыра жадаю маладым аўтарам знайсці свайго чытача, роднасную душу. Няхай не будзе перашкод для іх паэтычнага слова, а межы прасторы паэтычнага свету і часу будуць рухомыя, дазваляць павялічваць чытацкую аўдыторыю як мага шырэй!



*Ірада Мусаева, літаратуразнаўца, доктар філасофіі па філалогіі (Азербайджан):*

— Зразумела, творчыя пошукі ў азербайджанскай літаратуры працягваюцца. У нас вельмі інтэлектуальная, творчая моладзь. Аднак аднаго гэтага фактару зусім не дастаткова для станаўлення. Неабходны творчы асяродак, адпаведная чытацкая аўдыторыя, наяўнасць магчымасцяў для творчасці (матэрыяльных, пэўны ўзровень забяспечанасці для маральна-

Можа быць, усё ж такі не будзем прымушаць пакутаваць Уліса і дазволім яму лепей добра дабрацца дахаты, у Ітаку, да жонкі і сына? Але, з другога боку, усё ж такі цікава было б пахадзіць з ім у Дубліне...

псіхалагічнага спакою і інш.). З-за фінансавых цяжкасцяў нашы таленавітыя маладыя аўтары вымушаны працаваць у жанры публіцыстыкі, раскідваючы свой талент дзеля ганарару і штодзённых сродкаў, пішуць інфармацыйныя матэрыялы, а ў выніку страчваюць сілы для мастацкай творчасці. У якасці прыкладу магу назваць імёны Шарыфа Агаяра, Акшына Енісея, Керамета Бёйкчуля, Джавіда Зейналы, Гюнель Маўлуда, Севіндж Эльсевер, Фарыда Гусейна, Мірмехці Ага аглу, Парвіза Джэбраіла і іншых маладых аўтараў, якія і не дабраліся да чаканага мной узроўню... Яны патрацілі свой дар, свой творчы патэнцыял у гэтых «калонках», у «кутках» друкаваных СМІ...

Савецкая ўлада загадала доўга жыць, і мы ўзрадаваліся галоснасці, свабодзе слова. Аднак ва ўмовах рынкавай эканомікі, якая замяніла яе, узнікла сітуацыя, калі сапраўды літаратурнаму і аб'ектыўнаму шчыраму слову проста не знаходзіцца месца. У «пераходны перыяд» цэлае пакаленне таленавітых паэтаў, сярод якіх Ільхам Гахраман, Гулу Агсес, Ніса Бейім, Салам Сарван і іншыя, аказалася ў віры падзей, якія не дазваляюць ім адкрыцца ў поўнай меры, знайсці прызнанне ў шырокіх колах. З другога боку, вайна... Безумоўна, наша літаратура развіваецца на аснове новых тэндэнцый і ўплываў. Мне дакладна невядомы ўзрост пералічаных вышэй аўтараў, але я далучаю іх якраз да таленавітай літаратурнай моладзі.

Сучасная літаратурная моладзь імкнецца спасцігнуць сутнасць мадэрнізму і постмадэрнізму, філасофію, тэарэтычна-эстэтычны характар гэтых плыняў. Яны імкнуцца крочыць за межы ўстойлівых традыцый, паколькі наспела неабходнасць усебаковага знаёмства з узорамі сусветнай літаратуры, неабходнасць маштабнага мыслення, глыбокіх разваг пра чалавечыя каштоўнасці, глабальныя паразы, упадак і

Бясконца выдаваць творы са скарачэннямі... Быццам дыханне скавала нашай літаратурнай моладзі, слова вартага яна не можа прамовіць. Сумны твор пра лёс страчанай моладзі яшчэ тым не меней не напісаны

цывілізацыйныя падыходы. Літаратура страціла ранейшую ідэалагічную функцыю, выйшла з-пад кантролю і дыктатуры савецкіх цэнзараў. Але яна, літаратура, рашуча крочыць у нагу з сусветным мастацкім працэсам, з сусветным эстэтычным, мадэрнісцкім мысленнем. Гэта ўсё ўласціва і азербайджанскай нацыянальнай літаратуры.

Ужо больш за стагоддзе як мадэрнізм, літаратурна-культурная плынь, ахапіў увесь свет. У нашым літаратуразнаўстве яшчэ толькі актуалізаваліся даследаванні тэорыі гэтага кірунку. У гэтым звязку друкуюцца серыі артыкулаў у нашай літаратурнай газеце, часопісах «Азербайджан», «Улдуз», а таксама размяшчаюцца нататкі на розных сайтах, прысвечаных азербайджанскай літаратуры. Мы ўсё яшчэ гаворым пра шмат якія літаратурныя плыні (сюррэалізм, неакласіцызм, натуралізм, сімвалізм, футурызм, дадаізм, экзістэнцыялізм, персаналізм, імпрэсіянізм, экспрэсіянізм), як пра некаторыя чужыя нам панацэі. У той час як у азербайджанскай культуры і літаратуры былі бліскучыя ўзоры гэтых літаратурна-эстэтычных кірункаў. Добрым прыкладам на тое з'яўляецца творчасць літаратараў пачатку XX стагоддзя — Гусейна Джавіда, Алітбека Гусейнзадэ, Джаліла Мамедкулізадэ і іх наступнікаў. А з 60-х гадоў мінулага стагоддзя філасофія і эстэтыка азербайджанскага мадэрнізму, які выявіў сябе ў розных творчых галінах, набыла сусветнае прызнанне. У музыцы гэта Гара Гараеў, Фікрэт Аміраў, Арыф Мелікаў, Джаўдат Гаджыеў, Ніязі, Вагіф Мустафазадэ, у выяўленчым мастацтве — Мікаіл Абдулаеў, Тагрул Нарыманбекаў, Таір Салахаў, Сатар Бахлулзадэ, Мірджавад Джавадаў і іншыя. Гэта былі мадэрністы, якіх напаткала сусветная слава... Разбуральныя падзеі 1990-х, трагедыя 20 студзеня, Карабахская вайна, паток бежанцаў і вымушаных перасяленцаў, якіх жыццё прымусіла жыць удалечыні ад роднага котлішча, — гэтыя трагедыі адлюстраваліся на ўсіх галінах, у тым ліку і на літаратуры, паўплываўшы на псіхалогію моладзі, затармазіўшы духоўна-інтэлектуальнае развіццё. Абнадзейвае тое, што сучасная моладзь ужо знаёмая з сутнасцю мадэрнізму, імкнецца прадставіць гэтую літаратурна-эстэтычную тэорыю на ўзроўні мастацкага твора... Ёсць жаданне ствараць сучасныя тэксты на ўзроўні сусветнай літаратуры, і гэта галоўнае...

Літаратурная моладзь вырасла ў сем'ях, грамадстве, якое бачыла Карабахскую паразу.
Яны — прадукт разбуранай сістэмы, прадукт пэўнай дэградацыі каштоўнасцяў, гісторыі.
Усё разбурана і разбіта ўшчэнт

Некаторы час назад я напісала артыкул «Тыя, хто не жадае пісаць пра страчанае дзяцінства». Маладыя аўтары, дзяцінства якіх супала з вайною, падлеткавы ўзрост прыпаў на пераходны перыяд, а юнацтва — на час «крызісу» і «дэвальвацыі», і самі не могуць прымірыцца з літаратурным лёсам, які выпаў на іх долю. Часта яны становяцца песімістамі. Рэальнасць такая, што немагчыма быць дзіцем паражэнняў і крызісаў, адначасова думаючы пра свабоду, і мець аптымістычныя адносіны да жыцця. Гаворачы пра свабоду, шчасце і бесклапотнасць, гэтыя людзі нагадваюць тых, хто залез у чужое жыццё, людзей, якія зазіраюць у чужы двор праз плот. У сваіх творах яны ўвасабляюць перажытае, страчаную маладосць, забытае дзяцінства ва ўспамінах іншых людзей, што і выглядае яшчэ болей няшчыра і ненатуральна. Як у выніку: атрымалася, быць дзіцем паражэння — гэта цэментуе волю, спыняе творчае самавыяўленне чалавека, прыніжае асобу. Відаць, не кожны здольны зразумець боль закамплексаванага мыслення, творчасці, дзе шмат забарон і абмежаванняў. Бясконца выдаваць творы са скарачэннямі... Быццам дыханне скавала нашай літаратурнай моладзі, слова вартага яна не можа прамовіць. Сумны твор пра лёс страчанай моладзі яшчэ тым не меней не напісаны.





І літаратурная моладзь з яе вопытам сама з'яўляецца тэмай мастацтва. Але чаму нікога не хвалюе гэтая праблема?! Чаму мы закрываем вочы?! І пры гэтым распавядаем пра прыдуманыя лёсы, выдумляем герояў і падзеі?!

Літаратурная моладзь вырасла ў сем'ях, грамадстве, якое бачыла Карабахскую паразу. Яны — прадукт разбуранай сістэмы, прадукт пэўнай дэградацыі каштоўнасцяў, гісторыі. Усё разбурана і разбіта ўшчэнт. У гэтым грамадстве тых, хто прайграў, спазніўся, згубіўся і стаў пакорлівым, ім няма з кім падзяліцца сваім горам, іх кнігі гадамі маўклівыя ляжаць на паліцах кнігарняў... Хіба гэта не тужліва?!.

Гэта трагедыя страчанай моладзі. Не таму, што яны не могуць сфарміравацца і развіцца як індывіды, асобы, а таму, што нават з'яўляючыся героямі гэтай трагічнай сітуацыі, яны не могуць самавыяўляцца напоўніцу... На жаль, яны не ведаюць, што нашмат актуальнейшымі і цікавейшымі выглядаюць самі ў параўнанні са сваімі галоўнымі героямі. Раскажыце пра сябе — вось да чаго, да якіх памкненняў я заклікаю моладзь.

Неяк у час размовы з імі я гаварыла: «Нават калі вы не здольныя пісаць захапляльна і незвычайна, вы самі па сабе з'ўляецеся вельмі цікавай тэмай, цікавай праблемай і літаратурай!» Так, менавіта яны з'яўляюцца галоўнай тэмай нашай сённяшняй літаратуры. Гэтая літаратурная тэма створыць новую форму, новы жанр, новы спосаб, новыя метады і плыні. Іх вобраз патрабуе новай, істотна іншай формы выкладання і апісання. Яны з'яўляюцца тварам, голасам, адлюстраваннем грамадства, якое перажыло шматлікія грамадска-эканамічныя фармацыі, грамадства з туманным лёсам. У іх вобразе ёсць характар гістарычнага фрагмента, які завецца «перыядам незалежнасці». Гэтая тэма старэе і забываецца, аднак да гэтага часу не знойдзена яе рашэнне ні ў жыцці, ні ў літаратуры. Так і застаецца яна нераспрацаванай тэмай нашай літаратуры. Але самае жахлівае ў тым, што яны — сапраўдныя героі нашага часу, пішуць пра лёсы і прыгоды іншых герояў...

У іх на руках «нацыянальная літаратура», напісаная ў ключы савецкай ідэалогіі, і яе гісторыя, а таксама ўзоры сусветнай літаратуры, якія толькі пачалі перакладацца і выдавацца... Гэта хліпкая аснова. Як жа можна развівацца

Савецкая ўлада загадала доўга жыць, і мы ўзрадаваліся галоснасці, свабодзе слова. Аднак ва ўмовах рынaчнай эканомікі узнікла сітуацыя, калі сапраўды літаратурнаму і аб'ектыўнаму шчыраму слову проста не знаходзіцца месца.

на такой хліпкай і слізкай аснове?!. Пакуль што яны, моладзь, раздумваюць над памылкамі папярэднікаў. Немагчыма пачаць з кропкі адліку папярэднікаў, даводзіцца вяртацца да першавытокаў, да пачатку адліку... Яны вагаюцца, на іх ускладзена гістарычная місія — аддзяліць зярняты ад пустазелля, высветліць многія моманты, звязаныя з літаратурным працэсам... Самае крыўднае, што яны акружаны ironіяй... У той самы час яны павінны зарабляць на хлеб, утрымліваць сям'ю. І гэтаму падпарадкоўваюць свае навыкі, сваё майстэрства, сваю энергію. У выніку літаратурная творчасць становіцца хіба толькі эпізодам у гэтай бясконцай чарзе.

А яны, моладзь, паўтаруся, з'яўляюцца «літаратурнай тэмай з новым характарам»...

***

...Выказванні аўтарытэтных крытыкаў, літаратуразнаўцаў пра творчыя памкненні літаратурнай моладзі, якая працуе у нацыянальных літаратурах у Туркменістане, Таджыкістане, Азербайджане, Казахстане, падштурхнула да наступных разваг. Мы мала ведаем мастацкае слова іншага свету. Мы мала праяўляем да яго цікавасць. Здаецца, усё ж веданне адзін пра аднаго прыводзіць да ўсведамлення, што іншанацыянальныя літаратуры могуць дапамагчы расшыфраваць код тых ці іншых сацыяльных паводзін, падказаць нешта такое нам адзін пра другога, што паспрыяла б суіснаванню ў міры і паразуменні. Усё ж такі мастацкая літаратура — гэта твар народа, яго душа і сэрца.

*Сяргей Шычко*

**Конкурс маладых літаратараў «Першацвет»**

**ІНСТРУКЦЫЯ аб парадку правядзення**

*1. Гэтая Інструкцыя вызначае парадак арганізацыі і правядзення конкурсу маладых літаратараў «Першацвет» (далей — конкурс).*

*2. Мэтамі правядзення конкурсу з'яўляюцца:*

рэалізацыя дзяржаўнай палітыкі ў сферы выдавецкай дзейнасці;

адкрыццё новых аўтараў у літаратуры;

стымуляванне прафесійнага і мастацка-стылістычнага патэнцыялу маладых аўтараў;

прадастаўленне маладым аўтарам магчымасці першай публікацыі;

папулярызацыя кнігі і чытання ў грамадстве.

3. Конкурс праводзіцца штогод.

4. Арганізатарамі конкурсу з'яўляюцца Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда», выдавецкае рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Мастацкая літаратура» (далей — арганізатары конкурсу).

5. Інфармацыя аб правядзенні конкурсу размяшчаецца ў глабальнай камп'ютарнай сетцы Інтэрнэт на афіцыйных сайтах арганізатараў конкурсу. Інфармацыя павінна ўтрымліваць звесткі аб часе, месцы правядзення конкурсу, умовах конкурсу, крытэрыях і парадку ацэнкі твораў удзельнікаў, парадку і тэрмінах аб'яўлення вынікаў конкурсу, формах узнагароджання, а таксама іншыя неабходныя звесткі.

6. У конкурсе могуць прымаць удзел грамадзяне Рэспублікі Беларусь, замежныя грамадзяне і асобы без грамадзянства, якія пастаянна пражываюць на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, ва ўзросце ад 18 да 30 гадоў уключна на момант падачы заяўкі (далей — удзельнікі конкурсу).

7. На конкурс прымаюцца паэтычныя і празаічныя творы (далей, калі не ўказана іншае, — творы), якія не публікаваліся раней і не ўдзельнічалі ў іншых конкурсах.

Аб'ём твора не павінен перавышаць трох аўтарскіх аркушаў.

Кожны ўдзельнік конкурсу мае права накіраваць толькі адзін твор на рускай або беларускай мовах.

Прадстаўляючы твор на конкурс, удзельнік конкурсу дае згоду на аднаразовае бязвыплатнае выкарыстанне твора ў друкаваных сродках масавай інфармацыі літаратурна-мастацкай тэматыкі (спецыялізацыі).

8. Заяўка на ўдзел у конкурсе запаўняецца па форме згодна з дадаткам да гэтай Інструкцыі.

Разам з заяўкай удзельнік конкурсу накіроўвае:

кароткую **біяграфічную даведку;**

**фотаздымак удзельніка конкурсу ў фармаце jpg (jpeg);**

твор, афармлены ў рэдактары Microsoft Word у фармаце doc, шрыфт Times New Roman, памер шрыфту 14, міжрадковы інтэрвал 1,5, усе палі 2,5 см.

На тытульным лісце твора неабходна ўказаць: прозвішча, уласнае імя, імя па бацьку (калі такое маецца) удзельніка конкурсу, псеўданім (калі такі маецца), назву твора.

Матэрыялы прымаюцца на конкурс у электронным выглядзе на наступны адрас электроннай пошты: projects.zviazda@gmail.com.

Прыём заявак для ўдзелу ў конкурсе і твораў праводзіцца штогод з 1 сакавіка па 30 кастрычніка ўключна.

9. Матэрыялы, прадстаўленыя з парушэннем патрабаванняў, указаных у пункце 8 гэтай Інструкцыі, да разгляду не прымаюцца.

10. Расходы, звязаныя з падрыхтоўкай і прадстаўленнем матэрыялаў на конкурс, аплачваюцца яго ўдзельнікамі самастойна.

11. Творы, якія паступілі на конкурс, не рэцэнзуюцца, не вяртаюцца і не падлягаюць аплаце.

12. Для ацэнкі твораў удзельнікаў конкурсу ствараецца экспертны савет у колькасці васьмі чалавек. Склад экспертнага савета зацвярджаецца Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Склад экспертнага савета фарміруецца з прадстаўнікоў органаў дзяржаўнага кіравання, творчых саюзаў, арганізацый, якія ажыццяўляюць выдавецкую дзейнасць, юрыдычных асоб, на якіх ускладзены функцыі рэдакцыі сродкаў масавай інфармацыі.

У склад экспертнага савета не могуць уваходзіць аўтары твораў, якія ўдзельнічаюць у конкурсе.

экспертны савет узначальвае старшыня.

13. Пасяджэнне экспертнага савета лічыцца правамоцным, калі ў ім прымае ўдзел не менш як дзве трэці членаў экспертнага савета.

У спрэчных выпадках рашаючым з'яўляецца голас старшыні экспертнага савета.

Ацэнка твораў удзельнікаў конкурсу ажыццяўляецца па дзесяцібальнай сістэме ацэнкі.

14. Пры ацэнцы твораў, якія паступілі на конкурс, членамі экспертнага савета ўлічваюцца:

літаратурны змест;

стылістычнае і моўнае майстэрства;

арыгінальнасць вобразнай сістэмы твора;

пісьменнасць.

15. Аўтары дзесяці паэтычных і дзесяці празаічных твораў, якія набралі найбольшую колькасць балаў, прызнаюцца экспертным саветам пераможцамі конкурсу.

Рашэнне аб пераможцах конкурсу афармляецца пратаколам.

Спіс пераможцаў конкурсу і назвы іх твораў размяшчаюцца ў глабальнай камп'ютарнай сетцы Інтэрнэт на афіцыйных сайтах арганізатараў конкурсу.

Вынікі конкурсу падводзяцца штогод да 1 лютага.

16. Пераможцам конкурсу ўручаюцца дыпломы.

Творы пераможцаў конкурсу публікуюцца ў сродках масавай інфармацыі літаратурна-мастацкай тэматыкі (спецыялізацыі).

Дыпломы ўручаюцца пераможцам конкурсу ва ўрачыстай абстаноўцы на Мінскай міжнароднай кніжнай выставе-кірмашы.

Дадатак
да Інструкцыі аб парадку правядзення конкурсу
маладых літаратараў «Першацвет»

Форма

ЗАЯЎКА
на ўдзел у конкурсе маладых літаратараў
«Першацвет»

1. Прозвішча________________________________
2. Уласнае імя________________________________
3. Імя па бацьку (калі такое маецца)________________________________
4. Псеўданім (калі такі маецца)________________________________
5. Дата нараджэння________________________________
6. Назва твора________________________________
7. Дамашні адрас удзельніка конкурсу________________________________
________________________________
8. Месца вучобы (работы) удзельніка конкурсу________________________________
________________________________
9. Тэлефон удзельніка конкурсу________________________________
10. Электронны адрас удзельніка конкурсу________________________________

________________
(дата)